


10

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(755) КАСТРЫЧНІК, 2016**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна
ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ**

**Дзмітрый ШУЛЮК**
намеснік галоўнага рэдактара

**Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ**
рэдактар аддзела прозы

**Ірына МЯЦЕЛІЦА**
рэдактар аддзела паэзіі

**Кірыл МЯЦЕЛІЦА**
рэдактар аддзела публіцыстыкі

Змест


Крэскі жыцця. **Канстанцін Касяк.** Вёска ў восеньскім тумане ....................4
Рубінавыя радкі. **Дзмітрый Шулюк.** Без сораму ....................5
Актуальнае. **Уладзімір Цвірка.** «Руін саромецца не трэба» (+ майстар-клас па ўкладцы брукаванкі) ....................7
Эксклюзіў Досці. Гісторыя праз пралом у скляпенні ....................11
Пра музыку. Сядай у BUS! Пра музычныя СМІ, гаечныя ключы і беларускі андэграўнд ....................14
Пра музыку. Так гучыць Космас ....................17
Пра музыку. **Марыя Страх.** Творца хвалюецца раз ....................20

**ПРОЗА**

**Наталля Бінкевіч.** Сёння памёр дзед Толік. Рэцэпты памяці. Апавяданні. *Упершыню ў «Маладосці»* ....................23
**Яўстафій Халіманкоў.** Інтэрв'ю. Апавяданні ....................26
**Вольга Манушарава.** Клубок нітак. Апавяданне ....................29
**Таццяна Кіявіцкая.** Прыйду абавязкова. Апавяданне ....................38
**Маргарыта Латышкевіч.** Вершнікі на дарозе. Аповесць ....................63

**ПАЭЗІЯ**

**Вольга Шыманская.** Пачуцці на паперы. Вершы. *Упершыню ў «Маладосці»* ....................21
**Дзмітрый Пятровіч.** Светласпеў кахання. Вершы ....................35
**Глеб Ганчароў.** Каятан Чабор. Раман у вершах *(працяг)* ....................53

**ПЕРАКЛАДЫ**

**Рычард Олдынгтан.** Смерць героя ....................83
**Крысцінэ Нёстлінгер.** Карл з тэлевізара ....................98

**КРЫТЫКА**

**Андрэй Захарэўскі.** Хвалі вады і языкі полымя ....................117
Тэатральнае. **Паліна Лісоўская.** XXI стагоддзе. Паразмаўляем? ....................133
Тэатральнае. Ляляўскі ....................137

**ПУБЛІЦЫСТЫКА**

Такое кіно. **Маргарыта Дзяхцяр.** Каханне выратуе свет. Каханне, якому верыш ....................139
Гісторыя і постаці. **Кірыл Мяцеліца.** Італьянская змяя ....................142
ГістфакТ. **Анастасія Госцік.** Арганізацыя археалагічнага так званага падземнага музея на Замкавай гары ў Гродне (1932 —1951) ....................144
Лекцыі. **Аляксандр Брас.** Чалавек і час: усё залежыць ад нас ....................147

**З БОГАМ**

**Айцец Аляксандр Богдан.** Рэлігійная залежнасць. Што гэта? ....................156
**Алена Каладзінская.** Дзівяты паверх. Цішыня. Метамарфоза ....................159




**Канстанцін Касяк**

# Вёска ў восеньскім тумане

Калі-небудзь я зраблю гэта — набуду сабе дом у вёсцы. І будзе ён належаць мне аднаму. Добра было б, калі б ён быў стары, але не выглядаў жудасным ламаччам, якое за пару гадоў разваліцца ўшчэнт. Яшчэ лепей было б, каб ён знаходзіўся ў мясцовасці, дзе ёсць інтэрнэт. Тады можна з часам перабрацца туды жыць, бо сеціва цяпер — гэта галоўнае.

Ёсць у мяне адзін сябар, які жыве каля Браслава ў сваёй хаце — робіць сабе спакойна сайты, прадае іх і ў выніку выдатна сябе адчувае, жывучы ў сельскай мясцовасці. Другі надумаў прыдбаць які хутар пад Ашмянамі, каб быць бліжэй да «летапіснай Літвы», даследаваннямі якой ён займаецца. Трэці ўжо набыў — кожныя выхадныя цяпер праводзіць у сваёй глухамані, дзе не праведзена нават святло, а вада адно з калодзежа. Да бліжэйшых людзей некалькі кіламетраў, а ён вельмі задаволены такімі спартанскімі ўмовамі. Чацвёрты ўвесь час заве да сябе на Палессе. Там у яго ў зусім невялікай напаўзакінутай вёсачцы дзедаў дом, побач рака з рыбай, лес з грыбамі — усё як мае быць.

Цікава, што гэта? Спроба збегчы ад глабалізацыі ці вяртанне да каранёў? Усе ж мы так ці іначай праз бацькоў ці дзядоў выйшлі з вёскі.

Ужо добра чуюцца галасы праціўнікаў вышыванак ды іншых нібыта «аджыўшых» традыцый: маўляў, не трэба нам усёй гэтай вясковай спадчыны. Гарадскія мы! Але ж ад сябе не збяжыш. Як ні спрабуй. У гэтым плане найбольш паказальныя скандынавы, якія не цураюцца свайго сялянскага паходжання. А разам з гэтым Данія, Швецыя і Нарвегія з'яўляюцца высокаразвітымі краінамі з ці не самым шчаслівым насельніцтвам на планеце.

Асабіста мяне думкі пра пераезд у вёску праследуюць на працягу ўсяго жыцця. Найбольш часта хацелася туды трапіць, калі быў малы, бо мяне не бралі ў вёску на вакацыі. Летам гэта азначала поўную адзіноту ў горадзе. У вёсцы ж было весела — там заўжды знойдзецца з кім і чым заняцца. А забаронены плод, як вядома, вельмі смачны.

Добра памятаю свае першыя восеньскія вакацыі, як уставаў вельмі рана і глядзеў у акно, хто ідзе на работу ў калгасную кантору, будынак якой стаіць зусім недалёка ад нашай хаты і вельмі добра відзён. Але найбольш, як і любога хлопчыка, мяне цікавіла хто на чым прыехаў. У той час я лепш разбіраўся ў машынах. Таму мне тады вельмі хацелася працаваць у гэтай канторы і гэтак жа раніцай крочыць да яе разам з астатнімі або прыязджаць на ўласным аўто, што было б нерэальна крута. Тады ж упершыню я ўбачыў вялікія восеньскія туманы, якія вельмі хутка і вельмі моцна зацягвалі даліну Нёмана.

Цяпер, дзякуючы развіццю тэхналогій, можна лёгка ажыццявіць сваю мрою. Ды і зарабляць на жыццё зусім не абавязкова, працуючы ў калгасе. Трэба толькі набрацца смеласці ды ажыццявіць задуму. Вёска, аграгарадок, мястэчка — могуць стаць ідэальнай мясцовасцю для пераезду. Здаецца, што нібы і людзей няма, але яны ёсць, проста не замінаюць табе, бо кожны заняты сваімі справамі.

Не Швейцарыя, зразумела, але недалёка ад яе. Хоць і гор няма…



**Дзмітрый Шулюк**

## Без сораму

Я сядзеў у сваім пакоі ў агульніку і слухаў Silly Wizard. Мяккі, быццам спеў вясновага лесу, celtic folk. Мелодыя стварала ў маіх вачах, вушах і сэрцы малюнкі далёкіх і неіснуючых краін з гісторый фэнтэзі. Хацелася схапіць у абдымкі казачную прынцэсу і знікнуць з ёй у прасторах фантазіі. Знікнуць сярод лясоў з іх феямі і лепрыконамі. Знікнуць сярод гор з іх гномамі і веліканамі. Знікнуць сярод чараўніцтва і магіі, сярод рыцарства і некрамантыі. Знікнуць назаўсёды.

У гэты час у пакой зайшлі мае сябры. Напэўна, усё ж «сябры» — гэта няправільнае слова, але вам так зручней. Яны літаральна тры секунды паслухалі і вынеслі прыгавор:

— Што за муць ты слухаеш?

Чамусьці мне стала сорамна. І я амаль аўтаматычна схлусіў:

— Папрасілі паслухаць. Сказаць, што я думаю.

Я аўтаматычна схлусіў з-за таго, што мне стала сорамна. Адкуль узяўся гэты сорам? І ўвогуле, што мы прывыклі называць «сорамам»? Паспрабую паразважаць.

З самага дзяцінства нас палохаюць сорамам. Мы павінны заўсёды саромецца, чырванець, праваліцца скрозь зямлю пасля кожнага свайго пралiку. А пралікі часам самыя для нас нечаканыя.

Мне было каля трынаццаці гадоў, калі да нас у госці прыехала сястра маці (мая цётка) з сынам. Сын быў ужо немаленькі, праз год павінен быў ісці ў школу. Гэта значыць, ён ужо шмат разумеў, але далёка не ўсё. Таму і здарылася тое, што здарылася.

У час вячэры гэты хлопчык выпусціў з рук кавалак катлеты, той упаў на падлогу, а хлопчык смачна вылаяўся. Ды так вылаяўся, як быццам у яго ў гэтай справе дваццацігадовы стаж. Як быццам ён рыхтаваўся для гэтай рэплікі не адзін месяц. Як быццам у пакоі акрамя яго нікога няма.

Мае бацькі маўчалі, не ведалі, што сказаць, я адчуваў сябе няўтульна. Ні я, ні яны не маглі спакойна працягваць есці. Відэльцы застылі ў нашых руках і не хацелі варушыцца.

— Гэта ён штосьці так хацеў сказаць, — спакойным звонам разбіла, раскалола, разгрызла цішыню цётка.

На гэтым усё. Мы працягнулі вячэру. Назаўтра раніцай яны паехалі ад нас. Але я ўпэўнены, што эпілог маёй гісторыі быў прыкладна такі: хлопчыка прымусілі адчуць сорам. Ці адчуў ён гэтае рэзкае пачуццё — невядома, але, як і мноства іншых хлопчыкаў да яго, зразумеў, што лаяцца ў прысутнасці дарослых нельга.

Тыповы прыклад. Тыповыя персанажы. Як кажуць, усе мы там былі. Усе мы былі ва ўзросце, калі жыццё развальваецца на мяжы сораму. Адны рэчы становіцца сорамна рабіць пры бацьках. Другія — сорамна рабіць пры сябрах. А найбольш сорамна — тыя рэчы, якія сорамна рабіць пры бацьках, не рабіць пры сябрах.

Сорам ператвараецца ў паранойю. У страх зганьбіцца. У неабходнасць пастаяннай увагі да чужога меркавання. Як вынік, чалавек губляе сябе. Чалавек не можа знайсці сабе месца, бо ўсё занята. Уся прастора жыцця ператворана ў мiннае поле.

Я быў у пятым класе, калі ўпершыню пасур'ёзнаму пабіўся з аднакласнікам. Прычынай быў

сорам. Сорам і страх сораму. Я баяўся, што да таты дойдуць звесткі аб тым, што я зусім сябе не абараняю. Баяўся, што тата даведаецца, наколькі мой рэйтынг папулярнасці нізкі сярод маіх равеснікаў. Што мяне можна проста так зачапіць, а я старанна не адрэагую.

Я быў у пятым класе. Гэта своеасаблівы новы пачатак, новы жыццёвы этап. Мноства новых прадметаў і, замест адной настаўніцы (амаль «другой маці»), шмат новых незнаёмых людзей. Людзей, з якімі знаёмства пачнецца з чыстага аркуша. Гэта дае мажлівасць. Мажлівасць змяніць сябе і сваё жыццё.

Такія развагі прымусілі мяне ўпершыню з усёй моцы ўдарыць чалавека. Я хацеў паказаць: я больш не буду цярпець. Хацеў сказаць: я магу за сябе пастаяць. Хацеў, каб мне не сорамна было перад татам.

Мой адпор, мой адказ, мая самаабарона была нечаканай. Я перамог. Рукі гарэлі і трэсліся, адмаўляючыся ад майго кантролю. Усё ў галаве выбухала і гудзела. Вочы нічога не бачылі. Я сеў за сваю парту, задаволены і неспадзявана ўпэўнены ў сабе. Я не ведаў, што адбудзецца праз некалькі хвілін.

А праз некалькі хвілін у клас зайшла яна. Мая першая настаўніца. Яна выглядала вельмі разгубленай. Глядзела на мяне і як быццам не магла зразумець, што гэта я.

— Як ты мог? Ад цябе не чакала.

Я ледзь разабраў гэтыя словы. Хацеў растлумачыць. Але не ведаў як. Ды і яна, сказаўшы, пайшла. Пайшла і быццам штосьці вырвала з маёй душы назаўсёды.

Я плакаў. Плакаў горка, без сораму. Бо ў тое імгненне я забыўся пра сорам. Я ўбачыў сябе сваімі вачыма. Убачыў, што я здраднік. Што я такі ж, як усе. Убачыў, што «такі, як усе» — гэта не добра. Убачыў, што няма ніякага сораму ў тым, каб жыць сваім жыццём. І няхай маім былым аднакласнікам і да гэтага дня здаецца, што на ўдар трэба адказваць ударам. Мне не сорамна падстаўляць другую шчаку. Мне не сорамна рабіць сапраўдныя, хай і нікому нябачныя, намаганні, каб быць сабой. Не сорамна рукамі і нагамі чапляцца і абдымаць тое, што я называю праўдай.

Не падумайце, што я зараз выхваляюся перад вамі. Зусім не. Наадварот. Я спрабую, стараюся, змагаюся і так часта ў мяне нічога не атрымліваецца. Я чую:

— Што за муць ты слухаеш?

І адказваю:

— Папрасілі паслухаць. Сказаць, што я думаю.

А так хочацца адказаць праўду. Сказаць, што гэта Silly Wizard. Чароўная музыка, якая не можа існаваць у нашай рэальнасці. Толькі там, дзе высокія эльфы танчаць у зялёных некранутых лясах. Там, дзе драконы мітусяцца ў нябёсах, аддалена нагадваючы нашы самалёты. Там, дзе ты герой і ў цябе няма ніякіх падстаў сумнявацца ў сваіх учынках. Там, дзе няма сораму. У той несапраўднай рэальнасці, якая мае сапраўдную праўду.

Як завяршэнне яшчэ адзін выпадак.

Студэнтка філалагічнага факультэта прыйшла здаваць экзамен па беларускай літаратуры, не паспеўшы прачытаць усе творы. У білеце другім пытаннем аказаўся адзін з непрачытаных — штосьці з Быкава. Студэнтка адразу паведаміла экзаменатару, што твор не прачытала.

— І вам не сорамна? — спытаў экзаменатар.

Студэнтцы было не сорамна казаць праўду. А мне не сорамна пісаць гэты тэкст, слухаючы Silly Wizard. ■

*Silly Wizard — шатландскі фолк-гурт, сфарміраваны ў Эдынбургу ў 1971 годзе. Першапачаткова імкнення выступаць прафесійна ва ўдзельнікаў не было. Тым больш, кожны з іх працаваў дзе-небудзь, а двое ўвогуле вучыліся ў школе. Але якасць не магла не ператварыцца ў славу. Silly Wizard атрымалі неверагодную папулярнасць. Настолькі неверагодную, што праз 15 гадоў пасля таго, як гурт адыграў свой апошні канцэрт, яго прызналі лепшым народным гуртом Шатландыі.*

*Можна было б дадаць шмат прыгожых яркіх добрых слоў на адрас Silly Wizard, але дастаткова згадаць, што ходзяць чуткі, быццам іх саліст можа голасам прымусіць камень плакаць. Гэта толькі словы, словам верыць складана. Таму патрэбна ўключыць любы альбом — і ўсё стане зразумела без слоў.*



## Уладзімір Цвірка:

# «Руін саромецца не трэба» (+ майстар-клас па ўкладцы брукаванкі)

— …І пра добраўпарадкаванне хочацца сказаць. Па аўтэнтыку можна ехаць у Ружаны і Косава. Бо няма ўражання, што гэтыя аб'екты ўзнаўляюцца, рэстаўруюцца, што нешта актыўна там робіцца, капаецца, рыецца. Яно проста гатовае для таго, каб па ім гуляць — хадзіць і цешыцца. Такое ўражвае больш, бо гэта жывое, сапраўднае. Хоць да яго таксама прыкладаюцца пацяху рукі спецыялістаў.

**Уладзімір Цвірка — падарожнік-прафесіянал. Ён не проста вандруе па Беларусі, а дае сабе працу назіраць, прымячаць, занатоўваць, аналізаваць, разважаць, параўноўваць… Забег неяк у «Маладосць», каб падзяліцца з рэдакцыяй сякімі-такімі здымкамі, а ў выніку разгаварыўся пра набалелае. У галоўрэда Святланы Дзянісавай душа балела пра тое самае, а дыктафон пад рукой апынуўся.**

***У.Ц.*** Калі бачыш пярэдні план Ружанскага палаца, атынкаваны і пафарбаваны, а пасля праходзіш праз яго далей і трапляеш на руіны, то назад хочацца не праз гэты ўпарадкаваны ўваход вяртацца, а бачком, руінамі — каб захаваць уражанне.

***С.Д.*** У мяне пасля наведвання закінутай сядзібы Паўлінава ўзнікла раптам думка, цалкам супрацьлеглая ранейшым маім меркаванням, быццам трэба ўсе нашы разваліны неадкладна рэканструяваць. Цяпер мне хочацца, каб іх ніхто не чапаў, бо яны дыхаюць часам і яшчэ памятаюць гаспадароў. А калі іх атынкоўваюць, яны перастаюць дыхаць… Значыць, паміраюць. І адбываецца іх муміфікацыя. Самая сапраўдная, паводле Герадота — з выманнем «мозга» і «вантробаў» (гэта, праўда, адбылося з імі яшчэ «да смерці»), але своеасаблівая — з макіяжам на «пялюшках».

***У.Ц.*** А я, калі першы раз дакрануўся да руін, усюды пісаў (гэта дакументальна зафіксавана — у маіх публікацыях), што не ўзнаўленне патрэбна, а кансервацыя. Я трошкі ўжо зацыкліўся на гэтай кансервацыі. А пра рэканструкцыю не пісаў нічога. І мяне на форумах за гэта папракалі. Мая ж думка такая, што хай сабе дзе-нідзе і рэканструкцыя, але ж мы сёння да рэканструкцый, па вялікім рахунку, зусім не гатовыя. Мы не ўмеем рабіць іх. Хто можа прывесці мне контраргумент, паклаўшы руку на сэрца? Што ў нас узноўлена на высокім узроўні, па-сапраўднаму, прафесійна? Нічога. Толькі грошы спушчаны. А кансервацыя — гэта і прасцей, і эканамічней. Кансервацыю таксама трэба ўмець рабіць, але не сорамна папытаць у замежнікаў, як гэта робіцца правільна. Бо галоўная мэта якая? Захаваць помнік для заўтрашняга дня. А заўтра, ёсць надзея, ужо з'явяцца спецыялісты, якія будуць ведаць, як узнаўляць. Магчыма ж цяпер зрабіць так, каб закансерваванае выглядала рамантычнымі жывапіснымі руінамі. Рамантычнымі ад жывой даўніны, а жывапіснымі — ад таго, што тэрыторыя вакол іх прыведзена ў парадак: ачышчана ад кустоўя, аснашчана падыходамі, абсталявана кіёскамі з сувенірамі…

***С.Д.*** Інфраструктуравана? Але ж тут патрэбны будуць спецыяльныя службы — людзі, якія будуць падтрымліваць у належным стане тэрыторыю і гандляваць сувенірамі не пры касе музея, а, умоўна кажучы, пасярод поля.

***У.Ц.*** Вось! Кошт ж кансервацыі і рэстаўрацыі — розны! Касцёл у Дуброве па праекце Спампані трэба кансерваваць неадкладна, ён грошай чакаць не можа, бо ўжо фрызы губляе, верхняя частка цалкам парушана. Некалькі толькі

кавалачкаў засталося, а калі і яны загінуць? Ніхто ж пасля не будзе ведаць, як яны ўвогуле выглядалі. Тут не сродкі фінансавання шукаць трэба, а проста добрыя мазгі. Падумаць трошкі, інакш павярнуць меркаванні. А доступ для турыста да руін трэба зрабіць годным. Бо мы неяк дзікавата на многія рэчы глядзім. У нас як руіны, дык абавязкова ў зарасніках. І калі ўжо так, дык лепш, калі зараснікі як мага больш густыя, каб не ехалі туды і не глядзелі, тады нам не так сорамна будзе. Дзікунства! Руін саромецца не трэба. Трэба расчысціць падыходы да іх. Як за мяжой? Стаяць дзве старыя калоны, вакол прыгожы лужок, спланаваны. Для прыкладу возьмем Шатландыю: колькі там замкаў? На кожныя пяць — шэсць квадратных кіламетраў стаіць сярэднявечны замак. І ўсе яны, заўважым, у руінах. Сцены стаяць, зверху кансервацыя праведзена. А паветра ж у Шатландыі горшае, чым наша, яно там соллю насычанае. Заходзіш у руіны — і бачыш сапраўднае… Мы перайшлі бадай што ў самую прыгожую плоскасць размовы — пра помнікі.

***С.Д.*** І я, такім чынам, ужо зразумела, што раблю з вамі інтэрв’ю…

***У.Ц.*** Касмічнае ўражанне — калі ты далонькамі дакранаешся да гэтай даўніны, да мхоў, да каменя, а не калі ты пералапачваеш літаратуру, чытаеш пра архітэктуру і глядзіш фільмы на «Нэшнл геаграфік». Я нядаўна здымаў каменныя крыжы. Гэта ж мурашкі па скуры! Яны розныя, і колерамі і формай. На іх няма ніякіх надпісаў. Часам сустракаецца штрышок, нанесены мінулым, нашым сапраўдным мінулым, які-небудзь сімвал. Я знайшоў самы вялікі каменны крыж у Беларусі. Рэдка фатаграфуюся на фоне чаго б там ні было, а гэтым разам, на фоне валуноў і каменных крыжоў, у мяне з’явілася такое жаданне — фатаграфавацца. Не ведаю, адкуль яно ўзнікла, бо сэлфі мне не падабаецца. Мяне карабаціць ад здымкаў, дзе на заднім плане нейкі палац або замак, а спераду я, такі ўвесь прыгожы. Сэнс у такіх здымках які?

***С.Д.*** Ніякага. Я ўвогуле амаль нічога не здымаю. У мяне «пункцік» — калі не буду мець здымкаў, то ў памяці застанецца ўсё як жывое. А пераведзенае ў фармат выявы… Нешта пад яе ўплывам адбываецца, нешта датычнае ўражанняў, адчуванняў.

***У.Ц.*** Калі кранаешся даўніны, пачынаеш пасля з гэтым жыць, быццам нейкая прастора ўтвараецца — і ты ў яе быццам трапляеш. А яшчэ ведаеце што прыемна ў сустрэчах з нерэканструяваным? Ты прыязджаеш туды, а людзей там няма. Ніякіх натоўпаў турыстаў. Ніякай чаргі па сувеніры. І не бадзяецца нідзе экскурсавод. Ты адзін на адзін з помнікам, сам-насам з даўнінай. Гэта ж колькі плюсоў! Выдатна! Такі стан… перамяшчэння недзе далёка-далёка. Можа быць, я не маю рацыі, але вось гэтыя «Мір — Нясвіж, Нясвіж — Мір», як я называю «маршрут асфальту і абцасаў», — сапраўднаму турызму не спрыяюць. Хоць паспрабуйце, з іншага боку, пахадзіць на абцасіках вакол, скажам, Мірскага замка. Там трэба было выбіраць нешта адно — або класці брук і ўсіх папярэджваць пра красоўкі і боты, або ўжо рабіць пакрыццё для абцасікаў. Толькі ж не гуму класці ў зямлю вакол палаца. Людзі ходзяць і абломваюць абцасы.

***С.Д.*** Але ж глядзіце: нечы мозг такія рашэнні прымае, нечыя рукі гэта ўсё робяць. Узяць і распісацца ва ўласнай бяздарнасці, непрафесійнасці. Узяць і ўсяму свету паведаміць: я не маю густу, паедзьце і паглядзіце, што я нарабіў з помнікамі беларускай даўніны. Хто на такое здольны? Хто на такое ідзе?

***У.Ц.*** Тут хітры ланцужок. Я ж прыліпала, між іншым. Я, як бачу недзе нешта недарэчнае, пачынаю распытваць. Сам да крытыкі стаўлюся добра. Што там добра — я яе вельмі люблю, гэта погляд на маю працу збоку. Нездарма Айвазоўскі ствараў свае карціны, гледзячы ў люстэрка. Ён бачыў іх збоку, і вока яго не замыльвалася. І я, калі бачу нешта недарэчнае, пачынаю чапляцца, бо бачу збоку. Чаму, маўляў, так? Хто прыдумаў? Навошта? Бачыў, як клалі бутавы камень каля замка, побач з якім я ў той час апынуўся. А мне пашанцавала ў жыцці — я маю досвед, як класці каменную сцежку. Да мяне прыязджалі хлопцы, мастакі, архітэктары, — яны маю сцежку бачылі. Казалі: «Чорт! Чаму такую сцежку ў Міры не паклалі?» Мы імкнёмся заўсёды і ўсё хоць як, але апраўдаць, не ўсё запар хаяць. І мы, канечне, пачынаем шукаць апраўданне таму, як пакладзена сцежка каля замка. «Ну, можа быць, нешта перашкодзіла, нешта пайшло не так». «Ну канечне, — кажуць пра мяне, — у яго сцежка з колатага каменя, а там

жа камень цэлы». Я ў адказ: «А паедзем-ка, хлопцы, у маю вёску». У нас там вуліца з цэлага каменя выкладзена, ніводнага колатага няма. Па нашай вёсцы хадзілі ў 1970-х танкі — ішлі вялікія манеўры, і ніводзін камень не выпаў з дарогі. А проста перш чым майстру камень класці, яму трэба гэты камень дваццаць разоў у руках павярнуць — і знойдзецца тая паверхня, якой трэба класці. І ёсць адзін маленькі ды вельмі важны, знакавы сакрэт. Калі яго разумееш, то разумееш усё. У гэтым сакрэце ўся прыгажосць брукаванкі. І ўся яе зручнасць, надзейнасць. Калі камень мае форму трохвугольнай піраміды, логіка быццам падказвае, што трэба яго класці асновай уверх, бо гэта самая вялікая паверхня. А нічога падобнага! Гэтай паверхняй трэба класці ўніз, а меншую паверхню пускаць наверх. Толькі так, калі пасля ўсё засыпаецца пяском, камень заклінькае, ён затрымліваецца на сваім месцы, засядае намёртва. А наадварот яго пакладзі — і конь капытом яго выб'е, і вобад ад кола, і проста нага чалавека. Калі клалі брук каля згаданага замка, я падышоў да мужыка, які рабіў гэта, і кажу: «Вам нехта паказваў, як класці?» Ён мне: «Дык усё ж вельмі проста. Прыйшоў прараб, паказаў як трэба, я так і кладу. Вопыту ў мяне не было, але я праклаў ужо бачыце колькі?» Я чаму такія дробязі так дакладна прагаворваю? Тут хаваецца ісціна, адказ на ваша пытанне. Прыліплівы, я пытаюся зноў: «Дзе прараб?» — «А вунь там». Падыходжу, вітаюся, звяртаюся ўжо больш катэгарычна: кажу, што дарожка будзе не вельмі. Ён: «А адкуль вы?» Даведаўся, што з Мінска — і пачалося: гэтыя гарадскія сюды панаедуць і пачынаюць тут камандаваць, а ці яны ўвогуле разумеюць, што тут і як рабіць трэба, а мы, маўляў, разумеем як. Вось дзе ісціна: усім запраўляюць прарабы. Дзякуй Богу, апошнім часам у нас будаўніцтва вядзецца правільна — праз аўтарскі нагляд архітэктара. Ён цяпер на аб'екце галоўны. Ён або нават дызайнер. Толькі тады на выхадзе гарантуецца тое, што трэба, — і лаканічнасць, і вытанчанасць, і прыгажосць, і прапарцыянальнасць, спалучальнасць, эстэтыка, стыль. Калі ж галоўны прараб… Справа шабаш. Агулам я не гавару. Разумею, што ўсе камісіі працуюць згодна з графікам і планам. Але калі ўсё зроблена, любая камісія любую работу — прыме. Тут уключаецца бюракратычны працэс — і нічога ўжо не паправіць. Бо людзі зрабілі работу? Зрабілі. Ім грошы за яе заплаціць трэба? Трэба. А грошай на перарабліванне няма і не будзе.

Некалі Анатоль Федарук хацеў азеляніць тэрыторыю вакол замка не за грошы, а так. Хіба што на праезд папрасіў ды заплаціць рабочым, якія будуць займацца пасадкамі. Чалавек хацеў дапамагчы дзяржаве. Для мяне гэта вельмі паказальны прыклад. Мо дзяржава падумала, што на ўваходзе ў замак трэба будзе павесіць шыльдачку: «Федарук тут займаўся ландшафтным дызайнам»? Дык няхай бы павесілі. Колькі б яна там каштавала? Затое было б хараство. І увогуле, прапанаваў хто? Паслужны спіс Федарука трэба бачыць. Гэта ж не чалавек з вуліцы. Не прараб. Дайце спецыялісту ступіць на гэтую зямлю і прывесці яе ў парадак!

***С.Д.*** На гэтым прыкладзе добра відаць, што ў нас не відно чалавека, у нас усюды толькі людзі. «Людзей шмат, а чалавекаў — няма», — такі выраз я нядаўна пачула. На самай справе, не «няма», а іх проста не бачаць! А трэба бачыць.

***У.Ц.*** І гэта тэндэнцыя. Не адбываецца пасля дапушчэння памылак ніякай работы над імі. «Мы пойдзем іншым шляхам», «пераходзім да плана «Б» — нічога такога не дзейнічае. Памылкі — не прызнаюцца, ніхто не схамянецца, пакуль зусім не стане позна, калі ўжо «шкада перарабліваць». А гэта страшная тэндэнцыя. Баркалабаўская царква — загублена. Атынкавана! А там жа такая цэгла, такая кладка была прадугледжана майстрамі адмыслова, каб чалавек глядзеў і любаваўся. Уся вытанчанасць гэтай кладкі гаворыць пра тое, што яе спецыяльна выкладалі так, каб пасля не атынкавалі, каб яна сабою ўпрыгожвала сцены, каб храм быў незвычайным хараством. Што цяпер? Атынкавалі, і вельмі старанна: кожны перапад цэглы, кожны элемент кладкі замазалі. Пытаюся: «Навошта?» — адказваюць, і з гонарам, што да гэтай работы прыцягнуты найлепшыя спецыялісты ў справе атынкоўкі. Адзін з такіх спецыялістаў сам кажа: «Даўно ж усё пашарпанае, не глядзіцца. А я замажу, фарбачкай паверсе прайдуся — і во будзе!» Тут адно выйсце: гаварыць пра гэта, пісаць. Бо нахабна ўсё робіцца. І ў нас з вамі калі-небудзь прападзе жаданне падарожнічаць па краіне, бо ехаць да сайдынгу і атынкоўкі — які сэнс?

***

***У.Ц.*** Кінуць кліч — гэта адно. Але трэба мець праграму і бачыць канчатковы вынік. Вось на што трэба пускаць прафесіяналізм. Рукі — добра. А паралельна патрэбен мозг, патрэбны пошукі ў архівах, аналіз у лабараторыях. Тут павінны ўжо працаваць спецыялісты, а не аматары. Тады і аматараў на падхопе на кожную работу знойдзецца шмат. Ды і спецыялісту не пашкодзіць калі-нікалі паехаць самому на аб'ект і пасячы галінкі, пацягаць да вогнішча, расчысціць прастору каля помніка, адчуць яго дух. Трэба ствараць такія каманды.

***С.Д.*** Як яшчэ можна выратоўваць помнікі? Як вы, напрыклад, ставіцеся да такой, можа быць, наіўнай ідэі — звяртацца да нашчадкаў з тым каб яны «забралі» сваю спадчыну і давялі яе да ладу?

***У.Ц.*** Трошкі трэба павярнуць тут агульнае бачанне. Мяркую, у нас яно павінна памяняцца. Ёсць на помніку шыльдачка ці няма яе — вось першы маркер для мясцовай улады ў пытанні што рабіць з помнікам — ставіць на догляд ці знесці бульдозерам. Я да чаго? Можа быць, пайсці да мясцовых улад? Разумею, што гэта складана, праз перабудову свядомасці, але трэба даць зразумець таму кутку зямлі, дзе стаіць гістарычны помнік, што ён, гэты помнік, яшчэ можа і сам на сябе зарабляць, прыносіць уладам сродкі на працяг свайго існавання. І часам не малыя сродкі. Вазьміце Сулу, якая яшчэ нядаўна ўяўляла сабой пустазелле ў развалінах…

***С.Д***. І вялізную лужыну з ледзяной вадой на пад'ездзе! Я тэсціравала тую лужыну сваімі босымі нагамі, каб вызначыць ступень небяспечнасці — заграznем ці не.

***У.Ц***. Вось. Сулу ўзнавілі, яна задзейнічала. І што цікавае адбылося? На пад'ездах да Сулы ў розных напрамках пачалі з'яўляцца аграсядзібы. Гэта чаму? Таму што людзі пачалі кумекаць, што калі ў Сулу паедзе пяцьсот чалавек, то ў аграсядзібцы побач дзесяць дакладна спыніцца. А то і дваццаць. Яны, аграсядзібкі гэтыя, ад Сулы не залежаць, нічым ёй не абавязаны, не можа яна забараніць людзям ставіць вакол сябе аграсядзібкі, прыдарожныя кафэ і маленькія шашлычныя. А кемлівыя іх уладальнікі ведаюць, што і да іх завітаюць тыя, хто едзе ў Сулу. Гэтаксама і ў іншых месцах. Калі нешта недзе ўзновіцца, паедуць туды людзі — глядзець. А прыедуць глядзець — і ў «сельпо» зойдуць, пакінуць там трошкі грошай. Мо яек у бабулькі якой купяць — і гэта добра. Гэта ўжо эканамічныя плюсікі. Паасобку дробязі, а разам іх скласці — і атрымаецца цэлая жменя добрых спраў. У ідэале — тое, што трэба. Што да замежных нашчадкаў — тэма гэтая вельмі важная. Калі прыходзяць з-за мяжы людзі і прапануюць узнаўляць — трэба перад імі на калені ўдзячна станавіцца, а не заломваць цэны. Так, іх шукаць трэба, іх прасіць трэба. Па-першае, яны падыдуць да справы з замежным досведам, які на сёння ўсё ж значна большы. А па-другое, яны ж будуць узнаўляць сваё, роднае. Ім гены дапамагаць будуць. Я бачыў, якія слёзы блішчаць на вачах такіх людзей, нават калі яны па голым полі ходзяць.

***С.Д.*** Ёсць у мяне яшчэ адно «крамольнае» і «правакацыйнае» пытанне. Чаму мы так — да закіпання крыві — хочам, каб уся гэта наша даўніна мела прыемны выгляд, калі, па сутнасці, гэта проста былое нечае месца прапіскі, не болей. Звычайныя дамы звычайных людзей, адно што жылі тыя людзі сто — дзвесце гадоў таму. Чаму нам гэта так балюча і сэрцу дарага?

***У.Ц.*** *(Уздыхае).*

***С.Д.*** Я б на гэтае пытанне не адказала. У мяне б не хапіла слоў. Адказу, такім чынам, няма, а пытанне ёсць…

***У.Ц.*** Я б падышоў з іншага боку. Гэта ўсё ж аснова ўчарашняга дня. Скасаваны дамок з мінулага некалі стаяў роўна, у ім жылі людзі, яны выйшлі праз гэтую брамку. І розныя таленты, наш залаты фонд, і звычайныя — простыя чалавекі. Яны гэтыя дрэвы пасадзілі. Гэта непарыўна з нашым часам. І настальжы тут… Гэта складана. Вельмі. У мяне ёсць фотапраект «Бясконца чароўная Беларусь». Гэта проста шэрагі выяў: толькі брамак, самых розных, толькі варотаў, толькі вокнаў, толькі дахаў, толькі платоў, толькі сцен. Толькі дрэваў, дарог прасёлачных. Толькі бруку, толькі вуліц. Толькі світанкаў. Крыжы, анёлы з могілак, старыя твары, старыя старонкі кніг, кветкі каля плота. Брамка — партал. Стары дом, сядзіба старая... Я не ведаю, як адказаць.

# Гісторыя праз пралом у скляпенні

**Археалагічныя даследаванні ў вёсцы Лаўрышава ідуць ужо шосты сезон. Штолета дзякуючы падтрымцы манастыра з дабраславення мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха усяе Беларусі, каманда археолагаў, студэнтаў і школьнікаў прыязджае сюды, каб вывучыць новыя квадраты, знайсці схаваныя часам артэфакты і здзівіць навуковы свет нечаканымі высновамі. Досця Звяздоўская вырашыла паехаць на раскопкі і даведацца не толькі пра знаходкі і сенсацыі, але і пра тое, што стаіць за імі: жыццё даследчыкаў у Лаўрышаве.**

Сёлета археолагі працуюць адразу ў трох кропках. Першая — каля царквы, дзе мы засталі завяршальную работу: навучэнец расчышчае межы раскопу і аддзяляе дзёран ад пяску, каб скласці схему і акуратна засыпаць яго. Другі аб'ект — упершыню ў самой царкве, дакладней — у адным са скляпоў пад ёй. Як нам патлумачылі, паводле дакументаў пачатку XIX стагоддзя ў храме тры скляпы. Адзін з іх — гаспадарчы, што мае ўваход з двара, — быў вядомы заўсёды. Дзе знаходзіцца другі, які стаў аб'ектам раскопак, даследчыкам паведамілі прыхаджане яшчэ ў 2012 годзе, падчас другой экспедыцыі. Там раней размяшчалася крыпта. Склеп больш чым напалову быў засыпаны пяском. Для чаго гэта было зроблена, пакуль невядома. Па просьбе ігумена даследчыкі яго расчысцілі. Праца складаная: праз вузкі пралом у скляпенні паднімаць вёдры з грунтам.

Высветлілася, што склеп складаецца з двух памяшканняў. Першае мае скляпеністую канструкцыю. Другое — у форме непрацяглага калідора з прыступкамі — выхадам у храм, пазней закладзеным. «Пралом у скляпенні першага памяшкання, праз які мы цяпер трапляем у склеп, не быў зроблены пры будаўніцтве, яго прабівалі, калі засыпалі склеп пяском — даволі даўно, напэўна, у XIX стагоддзі, — *кажа Тэльман Віктаравіч Маслюкоў, намеснік кіраўніка экспедыцыі.* — Вышыня гэтага скляпення 1,8 метра».

Прыхаджане і манахі самі спрабавалі расчысціць, але айцец Яўсевій работу прыпыніў, бо пясок трэба даследаваць. Тут знайшлі нацельную іконку, пакрытую шклом, а таксама — касцяныя парэшткі чалавека ў адмысловай скрыні, абабітай тканінай сіняга колеру — колеру Багародзіцы. *Кіраўнік раскопак, прафесар Сяргей Яўгенавіч Рассадзін разважае:* «Царква пачала дзейнічаць у 1775-м, а манастыр быў закрыты ў 1836-м. Калі царква стала прыходскай, святароў хавалі каля царквы, значыць, чалавек, парэшткі якога мы знайшлі, пахаваны раней. Па Лаўрышаўскім манастыры XVIII — XIX стагоддзяў захавалася шмат дакументаў, хутчэй за ўсё, так пахавалі кагосьці з кіраўнікоў манастыра, а яны збольшага вядомыя пайменна. Такім чынам, мы яго персаналізуем, гэты чалавек нібы вернецца да нас. Айцец настаяцель сказаў, можа, зробім празрыстую скрыню, каб змясціць парэшткі туды, каб іх маглі бачыць. Манастыр столькі разоў знішчаўся, закрываўся, і сёння яму патрэбны кантакт з папярэднікамі — манахамі мінулых часоў. Таму вельмі важна персаналізаваць парэшткі, якія мы знаходзім, ведаць, каму яны належалі».

Па словах кіраўнікоў экспедыцыі, пасля завяршэння даследаванняў манастыр плануе вярнуць склепу першапачатковы выгляд. Дзе знаходзіцца трэці склеп, пакуль невядома, размяшчэнне яго пралічваюць. Навукоўцы мяркуюць, што ён можа быць у цэнтральнай частцы храма.

Ідзём да трэцяга раскопу. Ён знаходзіцца побач з месцам мінулагодніх даследаванняў — за царквой, на тэрыторыі прыватнага падворка. *Тэльман Віктаравіч тлумачыць, як праходзяць раскопкі:* «Тут — тры квадраты, кожны — 2×2 метра. Звычайна на адным квадраце працуюць людзі розных узростаў і з розным вопытам. Культурны слой — слой зямлі, які захоўвае ў сабе прадметы былых паселішчаў — здымаецца па пластах 20 см. У мінулым годзе было да 8 пластоў, у сёмым — восьмым пластах былі знаходкі XIII — XIV стагоддзяў. Знаходкі з кожнага пласта адкладаюцца ў асобныя пакеты, куды кладзецца запіска з нумарам квадрата і пласта. Потым пакеты са знаходкамі пераносяць ў памяшканне экспедыцыі, там штодзень адна-дзве дзяўчыны займаюцца разборам матэрыялаў — раскладаюць па відах, адбіраюць тое, што пойдзе ў ка-



Расчыстка крыпты. Навучэнец 3 курса Мазырскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа Станіслаў Змушка.

лекцыю музея манастыра. Самыя гістарычна каштоўныя знаходкі адкладаюцца, каб потым патрапіць на даследаванні ў Інстытут гісторыі. На кожную рэч надпісваецца шыфр, які складаецца з літары, што абазначае месца раскопак: «Л» — Лаўрышава, года, нумара квадрата і пласта. Нумарацыя адзіная на ўсе гады.

*Сяргей Яўгенавіч лічыць, што работа мае сэнс, калі ў выніку раскопак здабываецца гістарычная інфармацыя:*

— З цягам часу я асэнсоўваю, што галоўнае — не самі артэфакты, а атмасфера і стымул для даследчыцкай думкі, якія яны ствараюць. Зараз я заявіў, што наш манастыр быў першай на тэрыторыі Русі пустынню — пустыннажыцельным манастыром. Троіца-Сергіева лаўра, Опціна пустынь — пустыннажыцельныя пазагарадскія манастыры, якія з'явіліся не раней за XIV стагоддзе. Наш манастыр узнік у сярэдзіне XIII стагоддзя. Опціна пустынь знаходзіцца за чатыры кіламетры ад летапіснага цэнтра горада Казельска, Троіца-Сергіева Лаўра — за васямнаццаць кіламетраў ад горада Раданежа. А Лаўрышаўскі манастыр за дваццаць сем кіламетраў ад Навагрудка. Значыць, ён геаграфічна мае больш правоў называцца пустынню. Але гэта ўсё — лагічныя канструкцыі, а ў нас павінны быць крыніцы. Тут была знойдзена пячатка з надпісам «Агіа пустынь», «агіа» пагрэчаску значыць «святая». Трэба было знайсці крыніцу, якая б пацвярджала гэты надпіс, і такая крыніца знайшлася. Былі знойдзены звесткі, што прафесар, рэктар Віленскай акадэміі Альберт Каяловіч, які жыў у XVII стагоддзі, меў старадаўні царкоўны дакумент, напісаны па-славянску. Гэты дакумент ён часткова пераказаў у сваёй кнізе «Аб стане царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім». У дакуменце было сказана, што наш манастыр быў заснаваны «ў месцы пустынным». Таму можна з вялікай доляй упэўненасці лічыць, што мы правільна зразумелі надпіс на пячатцы, усё становіцца на свае месцы.

Ад раскопу ідзём у памяшканне былой школы, дзе падчас раскопак жывуць удзельнікі даследаванняў. Іх сёлета 50 чалавек: 8 педагогаў, 5 студэнтаў і 37 школьнікаў (пачынаючы з 5 класа). Для малодшых далучэнне да даследаванняў хутчэй умоўнае — каб зацікавіць гісторыяй. Гэта, відаць па ўсім, спрацоўвае: абсалютная большасць школьнікаў і студэнтаў прыязджае другі і трэці разы. Толькі Анастасія Малыхіна, студэнтка Гомельскага гандлёва-эканамічнага ўніверсітэта, тут упершыню. Яна расказвае: «Прыехаць сюды прапанавала сяброўка Дзіяна. Першы дзень было складана, бо нікога і нічога не ведала. Але потым пазнаёмілася, зразумела, што ад мяне патрабуюць. Усю інфармацыю, якую трэба ведаць, Тэльман Віктаравіч даслаў яшчэ перад раскопкамі. Мне тут вельмі падабаецца, бо можна самой знаходзіць артэфакты, даведвацца нешта новае. Калі захоплены пошукамі, то зусім не думаеш пра перашкоды, напрыклад, пра дрэннае надвор'е».

Ідзём да сяброўкі Насты — Дзіяны Барадзіной, якая прыехала ўжо трэці раз. Яна якраз і займаецца тым, што разбірае пакеты, прынесеныя з раскопу. Дзіяна падрабязна патлумачыла, што адбываецца са знойдзенымі тут рэчамі: «Спачатку ўсё пераносіцца на падворак, мыецца, раскладаецца, каб мы маглі мець уяўленне, што знойдзена.

Потым прадметы падлічваюцца, выбіраецца самае каштоўнае. Зубы і косці забіраем, вялікія кавалкі керамікі — таксама. Потым прафесар Рассадзін пераглядае, раптам мы прапусцілі нешта важнае. Перш чым дапусціць нас да працы, праводзяць інструктаж. Часам правяраюць, што і як мы робім. Напрыклад, калі знаходкі будзе разбіраць Наста, з ёй абавязкова будзе хтосьці са старэйшых. Адразу не ўсё разумееш, але з вопытам робіцца прасцей. Калі разумееш, што ўсё, што ты знаходзіш, існавала вельмі-вельмі даўно, пачынаеш ставіцца сур'ёзна. Спачатку прыехала: ну, раскоп і раскоп, а потым убачыла, што пра гэта пішуць кнігі і артыкулы, паказваюць па тэлебачанні, знаходкі выстаўляюць у музеі… Захапілася. Памятаю, знаходзілі луску асятра, было дзіўна, што яна можа столькі захоўвацца. Таксама цікава, калі знаходзіш керамічныя чарапкі, можна пастарацца сабраць з іх штосьці. Мы там склеілі фрагмент сподка (венчыка), донца. Можаце паспрабаваць, мо і вы нешта складзяце».

Сапраўды, ідзём да стала са знаходкамі. Ірына Мікалаеўна Калбасіна паказвае нам фрагменты керамікі эпохі неаліту. Побач ляжаць складаны касцяны ножык, дзіўнай формы зуб жывёлы. Ірына Мікалаеўна кажа, што знаходзяць шмат жалеза, прычым яно вельмі добра захоўваецца, нягледзячы на тое, што глеба даволі вільготная. І калі чысціш, яно адразу робіцца бліскучым.

Галоўная падзея на раскопках сёння — дзень нараджэння аднаго з аматараў гісторыі, Анатоля Калбасіна. Сяргей Яўгенавіч кажа, што калі хлопец упершыню



Абследаванне гаспадарчага склепа. Расчыстка вентыляцыйнага канала. Студэнткі 2 курса факультэта эканомікі і кіравання Беларускага гандлёва-эканамічнага ўніверсітэта спажывецкай кааперацыі Анастасія Малыхіна і Дзіяна Барадзіна.

трапіў на раскопкі — пасля заканчэння трэцяга класа, — быў меншы за рыдлёўку. На сёлетніх раскопках Анатоль святкуе сваё паўналецце: «Я праводжу так ужо чацвёрты свой дзень народзінаў. Мне падабаецца сама экспедыцыя, яе сэнс. Людзей, якія побач са мной, я ведаю ўжо не першы год, мне проста прыемна быць тут разам з імі. Святкаванне дня народзінаў унеслі ў план, але ўвесь дзень мы будзем працаваць, і я не ўпэўнены, што буду ў святочным настроі, калі вярнуся з раскопу а пятай гадзіне. Я ўвесь тыдзень чакаў паўналецця, калі пусцяць працаваць у падвал пад царквой, абяцалі даць белую каску». Сёлета падчас экспедыцыі пахмурна, таму пытаемся, ці не сумуе Анатоль па добрым надвор'і і гарадскім камфорце, і атрымліваем вельмі прафесійны адказ: «Сапраўдны археолаг дажджу не баіцца. Працуем, калі надвор'е дрэннае. Калі дождж вельмі моцны, хаваемся, перачэкваем яго, потым ідзём капацца ў брудзе».

*На развітанне не можам не пацікавіцца, чаго чакаць ад даследчыкаў далей. Сяргей Яўгенавіч натхняе планамі на наступны год:* «У наступным годзе работа ў Лаўрышаве будзе працягвацца ў тым жа аб'ёме, што і раней. Я сказаў сваім паплечнікам, што наша экспедыцыя акрамя навуковых вынікаў мае іншыя, не менш важныя: мы стварылі калектыў, дзе ўсе ўжо «спрацаваліся», прызвычаіліся адно да аднаго. І канешне, гэты калектыў трэба выкарыстоўваць, ставіць перад ім маштабныя задачы».

# Сядай у BUS!

## Пра музычныя СМІ, гаечныя ключы і беларускі андэграўнд

Беларускі музычны андэграўнд — дзіўная рэч: ён ёсць, а пра яго амаль ніхто не ведае. Пра шматпакутную айчынную музыку бывае ўспамінаюць у СМІ. Праўда, з'явіцца на нацыянальных тэлеканалах могуць толькі тыя, хто ўжо стаў вядомым. А ў маладых выканаўцаў няма шанцу «засвяціцца». Між тым, за мяжой — асабліва на амерыканскай і канадскай сцэнах — аб новых цікавых гуртах даведваюцца даволі хутка. І таму ўражанне такое, што іх на Захадзе шмат. На самай справе, у Беларусі такіх гуртоў больш чым дастаткова, але, на жаль, людзей, якія гатовы дапамагаць выканаўцам, занадта мала.

У сакавіку 2013 года ў «ВКонтакте» адкрылася музычная суполка «Belarusian Underground Scene». У той час пра беларускую музыку ў найбуйнейшай рускамоўнай сацыяльнай сетцы амаль нічога не ведалі: існавалі лакальныя паблікі, якія ў асноўным ствараліся пэўнымі музычнымі гуртамі для сувязі са сваімі ж слухачамі. Місія аб'яднання дробных навінавых старонак у адну вялікую легла на плечы чатырох непасрэдных прадстаўнікоў беларускага андэграўнду: Аляксандра Аляксеева, Ігара Кавалёва, Вовы Бельскага і Арцёма Жукава.



Кірыл Белы.



Дзмітрый Прышывалка.

Цяпер у пабліка чатыры з паловай тысячы падпісчыкаў. Інтэрв'ю, «профілі» маладых выканаўцаў, актуальныя дайджэсты; абмеркаванні рэлізаў, кліпаў і альбомаў; музычная крытыка, інфармацыя пра прома-агенцтвы, лэйблы, студыі гуказапісу, звядзення і мастэрынгу — усё самае карыснае пра беларускі андэграўнд. Кідкі, прамалінейны (не заўсёды цэнзурны, але гэта моладзеваму пабліку толькі на карысць) і не пазбаўлены гумару стыль BUS'аўскіх публікацый наўрад ці пакіне каго-небудзь абыякавым.

Каб даведацца пра тое, як працуе паблік знутры, мы сустрэліся з двума цяперашнімі адміністратарамі BUS'а. Дзмітрый Прышывалка (вакаліст гурта «Чеширские бритоголовые моржи», дызайнер, прымаў удзел у стварэнні музычнага зборніка «VARG», працаваў у часопісе «Ben Journal», цяпер супрацоўнік канцэртнага агенцтва «Shot Agency») і Кірыл Белы (экс-удзельнік гурта «Sails of Atlantic») распавялі і пра BUS, і пра тое, як трэба (і ці трэба наогул) пісаць пра беларускую музыку.

**— Калі ў паблік пачалі падцягвацца людзі, з якімі праблемамі вы сутыкнуліся?**

***Д. П.:*** Гэтыя праблемы ёсць да гэтага часу. Людзі па-ранейшаму прыходзяць, але актыўнасці мала. Ты стараешся, шукаеш навіны, здымаеш інтэрв'ю, а ў цябе пятнаццаць «лайкаў» пры больш чым чатырох тысячах падпісчыкаў — гэта крыўдна.

**— Вы неяк рэкламавалі паблік? Адкуль прыходзіць асноўная колькасць наведвальнікаў?**

***Д. П .:*** Пакуль у нас было менш за дзве тысячы падпісчыкаў, мы проста пісалі людзям у «лічку»: вось у нас ёсць паблік, калі табе цікава — падпісвайся. Набралі дзве тысячы, і потым народ пачаў прыходзіць сам. Звяртаемся да музычных суполак, просім размяшчаць нашы пасты ў сябе, каб усе бачылі, што ёсць партал, дзе пішуць пра андэграўнд, незалежна ад стылю музыкі.

***К. Б.:*** Яшчэ, думаю, важную ролю адыграла сама атрыбутыка пабліка. Байкі, майкі, стыкеры. Людзі заўважалі «BUS», цікавіліся, даведваліся, што гэта паблік пра беларускую музыку, — і падпісваліся. Стыкеры мы друкавалі за свой кошт: рабілі дзвесце-трыста штук, прыходзілі на канцэрты і проста раздавалі іх усім.

**— Не было жадання зарэгістраваць BUS як інтэрнэт-СМІ? Стварыць сайт музычнай накіраванасці?**

***Д. П.:*** Людзі ў асноўным глядзяць навіны ў сацсетках — цяпер час такі. Сайты — гэта нязручна.

**— Колькі цяпер чалавек у адміністрацыі BUS'а?**

***Д. П.:*** З тых, хто рэальна працуюць, — Аляксандр Аляксееў, я, Кірыл і Ігар Кавалёў. Яшчэ ў нас ёсць фатографы, якія ходзяць на канцэрты і робяць фотарэпартажы. Год таму, калі да нас дайшло, што трэба было б рабіць нейкія рэпартажы, мы знайшлі адну дзяўчыну-фатографа, яна працавала з намі нейкі час. На дне народзінаў аднаго фатографа знайшлі другога. Ёсць яшчэ людзі, якіх мы добра ведаем, і калі ў нашых аднадумцаў не атрымліваецца патрапіць на мерапрыемства, мы клічам іх.




Аватар BUS'a ў «ВК».

**— Ніхто нікому не плаціць? Працуеце на энтузіязме?**

***Д. П.:*** Так, гэта галоўнае правіла: мы працуем за ідэю. Ніхто нічога з гэтага не мае.

**— Пытанне, напэўна, больш да Дзімы: можаш расказаць пра вопыт працы ў «VARG» і «Ben Journal» — ці ёсць розніца ў асвятленні навін у Расіі і ў Беларусі?**

***Д. П.:*** Пачнём з таго, што ў Расіі гурты больш знакамітыя, чым у нас. Але калі я працаваў у часопісе, я браў інтэрв'ю ў «5diez» *(беларускі альтэрнатыўны гурт, які ў 2003 годзе пераехаў у Маскву; іх дэбютны альбом атрымаў прэмію Russian Alternative Music Prize. — Заўв. аўтара*). У Расіі лепшы падыход. Інтэрнэт-зборнік «VARG» складаўся вось як: музыкі, пачаткоўцы і вопытныя, на добраахвотных пачатках прадастаўляюць матэрыял, які ім хочацца убачыць у зборніку. Складаецца спіс прыкладна з тысячы кампазіцый, і стваральнікі зборніка вырашаюць, якія песні з спіса ў яго ўключыць. Зборнік напалову складаецца з больш-менш вядомых гуртоў, напалову — з тых, каго яшчэ ніхто не ведае. І, на маю думку, гэта крута. Людзі бачаць знаёмы гурт у зборніку, захоўваюць яго і заадно слухаюць гурты, пра якія яны яшчэ не ведалі. Так даведваюцца пра маладых выканаўцаў. А ў «Ben Journal» мы працавалі з рознымі гуртамі. Былі больш-менш прасунутыя: «Louna», «Amatory», «The Korea». Былі гурты, якія толькі-толькі пачыналі: яны давалі інтэрв'ю пра сваю творчасць, расказвалі, як з'явіліся, як пісалі матэрыял. Часопіс друкаваўся за сродкі дырэктара і распаўсюджваўся бясплатна. І грошы за гэтыя публікацыі ніхто не атрымліваў.

**— Гэта значыць, нават у Расіі зарабіць на музычным часопісе немагчыма? Калі стварыць такі часопіс у Беларусі...**

***Д. П.:*** А хто яго будзе чытаць?

***К. Б.:*** Толькі калі афармляць падпіску ці кідаць у паштовыя скрыні.

**— Вернемся да BUS'а: рыхтуеце для падпісчыкаў што-небудзь новае?**

***К. Б.:*** У BUS'е вельмі хутка з'явіцца новая рубрыка, будзе інтэрактыў — выйдзем на новы ўзровень. Мы хочам зрабіць праграму на платформе «Twitch» *(сайт патокавага відэа. — Заўв. аўтара).* З'явіцца, так бы мовіць, BUS-TV: будзем абмяркоўваць у студыі новыя песні, браць інтэрв'ю па Skype, збіраць музыкаў па той бок экрана.

***Д. П.:*** Стомімся — уключым кліпы.

***К. Б.:*** Пакуль гэты праект на стадыі тэхнічнай распрацоўкі.

***Д. П.:*** Два дні як прыдумалі *(смяецца).*



Футболка BUS'а.

***К. Б.:*** Складаем план работы, каб не было якіх-небудзь нечаканасцей.

***Д. П.***: Ну і будзе ўсё, што ў нас ужо было: «аўтоBUSнае інтэрв'ю», «аўтоBUSная справаздача» і гэтак далей. Збіраемся браць інтэрв'ю ў вельмі-вельмі крутых беларускіх гуртоў — пакуль сакрэт якіх. Думаем наконт таго, каб рабіць рэцэнзіі, напрыклад, да рэлізаў. І яшчэ плануецца шоу, якое будзе называцца «Е-бемоль». Альбо гэта будзе блог, альбо гэта будзе нешта накшталт «Пакуль усё дома». Гэта значыць, мы будзем прыходзіць да музыкаў дадому, піць з імі гарбату, размаўляць і ў канцы прасіць даць пару музычных урокаў. І яшчэ ў нас будзе новы мерч *(афіцыйная атрыбутыка, якая належыць музычным калектывам і арганізацыям: майкі, упрыгожванні, стыкеры і г. д. — Заўв. аўтара).* Але гэта ўжо ад майго настрою залежыць. Апошні мерч рабіўся так. Піша мне Аляксандр Аляксееў першы раз: «Давай зробім такую штуку». Я пагадзіўся і забыўся. Зноў піша: «Давай зробім». Я зноў забыўся. Піша трэці раз: «Дзіма, рабі». Зрабіў яму адзін варыянт — не спадабалася. Другі раблю, трэці — не падабаецца. А потым я хвілін за дваццаць накідаў гаечныя ключы, дадаў драпіны, адправіў Аляксееву, а ён кажа: «Гэта будзе прадавацца». Ну, і цяпер людзі купляюць, усім падабаецца. Вось так мы працуем.

*Жэня Вялько*

# Так гучыць Космас

**Аднойчы Кацярыне Захарэвіч прыйшло паведамленне. А ў ім — чароўная музыка. Ці то званочкі ў ёй гучаць, ці то талеркі з барабаннай устаноўкі хтосьці пяшчотна пагладжвае, ці то так гучыць Космас. Кацярына вырашыла пагутарыць з Іванам Крываносам — аўтарам і паведамлення, і музыкі, уладальнікам дзіўнага інструмента з назвай «ханг», заснавальнікам праекта «Хангмелеон». Першае, што зрабіў Іван, — правёў лікбез.**

— Ханг — перкусійны інструмент, быў створаны ў 2000 годзе ў Берне (Швейцарыя). Прытым, што даўно ніхто не прыдумляў акустычных інструментаў, ханг з яго незвычайным гучаннем выклікаў фурор. Ужо ў 2005 годзе яго нельга было купіць, даводзілася пісаць сапраўдныя папяровыя лісты, якія стваральнікі інструмента разглядалі і вырашалі, каму дастанецца інструмент. Натуральна, не дарма. Кошт рэзка падскочыў. Майстры, якія вынайшлі інструмент, выпускалі яго да 2013 года пад запатэнтаванай назвай «ханг». Адпаведна, майстры, якія маглі б патэнцыйна ствараць нешта падобнае, павінны былі прыдумляць новыя назвы. Таму па дамоўленасці інструменты іншых вытворцаў называюцца хэндпанамі (хэнд — рука, пан — або «рондаль», або корань ад назвы «стылпан» прабацькі сучаснага ханга). Кожны майстар дае свайму хэндпану яшчэ і асобнае імя. Зараз большасць ведае толькі пра ханг, зацікаўленыя пачынаюць натхнёна шукаць пра яго інфармацыю ў інтэрнэце, даведваюцца, што з 2013 года ханг не робіцца, расчароўваюцца, на гэтым усё завяршаецца. Але ёсць магчымасць паслухаць хэндпаны розных майстроў, бо ў кожнага інструмент мае сваю афарбоўку гучання. Інструмент толькі пачынае развівацца, 16 гадоў — гэта не ўзрост. Не ведаю, ці застану я гэта, але мне здаецца, што яго ўключаць у музычныя школы. Ён спалучаецца з вялікай колькасцю іншых інструментаў, на ім можна іграць любую музыку любых стыляў. Калі браць агулам колькасць хангаў і хэндпанаў, іх каля 18 тысяч па свеце — гэта вельмі мала. У сённяшніх майстроў ёсць свае чэргі, часам ладзяцца імгненныя распродажы. Пакупнікі знаходзяцца за секунды!

**— Але ж у цябе атрымалася здабыць сапраўдны ханг…**

— Калі я даведаўся пра ханг і не ведаў, што ёсць іншыя, блізкія інструменты, пачаў апантана шукаць яго, адпраўляў у космас столькі энергіі! Я проста быў закаханы, як у дзяўчыну, таму, натуральна, збянтэжыўся, даведаўшыся, што ханг больш не робяць. Больш чым паўгода я пасылаў запыты ў космас, і космас мне адказаў — у сеціве праскочыла інфармацыя, што ханг можна набыць: даведаўся я пра яго вясной, а зімой ён у мяне ўжо быў. Я кажу такія рэчы, якія не казаў бы, калі б не атрымаў гэты інструмент: я звычайны чалавек, працую маркетолагам, маю сям'ю і дзяцей, усё ў гармоніі і парадку, і тут з'яўляецца гэтая «лятаючая талерка», якая пачынае кардынальна змяняць жыццё ў нейкі зусім незвычайны бок. Калі ў мяне з'явіўся ханг, я стаў даведвацца пра іншыя, родаснасныя інструменты. Цяпер у свеце прыкладна 80—90 майстроў, якія іх вырабляюць, што ўжо добра. Тым не менш чарга існуе: для камфортнай работы над адным хэндпанам патрэбны месяц, за год кожны з майстроў



Больш чым паўгода я пасылаў запыты ў космас, і космас мне адказаў — у сецІве праскочыла інфармацыя, што ханг можна набыць

можа зрабіць толькі 12—13 інструментаў, якія адразу ж разбіраюць. Але набыць хэндпан цалкам рэальна. Напрыклад, для маёй школы майстар за месяц змог зрабіць тры інструменты, каб мы змаглі своечасова адкрыцца.

**— Ты ўзяў у рукі ханг… і што далей?**

— Проста ўзяў інструмент у рукі і пачаў іграць. Амаль адразу прыдумаў сваю першую кампазіцыю. Вучыцца надта і не даводзілася, таму што мне заўсёды падабалася выбіваць рытмы. Умею іграць на трубе, вельмі люблю фартэпіяна. Разабрацца, як іграць на хэндпане, можна інтуітыўна. Маю дачку я нават не вучыў, сказаў: «Проста не бі галавой і не кідай на падлогу». І яна сама стала іграць. Яна паказала мне «У полі бярозка стаяла», і зараз, калі ў мяне, напрыклад, на тэлебачанні пытаюцца, ці можна на хангу іграць штосьці папулярнае, я іграю.

**— Якое развіццё для сябе ў музыцы ты бачыш?**

— Я асабліва планаў на жыццё не складаю, мне цікава, куды яно мяне закіне. Безумоўна, даводзіцца і самому рухацца, але я інтуітыўна давяраю жыццю, і гэта нядрэнна, бо калі ствараеш планы, якія потым зрываюцца, ты бянтэжышся, журышся. Мае планы ствараюцца з дня ў дзень паступова: канцэрты, выступленні, сустрэчы з новымі людзьмі — так адкрываецца больш магчымасцяў для рэалізацыі.

Напрыклад, навучанне: я спачатку займаўся з вучнямі індывідуальна, бо меў толькі адзін інструмент. З'яўляліся людзі, якія казалі «Ваня, навучы іграць». Я спачатку думаў, навошта? Інструментаў няма, купіць складана. Навучу, а што вы будзеце рабіць далей? Але з'яўляюцца вучні, якія купляюць сабе інструменты, так справа ідзе нашмат хутчэй. Потым, калі майстар, што рабіў хэндпаны для маёй школы, стаў развівацца, вырабляць больш якасныя інструменты, а ў мяне з'явіліся новыя людзі, якія хацелі займацца, я вырашыў закупіць некалькі хэндпанаў, каб адкрыць школу і вучыць адначасова некалькі чалавек.

Ёсць шмат запрашэнняў на фестывалі, ад часткі якіх мы нават адмаўляемся, бо яны не задавальняюць нас па якасці. Хочацца, канешне, стаць арганізатарам якога-небудзь хэндпан-фестывалю, куды б людзі маглі прыходзіць, каб паслухаць добрую музыку ў выкананні выпускнікоў школ і тых, хто займаецца асобна. Гэта будуць мерапрыемствы, вольныя ад алкаголю і нікаціну, магчыма, аб'яднаныя з практыкамі ёгі. Такія фестывалі робяцца папулярнымі ў Маскве, хочацца зрабіць іх такімі і ў нас. Таму што нават зараз, калі выходзіш у парк фатаграфавацца з інструментам, адразу набіраецца натоўп зацікаўленых. Хочацца паказаць, што ёсць мерапрыемствы, дзе можна адпачываць і вушамі, і душой, памедыціраваць, расслабіцца.

**— Раскажы больш падрабязна пра школу.**

— Я вельмі востра адчуваю час. У мяне ёсць работа, якая адымае 8—9 гадзін у дзень, ёсць сям'я, ёсць інструмент. І гэта ўсё трэба ўмясціць у адны суткі, і нейк яшчэ адпачываць. Таму я вырашыў вучыць некалькі людзей адначасова.

Школа «Хангмелеон» адкрылася 1 сакавіка. Некаторыя думаюць, што гэта добрая бізнес-ідэя, але гэта не так: інструмент дарагі; арэнда памяшкання, падаткі і іншыя пытанні ставяць перад творчым чалавекам зусім не творчыя праблемы. Але я заўсёды імкнуся рабіць усё ад сэрца, тады гэта прыносіць плён. Нават калі праект «Хангмелеон» не будзе супердаходным, я знайшоў блізкіх па духу людзей, з якімі мы музіцыруем, імправізуем, нараджаюцца вельмі добрыя кампазіцыі, якія яшчэ прагучаць шырока. У нас ёсць жаданне і амбіцыі, а час, мяркую, падладзіцца пад нас, бо ён адносны.

**— Што аб'ядноўвае тваіх вучняў?**

— Што да ўзросту, то мне камфортна працаваць з людзьмі ад 7 гадоў (мая дачка ў гэтым узросце, і я зразумеў, што яе ўжо магу вучыць). На мае мерапрыемствы ходзіць адзінаццацігадовы хлопчык, які на дзень народзінаў папрасіў у бацькоў глюкафон (інструмент з падобным прын-

цыпам дзеяння). Ужо праз месяц ён іграў так, што пачаў выступаць. Што да верхняй мяжы, то дакладна не скажу, бо музыцы, як і каханню, падуладныя ўсе ўзросты. Натуральна, што з часам у галаве замацоўваюцца пэўныя працэсы, напрыклад, матэматыку больш складана пераключыцца на творчасць. Прафесіі — абсалютна розныя, ад студэнтаў да дырэктараў. Людзі прыходзяць займацца, каб абстрагавацца ад руціны, перарваць «дзень сурка», прынесці ў жыццё нешта новае і гарманічнае. У мяне няшмат вучняў, але шмат мне і не трэба. Дзякуючы заняткам з хэндпанам, людзі пераадольваюць сябе. Хто думаў, што яму мядзведзь на вуха стаў, зараз шыкоўна іграе; хто саромеўся фотакамер, паўдзельнічаў у нашай фотасесіі, стаў па-іншаму глядзець на сябе. Наперадзе — пераадоленне страху публічных выступленняў.

**— У якіх умовах лепш за ўсё іграецца?**

— Часам іграеш там, дзе сядзеш. Мне асабіста найбольш спадабалася іграць на адным з нашых мерапрыемстваў — медытатыўным азёрным сплаве. Мы спакойна плывём на байдарках па возеры Вяча і слухаем музыку. Калі няма ветру, вада разносіць гукі інструмента на некалькі сотняў метраў, я лічу, што гэта лепшая канцэртная пляцоўка. Такія заплывы мы робім раз на месяц, толькі калі стаіць поўня. Можна было б праводзіць такія мерапрыемствы раз на тыдзень, бо яны запатрабаваныя, але я не хачу разменьвацца на дробязі, хочацца, каб гэта было нешта адметнае, прыгожае. Сустракаемся на беразе гадзін у восем вечара, праводзім інструктаж, выплываем на ваду, праводзім заход сонца, сустракаем поўню і недзе апоўначы ўжо ўсе дома, спяць па сваіх ложках.

Здарава іграецца ўвогуле на прыродзе, дзе спяваюць птушкі. У гарах (у мяне такога вопыту не было, але бачыў), у пячорах, дзе можна адчуць, як гук адбіваецца ад сцен. Галоўнае іграць там, дзе камфортна, дзе ты настройваешся на інструмент, а ён — на цябе. Калі ты журышся, інструмент будзе праводзіць тваю журбу, калі табе добра, музыка будзе вясёлая. Калі ты ў стане эмацыянальнага выбуху, ён накіруе цябе на супакаенне. Інструмент — гэта сябар, які цябе зразумее і пад цябе падладзіцца.

Я звычайны чалавек, працую маркетолагам, маю сям'ю і дзяцей, усё ў гармоніі і парадку, і тут з'яўляецца гэтая «лятаючая талерка», якая пачынае кардынальна змяняць жыццё ў нейкі зусім незвычайны бок

**— А чаго ханг не любіць?**

— Ханг не любіць моцных удараў. Некаторыя думаюць, што ён не можа разладзіцца, бо гэта ж металічная каструля. Калі па ім моцна біць, ён разладжваецца, а наладзіць яго вельмі складана, асабліва, калі ён куплены ў іншай краіне — з ім давядзецца развітацца месяцы на тры. Інструмент не любіць высокай тэмпературы і вялікай колькасці сонечнага святла. Не любіць доўга захоўвацца ў чахле, бо там вільгаць. Не любіць марской вады. Шмат хто ўяўляе: сядзіш у Тайландзе на беразе мора і іграеш. Карціна вельмі прыгожая, але салёнае паветра раз'ядае метал, інструмент можа ржавець, яго трэба ўвесь час змазваць. Хоць ёсць сплавы, менш падуладныя такім працэсам.

**— А якая падрыхтоўка патрэбная слухачу?**

— Чаму я не люблю іграць у парках ці пераходах — гэта таму, што не хачу, каб людзі спыніліся на хвіліну. Нават на пяць. Я хачу, каб людзі спынілі час на 3—4 гадзіны і паслухалі мяне. Калі я планую свае мерапрыемствы, я папярэджваю: ніякіх больш праграм сабе не складайце. Мне не трэба, каб пасярод хтосьці ўстаў і сышоў па справах. Тады або не варта прыходзіць, або трэба запланаваць сабе тры гадзіны рэлакса. Здараецца, што на мае мерапрыемствы людзі прыходзяць, каб правесці, напрыклад, свій дзень нараджэння. На нашых мерапрыемствах «Музычная гарбата» заўсёды цёплая атмасфера, ёсць ліміт — да 25 чалавек могуць прысутнічаць адначасова. Мы п'ём смачную гарбату, размаўляем, слухаем музыку, я расказваю пра інструмент, паказваю, часам даю «пагучаць». Таму варта прыходзіць з усмешкай і адкрытым сэрцам.



Марыя Страх

# Творца хвалюецца раз…

**«Толькі б не забыцца тэкст, толькі б не забыцца…» Ад хвалявання спыняецца сэрца, а цела прабіраюць дрыжыкі. «Які жах гэтыя канцэрты! Больш ніколі, ніколі!» Усмешка, роўная спіна, упэўненая хада. Яшчэ імгненне і… У жыцці засталіся восемдзесят восем клавіш і некалькі соцень гледачоў. Вобразы, адценні, карагод пачуццяў— усё злілося ў хвілінах. Захапленне залы і мора апладысментаў прымушаюць забыць абяцанне ніколі-ніколі не іграць. «Толькі б запрасілі яшчэ, толькі б запрасілі яшчэ…»**

Нядаўна даведалася, што прафесія музыканта ўваходзіць у спіс самых стрэсавых. У некаторых людзей гэты факт выклікае здзіўленне і нават абурэнне: «Як можна параўноўваць артыстаў з урачамі ці лётчыкамі?» Адны, рызыкуючы, выратоўваюць жыцці, другія ж — толькі ўпрыгожваюць.

На сцэне нельга сустрэцца з небяспекай.

Але чалавек, які хоць бы аднойчы іграў для іншых, без сумнення, аднясе працу выканаўца да «асабліва неспакойных». Музыкант знаходзіцца ў неверагоднай адказнасці перад мастацтвам. Прадстаўляючы той ці іншы твор, ён стаіць перад тварам самога кампазітара. Дрэнная тэхніка, няправільная перадача гуку — і сусветны шэдэўр застанецца раскрытым не да канца. З іншага боку, кожны віртуоз баіцца расчараваць аўдыторыю. У момант выступлення майстар застаецца адзін на адзін з сотнямі, а магчыма, і з тысячамі позіркаў. Людзі, прыходзячы на канцэрт, жадаюць атрымаць найлепшыя ўражанні і эмоцыі. Неапраўданыя надзеі гледачоў — горшае пакаранне маэстра.

Знакамітая расійская піяністка Кацярына Мячэціна ў адным інтэрв'ю казала: «Ты выходзіш на сцэну і павінен паказаць, на што здольны. Як спартсмен на Алімпіядзе. А калі не ў настроі? А калі сказалі нядобрае слова пад руку?» На мой погляд, для поспеху недастаткова толькі прафесіянальных ведаў. Артыст павінен умець забывацца на рэальнае жыццё. Клопат, праблема ўзаемаадносін, трывога — нішто не павінна перашкаджаць у хвіліны выканання.

Галоўнай цяжкасцю ў музыцы з'яўляецца вечнае выпрабаванне адоранасці. Таленавітая асоба на працягу жыцця праходзіць іспыт перад настаўнікамі і крытыкамі. Заўсёды ёсць верагоднасць аднойчы прачнуцца несправядліва зняважаным. Аднак самы строгі адказ творца трымае перад сабой. Нават зусім нязначная памылка можа стаць вырашальнай.

Пачуцці расчараванага інструменталіста яскрава перадае французскі кароткаметражны фільм «L'accordeur» (рэж. А. Трэнэр). Малады піяніст Адрыян пасля няўдалага выступлення на конкурсе Бернштайна доўга і пакутліва перажывае правал. Велізарная крыўда не дазваляе юнаку па-ранейшаму займацца музыкай. Няўсцешанасць прымушае Адрыяна пайсці на адчайны крок: малады чалавек выдае сябе за сляпога настройшчыка фартэпіяна. Толькі так выканаўца можа па-новаму перажыць смак ігры. Кінакарціна паказвае, што талент — вечны спадарожнік вар'яцтва.

Жыццё чалавека мастацтва ўвогуле багатае на адценні. Яно можа поўніцца вялікай любоўю і нянавісцю, безнадзейным жалем і шкадаваннем — але ні ў якім разе не заставацца пустым. Кожная падзея пакідае адбітак на сэрцы майстра. Ствараючы новы вобраз, геній знішчае сябе. У той жа час толькі носьбіт прыгажосці здольны даць гучанню інтэлект. Задавальненне ад творчай працы, я лічу, не параўнаецца з ніякім іншым. Таму справядліва заўважыць: дзейнасць музыкантаў не толькі бясконца хвалюючая, але і бясконца радасная. Хто аднойчы іграў — падтрымае.

Вольга Шыманская



**нарадзілася 23 чэрвеня 1981 года ў Мінску. Выпускніца факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка (2003), кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры англійскай мовы эканамічных спецыяльнасцей факультэта міжнародных адносін БДУ. Шматгранная асоба з невычарпальнай энергіяй і прагай жыцця: сумяшчае выкладчыцкую, навуковую і творчую дзейнасць з выхаваннем траіх дзетак, спевамі ў царкоўным хоры і танцавальнай праграмай Зумба.**

## Пачуцці на паперы

### Пеўчая

Змоўкнуць спевы на хорах.
Сціхне роспеў званоў.
І царква апусцее да раніцы.
«Божа, літасціў будзь жа
На векі вякоў», —
З вуснаў пеўчай малітва зрываецца.

Пачакаць. Прыпыніцца.
Зазірнуць у сябе,
Каму служыш, нарэшце задумацца,
Ці на Божае славе,
Ці пышнай хвальбе
Твае ўчынкі штодзённа будуюцца.

Не да месца партэснасць —
Тут, у гулкай цішы,
У малітву так многа закладзена.
Толькі б шчырыя словы
Ліліся з душы,
А астатняе — будзе нам дадзена.

…Так яна разважае,
Быццам тое дзіця,
Дом з камення будуе з руплівасцю.
І ад Бога прымае
Варункі жыцця —
З паслухмянай і ўдзячнай цярплівасцю.

## Трыялет

Я узышла на Эверэст,
Заснежаны і непрыступны.
З пакут будуючы прыступкі,
Я узышла на Эверэст.
Ды марны, марны подзвіг рупны,
Бо ў адзіноце праўлю фэст…
Я узышла на Эверэст,
Заснежаны і непрыступны.

## Мае колеры

Сінія з шэрым думкі…
Вочы стальныя твае…
Дымкай над лісцем хрумсткім
Шызая восень плыве…

Збаў мяне ад пакуты
Быць у баку ад падзей:
Рукі мае закуты
У кайданы надзей.

Страшна, што я пачую
З вуснаў тваіх «ніколі».
Ды толькі яно ўратуе —
Можа, яно ўратуе? —
Ад сіне-шэрай любові…

***

Ад стомы чырвонае, сонца кранае
Глыб возера. Тае спакой у паветры.
Цягучай смугою мой крок аплятае
Бяскрылы пясок, што так марыць аб ветры.

***

Белы аркуш
Патрабуе складоў.
Не падманеш:
Назло табе
Я зрыфмую
Пачуцці з паперай.

***

Ён мне ніколі
Не здрадзіць,
Бо здрада чужой —
Не здрада.
Бо час размывае вобраз,
Боль чужы
Не кранае сэрца…

***

Як у сне: хочаш крок — ні з месца.
Толькі «хачу» імкнецца
Навыперадкі з «магу».





Наталля Бінкевіч

**нарадзілася 22 снежня 1990 года ў Ваўкавыску. Апошнія восем гадоў вучыцца і працуе ў сталіцы. Сярод захапленняў — музыка, замежныя мовы і этнаграфія. Любіць спяваць з татам у машыне «Ой, сівы конь бяжыць».**

## Сёння памёр дзед Толік

Мая прабабуля Фядора Адамаўна нарадзіла адзінаццаць дзяцей. Цяпер жывыя толькі дзве дачкі: адна — у Пецярбургу, другая — у Алматы.

Гэтая сям'я бачылася мне ўвасабленнем інтэрнацыяналу — маленькага Савецкага Саюза, крэпкага і рамантычнага. Ленінград, Ташкент, Мінск, Гомель, Алма-Ата, Растоў-на-Доне, Уладзівасток — вось дзе жывуць дзеці прабабуліных дзяцей. На мапе я абазначала гарады і верыла, што аднойчы ранкам сяду ў цягнік, і занясе ён мяне, напрыклад, у Піцер. Будуць гарэць вечаровыя ліхтары, людзі будуць усміхацца… «Вот опять небес темнеет высь, вот и окна в сумраке зажглись…»

Нашы родныя з Казахстана — еўрапейцы. Мае траюрадныя браты Ахмедхаджа і Рахім скончылі каледжы ў Рэне і Парыжы. Іх фатаграфіі я прымацавала да сшытка па французскай мове — для матывацыі.

Дзед Валера быў піцерскім архітэктарам, яго называлі не інакш, як «Пушкін», хоць ён любіў Маякоўскага. Валерый быў ліквідатарам на ЧАЭС, і мне, малой, сказалі, што ў яго страшныя рукі.

Страшнымі былі два дальнія пакоі ў прабабулінай хаце — заўсёды замкнёныя.

Аднойчы летам я запомніла прабабулю ў польскім сцягу — у бела-чырвонай хустцы. Восенню яна памерла ў дзевяноста дзевяць гадоў, і мне ўпершыню паказалі ўсе пакоі.

Пасля смерці прабабулі запраўляць стала сям'я малодшага найлюбімейшага сына прабабулі — «пасляваеннага» Толіка. Дом перафарбавалі. Поўнасцю ў зялёны колер. Нават дзверы. Ссеклі яблыні і вішні, а на месцы выкарчаваных ружаў па леце стаяў яркі дзіцячы басейн.

Я паглядзела на веснічкі. У дзяцінстве баялася іх адчыняць, таму што трэба было ўбачыць прабабулю, якая з кожным месяцам старэла, сохла, і, калі нехта гаварыў мне пра бабу Ягу, я ўспамінала бабу Феню. Кот Прастафіля забаўляў яе, калі поруч не было дачкі Марыі.

Жоўтыя лапаткі, махровыя ружовыя ручнікі… Не брэша Пірат. Чые дзеці гуляюць тут? Што за людзі не вітаюць мяне? Голас пытае: «К кому вы?»

Да каго прыходзяць тыя, хто помніць? Да каго прыходзяць тыя, хто помніць дом нефарбаваным, алею ружаў, агрэст, калодзеж, самаробны тварог і таямнічыя пакоі?

Апошнія сталі чыімісьці пляцоўкамі для гульняў, прыёму чыіхсьці гасцей. Яны нават на мове іншай размаўляюць, чым шапталіся тыя людзі з фотаздымкаў дваццатых гадоў мінулага стагоддзя. Вышываныя сурвэткі замяніліся цыратамі з бэзам.

***

Праз год я прыехала, каб пафатаграфаваць прабабуліну хату, двор. З вакзала ісці — зусім нічога.

«ДОМ ПРОДАЕТСЯ. Velcom. МТС.»

## Рэцэпты памяці

Дзед Лёня — першы чалавек, які даў мне пасмактаць курыную ножку. Бацькі перыядычна ўспамінаюць гэты ўрок дарослага паядання мяса, радуюцца, што праблем са стратай апетыту ў дачкі ніколі не было. Але ж ніхто не ведае, ці прыняла я першую курыную ножку тады, у 1991-м, з рук дзеда? Далібог, у мяне ніхто ні разу не пытаўся, бо што памятае бяззубая? А я, між іншым, зусім не супраць уявіць такі абед.

Так, прыкладна час абеду. Мама з татам пайшлі ў горад, а бабуля ўсё не вярталася з рынку. Дзед вырашыў пакарміць унучачку тым, што еў сам. Карміцель пасадзіў мяне на ўслонік: «Вось табе курыная нага! Смачная і вялікая курыная нага! Трымай яе моцна! І о, ля — кусай!» Мой твар блішчэў, а вочы блакітнелі. Дзед, задаволены, вярнуўся на сваё крэсла каля буфета. «Набарабанілася?» — мог запытацца ён, водзячы далонню па жываце.

Буфет і яго начынне былі заўсёды прываблівымі, як і начынне шафаў, паліцаў, камодаў у кватэры на Савецкай. З цягам часу (ды і ніколі!) рэчы, дробязі, успаміны не рабіліся для мяне нязначнымі. Нічога ў жыцці я не памятаю настолькі дасканала, як кватэру, дзе жылі дзядуля і бабуля. У памяці нават сны, якія я бачыла ў гэтым доме. Напрыклад, вайна. Фашысты трубілі свой парад на плошчы, заляталі ў кватэры і хапалі людзей. А ў нас — цішыня. Мяне не відаць за скручаным дыванам, які напярэдадні выбівалі тата з дзедам.

Летнімі вечарамі я лезла за бабуляй Інай праз плот у дзіцячы садок. Парк здаваўся бясконца вялікім, тут кожны куток меў сваю атмасферу. У цені сярод дрэваў — рамантычныя алеі з мішкамі, а бліжэй да плота, пад сонцам, — гарачы чырвона-жоўты жалезны летачок.

Я памятаю, як гулялі з бабуляй у карты. О, а гэтая бясконцая гульня «П'яніца»!? Яе ж спыніць можна, толькі калі скажаш: «А давай у даміно!» Да позняй ночы мы раскладалі прамавугольнікі з кропачкамі і без, бабуля засынала і спецыяльна прайгравала. Тады мы кладліся спаць, і я клянчыла казку. Адзінай унучцы ўсё было дазволена. Пад мармытанне дзедавага тэлевізара ў зале, пад казку пра добрую дзяўчынку пад дажджом я засынала, абароненая.

Да сямі раніцы дзеду на работу былі гатовыя скваркі, а мне на сняданак — зацірка з ягадамі. Удзень павінна прыйсці іншая бабуля, дзедава сястра, маміна хросная баба Даша.

А як мы гулялі з бабай Дашай! Адна з гульняў называлася «Мікітаўна». Прыкладна, так.

— Мікітаўна, а як твой?

— Ой, Сямёнаўна. І не пытайся. Ізноў п'е, — адказвае баба Даша.

— О, ты паглядзі, і не дасі рады ўглядзець за гэтымі мужыкамі! Як за дзецьмі малымі. Што то робіцца такое, Мікітаўна-а-а?

Такія дыялогі адбываліся ў ваннай, дзе на этажэрцы размяшчаліся мае «пасудкі». «Дзе Лена?» — пытаецца мама. «З бабай Дашай у «Мікітаўну» гуляюць», — тлумачыць баба Іна. Маці стукаецца ў дзверы, смяецца, заходзіць, абдымае бабу Дашу.

— Леанідаўна, то заходзьце, у нас сёння дранікі, — паказваю я на мокрую туалетную паперу на пластыкавай талерцы. Леанідаўна адмаўляецца.

— А як ваш? — цікаўлюся я.

— Мой курыць на вуліцы, — мама кажа, каб мы «закругляліся», бо ёй трэба паласкаць бялізну.

Дзед прыносіў з завода «заячы хлеб». Я верыла, што па дарозе з работы Леанід Яфімавіч сустракаўся з шэрым трусікам, які асабіста толькі для мяне перадаваў найсмачнейшы хлеб з тлустымі скваркамі.

Бацькі ўпарта падтрымлівалі і гэтую гісторыю, і тую, што дзед на Паўночным полюсе пераносіў на руках белых медзведзянят з адной ільдзіны на другую. Вось так служыў мой дзед у Савецкай арміі!

Якія якасці ў нас з дзедам не супалі, дык гэта тое, што ён быў стрымана-маўклівым, а мне хапіла ў студэнцкія гады з-за супярэчлівага характару. Паспрачацца любіла не толькі з тымі выкладчыкамі, якія падабаліся, але і з тымі, што прыносілі сумнеўныя веды. Гэта ж абуральна, калі табе даказваюць, што твой родны горад маладзейшы на дзвесце гадоў, чым ёсць. У Беларусі мой горад на пятым месцы па ўпамінанні ў рукапісных творах (хоць, вядома, год упамінання не раўняецца году заснавання)! І, дарэчы, наша Савецкая раней была Біскупскай вуліцай, а Сацыялістычная бабы Дашы называлася Лазарэтнай.

Дзед Лёня не адобрыў бы, напэўна, майго паступлення на гістфак. «Ай, — крывіўся ён. — Ну, што гэта за прафесія?» Цяпер я, Алена Сазановіч, гісторык-архівіст, ашчадна захоўваю дакументы: ад аўсвайса прадзеда да ваеннага білета мужа бабы Дашы. І гэта мая найвялікшая каштоўнасць. Хто я без паперкі? Я твая памяць, дзед.

У нашым доме абед. Мне — дзесяць, дзеду — шэсцьдзясят тры. Ён гатуе страву, якую памятае са службы на Паўночным полюсе — макароны па-флоцку. Кавалачкі ліvернай каўбасы ён выкладвае на патэльню з алеем, чакае, пакуль яны растопяцца, дадае звараныя макароны, соліць і перамешвае разам з ліверам.

Я думала, у мяне не атрымаецца прыгатаваць па дзедавым рэцэпце — лівер не растопіцца. Але ўсё атрымалася даволі смачна. Я ўспомніла, як елі з хросным маянэз маленькімі лыжачкамі або намазвалі яго на хлеб. Баба Даша заўсёды казала: «Бяры пясок». Яна так называла цукар, а мне было так смешна! Баба Іна купляла вафлі з варэннем — такіх ужо нідзе не знойдзеш.

Мне пашанцавала, бо я запісала на камп'ютар голас дзеда. Ён пераказвае свае любімыя рэкламы па ролях, успамінае гісторыю пра тое, як маю маці ўкралі цыганы (насамрэч яна ўпала з ложка ў кошык з бялізнай), прыгадвае, як уключаў мне радыёпрыёмнік, складзены ім з трох старых. Кажа, што яго пахаваюць пад бярозкай. «Дзед, ты не памрэш ніколі, кажы яшчэ, кажы яшчэ, расказвай! Ты бачыў белых мядзведзяў?» «Ой, бачыў, я іх на руках трымаў, як цябе насіў», — смяецца дзед Лёня. І адразу робіцца сур'ёзным: «Вы шуміце, шуміце, нада мной бярозы, калышыце, люляйце свой напеў векавы…»

На могілках як мінімум пяць бяроз, дарога — гасцінец сапраўды стары. Далей, ужо у горадзе, ён пераўтвараецца ў колішнюю Біскупскую вуліцу.



## Яўстафій Халіманкоў

**нарадзіўся 20 лютага 1975 года ў Докшыцах. Насельнік Жыровіцкага манастыра і выкладчык Мінскай духоўнай семінарыі. Літаратура, на яго думку, асноўны сродак пазнання ісціны. Яго «Інтэрв'ю» — гэта, канешне, апавяданне. Але за адным словам заўсёды хаваецца значна болей, чым набор літар, адмысловым чынам у яго ўкладзены.**

# Інтэрв'ю

**Я жыў, нібыта ў інтэрнаце, дзе ўсё часовае, чужое, наспех некім злепленае… Сур'ёзна — толькі жлобства і боль. Радзіма — гэта нейкі самападман, у які ты спрабуеш паверыць, наколькі цябе хапае, пакуль жывеш, і гора табе, калі ў цябе атрымліваецца!.. Ты губляеш тады нешта адзінае, дзеля чаго і трэба жыць. Але што гэта такое — ты не ведаеш. Нават калі ты ўцячэш адсюль — далёка, у іншую краіну — туды, дзе ажывуць дзіцячыя казкі, юнацкія мроі, дзе свабода прынясе табе у кубачку на палец пенак салодкіх расчараванняў, — нават там ты будзеш азірацца з комплексам ліміты. Ты можаш з'ехаць куды заўгодна, але праклятае месца застанецца з табой, бо яно — нідзе, і яно паўсюль. Як рак. Ты можаш назваць гэта настальгіяй, а можаш паспрабаваць быць больш шчырым, як гэта зрабіў я, напісаўшы гэтую кніжку.**

Я ўжо некалькі дзён тут — у Парыжы. Здымаю ўтульны пакойчык на ру Сэн-Мэдар у Лацінскім квартале. Каго тут толькі не сустрэнеш!.. Пазнаёміўся з заўсёднікамі кафэ на плошчы Контрэскарп: шасцідзесяцігадовай мастачкай з Вірджыніі, індусам-паэтам, рамантычнай гаспадыняй парфумнай крамы з Афін… Я кожны дзень прыходжу сюды — на плошчу Контрэскарп, стараюся прыйсці раней, да дзесяці гадзін раніцы, пакуль тут амаль нікога няма, — замаўляю некалькі кубачкаў кавы, адзін за адным, бо яны надта маленькія. Але я хутка вучуся над імі медыціраваць. Я рассеяна гартаю зборнічак навел Адама, куплены не так даўно ў Варшаве. Сёння ў мяне з Адамам сустрэча — тут, у кавярні на плошчы Контрэскарп.

Я дрэнна ўсведамляю, дзе мой голас, а дзе голас Адама — настолькі блізкім стаў наш боль — зрэшты, блізкім, але не агульным. Таму што Адам жыве тут, у яго жонка — французская акторка, ён вунь выдае кніжкі, якія прадаюцца па ўсім свеце. Што ў ім засталося ад таго хлапчука, з якім мы «лабалі» дваццаць гадоў таму ў ДК Чыгуначнікаў: разагравалі «Нэйра Дзюбель»?

— Ты прыехаў проста ўзяць інтэрв'ю, нічога больш? — Адам глядзеў на мяне шырокімі вачыма — не зрэнкамі, як у нас часам бывае, а менавіта шчыра — шчырымі такімі вачыма. Ён мог сабе гэта дазволіць.

— Адам, я гэтаксама магу сабе тое-сёе дазволіць, — адказаў я з некаторым выклікам, аб якім зараз жа й пашкадаваў… Ну каму тут трэба твае самасцвярджэнні левыя. Але Адам, здаецца, як бы нічога не заўважыў. Перад мной быў сапраўды шчыры чалавек, бо калі б ён не хацеў, не сустракаўся б са мной: зрабіў бы выгляд, што не памятае мяне.

— Здаецца, я разумею цябе, дружа. Разняволься, успомні, што ты ў Еўропе, *«где мы не будем никогда»*, — скончыў раптам Адам далёкім шлягерам «Наўцілуса» і засмяяўся. Мы замовілі віна і сталі ўспамінаць агульных менскіх знаёмых. Я бачыў, што Адаму было, увогуле, нецікава. Тым не менш нейкае дзіва атрымалася ў рэшце рэшт, бо Адам пасля келіха віна запаліў і стаў мне распавядаць:

— Помню, адзін мой стары сябрук, які жыве цяпер у манастыры, сказаў мне: «Я не вынес больш гэтай пошласці і памёр для той прасторы. Як ты там выжываеш?» І я тады зразумеў, што… а ніяк! Таму што я не жыву. Але і смерцю гэта назваць нельга. Вось тады я і зразумеў, што пакуль я яшчэ не вызначыўся для сябе, трэба «рабіць ногі». Шчаслівы выпадак паслаў мне жонку, Жаклін. Я зразумеў, што рэчаіснасць можна змяніць, бо гэта ўсё ж такі XXI стагоддзе! Мы такія няўдзячныя свайму часу!.. У іншую эпоху пражылі б, як і нашыя бацькі: то бок, не прачынаючыся. І думалі б, што гэта і ёсць жыццё. Бо так у кінатэатрах паказваюць і ў газетах пішуць…

**Пошласць вечна дэкларавала сябе нечым нязменным. Не плыгкасць ці то плюгкасць, а менавіта пошласць — іншага слова тут не маеш. Ну, ды то ладна… Але нечым адзіным магчымым? Гэтага я ўжо не мог вытрываць. Пошласць не выбіраюць, так? Вось яна і лезла, пралазіла ва ўсе шчыліны, шчалупкі тваёй дзіравай душы. А ты — о, ты ж герой, — які толькі і можа, што бясконца залатваць тут і там, але ж з адчуваннем прарванай плаціны — з такімі сур'ёзнымі дарослымі адчуваннямі ў абсалютна непрагляднай рэальнасці!.. Але потым з'яўляецца разуменне таго, што насамрэч трэба крыху толькі паднаціснуць, і ты выплывеш, каб схапіць свежага паветра — і гэтага хопіць, каб зразумець: усё можна выправіць!**

— Адам, што для цябе эміграцыя?

— Дружа, якая эміграцыя, пра што ты? Я не ведаю такога слова. Трэба лезці ў Вікіпедыю, — смяецца Адам. — Я марыў пра гэты горад з юнацтва. Якая розніца, дзе я нарадзіўся. Рамантызм застаўся яшчэ ў XIX стагоддзі. Ты ведаеш, як смешна выглядаеце вы з гэтымі вашымі вышыванкамі. Адсюль, прынамсі.

— Эх, Адаме, здаецца мне, ты не дагаворваеш да канца… — словы пра вышыванкі мяне, шчыра кажучы, зачапілі.

— Ок, ок… Няма праблемаў! — ён гэтак жа адкрыта глядзіць на мяне, гэтак жа бессаромна смяецца. Паслухайце, хто ў каго бярэ інтэрв'ю?! І пакуль я збіраюся выказаць (ну хоць неяк) сваё абурэнне, Адам мяне зноў здзіўляе:

— Ведаеш, і ўва мне гэта дасюль сядзіць: адчуванне таго, што ты вісіш на нейкай прыступцы, падножцы старога трамвая — ты не заходзіш у сам трамвай, каб саскочыць, калі што… Ты не дагаворваеш, каб у любы момант павярнуцца, уцячы. Гэта татальны недавер. Вось я з табой размаўляю, а ўнутры дзе-нідзе і засвярбіць: а лішняга нічога не сказаў? І гэта не той высакародны страх, пра які сказана у Евангеллі[1]. Пры тым, што гэта абсалютна смешна ўжо для мяне: чалавека, які жыве тут не першы год, але тым не менш… Гэты спрут раз-пораз пачынае варушыцца ўнутры, і тады мяне ахоплівае паніка. Я не магу супакоіцца, пішу свае эсэ, апавяданні. Па сутнасці, гэта сублімацыя страху — такім чынам я спрабую высвеціць свае адносіны з Радзімай. Цікава, а што ты думаеш пра мае творы? Вось бачу зборнік у цябе — чытаў што-небудзь?

Я шчыра адказаў, што спрут, якога ён пудзіцца зараз, мае больш эфемерны ўплыў і на яго самога, і тым больш на чытача — такое першае ўражанне. Адам усміхнуўся:

— То добра, дружа! Давай жа пагаворым пра літаратуру. Ты ж гэтага хацеў найбольш, ці не так?

От мне гэты ягоны снабізм. Ну так, канешне. Я пачынаю нервова лапатаць гатовы тэкст нейкі пра асноўную тэматыку сучаснай прозы Адама, пра мову, пра героя…

**Чым для мяне было ўсё тое, што мае быць на тым баку Месяца? Не, мяне туды больш нічога не цягне, акрамя смерці — смерці ўсяго, што можна назваць сучаснасцю. Прынамсі, я б не супраць быў, калі б мяне там пахавалі, бо мерцвяку ўжо ўсё роўна…**

— Няма пра каго пісаць, ты аб гэтым хочаш спытаць? — перабіў мяне Адам. — Чалавек абмяльчэў, няма патэнцыялу для нечага сур'ёзнага…

— Гледзячы яшчэ на тое, што ты называеш сур'ёзным — нейкія жарсці, шырыня нораваў…

— Не. Я маю на ўвазе жаданне ставіць сур'ёзныя пытанні.

[1] Гл. Мф. 12:36.

— Пытанні сур'ёзныя — пытанні праклятыя…

— Ды чаму адразу праклятыя? Што за клішэ!..

— Таму што нічым такія пытанні не канчаюцца. Прынамсі, нічым добрым…

— Патэнцыял сур'ёзнасці — гэта не майстэрства ставіць пытанні, то бок нейкі падлеткавы інтэлектуальны мэйнстрым, гэта комплекс шукальніка…

— Ісціны! Ну а чаго ты чырванееш, я гэтаксама дастаю з шырокіх штанін, калі трэба, той творчы комплекс. Але гэта не для літаратуры. Гэта — дао, паралельная прамая.

Мы пераблыталі, заблыталі адзін аднаго — хто каго пытае, хто адказвае, дзе, навошта… Адам робіць глыбокі ўдых, глыбокую зацяжку. Нешта зараз цікавае народзіць. Давай, Адаме!..

— Літаратура — класічная матрыца для паралельнай рэальнасці. Ведаеш, гэта краіна дзеля сталых людзей: празаікі, драматургі… Яны майстры рытарычных пытанняў. Гэта асноўнае поле іх спаборніцтваў. А малады задор шукальнікаў ісціны іх пужае. Ну… некаторыя, праўда, дзяціняцца, але, чым гэта скончыцца, я табе адразу магу сказаць. Праўдашукальніцтва душыць мастацтва. Не, дружа, калі ты ўжо залямантаваў тым чынам, то збочвай, здымай даспехі і дао табе на дапамогу!.. Калі мы ўжо сур'ёзна пра літаратуру, то справа ж не ў глыбіні пытанняў, тым больш не ў спробе на іх адказаць, а толькі ў іх навізне. Не згодны? А ты вось паспрабуй задаць мне такое пытанне, ад якога б я «затарчаў» — такое пытанне, якое б зрабіла цябе літаратарам? Простае пытанне на простыя тэмы, аб простых рэчах, але так, як ніхто яшчэ іх не ставіў — зусім новы, у сэнсе — нечаканы, — фокус. Такія пытанні робяць нас пісьменнікамі 90-х, ці 10-х, ці яшчэ якіх… Я магу задаць, напрыклад, пытанне Таркоўскага: «Я магу гаварыць?». А ты скажаш, што гэта сцвярджэнне. Бачыш, мы нават у гэтым не можам дамовіцца… Пра што мы можам гаварыць? Проста «трындзець» ні аб чым, як зараз — гэта, канечне, без праблемаў!.. Але паспрабуй ты загучаць на поўны голас і цябе раздавіць твой жаласны піск, твой пшык, нікому не патрэбны… А Таркоўскі мог здымаць пустату, але так прыгожа, што не адарві вачэй. І чаму? Бо талент — гэта абсалютна ірацыянальная рэч, якая бачыцца, да таго ж, на пэўнай адлегласці. Чым мы з табой займаемся, чым я займаюся, — невядома! І колькі трэба на гэта часу, каб адгадаць нашы з табой таямніцы? Галоўнае, што ўласна мы тут у пралёце, дружа…

Пасля размовы з Адамам я доўга гуляў па вячэрнім Парыжы. Я думаў пра нас, пра нашае пакаленне.

Эх, Адаме, Адаме!.. як, калі мы сталі неразлучонай парай, Арлекінам і П'еро, вечнымі суразмоўцамі і вечнымі сапернікамі, безадказна закаханымі ў адну асобу. She has me and she has you…[2]

**Радзіма — гэта дадзенасць, факт. Што б мы ні пісалі, усё так ці інакш упіраецца ў яе. Колькі б мы ні беглі ад яе, ні зласаваліся, ні помсцілі нават — сам факт такой неабыякавасці кажа значна больш, чым усе словы: і сказаныя, і не сказаныя. І калі ты хочаш крыху зразумець, што з табой адбываецца, паспрабуй зразумець, што адбываецца з Радзімай. Я еду ў Парыж, я аказваюся ў мілай майму сэрцу пустэчы. Пустэча — казка, мроя. Пустата — гэта тое, дзе «ты не будешь никогда»…**

Зрэшты, для мяне пустэча мае шмат адценняў: ад самага змрочнага да ледзь прыкметнага і па-будыйску вызваляльнага. Недзе свярбіць у гэтай падманлівай свабодзе знаёмы адчай… Мне карцела па-маладому завіраваць ва ўлюбёнай гульні ў сэнсы, жангліраваць нейкімі адметнымі для людзей паняццямі. Гэта была класічная хлапечая бравада — з вар'яцінкай у роце. Нас вучылі высмейваць усё, што людзі прывыклі перачытваць гадамі, знаходзячы ў перачытаным кожны раз нешта новае. Адам і цяпер упэўнены ў выключнасці паэтычнага бачання свету. Што да мяне… Тое ёсць толькі радасць ад здольнасці бачыць свет чыстым, поўным нераскрытага сэнсу, нібыта толькі што купленая матуляй дзіцячая расфарбоўка. З цягам часу ўсё больш смешным выглядае юнацкі нарцысізм, закладнікамі якога мы застаёмся ўсё жыццё. Выбар — рэч дынамічная і, насамрэч, віртуозная. Толькі гэта цікава. Толькі ў гэтым свабода. І толькі гэта можна назваць жыццём.

[2] «Ёй належым і я, і ты…», словы з песні Дж. Морысана «Love street» («Вуліца кахання»).



Вольга Манушарава

**нарадзілася 14 сакавіка 1995 года ў Гродне. Атрымала дзве адукацыі: вышэйшую эканамічную (магістр эканамічных навук) і сярэднюю спецыяльную (арт-дызайнер, мастак). Працуе дызайнерам. Іграе на гавайскай гітарцы, піша прозу, малюе, акторствуе, трошкі пяе. Перыядычна ўдзельнічае ў валанцёрскіх праектах, адным з якіх стаў «Чараўнікі». У межах гэтага праекта ўтварала напоўненыя чарамі гісторыі — спецыяльна для жыхароў дзіцячага хоспіса, ды і для дарослых — таксама.**

# Клубок нітак

— Як па-вашаму, ці здараюцца ў жыцці супадзенні? Па мне, дык наўрад ці. Магчыма, у іншым сусвеце, але не ў гэтым. У гэтым нічога не бывае выпадковым. Чараўніцтва бывае розным. Таямніца ў тым, што людзі не бачаць яго. Адны таму, што не хочуць, іншыя — таму што дужа занятыя для падобных глупстваў. Але не там, куды я вяртаюся думкамі. Там чараўніцтва было паўсюдна. Сплеценае, літаральна сплеценае, у агромністы рознакаляровы клубок. Яго ніткі абвіваліся сярод гарадскіх дарог, мастоў і арак. Увесь горад быў аплецены імі. Людзі таксама. Людзі ў гэтым горадзе нараджаліся з клубкамі замест сэрцаў. У той час, калі маленькі чалавечак з'яўляўся на свет, у яго грудзях пачынаў разгортвацца клубок. Моцная нітка звязвала яго са сваякамі, з роднай хатай, з будучымі знаёмымі. Клубок разгортваўся сам па сабе. Нітка апутвала вуліцы, двары, дамы, людзей… Гэта доўжылася, пакуль клубок не знікаў. А калі маленькі чалавечак рабіў свой першы крок, пачынаўся зваротны ход гэтай чароўнай ніткі, яе вяртанне. Гэтак першы крок рабіўся першым вітком клубка ў грудзях. Гэта быў свет без нявызначанасці. Усе жыхары ведалі з самага нараджэння, што і як трэба рабіць, куды ісці і чым займацца. Кожны яскрава бачыў сваю нітку, але не астатнія. Гэта задавальняла ўсіх, бо ніхто не памятаў тых далёкіх часоў, калі ў людзей не было клубкоў замест сэрцаў.

Чараўніцтва бывае розным. Яно ў стане прынесці нават шкоду, калі трапляе ў кепскія рукі. Падобнае адбылося і з гэтым горадам. Калісьці тут усё было па-іншаму.

— Па-іншаму? — маленькая дзяўчынка пасунулася бліжэй да апавядальніка.

Яе вочы былі колеру яе асабістай ніткі.

— Па-іншаму, — пацвердзіў апавядальнік.

— А як было? — дзяўчынка пасунулася яшчэ бліжэй.

— А было вось як, — апавядальнік стомлена выдыхнуў. — Было вось як…

«Калісьці вельмі даўно жыў адзін чараўнік. Сэрца яго было ахоплена зайздрасцю да ўсяго жывога. Гэта рабіла яго вар'ятам. Ён часта глядзеў уніз на горад і не разумеў, чаму ўсе гэтыя людзі такія шчаслівыя. Такія радасныя і бесклапотныя, нягледзячы на цяжкасці, якія даймалі кожнага. Яны ўвесь час усміхаюцца! Што ў іх ёсць такога, чаго няма ў мяне?

Ён не мог супакоіцца праз сваю зайздрасць. Не мог ні спаць, ні есці. Але спускацца ўніз не хацеў дзеля гонару, які панаваў у яго душы. За гады ў добраахвотным зняволенні ён ператварыўся ў старога небараку і парос зялёнай зайздрасцю. А людзі, якія жылі ўнізе, па-ранейшаму радаваліся жыццю.

Нарэшце чараўнік вырашыў спусціцца да людзей і спытаць, у чым іх сакрэт.

Яркія сонечныя промні сляпілі вочы, святло абпальвала белую скуру. Небарака захінуўся ў цёмны плашч і пакрочыў у бок горада. Раз-пораз надакучлівыя птушкі спабавалі сесці на ягоныя плечы, нешта спяваючы. Ён адмахваўся ад іх рукамі, колькі мог, але гэта было беспаспяхова. Тады ён зламаў галінку вярбы, што расла на яго шляху і прагнаў гуллівых птушак. Галінку паклаў сабе ў кішэню, на выпадак, калі падобнае самавольства паўторыцца.»

— Гэта тая самая галінка? Чароўная палачка? — нецярпліва спытала дзяўчынка.

— Так, — апавядальнік прыклаў палец да вуснаў і шыкнуў. Дзяўчынка схавала тварык далонькамі, паказваючы, што ёй сорамна.

— Можна, я спытаю яшчэ нешта, — міргнула вялікімі вачыма дзяўчынка, — І больш я перапыняць Вас не буду.

Чалавек у капелюшы пацерабіў светлыя валасы дзяўчынкі, адмоўна паківаўшы галавой.

— Спачатку слухай, а потым пытайся. Інакш наблізіш гісторыю да фіналу.

— Да добрага? — зноў не стрымалася дзяўчынка.

— А ці можа быць іншы? — захіхікаў ціхі голас з-пад капелюша.

Апавядальнік яшчэ раз уздыхнуў і працягнуў гісторыю.

«Чараўніку не давялося ісці доўга. Горад раскінуўся перад яго вачыма. Здавалася, што можна дакрануцца да яго рукой. Аднак горад быў унізе, а чараўнік стаяў на высокай гары. Ні лесвіц, ні сцежак не было відаць. Калісьці ён сам іх зруйнаваў. Але гэта было так даўно, што чараўнік пра гэта і не прыгадаў. Не доўга думаючы, ён дастаў з кішэні галінку вярбы. Уважліва агледзеў яе. Яму падалося, што галінка вельмі зручная: у руку легла добра. Ён заплюшчыў вочы і прыгадаў, як гэта — займацца чараўніцтвам. За бясконцай невытлумачальнай зайздрасцю ён зусім забыўся на цуды, якія былі ў яго моцы калісь. На імгненне ён прыгадаў сваё юнацтва. І, магчыма, пачуццё бесклапотнай радасці. Але толькі на імгненне.

Галінка засвяцілася чыстым святлом. Але праз секунду святло зрабілася цьмяным. Яно сумна адлюстравала душу ўладальніка. А ён не звярнуў асаблівай увагі на тое, што адбылося. Чараўнік узмахнуў палачкай і пусціў іскру кудысь далёка. Гара, зарахтаўшы, выклала ўздоўж абрыву лесвіцу. Серпантынам приступак яна вяла ўніз, да самага горада.

Чараўнік хутка спусціўся ўніз. Зусім хутка ён стаў чуць галасы людзей, бадзёрыя і вясёлыя. Чым бліжэй ён падыходзіў да горада, тым мацней сціскалася яго сэрца. І вось, нарэшце… ён прыйшоў. Першы раз за шматлікія і забытыя гады ён трапіў у гушчу сапраўднага жыцця. Але ў галаве яго свярбела адно пытанне: што ёсць у гэтых людзей, чаго няма ў мяне? Невытлумачальная зайздрасць, якая не жадала простых адказаў, разгаралася ў ім. Чараўнік доўга хадзіў па дварах шчаслівага гарадка з непрымячальнай назвай У, азіраючыся на ўсмешкі людзей. Ён чуў дзіцячы смех, чуў песні і бесклапотныя размовы. Міма яго праносіліся вазкі з араматнымі булачкамі і прыправамі. Людзі былі паўсюль. Яны кудысь спяшаліся, апанаваныя сваімі праблемамі і клопатамі. Але твары…

«Чаму яны ўсміхаюцца?»

Чараўнік ад нязвыклых гукаў, святла і эмоцый сціснуўся, нібыта выкінуты кот. Ён закрыў далонямі свае вушы, каб нічога не чуць. Ён заплюшчыў свае вочы, каб нічога не бачыць.

Толькі ён забыўся, што не адзін.

Нехта крануў чараўніка за яго белыя доўгія валасы.

— Дзядуля, што з Вамі, дзядуля? — звонкі голас даляцеў да чараўніка.

Ён расплюшчыў вочы і хутка адхінуўся ўбок. Перад ім стаяла маленькая дзяўчынка. Яна ўсё яшчэ кранала сівыя валасы старога. Той хуткім рухам выхапіў пасму валасоў з ейных рук.

— Дзядуля, Вам кепска? Чаму Вы седзіце на дарозе? — дзяўчынка не збіралася гасіць сваю цікавасць.

Чараўнік зірнуў на яе. Яна, як і ўсе людзі ў гэтым горадзе, ззяла ад шчасця. Ейныя карыя вочы адлюстроўвалі сонечныя промні. Чорныя валасы, акуратна сплеценыя ў тоўстую касу, спускаліся амаль да пят. А шэрая, крыху неахайная сукенка закрывала ногі.

— Што за цудоўная… — сказаў раптам чараўнік.

— Вы мяне цудоўнай назвалі, дзядуля? Чаму? — дзяўчынка крыху танчыла пад сваю, толькі ёй чутную музыку.

— Скажы мне, дзяўчынка, чаму ўсе ў гэтым горадзе такія шчаслівыя?

— Шчаслівыя, — пацвердзіла яна і працягнула. — А ці можа быць па-іншаму?

Чараўнік быў здзіўлены адказам. Ён дакладна ведаў, што можа быць па—іншаму. Ён сам быў па іншы бок ад шчасця, як яму падавалася. І яму вельмі хацелася даведацца сакрэт гэтых людзей. Што ёсць у іх, чаго няма ў яго?

— Што робіць цябе шчаслівай? Чаму ты ўсміхаешся? — яшчэ раз спытаў чараўнік.

Дзяўчынка яшчэ раз усміхнулася. Яна ўскінула галаву, развяла рукі шырока-шырока і пакруцілася, ахінаючы ўсю гарадскую плошчу.

— У мяне ёсць усё гэта!

— Што? Што менавіта?! — цярпенне чараўніка заканчвалася, а неразуменне толькі раздражняла. — Чаму ты не кажаш? У цябе ёсць нейкая рэч? Ці шмат рэчаў? Што робіць цябе шчаслівай? Я ніяк не магу зразумець! — чараўнік ужо крычаў на дзяўчынку.

Малышка павольна наблізілася да старога і акуратна дакранулася да яго пляча.

— У мяне ёсць яркае сонца, цёплы вецер, спевы птушак і чыстыя рэкі. У мяне ёсць людзі, ёсць дом, ёсць школа, у якой шмат маіх сяброў. Усё гэта! — ціха нашэптвала дзяўчынка чараўніку.

— І ўсё? — стары быў няўмольны. — І гэта хіба ўсё? У цябе больш нічога няма?

— Нічога, — дзяўчынка паказала свае далоні чараўніку, каб той сам зразумеў, што яна кажа праўду.

— Ды не можа быць гэтага! — чараўнік рэзка ўзняўся і закрычаў так, што ўсе, хто ішоў побач, павярнуліся да яго.

Ён адпіхнуў дзяўчынку ў бок і падбег да двух маладых людзей.

— Чаму вы такія шчаслівыя? Што ёсць у вас, чаго няма ў мяне?

Людзі з жахам пераглянуліся і ўчапіліся адзін у аднога, так нічога не сказаўшы.

Тады чараўнік падбег да сталага пекара:

— Што робіць тваё жыццё шчаслівым? Чаму ты ўсміхаешся на схіле гадоў?

Пекар зірнуў на араматныя булачкі, а потым на жанчыну, што высунулася з акна.

Чараўнік кідаўся з боку ў бок, чапляючыся да людзей з адным і тым жа пытаннем. І з кожным разам яго чакала расчараванне, а не адказ.

Нарэшце полымя ў яго цёмнай душы ператварылася ў сапраўдны пажар. Неразуменне і абпальваючая зайздрасць з'ядалі яго. Ён не мог зразумець простыя рэчы, шукаў, дзе схавана ашуканства

і не знаходзіў яго. Ад гэтага усмешкі на тварах людзей раздражнялі. Ён прыгадаў, чаму сышоў ад людзей. Ён і раней не разумеў, што на самай справе робіць іх такімі жыццярадаснымі без наяўных прычын.

— Гэта нейкае чараўніцтва? — спытаў чараўнік у разявак, што акалялі яго.

Яны дружна заматлялі галовамі.

Чараўнік павярнуўся ў той бок, дзе раней стаяла дзяўчынка. Яна заклапочана глядзела на чараўніка. На ейным тварыку не было ўсмешкі. Яна моўчкі глядзела на старога небараку.

— Чаму ты не ўсміхаешся? — вар’яцтва апанавала яго.

Стагоддзі адзіноты і зайздрасці, якая выкармілася за гэтыя гады,ператварылі яго ў нешчаслівага чалавека.

— Напэўна, ты не ўсміхаешся таму, што побач няма тваіх сяброў? Ці так? — першыя ноты разумення дацягнуліся да старога.

Дзяўчынка памаўчала і захлюпала носам.

Чараўнік раптам дастаў са сваёй кішэні чароўную палачку. Яна ўжо ззяла дзіўнымі зялёнымі іскрамі. Ён паднёс кончык палачкі да сэрца малой. Маленькая зялёная іскрынка патрапіла ўнутр. Дзяўчынка заплюшчыла вочы ад жаху.

— Лу! — пранізлівы жаночы голас бег праз натоўп.

Жанчына ўзяла на рукі дзяўчынку.

— Што ты зрабіў з ёй? — жах лёгка прачытваўся ў вачах маці.

— Яна цяпер ніколі не будзе далёка ад сяброў, — спакойна прамовіў чараўнік.

У тое ж імгненне з грудзей дзяўчынкі прабілася моцнае святло. Ейнае сэрца ператварылася ў маленькі клубок. Нітка ўзляцела ўверх, а потым хутка патрапіла ў сэрца маці, ператварыўшы і ейнае сэрца ў клубок з ніткамі. Сэрца за сэрцам ператвараліся ў падобныя жывыя клубкі, якія абвівалі сваімі ніткамі весь горад, усіх людзей. Хутка ўсе жыхары гэтага маленькага мястэчка былі апутаны з галавы да ног рознакаляровымі ніткамі.

Вар’яцтва чараўніка ахапіла гэты маленькі свет. А сам ён знік з апошнім створаным клубком. Ніткі таксама хутка сталі нябачнымі. Толькі ўладальнік мог бачыць сваю асабістую нітку, астатнія былі схаваныя як непатрэбныя.

Чараўнік знік, а яго жаданне ўбачыць, што менавіта робіць людзей у гэтым горадзе такімі шчаслівымі, спраўдзілася. Повязь людзей паміж сабой ператварылася ў ніткі, якія аплялі іхнія сэрцы, а разам з гэтым, прывязалі іх да месца, дзе яны нарадзіліся, да пэўнай будучыні, дзе няма шанцу для выпадковасці, дзе ўсё прадвызначана».

— Гэта гісторыя пра наш горад? — працягнула маленькая слухачка.

— Так, — сумна адказаў апавядальнік.

— І ў нашых грудзях раней біліся сэрцы? — ейнае пытанне было такім шчырым, што апавядальніку стала невыносна цяжка.

— Так, — стомлена адказаў ён.

Дзяўчынка крыху памаўчала, пазіраючы на іншых дзетак, якія слухалі апавяданне вельмі ўважліва.

— А чароўная палачка? Яна таксама знікла?

— Не, чараўнік выпусціў яе з рук, калі сыходзіў. Яна так і засталася ляжаць забытай.

— І ніхто яе не падняў?

— Не, — усміхнуўся апавядальнік. — З яе вырасла дрэва. Літаральна пасярэдзіне плошчы.

— Вярба! — ускрычалі разам дзеткі.

— Так, тая самая вярба, што цяпер ганарліва стаіць пасярэдзіне вашага горада.

Дачакаўшыся, пакуль усе дзеткі пойдуць спаць, малая зноў падбегла да апавядальніка, але гэтым разам не з пытаннямі.

— Дзіўная казка, — прашаптала дзяўчынка, задзьмухваючы начную свечку.

— Чаму дзіўная? — запытаў апавядальнік.

— Таму што ў ёй няма шчаслівага фіналу, — сумна прамовіла маленькая слухачка.

— Табе абавязкова патрэбна, каб фінал быў шчаслівым? — з'едліва спытаў голас з-пад капелюша.

— А як жа!

Апавядальнік працягнуў руку да зялёнай ніткі маленькай дзяўчынкі, далікатна ўзяў яе двума пальцамі.

— Вы бачыце яе? — здзівілася дзяўчынка.

— Бачу.

— Вы чараўнік? — ейныя вочы іскрыліся ад цікавасці.

— Чараўнік, — усміхнуўся той.

— І вы прыйшлі, каб стварыць чары? — узрадавалася дзяўчынка, і працягнула, не чакаючы адказу. — Добрыя? Чыстыя чары?

— Якая ты разумненькая! — апавядальнік узлахмаціў чарговы раз белыя валасы дзяўчынкі. — Але гэта будзе наша з табой таямніца. Пойдзем, я пакажу табе чары наадварот.

Дзяўчынка была гатовая бегчы куды заўгодна, толькі б убачыць абяцаны цуд.

Апавядальнік узяў яе за руку і павёў да той самай вярбы. Дрэва велічна раскінула свае галіны, схаваўшыся за гушчаром лістоты.

— Гэта незвычайнае дрэва, праўда? — яна дакранулася да камля з дзіцячай пяшчотай.

— Гэта дрэва перашкаджае вашаму свету нараджаць выпадковасці. Вы кіруецеся на сваю нітку і ўсё ведаеце пра сваю будучыню. Нават знаходзячыся ў такім юным узросце. Ад гэтага вашыя ўсмешкі не такія яркія, як у тыя часы.

— Хіба можна не ведаць, што будзе заўтра? — гэтая навіна ўразіла дзяўчынку да глыбіні душы.

— Я больш скажу, нельга ведаць, што будзе заўтра. І ў кожным сусвеце так яно і адбываецца. Ніхто не ведае сваёй будучыні. А той, хто імкнецца даведацца пра будучыню напярэдадні, атрымлівае вялікую шкоду.

Гэтым разам дзяўчынка не перапыняла апавядальніка, а толькі слухала.

— Ці хацелася б табе невядомасці? Няпэўнасці? Каб ты магла рабіць выбар? Не ісці за ніткай? – апавядальнік відавочна натхняў дзяўчынку на смелыя справы.

— Хацелася б, — амаль адразу адказала яна. — Але гэта, мусіць, страшна?

—Зусім не. Гэта цікава, — паабяцаў голас з-пад капелюша.

Апавядальнік далікатна адламаў галінку вярбы, абарваў з яе лісце і працягнуў адданай слухачцы.

— Чароўная палачка! — Лу круціла яе перад вачыма, спрабуючы адшукаць штосьці незвычайнае.

— Усё чараўніцтва ў чалавеку. Неістотна, з чаго палачка. Істотна асоба ўладальніка, а таксама жаданні ўладальніка.

Дзяўчынка заплюшчыла вочы і ўявіла сабе нешта добрае, вядомае толькі ёй. Палачка заззяла яскравым, чыстым святлом. Маленькая іскрынка вылецела з яе і апусцілася на руку апавядальніку. Той далікатна завярнуў іскру ў каляровую паперку і перадаў Лу:

— Гэта чыстае чараўніцтва. Калі з'ясі гэтую цукерку, тваё сэрца зноў заб'ецца ў грудзях, а клубок знікне. Нітка абарвецца — повязь парушыцца. Усе ніткі будуць паступова разрывацца, ператвараючы клубкі зноў у сэрцы. У вашым свеце зноў з'явяцца сюрпрызы і прыемныя цуды.

Дзяўчынка глядзела на апавядальніка засцярожана, але цукерку ўзяла. Яна беражліва паклала пачастунак у кішэню і крыху прыхлопнула.

— Пасля таго, як з’ясі яе, вярба знікне. Не палохайся, так павінна адбыцца.

— Чаму?

— Справа ў тым, што ваш маленькі горад — гэта вялікі клубок вашых нітак. І гэты клубок падтрымліваецца чараўніцтвам дрэва. Пасля таго, як ніткі абарвуцца, дрэву не трэба будзе нічога аберагаць. Яно нарэшце зноў ператворыцца ў звычайную галінку.

— У такую, як у Вас у руцэ?

— У тую самую, якую калісьці выпусціў з рук небарака чараўнік, — пакруціў галавой апавядальнік. — Як толькі гэта адбудзецца, вазьмі галінку і схавай яе ад людскіх вачэй. Любое чараўніцтва можа шмат спраў нарабіць.

— Атрымліваецца, будзе адразу дзве чароўныя палачкі? Адна ў мяне, другая — у Вас? — задумалася дзяўчынка.

— Мая знікне. Такая толькі адна будзе ў гэтым свеце, — падагульніў апавядальнік.

— Такая? Хіба палачак шмат? — узрадавалася маленькая дзяўчынка.

— Шмат. І ўсе яны розныя. Вярба, напрыклад, стварае прывязанасці. Гэта могуць быць сваяцкія стасункі ці звычайныя пачуцці. Яна ў літаральным сэнсе звязвае людзей. Той чараўнік прыклаў нямала намаганняў, калі звязаў увесь горад. Іншы раз такое чараўніцтва — неабходнасць. Вось чаму з’явілася гэтая палачка. Але для кожнага чараўніцтва неабходны свае абставіны і свой час. І розум уладальніка палачкі мусіць быць чыстым. Інačай чараўніцтва ператворыцца ў шкоду.

Дзяўчынка крыху памаўчала, а потым запытала:

— Але навошта ўвогуле такое чараўніцтва?

— Каб зрэдку нагадваць чалавеку, што ў яго ёсць іншыя людзі, асабліва калі ён на гэта чамусьці забываецца. Аднак толькі нагадваць, а не звязваць моцныя вузлы. Чараўніцтва — тонкая навука. У ёй трэба ведаць межы.

Зранку апавядальнік пакінуў гэты мілы гарадок. У яго было вельмі шмат гісторый, і заставацца надоўга ён не мог.

Цукерка хутка знікла з кішэнькі дзяўчынкі. З першымі промнямі яна смела паклала яе ў рот і без кроплі сумневу раскусіла напалам. У тое ж імгненне мільёны рознакаляровых нітак зрабіліся бачнымі. Яны сапраўды ахутвалі горад з ног да галавы. Хлоп! І зялёная ніточка абарвалася. А за ёй сталі чувацца іншыя хлапкі. Ніткі хутка сабраліся ў клубок.

Сэрца маленькай дзяўчынкі білася ў грудзях. Так нязвыкла і ўзнёсла. Яно чакала чагосьці невядомага і хвалюючага. Яно напоўнілася жыццём.

Тысячы сэрцаў забіліся гэтым ранкам у дзіўным гарадку з назвай У.

І людзям было зусім не страшна пачынаць новае жыццё. На тварах іх з’явіліся сапраўдныя ўсмешкі: яны маглі толькі здагадвацца, што будзе заўтра.

## Дзмітрый Пятровіч



**нарадзіўся 29 красавіка 1971 года ў Заслаўі. Паэт, празаік, кампазітар. Вядучы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аўтар паэтычных кніг «Белая квецень кахання» (2010), «Адзіноты пажоўклыя дні» (2014), кніг прозы «Белая Жанчына» (2012), якая была адзначана Рэспубліканскай літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон» (2-е месца на конкурсе «Лепшы твор 2012 года»), і «Анёлы» (2015). Аўтар больш чым 100 песень на словы беларускіх паэтаў. Вершы Дзмітрыя Пятровіча — пранікнёны гімн вясне і каханню.**

# Светласпеў кахання

***

Праз белую замець вясновай тугі,
Нібы праз міраж летуценняў,
Зноў бачу твой вобраз, зямны, дарагі,
І танец начны нашых ценяў.

Той танец гарачы любві трапяткой
З'яднаў у адну нашы страсці,
Як птушкі — два сэрцы, згубіўшы спакой,
Дрыжэлі ад гулкага шчасця.

Луналі з табой мы над грэшнай зямлёй,
Нібы дзве душы палахлівыя,
Той ноччу дзівоснай — тваёй і маёй —
Якія былі мы шчаслівыя!..

Яшчэ мо успомнім з табою не раз
Той танец імклівы двух ценяў
І наш непаўторна-даверлівы час
Чароўнай любві летуценнай…

***

Я твой партрэт убачыў на сцяне
Намаляваны промнікам вясновым.
Так хочацца пачаць усё нанова,
Каб ты прыйшла, нарэшце, да мяне.

Я любаваўся гожасцю тваёй —
А ты глядзела, быццам праз стагоддзі,
І прамяніста-сонечны сувой
Пераліваўся ў гэтым люстраводдзі.

Мая Мадонна, ты цяпер адна,
Далёкая і блізкая такая.
Калісьці я маліўся давідна
Адной табе… І ў гэтым мройным маі

Я твой партрэт убачыў на сцяне
І зноў успомніў пра свае жаданні.
Калісьці, можа, прыйдзеш да мяне
І мы пачуем светласпеў кахання…

***

***Ды былое з нябыту не вернеш,***
***Калі шчасце праходзіць наўзбоч,***
***Як мая непатрэбная вернасць,***
***Як твая адзінокая ноч.***

***Алесь Пісьмянкоў***

Зноў адзін сустракаю я ранне,
Падлічыўшы ўсе зоры на небе.
Ды бяззорнае наша каханне.
І навошта душы яно трэба?

Каб балела яна ад згрызотаў
У саромна-пакутным чаканні?
Каралюе ў душы адзінота…
Дык навошта такое каханне?

Не патрэбна табе мая вернасць.
Што рабіць нам без веры й надзеі?
Як былое з нябыту не вернеш —
Так душу холад дум не сагрэе.

Зноў лічу ў небе зоры да рання
І шукаю між імі цябе.
Ды бяззорнае наша каханне
У маёй патанае журбе…

***

Пішу партрэт твой,
        любая мая —
Усіх шчаслівых мар ты каралева.
Не перашкодзяць буры і залевы
Любові нашай.
        Голас салаўя
Не параўнаць з тваім:
        нібы ручай,
Ліецца ён срабрыста-званкаспеўна…
З табою пераможам боль, адчай,
І безліч бур жыццёвых, і сумневаў…
З табою будзем разам назаўжды,
Пераплятуцца нашы дзве юдолі.
Няхай ляцяць імклівыя гады —
Любові, шчасця смагу мы спатолім…

***

Таплю адчай
        у моры спадзяванняў.
Зара пунсовым ветразем плыве.
Мы крочылі з табой
        праз ноч у ранне…
Я патанаю ў небнай сіняве
Тваіх вачэй
        спакусліва-дзівосных —
І боль сціхае…
        Птушкай трапяткой
Спявае сэрца.
        Ў травах срэбнаросных
Мы сцішымся…
        Адчуем неспакой
Дзвюх нашых душ
        няўрымсліва-дзіцячых
У промнях першых
        юнае любві —
Чароўнай,
        млосна-велічна-гарачай,
Калі агонь
        палае у крыві…

***

А cappella лёгкае дажджу…
Ў серабрыстым бляску тратуары.
Я на неба зорнае гляджу,
Што ў туманнай дымцы. Спеў гітары

Парушае мройлівую ціш:
Льюцца гукі весняга раманса.
Дзесьці ты салодка зараз спіш
І у сне лунаеш над Правансам.

Я на неба зорнае гляджу
І лічу сузор'і да світання.
А cappella лёгкае дажджу —
Лейтматыў шчаслівага кахання…

***

Асенні ранак.
Елісейскія палі.
А над Парыжам
ліст самотны кружыць.
У небе пахмурным далёка журaўлі
Ляцяць задумліва…
«Куды, мой мілы дружа, —
Сказаць я важаку хачу, — куды
Ляціце вы, пакорныя юдолі?
Якія вас чакаюць гарады
І вёскі?
Ці, магчыма, лепшай долі
Шукаеце вы сёння для сябе
У небе сіратліва-апусцелым?..»
…Праводзіў іх вачыма я.
Ў журбе,
Нібыта мроі,
журaўлі ляцелі…

***

Зноў бэз адцвіў,
пакінуўшы ўспаміны
Аб той, што летуценілася ў снах,
Калі ў душы вясновы быў размах,
Калі, ахмелены,
спяваў асанны-гімны,
Нібыта Богу,
ёй — маёй вясне.
Тады нам так хацелася кахаць!..
Ды перастаў агонь любві палаць…
І хоць былое прыцярушыў снег —
Успомніў зноў!
І сам, нібыта бэз,
Душой адцвіў.
І хочацца спакою…
Ды, можа, ўсё ж вясной трапяткою
Зноў загучыць
забыты паланэз…

## Міколу Гілю — 80 гадоў.

### «Маладосць» віншуе!



Шарж Алесі Галота.

***

Снежань не за парогам,
А цяплынь — вераснёвая.
У Бога ўсяго многа —
І такое выснёўвае.

Ласкавасць лістапада —
Цаца дармовая:
Дрэвам сумна да ўпаду —
Калі ж спячка зімовая?

Сум і мой не змяншаецца,
Хоць прагноз і суцешвае:
Зіма — не спяшаецца.
Мой час — хто прыспешвае?..

19.11.2015 г.



Таццяна Кіявіцкая

**нарадзілася 23 лістапада 1981 года ў Мінску. Матэматык у целе філолага (і з дыпломам філолага). Хварэе на хранічны недахоп цукерак у арганізме. Марыць злётаць на казачны востраў, наладзіць вялікую сустрэчу сяброў і напісаць тоўстую кніжку. Знайшла работу, якая адпавядае яе натуры на ўсе 100 адсоткаў, і гэтым ганарыцца.**

## Прыйду абавязкова

— Школе спаўняецца трыццаць… Трыццацігадовы юбілей святкуе сёння наша школа… Вялікі юбілей адзначае сёння наш калектыў… Ну што ты маўчыш? Як лепш пачаць?

Дырэктар рыхтаваўся да мерапрыемства вельмі сур'ёзна. На пасадзе ён усяго два месяцы, а ўжо паспеў уесца ў косці шмат каму з настаўнікаў. Адна надзея на мірнае ўрэгуляванне канфлікту — аб'яднаць усіх падчас маштабнай урачыстасці.

Толькі ж трэба было як мага больш ведаць, як у школе ўсё было да яго, паказаць, што прыйшоў працаваць як мае быць, адстойваць тое лепшае, што было, а не толькі навязваць навацыі, што спускалі зверху.

Наваспечанаму дырэктару ледзь споўнілася сорак, і прыходзіўся ён мне стрыечным братам.

— Ну дык што?

— А яно табе трэба? — мне ўжо надакучыла роля дармовага кансультанта па гісторыі навучальнай установы. Алесь прасіў дапамогі, бо я тут вучыўся, я гэтым жыў.

— Дык хоць назаві мне якіх выпускнікоў, каторыя сталіся знакамітымі ці хоць могуць што расказаць. Каб запрасіць — як ганаровых гасцей.

— Ды я ўжо ні з кім зносін не падтрымліваю… Амаль. — Тут я асекся, бо мой лепшы сябра якраз і быў маім аднакласнікам, і вось ім школа б магла ганарыцца і пахваліцца перад вялікім начальствам, але рабіць з Міхася пудзіла — гэтага мне не хацелася.

— Падыміце архівы. Былі ж нейкія алімпіяднікі, медалісты, а інтэрнэт вам у дапамогу — кім яны сталі і дзе зараз. Сацыяльныя сеткі — знаходка для шпіёнаў!

— Ну ад цябе інфармацыі — як з казла малака!

…Міхась, Міхась… Доктар у дзіцячым інтэрнаце. Бачыў столькі, што ў мяне б даўно знесла дах. Жыў у пакоі на дзевяць метраў, хоць мог мець як мінімум трохпакаёўку ў цэнтры, але ўсе свае заробкі аддаваў на «гэты хлопчык не пражыве без аперацыі», «гэтая дзяўчынка чакае свае пратэзы занадта доўга».

Аднаго ў ім я так і не мог зразумець: як ён мог сысціся са мной — гультаём і марнатраўцам, які працаваў толькі дзеля заробку і шукаў там, дзе давалі больш?

Са школы я выходзіў позна. На прыступках жанчына прыбірала малога, бубніла над ім і злосна круціла яму вакол шыі шалік. Нешта было ў ёй такое, што прымусіла мяне замарудзіцца, толькі на момант, і азірнуцца — ужо каля варот. Нейкі напамін. Схаваная прыгажосць. Яна таксама кінула вокам у мой бок. І мне здалося — нават усміхнулася.

* * *

— Цітова Алена. Што пра яе скажаш?

— Медалістка. Гнілая.

— Гэта як?

— Ну… не сапраўдная. Па дакументах толькі. Адзнакі кленчыла: маўляў, калі не паставіце, не будзе ў мяне медаля. І так ва ўсіх настаўнікаў.

— Затое цяпер дырэктар птушкафабрыкі.

— Ага, ёсць чым ганарыцца!

— Тады Лісавец. Глядзі: дэпутат мясцовага савета…

— Твой дэпутат жыве на дзве сям'і, а ты яго дзецям у прыклад збіраешся ставіць.

— Вось! — Алесь заўсміхаўся. — А казаў, братка, нікога не ведаеш.

— Давай далей. Без таго дзве гадзіны сядзім.

— Марыся Кахно. Цяпер ужо не Кахно, канечне. Ведаеш?

— Сядзела на першай парце. Дачка фізрука. Няўжо зоркай стала? Ці дэпутатам?

— Не. Проста дзяцей сямёра. Пяць ужо ў нашай школе вучацца.

— Чакай… Марыся? — і тут мне цюкнула: тады, на ганку, калі я выходзіў, яна і была. Чаму ж глядзела так? Ці пазнала?

— Алё, праграміст! — Алесь крануў мяне за плячук. — Запрашаць?

— Запрашай, — бадзёра адказаў я. — Паглядзім на маці-гераіню.

Розуму ніяк не дабяру. Марыся Кахно… Была прыгажуня — ці не першая ў раёне. Ад школы ездзіла на розныя конкурсы, у спаборніцтвах валейбольных вызначалася. Ганарыстая была. Сям'я заможная. Хоць бацька і ў школе працаваў, а дзед быў нейкім вялікім начальнікам. Адзіная дачка. На выпускным вечары хвалілася, што абавязкова аспірантуру скончыць і паедзе за мяжу працаваць. І казалі, што паехала. А пасля я ўжо і не чуў пра яе нічога. Ну вось, паглядзім яшчэ раз на прыгажуню. Я ж абавязкова прыйду на юбілей школы. Хоць бы дзеля гэтага.

* * *

— А каб наладзіць цёплыя адносіны, растапіць лёд, так бы мовіць, сарганізуй пасля сціплы карпаратыўчык для настаўнікаў у рэстарацыі…

— З глузду з'ехаў? Дзе грошы ў школы? Мяне з'ядуць за марнатраўства.

— Дурань, ты, Алесь. У цябе ў выпускніках — вазьмі спісы — ходзяць два загадчыкі сталовак і як мінімум адзін уладальнік сталічнай кавярні. Карыстайся інфармацыяй.

— І што, з імі можна дамовіцца?

— Ну ты, можа, і не дамовішся, але твая Лера — майстар дамаўляцца. Яна жыве з гэтага!

Лера — жонка цяперашняга дырэктара. Другая жонка. З першай не атрымалася. А гэтая… Па сутнасці, яна і зрабіла яго дырэктарам. Яна і палепшыла — удвая — жыллёвыя ўмовы свайго Алеся. Яна і падаравала яму сына. Свайго, ад першага шлюбу.

— Гэта ты правільна кажаш. Трэба Леру падключыць. Будзе больш карысці.

— Ну бывай, адзьё! — Я і без таго занадта шмат вольнага часу аддаваў на ўсю гэтую мітусню са школьным юбілеем. А я ж у свой час прысягаў, што на парог не ступлю — так апастылела мне тут за ўсе гады.

Усё Алесь. Як прыйшоў дырэктарам, адразу ўспомніў, што я тут выпускнік, што шмат дзе ўдзельнічаў і ледзь не паўшколы да мяне ў таварышы набівалася. Быў час, было і не такое. Але шкадаваць аб згубленым не давялося.

Ужо на стадыёне я неяк задумаўся, спыніўся каля турнікоў, пакратаў іржавыя вароты на футбольным полі — і адчуў страшэнную пустку: у сэрцы не было нічога — ні добрага, ні злога — нібы не было тых гадоў. Нібы не жыў.

* * *

— Ну што яшчэ? Не паеду! У мяне — план.

— Які?

— Адаспацца!

— А як жа малы Гарабурда? Ты абяцаў, а дзецям маніць нельга.

— Гэта ж не мае дзеці!

Малы Гарабурда — сірата, падапечны Міхася. Тыдзень таму я меў неасцярожнасць адвезці сябра — і ўвесь яго інвентар — на нейкае дабрачыннае мерапрыемства, і там, пакуль я паліў цыгарэту за цыгарэтай, да мяне прычапіўся хударлявы хлапчук з вялікімі вачыма. Ён быў надта смешны, у парваных кароткіх штоніках і заляпанай кашулі, і прасіў не здаваць яго, а забраць з сабой, «на волю» — так ён казаў. Забраць не забраў, але дазволіў яму аблазіць маю машыну ўздоўж і ўпоперак, пакуль выхавацелі шукалі яго па ўсіх ваколіцах. Знайшлі. Выказалі мне ўсе свае «фе» і «фу», выставілі ледзь не выкрадальнікам дзяцей, пагразілі нават міліцыяй і сілай выцягнулі малога з майго «ровара».

— Дзядзечка! Прыедзь яшчэ! Абяцай што прыедзеш! Да мяне! Дзядзечка!

Нешта ёкнула тады ад гэтага енку. І я паабяцаў. Гэта і быў Гарабурда. І было яму пяць гадоў.

* * *

Каля інтэрната было шумна. Уключылі музыку. Нейкія спартоўцы ладзілі спаборніцтвы сярод дзяцей, запускалі паветраныя шары.

— Дзядзечка! Дзядзечка прыехаў!

Ён абрынуўся на мяне, як цунамі на маленькі востраў. І я захлынуўся…

— Што ж вы дурыце галаву хлопцу? — тут жа «наехала» на мяне пільная выхавацелька, пакуль Гарабурда вісеў у мяне на шыі. — Забіраць жа не збіраецеся — бачу па вачах. Пакіньце ў спакоі. Яму лячыцца трэба.

Яна пацягнула да малога рукі, а той яшчэ мацней схапіўся за мяне.

— Дзядзечка! Не аддавайце! Я буду самы паслухмяны! І ціха-ціха буду сядзець у машыне.

— Аддайце. Аперацыя яму патрэбна. Калі б сям'я якая ўзяла, маглі б аплаціць. А так — чарга. А вы… — Яна махнула на мяне рукой. — Ён жа прычэпіцца да вас. Ужо прычапіўся. А потым «брыкацца» будзе, як хто прыйдзе. Не прызнае бацькоў, так бы мовіць.

— Ды я яго толькі другі раз і бачу!

— А гэтым дзецям і аднаго хапае, каб прывязацца.

Я ледзьве расшчапіў халодныя далонькі дзіцяці і аддаў яго тоўстай выхавацельцы. Гарабурда заплакаў. Нібы гэта было самае страшнае гора ў яго жыцці.

— А колькі ж трэба? Ну… грошай?

— Дваццаць тысяч. Дваццаць… Вось так.

* * *

— Ды ведаць я ведаў. З сэрцам у Тараскі праблемы, ага. Смешны хлапчук. Ды ніхто не хоча браць. Да цябе вось прывязаўся. Усім расказвае пра «дзядзечку» з чорнай машынай.

— Во халера! Нашто ты мяне наогул туды павёз? Лепш бы не ведаў.

Я злаваўся. Злаваўся вельмі — на Міхася. Але больш — на сябе. Што не было ў мяне дваццаці тысяч. Было толькі дзесяць. Каб маці ці сястра даведаліся, што я гэтыя грошы магу аддаць немаведама каму — дасталася б мне. Добра хоць што маці ў Любляне, а Марыся ў Нясвіжы.

— І што будзе з ім?

— Чакае сваёй чаргі. Ці дачакаецца — хто ж ведае. Жыццё — такая штука. Ды і ў інтэрнаце ён не адзін такі.

— Ведаеш… — я яшчэ раз пракруціў у галаве тое, што збіраўся сказаць. — У мяне ёсць дзесяць.

— У сэнсе? — Міхась вылупіўся на мяне, нібы я з глузду з’ехаў — раптоўна.

— Ну… выхавацелька сказала, што на аперацыю патрэбна дваццаць тысяч. Я аддам дзесяць, але дзе ўзяць яшчэ?

— Ты? — Міхась з энтузіязмам грукнуў па стале кулаком. — Аддасі?

— Аддам!

— Я прыдумаю што-небудзь. Абавязкова.

* * *

Мне пазванілі а дзясятай гадзіне.

— Калі ласка, чакаем вас у інтэрнаце. Гэта наконт Тараса Гарабурды.

Я змог прыехаць напрыканцы працоўнага дня. Загадчыца інтэрната, Міхась, нейкія афіцыйныя персоны суха дапытвалі мяне, ці ўсведамляю, на што аддаю грошы, і ці згодны, што яны пойдуць на аперацыю незнаёмага — так яны казалі — мне хлопчыка, што вынік аперацыі не можа быць гарантаваны і г. д. Другую палову даваў нейкі фонд. Падпісалі паперы, пасля паехалі ў банк. Пералічылі грошы — і… Мне паабяцалі, што будуць трымаць у курсе… Праўда, у гэтым я больш спадзяваўся на Міхася.

Але калі ўсё нарэшце скончылася — усё для мяне, а для малога Гарабурды ўсё толькі пачыналася — і я чакаў сябра каля дзвярэй інтэрната, да мяне падышла тоўстая выхавацелька, тая самая, што выгаворвала ў свой час за Тараса.

— Вы, канечне, добрую справу зрабілі, — пачала яна пасля таго, як зацягнулася прапанаванай цыгарэтай.

— Але?..

— Але… Можа, лепш было дапамагчы свайму сябру, чым чужому вам хлопчыку?

— У сэнсе?

— Ну… аплаціць яму — а не маламу — аперацыю.

— Што вы маеце на ўвазе? Якую аперацыю?

— Ды пухліна ў Міхася Мікалаевіча. І выдаліць тут яе ніхто не возьмецца. Трэба ехаць у Германію. Ці яшчэ куды. А вы што — не ведалі?

* * *

— Доўбня! Ідыёт!

— Машыну спыні.

— Я-та спыню. Ды табе ад гэтага лягчэй не будзе!

Я вар’яцеў. Я крычаў. Я злаваў. Міхась маўчаў. Але больш за ўсё мяне прыводзіла ў шаленства тое, што грошай у мяне больш не было. Зусім не было.

— Навошта была тая дабрачыннасць? Я б аддаў усё табе. Табе! Дон Кіхот хрэнаў!

— Ты пра сябе?

— Пра цябе!!!

Ужо пасля, калі я супакоіўся, і мы сядзелі за сталом у Міхасёвым пакоі (была ноч, ледзь свяціў стары таршэр), я стаў перабіраць варыянты, дзе ўзяць грошы, бо за душой Міхася амаль нічога не было.

— Можа, твая маці што дасць? Хто яе цяперашні муж?

— Не, у яе трое дзяцей ад гэтага. Няма ў яе нічога. Ды і мы даўно ўжо не падтрымліваем сувязі. Сам ведаеш.

— Ведаю. Што прадаць можаш?

— Ужо нічога. Была б кватэра — прадаў бы. А гэты пакой — нават і не мая ўласнасць.

— А фонд ваш гэты? На хлопца ж неяк выбілі грошы.

— Фонд дапамагае толькі дзецям. І толькі сіротам.

Я ехаў дадому, а ў галаве ўсё круцілася: «Была б кватэра — прадаў бы». У мяне была.

* * *

— Колькі можаш мне пазычыць?

Алесь так і застаўся стаяць з адкрытым ротам. Я задаў пытанне наўпрост у апагей яго палымянай прамовы — рэпетыцыя школьнага юбілею, ага.

— Іншага моманту выбраць было нельга?

— Ну… спіч шыкоўны — што тут яшчэ слухаць?

— Навошта табе?

— Жыццёвая неабходнасць.

— Вельмі жыццёвая?

Я аж падскочыў.

— Занадта!

— Не гарачыся ты так. Разумееш, Лера супраць, каб я пазычаў камусьці грошы…

— А сваёй галавы ў цябе няма?

Паўза.

— Выбачай. Я разумею.

— Чакай. Ты ж мяне колькі разоў ратаваў. Калі ёй не скажаш… А то… разумееш…

— Што ж я — дурань? Колькі?

— Дзве тысячы магу. Хопіць?

— Не. Але колькі дасі — усё вазьму. Дзякуй, братка.

— А на юбілей прыйдзеш хоць?

— Збіраюся. Хоць паглядзець на ваш гармідар.

Мы засмяяліся — стала лягчэй. І пасля яшчэ з гадзіну мы абмяркоўвалі нейкія дробязі.

* * *

Стары дом на два паверхі. Драўляныя лесвіцы. Бялізна на вяроўках пад пад'ездам. Я знайшоў яе не адразу. Дапамог зноў жа Алесь: нехта з яго сябрукоў працаваў у пашпартным стале. Дзверы адкрыла пасівелая, непрыгожая жанчына ў рваным халаце, зыркнула на мяне злосна:

— Вам чаго?

— Амалія Ісакаўна?

— Эмілія, — яна выцерла рукі аб халат. — А што?

— Я — Васіль, сябра вашага сына.

— Якога сына?

— Старэйшага, Міхася.

* * *

— Ды ведала я, ведала. Але няма ў нас нічога. Самі бачыце. Спадзяюся, што знясуць гэтую халупу — кватэру нармальную хоць дадуць. А грошай — не, няма.

— Гэта ж сын ваш! Ён вам колькі аддаваў! Крэдыты вашы выплачваў.

— Во-во. Яшчэ крэдыт ёсць у нас. Халадзільнік узялі новы. Ды і што я магу? А можа, яны і памыліліся… Так жа бывае. А то і бясплатна робяць у нас. Павінны бясплатна.

— Ён не дачакаецца, пакуль бясплатна! У вас жа муж — загадчык фірмы!

— Якая фірма? Так, пяць чалавек. Ледзь на хлеб зарабляе.

— Дык што — будзеце чакаць, пакуль… таго?

— Жыццё, сынок, такое. Усе пад Богам ходзім. Ідзіце лепш. — Махнула на мяне рукой. І наўздагон, быццам апраўдвалася: — Толькі вы ўжо, калі ласка, не кідайце Міхаську. І як што — прыходзьце, скажыце… Ну… разумееце. Усё ж такі — сын.

— Прыйду. Абавязкова! — злосна выпаліў я. І падумаў: вярнуся, каб мордай ткнуць у самае г…о.

* * *

Міхась выратаваў мне жыццё аднойчы. Не. Неаднойчы. Першы раз яшчэ ў школе. Зімой. На Свіслачы. Я пайшоў гуляць па рацэ — так, выхваляўся перад хлопцамі. І лёд праламіўся. Пада мной. Гэта быў нейкі момант, доля секунды. Міхась — значна лягчэйшы за мяне — выскачыў на лёд, потым лёг, падпоўз да палонкі і схапіў мяне за каўнер. Ён трымаў мяне, бо не мог выцягнуць — занадта худы і лёгкі ён быў — ды і застаўся. Трымаў — пакуль я не ачомаўся і не здагадаўся паціху вылазіць на лёд. Спачатку закінуў адну нагу і крыкнуў адпаўзаць Міхасю, пасля нейк вылез сам.

Абодва былі мокрыя. Абодва былі пад хатнім арыштам колькі тыдняў. Але галоўнае — былі жывыя.

Другі раз усё было інакш. Я даведаўся, што тая, з кім я планаваў далейшыя гады, жыла двайным жыццём. Не, я не правяраў яе тэлефон ці пошту. Я проста аднойчы вярнуўся з паездкі на два дні раней. Гэта была не мая кватэра. Таму сыходзіць было проста. Ды і ўжо было куды. Міхась жыў тады ў мяне тыдзень — каб я… Я не збіраўся нічога рабіць. Проста мне здавалася, што я вар'яцею.

* * *

Дзень быў светлы. Сонечны. Нарэшце, сапраўдная вясна. Мне здавалася, што менавіта сёння пачынаецца новая старонка майго жыцця. Тыдзень таму я прыйшоў у агенцтва, праз якое два гады таму набываў кватэру. Прыйшоў, каб прадаць. Галоўная ўмова — як мага хутчэй, як мага даражэй. Дакладней, мне трэба набыць сабе яшчэ нейкія метры, дзе можна было б жыць. І набыць як мага танней. Ужо знаёмая мне дзяўчынка-рыэлтар (не па гадах хваткая і мэтанакіраваная) учора паведаміла мне, што ёсць варыянт. І магчыма, гэта будзе адзіны ў бліжэйшы тыдзень-два.

— Сітуацыя наступная. Кліент аддае вам сваю аднапакаёўку з даплатай трыццаць пяць тысяч.

— Няблага. Калі?

— Я ўжо паказвала ёй кватэру. Яе задавальняе ўсё, таму з'ехаць можна ў адзін дзень.

— Яшчэ лепш!

— Але… Вы не бачылі яе варыянт.

— Ну… Спадзяюся, гэта не баракі без святла і вады? На астатняе я згодны.

— Гэта Шабаны. Старая кватэра. Без рамонту. Зусім. Вось здымкі.

Яна стала паказваць мне на сваім ноўце зробленыя напярэдадні гаспадыняй фота. Першае ўражанне — катастрофа! Першы паверх, цёмны пакой, маленечкая кухня. Калідор — ледзь павярнуцца. Старыя шпалеры — мо гадоў трыццаць. Столь — шэрая, як пыл, і нізкая.

…А ў галаве было: ёсць месца ў Берлінскім шпіталі. Абследаванне і аперацыя — каля сарака тысяч. Пакуль у нас было толькі пяць.

* * *

Ужо ўвечары, амаль у дзевяць, я ехаў у ненавісныя мне яшчэ са школьных гадоў Шабаны. Каля пад'езда мяне сустрэла дзяўчынка-рыэлтар, і мы разам увайшлі ў кватэру. Гаспадыня — гадоў пад трыццаць, можа менш — сціпла чакала ў калідоры. Па праўдзе, недзе там, у глыбіні самога сябе — розумам, я даўно ўжо на ўсё пагадзіўся.

— Можа, скінеце мне крыху? — калі мы ўжо агледзелі ўсё, звярнулася да мяне гаспадыня.

Я папрасіў рыэлтара пакінуць нас на хвілінку і, калі дзверы прычыніліся, выпаліў як на духу:

— Гэта пытанне жыцця і смерці. Мне патрэбна максімальная сума. Дакладней — не мне. Сябру. Тэрміновая аперацыя. Ніякіх зніжак — больш няма дзе ўзяць. Таму… Або так — або мы разыходзімся. Але тады той час, які я змарнаваў на вас…

— Згодна. Я згодна. — Яна кранулася маёй рукі. — Супакойцеся.

— Яшчэ… — Мне было ніякавата прасіць пасля такога «наезду». Але хацелася быць шчырым з ёй да канца. — Дайце мне два тыдні хаця б. На пераезд. Пакуль Міхась… сябра… не з'едзе на лекаванне.

— Тры. Тры тыдні. Але не больш.

— …Я буду ў адным пакоі. А вам перашкаджаць не буду з пераездам. Прывозьце рэчы. Мяняйце шпалеры — ці што там яшчэ.

— Дамовіліся.

Яна ўсміхнулася і працягнула далонь. — Да сустрэчы.

* * *

— Ды ты вар'ят! Як ты мог?! Як? Куды нам цяпер падавацца ў Мінску? Дзе мне дзяцей пакінуць? — Мне было нават смешна слухаць гэтую плынь абурэння, што абрынула на мяне Леся, мая малодшая сястра.

Ёй падабалася мая кватэра. У вялікай зале яны заўсёды жылі, калі прыязджалі на выхадныя «пашопіцца». Шопілася Леся, а яе блізнюкі сядзелі на маім карку ўсе два дні запар. Маці прыязджала радзей, усё больш па справах. З Любляны не наездзішся. Але і яна навіну з кватэрай успрыняла ў штыкі.

— Гэта мая кватэра. Я сам на яе зарабіў. Сам і вырашаю, як з ёй абысціся, — спакойна тлумачыў я і абяцаў аплачваць гатэль да той пары, пакуль не назбіраю дастаткова грошай, каб зноў зажыць у «нармальных умовах».

Мы з Міхасём пакавалі рэчы і зносілі ўсё ў меншы пакой. Навіну з маім абменам Міхась успрыняў як касмічную катастрофу. Але справа была зроблена. У рэшце рэшт, грошы можна будзе вярнуць пасля — так бы мовіць, даю яму шматгадовую растэрміноўку.

У нядзелю свае рэчы павінна была перавозіць Ядзя, новая ўласніца маёй кватэры.

Ядзя, дарэчы, аказалася добразычлівай і кемлівай. Яна нават прапанавала нейкіх знаёмых рамонтнікаў, якія — даволі эканамічна — маглі б мне справіць касметычны рамонт. Я абяцаў падумаць. Рабіць нешта ў маёй новай кватэры трэба было абавязкова, але грошай пакуль не было зусім.

— Халера на цябе! Я ж там без цябе памру! — нудзеў мне Міхась у працэсе пераразмеркавання пакункаў з рэчамі.

— Толькі паспрабуй! Навошта я тады мяняў гэтыя апартаменты на халупу?

— Бо ты ёлупень! Як быў — так і застаўся.

— Хто б казаў!

У нядзелю я дапамагаў заносіць рэчы новай уласніцы. Можна было сысці, але мне хацелася як мага даўжэй затрымацца там, дзе я быў шчаслівы.

Мы абмяняліся тэлефонамі. І я таксама накіраваў плынь сваіх пакункаў, скрынак і чаго там яшчэ ў адваротным напрамку.

* * *

— Гэта наконт Тараса Гарабурды. Можаце пад’ехаць?

Толькі мне здалося, што жыццё вакол перастала быць падобным на вір, як зноў дзявяты вал.

Міхась з’ехаў. Я змяніў шпалеры ў аднапакаёўцы, перафарбаваў століь і пачаў звыкацца з новым жытлом. Пачаўся новы праект, які абяцаў мне неблагія фінансавыя перспектывы. І два дні засталося да трыумфальнага — як спадзяваўся Алесь — мерапрыемства ў школе. І тут — Гарабурда.

Мяне, як студэнта на дзяржіспыце, пасадзілі перад надта сур’ёзнай камісіяй, і ў мяне з’явілася адчуванне, што я не вывучыў аніводнага білета ці наогул не туды ўвайшоў.

Урэшце «камісіянеры» звярнулі на мяне ўвагу.

— Вы праявілі цікавасць да лёсу Тараса, нашага выхаванца, — неяк холадна пачала загадчыца інтэрната. — Нават прафінансавалі — часткова — лекаванне.

— Што з таго? Ён жывы? — мяне абурала халоднасць тону гэтай жанчыны. Такая ж халоднасць была ў вачах астатніх.

— Мы вам удзячны, — узяў слова нейкі доктар, — і, як абяцалі, паведамляем папярэднія вынікі. З хлопчыкам усё добра. Аперацыя была паспяховай. І нават лепш…

— Што ж можа быць лепш?

— Падчас лекавання ён сустрэў тых людзей, якія гатовыя стаць яму бацькамі.

Тут наступіла маўчанне. Па праўдзе, я не ведаў, як рэагаваць на гэтую інфармацыю, і не разумеў, чаго ад мяне чакаюць гэтыя людзі.

— Дык вось, — цяпер ужо да мяне звярталася тоўстая выхавацелька. — Новыя бацькі Тараса выказваюць вам шчырую ўдзячнасць за тое, што вы зрабілі, і нават гатовы з вамі сустрэцца…

— Але?..

— …Але Тараса вы больш не павінны бачыць. Цяпер ён — у сям’і. Ён павінен прывязацца да маці і бацькі і забыць, кім вы былі для яго.

«А кім я быў?» — хацелася крыкнуць мне, але я стрымаўся.

* * *

Не сказаць, што я планаваў праводзіць увесь свой вольны час з гэтым гарэзам, але я б хацеў пабачыць яго яшчэ. Усю дарогу назад перада мной стаялі яго вялікія вочы, а ў галаве было адно: «Дзядзечка, прыедзь яшчэ!»

Адзінае, што мне ўдалося даведацца, што навaспечаныя бацькі — з Магілёва. Ну… Чым далей, тым лепш.

«Нічога, вернецца Міхась, і ўсё высветліць», — думалася мне. І заставалася толькі чакаць. Канечне, можна было сустрэцца з гэтай парай, але менавіта яны і ставілі заслону паміж мной і малым. І мне не было, што ім сказаць.

Мне наогул хацелася выкінуць усё гэта з галавы. Прынамсі, на той час, пакуль не вернецца Міхась. Але нават праз два дні, калі я падыходзіў да школы, ва ўсіх дзецях я бачыў яго — Гарабурду.

На стадыёне нейкая жанчына з букетамі рознакаляровых пышных кветак стаяла над малым, які сеў наўпрост на асфальт і, мяркуючы па ўсім, адмаўляўся ісці далей сам. Другога хлопчыка, гадоў пяці, яна трымала за руку.

— Ну не магу я ўзяць цябе, сонейка, — пачуў я, калі наблізіўся. — Бачыш, рукі ў мамы занятыя.

— Марыся?

Яна азірнулася і сгушавалася на момант.

— Васіль. Васіль Трухан. Памятаеш?

— А як жа, — яна ўсміхнулася. — Васіль-заваёўнік. — Ага, так мяне звалі аднакласнікі.

— Мааам! Вазьмі мяне на рукі! — злосна ўставіў сваё малы.

— Я не магу, сонейка. Уставай.

— Ножкі баляць.

— Я магу. Пойдзеш да мяне? — я прысеў на кукішкі і зірнуў на Марысю: ці дазволіць яна. Вочы казалі: «вазьмі» і «дзякуй». Малы пацягнуўся да мяне, і я ўзяў яго на рукі.

— А дзе ж астатнія пяць?

— Ааа, ведаеш. — Марыся пакрочыла праваруч, з кветкамі і маўклівым хлапчуком поруч. — Астатнія ўжо ў школе, рыхтуюцца выступаць.

Вечар быў нейкі шалёны — так мне здавалася: выступалі з райана, пасля дзеці, пасля Марыся ладзіла сцэнку са сваімі, пасля нарэшце Алесь выступіў са сваім завучаным палымяным спічам. Былі песні, вальс старшакласнікаў. А пасля ўсе разышліся па класах. Абраныя збіраліся ехаць на «неафіцыйную» частку. Мы з Марысяй зайшлі ў наш — былы — кабінет, спадзяваліся знайсці матэматыка, які прайшоў з намі агонь і ваду і шмат што яшчэ. Яго не было, вырашылі чакаць. Дзеці збеглі на стадыён.

— Дык як так атрымалася? — не вытрываў я.

— Што?

— Ну… тое, што лепшая з лепшых стала не знакамітым вучоным ці «міс Еўропа», а маці-гераіняй?

— Жыццё — рэч такая… Непрадказальная. Не ведаеш, куды сцежка прывядзе. А сцежак ой як многа.

— Сама сцежку-та выбірала?

— Сама. І не шкадую, ведаеш. Хапіла мне ў свой час і ўвагі, і конкурсаў, і перамог, і спадзяванняў з боку іншых. Было нават зашмат. Вось і збочыла. А ты што?

— А я… Нічога. Нікога. Так — сам па сабе. Сам для сябе.

— А мы з дзяўчатамі думалі, што ты будзеш знакамітасцю. Палітыкам якім ці бізнесоўцам заможным. Нават варажылі на цябе — каму дастанешся.

— Ну і каму ж выпала?

— Кожнай па разу, — засмяялася Марыся, і я не стрымаўся. Знайшлі зорку — нічога не скажаш.

* * *

Пасля гэтай вечарыны надта захацелася дадому. Не, не ў старую аднапакаёўку з таннымі шпалерамі — для мяне гэта быў перавалачны пункт. Вокны маёй былой кватэры выходзілі якраз на школу. І там я бачыў святло. І там я бачыў сваё жыццё.

У бліжэйшай краме я ўзяў бутэльку віна і — як мне здалося — праз момант я ўжо націскаў на званок кватэры нумар 49.

— Разумею, гэта выглядае як вар'яцтва… Але… Можна мне… Хаця б на хвілінку…

Ядзя глядзела на мяне, як на іншапланетную істоту, што звалілася проста з неба. Мне нават здалося, што яна не разумее ані слова з таго, што я нясу. Такімі ж вачыма глядзеў на мяне шэры кот, што высунуў свой нос з-за дзвярэй.

— Настальгія… Разумееш?

— Ну…уваходзь, калі так.

Я ступіў у прастору майго былога жыцця. Тут былі чужыя рэчы, чужыя дробязі, але сцены, паветра, дух… Я нават заплюшчыў вочы. Гэта было маё. Усё яшчэ маё. Я дакрануўся далонню да сцяны і на момант забыўся.

— Віно. Табе, — раптам спахапіўся я і працягнуў бутэльку. — Праўда, выбачай.

— Ну… Праходзь. Віно трэба піць удваіх.

* * *

— Не звыкся яшчэ?

— Не.

— Ёсць прапанова.
— Якая?
— Мне трэба з'ехаць. Два тыдні. Але нехта павінен паліваць кветкі і карміць гэтага абармота. Лепшая сяброўка зараз народзіць. Брат з'ехаў на вучобу ў Маскву. Быў яшчэ варыянт, але, па праўдзе, не хацелася б... Таму… выходзіць, што няма каму.
— Дык што за прапанова?
— Калі пагодзішся, то жыві тут гэтыя два тыдні.
— Ты што, сур'ёзна?
— Я ж кажу: няма каго прасіць. А з'язджаю праз пяць дзён.
— Я толькі «за»! — я нават прыхапіўся.
— Адзінае — жыві ў зале. Меншы пакой я закрыю.
— Канешне!
— Дык… дамовіліся? — яна паглядзела, нібы правярала мяне на «адэкватнасць». — Толькі кот-абармот павінен быць дагледжаны і задаволены.
— Вопыту ў такіх справах у мяне няма, але абяцаю пачытаць літаратуру па выхаванні шэрых абармотаў!
Гэта быў падарунак. Як глыток свежага паветра. Перад тым, як зноў абрынецца дзявяты вал.

* * *

Ён вярнуўся худы, лысы, нейкі шэры з твару. І злы. Страшэнна злы. Гэта было жахліва. У лісце доктар прасіў мяне па першым часе забяспечыць яму дагляд і падтрымку. І калі другое я мог яму даць, то першае — не. Урэшце, я і сам стаміўся і азлобіўся. І таму адзінае, што прыйшло мне ў галаву, гэта прыехаць у інтэрнат і папрасіць дапамогі.
— Ёсць адзін чалавечак, — спакойна адказала мне тоўстая выхавацелька. — Наша, з былых. Звярніцеся да яе. Нешта мне падказвае, што вам яна не адмовіць.
Я ўзяў адрас і паехаў. Гэта былі новабудоўлі — «сацыяльныя кватэры», тыповыя шматпавярхоўкі, безаблічныя і бязрадасныя. Дамафон зламаны. Пад'езд — наросхрыст. Я спыніўся каля пашарпаных — ужо! — дзвярэй, за імі чуліся галасы і музыка. Нешта святкавалі. Таму, напэўна, і адкрылі не адразу. Тонкая, як сцябло, дзяўчынка зіркала на мяне, як на ворага народа.
— Мне б Станіславу.
— Ну я гэта. І што?
— Наконт Міхася я… Міхася Мікалаевіча.
— Што з ім? — яна ўстрапянулася і перамянілася ў твары. Была — дзяўчынка-нахабніца, стала — усхваляваная жанчына, гатовая калі не на ўсё, дык на многае.
Ступіла басанож у калідор і прычыніла за сабой дзверы. Я коратка расказаў сутнасць справы.
— Але зараз з ім вельмі няпроста.
— Я вытрымаю.
— Ён — як крыга.
— Нічога.
— А чаму раптам вы… ну… згаджаецеся на такое? Хто ён для вас?
— Аднойчы ён выратаваў мяне. Прыйшоў час аплаціць рахунак.

* * *

Да самага ад'езду новай гаспадыні маёй кватэры я адгарадзіўся ад усяго свету. Я не тэлефанаваў нікому і не адказваў на званкі — збольшага.
Урэшце, у пятніцу ўвечары я заехаў да Ядзі (яна аддала мне ключы і падрабязную інструкцыю на два аркушы драбнюткім почыркам, што рабіць і што не рабіць), мы пасмяяліся, я адвёз яе на вакзал і паехаў да Міхася.

— Як ты мог? Як? Гэта ж аўтарытарны рэжым! — абрынуўся ён на мяне з парога. Я ўсунуў нос у пакой і ўбачыў, як ўсмешлівая танюткая дзяўчынка раскладае бялізну ў шафе. Ужо асвойталася.

— Бачу, усё тут як мае быць, — я ўвайшоў без дазволу, па-гаспадарску. — Ну як тут, Стася, пацыент?

— Увесь дзень толькі і чую: «бу-бу-бу». Як дзед стары! А так — жыць можна.

— Дык яна і жыве! — замахаў на мяне рукамі Міхась. — Тут! Пасялілася! І як мамка нада мной!

— Вось гэта нумар! — Я быў у захапленні. — Стася, вы проста знаходка! Нам пашанцавала! — І ўжо амаль шэптам, але так, каб чуў Міхась, дадаў: — Ён абавязаны ўзяць вас цяпер за жонку.

Стася засмяялася:

— Я не супраць!

— Ага, знайшлі дурня!

«Ну вось і добра, — думалася мне. — Усё ідзе як найлепш. Ачуняе Міхась — усё вернецца, як і было». А яшчэ цяплей на сэрцы было ад таго, што ўжо сёння я мог вярнуцца ў сваю кватэру. Мяне чакалі два тыдні нармальнага — не, нават шчаслівага — жыцця. Цяпер я ўжо быў у гэтым упэўнены.

Я аддаў ключы ад шабаноўскай аднапакаёўкі Міхасю. Два тыдні яны маглі жыць там са Стасяй без чужога вока, папрокаў і пагроз з боку адміністрацыі інтэрната. Стася кахала Міхася — мне не трэба было пытаць пра гэта ці чакаць прызнання. Дастаткова было бачыць яе поруч з ім. Напэўна, яшчэ дзіцячая прыязнасць і ўдзячнасць перараслі ў нешта большае. І яна пранесла гэта праз гады. Дзякуй лёсу, яна вярнулася на яго жыццёвую сцежку менавіта зараз. І я спадзяваўся, што яна застанецца і пойдзе з ім далей.

* * *

У нядзелю мы зладзілі сумесную вячэру. Я, Стася, Міхась… і кот-абармот. Калі мы са Стасяй засталіся адны (Міхась вырашыў пазмагацца з брудным посудам і знік на кухні), я спытаў:

— Ну як ён?

— Добра. Не хвалюйцеся.

— А ты?

— А я лепш за ўсіх!

— Паслухай, ты ўсё кінула дзеля яго. Не ведаю, што там у цябе было… Але… Ты не працуеш? Не вучышся?

— Ды я прыбіральшчыцай у офісах, — яна выцягнула з майго пачка цыгарэту. — Вучылішча скончыла, ды неяк… не зраслося.

— А што твае… родныя ці хто там у цябе ёсць? Што яны кажуць, што да Міхася сышла?

— Няма родных у мяне. А сябры… Якія яны мне сябры? Хто на наркаце, хто ў бутэльку лезе. Я хоць вось вырвалася з гэтага. Хоць часова. Дзякуй богу! — А пасля паўзы дадала: — Яму праз месяц трэба зноў ехаць. Грошы патрэбны. Ён злуецца.

— У мяне няма.

— Я ведаю. Не хвалюйцеся. Я ўжо ўсё прыдумала.

* * *

— Мы вас урачыста запрашаем! — Стася прыехала нечакана. Было ўжо позна. — Заўтра ў інтэрнаце будзе вечарына!

— Не, дзякуй. Я — пас!

Яна раптам змянілася з твару.

— Як гэта — пас? Вы што? Гэта ж для Міхася… Мікалаевіча!

— У сэнсе?

— Мы збіраем грошы.

— Хто — мы?

— Я знайшла тых, каму ў свой час ён аддаваў апошняе. А іх — ого-го колькі! Не ўсіх, канечне, адшукала — адкуль мне ўсіх ведаць. Але цяпер яны гатовы дапамагчы яму. Вы проста павінны прыехаць і падтрымаць нас… Яго.

…А мне так хацелася заўтра нікуды не ехаць, пабыць аднаму ў гэтым — такім родным! — амаль пустым пакоі, дзе былі толькі два крэслы, вузкая канапа і раскладны стол. Ноччу вярталася Ядзя, а гэта азначала, што я мусіў з'ехаць. Я ўжо прывязаўся да шэрага ката, які штоноч прыходзіў і клаўся мне ў ногі — цёплы і мяккі.

Я пакінуў рэчы — каб была нагода заехаць сюды яшчэ раз, забраў сябра і Стасю, і мы паехалі. Міхась не ведаў, што будзе адбывацца, яму была прапанавана іншая версія — сустрэча былых выпускнікоў інтэрната, якія запрасілі «добрага доктара» на сяброўскую вечарыну.

Амаль усё мерапрыемства я хаваўся ў брудных калідорах і пустым класе за актавай залай. Мне не хацелася глядзець на гэтых малых з кацінымі вачыма. Да таго ж, ва ўсіх хлопчыках гадоў пяці-шасці, што бегалі і крычалі мне наўздагон, я бачыў яго, Тараса Гарабурду. Так, усё яшчэ бачыў.

Я спадзяваўся, што ўсё скончыцца хутка. Але вечар зацягнуўся. Відаць, Міхась сапраўды дапамог шмат каму, бо на покліч Стасі адгукнулася людзей дастаткова. Нават тыя, хто не меў амаль нічога, прыехалі, каб падтрымаць. Хоць бы маральна. Міхась быў узрушаны. Дзякаваў — мне здалося — бясконца і блытана, але шчыра.

Стася дамаглася свайго. І, задаволеная, абдымала ўсіх прысутных і не хацела сыходзіць. Урэшце, яны з Міхасём выправілі мяне дадому, а самі засталіся.

Так было нават лепш. Але куды мне было ехаць? Забіраць свае рэчы? Але Ядзя магла ўжо з'явіцца, а сутыкацца з ёй не хацелася. Шабаны? Халера на іх! Усё, пачынаю адкладаць грошы, каб хутчэй выехаць з гэтай халупы. Хоць я яшчэ не ўсё аддаў брату, а гэта — найперш.

Пакуль я вырашаў і думаў, я — па інерцыі — прыехаў у свой (былы ўжо) раён. Было нават шкада, што вось ён — мой дом — два прыпынкі ўсяго, але не, нельга. Заўтра прыеду, аддам ключы і забяру рэчы.

На пустой дарозе я развярнуўся, і маю ўвагу прыцягнула парачка на трамвайным прыпынку. Вакол — ні душы. Ён — невысокі, прысадзісты, нешта эмацыянальна гаварыў, ідучы паперадзе. Яна — з чамаданам і сумкай, спынілася на самым прыпынку. Апусціла рукі, нібы стаміўшыся ад усяго…

Гэта быў толькі момант — і я пазнаў. Я спыніў машыну. Там была Ядзя. Я ўглядаўся — не ведаю навошта, але чакаў, што здарыцца. Яна стаяла — ён азірнуўся, крыкнуў нешта — і пайшоў прэч. Яна засталася. Я бачыў, як яна ледзь не плакала, спачатку села, агледзелася — транспарту не было (цяпер хіба што дзяжурны), узяла рэчы і накіравалася ў бок дома.

— Ядзя! — я выскачыў з машыны. — Ядзя!

Яна здзіўлена азірнулася. Я бачыў, як азірнуўся і ён, спыніўся, неяк злосна выскаліўся. Таму я падбег, схапіў Ядзю за руку, узяў яе чамадан і пацягнуў да машыны. Ляпнуў дзвярыма і паехаў.

— Не хачу ведаць, што там у вас, але мне трэба забраць свае рэчы, — выпаліў я.

Акрамя «дзякуй», я больш нічога не пачуў ад яе. Я хутка сабраўся і выйшаў з кватэры. Адчуванне было такое, нібы на мяне вылілі вядро халоднай вады. «Больш сюды я ўжо не прыйду, больш не маю права», — пульсам біла мне па мазгах, і я сышоў у ноч.

* * *

Пранізлівы, непрыемны званок пабудзіў мяне ў нядзелю. Я нікога не чакаў. Тыдзень выдаўся насычаны, работы было вышэй галавы, ды і з Міхасём шмат што вырашалі, таму я спаў без задніх ног. І тут…

— Хто там?

— Давай, адчыняй, — пагразіў мне з-за дзвярэй знаёмы жаночы голас. Што за…?

Леся амаль ускочыла ў мой бярлог, быццам баючыся, што я выпхну яе прэч.

— Што за кватэра? — чмыхнула яна сваім напудраным носам. — Як ты тут жывеш?

— А ты што тут робіш? — спыніў я яе не вельмі ўпэўнена. — Дзеці дзе?

— Дома дзеці — куды іх падзець! Я адна прыехала.

Яна па-гаспадарску хадзіла туды-сюды па хаце, як бы ацэньваючы тавар, а пасля выдала безапеляцыйна:

— Трэба нешта з гэтым рабіць!

Ад Лесі нельга было схавацца ці збегчы. Яна развяла «генеральную мыйню» — як мы называлі гэта ў дзяцінстве, і мне не заставалася нічога, акрамя як выконваць яе генеральскія ўказанні.

Праз пару гадзін кватэра ўжо была мала падобная на халасцяцкі прыстанак, і я нават шчыра радаваўся нечаканаму прыезду сястры. Урэшце мы селі абедаць.

— Паслухай, — пачала яна неяк няёмка, дастала са сваёй сумкі канверт і паклала яго перада мною. — Я ведаю, што ў цябе зараз не вельмі… з фінансамі….

— Я разбяруся. Не трэба.

— Паслухай мяне ўважліва. Я не пазычаю табе. Я — аддаю. Ужо аддала. Ты заўсёды нас забяспечваў, калі мы звальваліся табе на галаву…

— Леся, пакінь. Дзеці…

— Я зарабіла іх. Не ўкрала, не выпрасіла ў мужа. Вазьмі. Урэшце, хутка мы зноў будзем мучыць цябе візітамі, — яна засмяялася. — І не думай, што пазбавіўся ад нас, калі пераехаў у аднапакаёўку.

Мы абняліся, і мне нават захацелася плакаць. Так я змог вярнуць грошы Алесю.

* * *

Я чакаў брата ў прыёмнай, сакратарка збегла дадому, як толькі гадзіннік на сцяне адбіў канец прапісанага працоўнага дня. Калі нарэшце Алесь скончыў сваю надта важную тэлефонную размову, я ўвайшоў.

— Ну як там вашы школьныя сваркі-звадкі?

— Больш-менш уляглося. І тут, канешне, юбілейны банкет сыграў сваю ролю.

— Я ж казаў. Дарэчы, я прыйшоў вярнуць узятае. — Я працягнуў яму канверт. Нават не заглянуўшы, брат паклаў яго ў тоўсты партфель.

— Падобна на хабар, — усміхнуўся ён.

— Не праверыш?

— Не. Давяраю. Як сам?

— Усё як мае быць.

Я паглядзеў на раскладзеныя паперы, папкі з фотаздымкамі на стале.

— Няўжо зноў нешта грандыёзнае плануеш?

— Ды так. Ёсць ідэя…

Ён спачатку памаўчаў, крануў нясмела папкі на стале, паглядзеў на мяне — і, напэўна, прачытаў шчырую зацікаўленасць на маім твары:

— Хачу зрабіць агульнае мерапрыемства для ўсіх — ці большасці — школ раёна. Гэта няпроста. — Ён сумеўся. Відаць было, што яму неяк нават сорамна — ці што — за тое, што ён «паграз» у гэтым школьным гармідары.

— Ну, — я паляпаў яго па плячы. — Добрая справа. А нагода? Як іх аб'яднаеш? Ёсць ідэя?

— Напэўна, гэта будзе нейкая дабрачынная акцыя. Накшталт таго. Думаем над гэтым.

— Думаем? З кім гэта?

Тут у дзверы нясмела пастукалі.

— Заходзьце!

Я нават усміхнуўся. З двума малымі нязграбна, неяк бокам, увайшла ў кабінет Марыся. Мне стала шкада яе паніклай прыгажосці. Перад вачыма стаяла шаснаццацігадовая «каралеўна» ў выпускной сукенцы да пят з густа нафарбаванымі вачыма…

— Ну вось і спадарыня Марыся. Прадстаўляць не трэба — і на тым дзякуй. Цяпер, Васіль, яна будзе мне дапамагаць з арганізацыяй мерапрыемстваў.

Марыся села на крэсла і ўзяла малодшага на калені.

— Паспрабую, — заўсміхалася яна.

— Ну з такой камандай… усё атрымаецца!

Я развітаўся і пайшоў.

* * *

Дзень за днём. Тыдзень за тыднем. Два разы я нават з'ездзіў у Коўна на сустрэчы з куратарамі. Я вучыўся жыць адзін. Міхась быў цяпер недасяжны. На шчасце, цяпер у яго была Стася. На бяду, цяпер у яго была Стася. Яна ратавала яго ад усіх. Яна ратавала яго ад мяне. Нават тое, што я дазваляў ім падчас маіх ад'ездаў жыць у маёй кватэры, не скарачала дыстанцыі. Я спадзяваўся, што лекаванне нарэшце возьме сваё — і здаровы, хоць і змарнелы, Міхась зноў вернецца ў маё штодзённае жыццё. Прагрэс быў, але не такі хуткі, як мне хацелася. Стася неадступна хадзіла за сваім «анёлам», знаходзіла грошы, забяспечвала побыт. Урэшце, на днях яна забіла мяне навіной: яна цяжарная. Яны з Міхасём, нягледзячы на хваробу… Як гэта магчыма? «Знайшла час!» — спачатку раззлаваўся я. «А можа, самы час», — адказаў я сам сабе пасля.

На выхадныя я паехаў у Нясвіж. Нарэшце я карыстаўся гасціннасцю сястры, а не яна — маёй. Па сутнасці, гэта быў першы раз за ўсе сем гадоў яе шлюбу, калі я прыехаў не ПА іх, а ДА іх. Блізнюкі не злазілі з мяне да вечара.

— Не такая і благая мая кватэра, — жартаваў я, — калі яна зблізіла нас з табой, — і Леся ўсміхалася мне ў адказ.

Але насамрэч з галавы так і не выходзіла ідэя: вярнуць усё, як было. І найперш мне хацелася вярнуцца ў МАЮ кватэру. І я вырашыў паехаць і пагаварыць з Ядзяй. Хоць бы дзеля таго, каб яна разбіла гэтую надзею, і я пайшоў іншым шляхам.

І калі яна адчыніла мне дзверы, у мяне раптам усё так ясна склалася ў галаве: вось мой дом, вось мой свет, а там ужо — яна. Яна стала яго часткай, а значыць — маёй.

— Я хацеў спытаць… — пачаў я няўпэўнена, але замест таго, што збіраўся сказаць, раптам выпаліў: — Паслухай, а хто гэта быў, тады, на прыпынку?

Яна глядзела на мяне, як на ідыёта, але не было ў яе вачах ні холаду, ні «прэч». І я ўвайшоў.

— Ты таму і прыйшоў? Хіба маеш права?

— Не маю. Але… хачу ведаць.

— Працуем разам. Не дае мне спакою. І жыве непадалёк. Настойлівы трапіўся.

— Маньяк?

— Нешта накшталт таго.

Нязручная паўза. Цяжкае, як камень, маўчанне. Таму званок у дзверы здаўся мне аглушальным, нібы проста за мной выбухнула бомба. Мы ўдваіх нібы прачнуліся. Я прачытаў у яе вачах страх, але яна неяк груба ўзяла мяне за плечы:

— Адыдзі. Ідзі ў пакой. Пачакай там.

І тады я зразумеў: гэта ён.

— Хочаш, я з ім пагавару?

— Гэта мая праблема. Ідзі.

Я зайшоў у пакой і прычыніў дзверы. Кот-абармот саскочыў з канапы і прыязна пацёрся аб мае ногі. Ага, братка, вось і сустрэліся. Да мяне ледзь даносіліся словы Ядзі: «калі ласка», «давай скончым» — і нізкі, непрыемны голас у адказ: «што ж ты робіш са мной», «я нікуды не пайду», «я буду з табой». Я трымаўся — хвіліну, дзве, тры… і раптам адчуў, што Ядзя… плача. Я адкрыў (здалося — выламаў) дзверы і нечакана для самога сябе выпаліў:

— Дык дзе, кажаш, мой парасон?

Трэба было бачыць іх твары! Я адчуваў, што мяне зараз заб'юць, але адступаць было позна.

— Ты хто? — злосна тыцнуў пальцам мне ў грудзі «маньяк».

— Аналагічнае пытанне. — Я іграў «дурня», як мог: — Ядзя, што за госці тут у цябе? Нам праз пяць хвілін выходзіць!

Ядзя раптам зардзелася, быццам каханка, што падманула свайго нарачонага:

— Гэта… сусед наш. Сыходзіць ужо.

— Не хачу я нікуды ісці! — пранізліва загаласіў «маньяк». — Ты хто такі, каб мне перашкодзіць? — зноў тыцнуў ён мяне пальцам.

— Слухай сюды, кот аблезлы, — раззлаваўся я і ўзяў нахабніка за грудкі — балазе, я быў вышэйшы на галаву. — Я тут гаспадар, а ты — ідзі лесам і больш не прыходзь. Паўтарыць — ці так зразумеў?

— Цьфу, — госць расшчапіў мае рукі, злосна глянуў — на мяне, пасля на Ядзю. — Не чакаў ад цябе такога.

А пасля развярнуўся і аглушальна ляпнуў дзвярыма.

Я стаяў да Ядзі спінай і баяўся павярухнуцца. Гаспадар… Ці не перайшоў мяжы? Хто я такі — тут, для яе? І тут яна пырснула смехам, і я павярнуўся.

— Ну ты даў! У чалавека цяпер, можа, сэрца разбіта.

— Ну і халера на яго! Ці шкадуеш?

— Я? Ды дзякуй — такога шчасця не зычу нікому. Пойдзем, гэта трэба адзначыць!

Яна хутка накрыла на стол, па-простаму, з яечняй і свежай гароднінай. «Як дома», — падумалася мне.

— Дык чаго ён да цябе так прычапіўся? — пацікавіўся нарэшце я, бо адчуў: цяпер я ўжо маю на гэта права.

— Зручна яму са мной. Дапамагаю на працы. Мы з ім архітэктары: я знаходжу яму памылкі (ён няўважлівы ў дробязях). Выпраўляю. Падказваю. Прыходзіць да мяне панадзіўся, як тут абжылася: ён з бацькамі і сёстрамі ў старой двухпакаёўцы — няма дзе і сесці, не тое што…

— Навошта выпраўляеш яго памылкі? Сама ж на сябе ярмо павесіла.

— Разумееш, я думаю, што лепш іх выправіць, пакуль яны на паперы, а не тады, калі пачнуць будоўлю ці — яшчэ горш — усё зробяць і высветліцца, што нешта не тое. Гэта ж і праца, і матэрыялы, а калі так і здадуць — і людзям праблемы. А на паперы — тут выцер, там рысачку паставіў — і ўсё. Вырашана!

— Занадта дабрадзейная ты, Ядзя. Пакінь ты гэта. Працуй за сябе, а не за іншых. — І пасля паўзы не вытрымаў: — А што ж табе не так? Брала б кавалера ў абарот. З твару — нічога…

— І сам ён — НІЧОГА! — махнула рукой. — Як дзіця малое. Яго глядзець і глядзець. А я што, мамка якая? Не хачу, лепш адной, чым з такім.

Развітвацца не хацелася. Хацелася — застацца. Проста жудасна хацелася застацца. Але ў галаве было: «Не тваё. Не твая».

— Прыходзь яшчэ.

— Прыйду. Абавязкова.

І я нахіліўся і дакрануўся да яе вуснаў. Мяккія, пяшчотныя. Салодкія. Салодкія…

Глеб Ганчароў

# Каятан Чабор

## *Раман у вершах*

*(працяг, пачатак у № 9, 2016)*

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

XI

Праз два дні, калі ў гданьскіх касцёлах адпелі
Патанулых сыноў паспалітай зямлі,
Калі пчоламі ў доках кішэлі арцелі,
Аднаўляючы зноў да жыцця караблі,

Калі чорнае гора гняло Каятана
Так, што нават і плакаць было не з рукі,
Магістрат скарахода прыслаў нечакана
Да яго ў багадзельню святога Лукі.

— Пан Чабор, прабачайце, што ў гэту хвіліну
Перашкодзіў хваробе, але магістрат
Запрашае шаноўна: вы спешна павінны
Быць дастаўлены ў ратушу. Гэта загад!

Ну, загад дык загад. Усё роўна асенняй
Напаўцёмнай, агіднай, сырою парой
Дапякае нудота. З крапіўным насеннем
Аднаборства не выйграе нават герой.

Ён заходзіў таму ў кабінет бургамістра
Насцярожана, быццам ступае на гаць,
Натыкнуўся на позірк чыноўны празрысты
І скумекаў імгненна: «Намерыўся лгаць!»

Бургамістр запеў з мілагучнасцю птушкі,
Што аплаквае шчыра ў маркотным граху
Капітанаву смерць, і пад трэль амялушкі
Расціскаў на каптане пазногцем блыху.

Каятан пaглядаў, як шкадлівы чынуша
Круціць цела сваё на патэльні ўюном,
Як спагеці старанна чапляе на вушы.
(Ён спагеці ў Неапалі еў з Пеpуном).

Каб спыніць неабсяжную абракадабру,
Каятан паглядзеў валаводніку ў твар.
Той збянтэжана кінуўся да кандэлябраў,
Быццам хоча со свечак саскрэбці нагар,

Ды сказаў, што Пярун ад імя ўсёй каманды
Магістрату пазычыў чатыры мяшкі
Серабра для знішчэння любой кантрабанды.
(І адкуль бургамістр паскубваў вяршкі).

Набліжаецца тэрмін звароту пазыкі,
Дык ці нельга… Нядоўга… Напрыклад, на год…
Бо пануе вайна… Ды і доўг невялікі…
Заняпала радзіма… Бядуе народ…

Каятан быў не ў сілах трываць валакіту;
Абмакнуўшы ў густое чарніла пяро,
Як паплечнік Пяруна таму паразіту
Ён да скону вякоў дараваў серабро.

Чынадрал з аднаго пацучынага ўзмаха
Дарагую паперу да скрыні прыбраў,
Паглядзеў на Чабора, нібы расамаха,
І пярсцёнкамі-кіпцямі сытна зайграў:

— Да свайго непазбыўнага гора павінен
Я дадаць вам, што маю адзін дакумент, —
Ён з шурпатай паперы змахнуў павуцінне. —
Пан Пярун год назад напісаў тастамент.

Згодна з ім, пасля смерці на ложку ці ў моры
Ўся маёмасць, што ён зарабіў за жыццё,
Пераходзіць ва ўласнасць да пана Чабора,
Бо Чабор даражэйшы яму за дзіцё.

Пералік дадаецца — як трэба пячаці,
Двое сведкаў, натарыус, гербавы збор:
Трыста моргаў[1] зямлі ў Навагрудскім павяце,
Смалакурня, маёнтак, лістоўнічны бор,

Млын у Слоніме, рыбалавецкія тоні,
Трохі срэбра Царкве — жабракам на карысць,
Прыбытковы валюш, баранта[2] ў Панямонні
І ў дадатак да гэтага дэраш якісь

З табуна знакамітага роду Сапегаў.
Безумоўна, у спісе ёсць «Бэзавы кіт»,
Толькі ж ён, як вядома, па мору адбегаў
Ды навек апусціўся ў глыбозны блакіт.

Пан Чабор, вы рыдаеце? Гэткая страта
Здольна сэрца любое журбой абурыць,
Асабліва, калі толькі што магістрату
Вы надумалі спадчыну ўсю падарыць.

Каятан утаропіўся на бургамістра:
— Гэта дрэнныя жарты, панове, пся крэў! —
І пабачыў у потных руках аферыста
Дакумент, на якім, бы смаркач, пагарэў:

«Я, Чабор Каятан… Без прымусу і блюзны…
Саступаю навекі вякоў серабро…
На карысць магістрата дзяржавы саюзнай…
І таксама любое другое дабро…»

Накаціла шаленства. Што гэта такое!
Ці сурочыў яго пры народжанні Зніч?!
З малалецтва валяцца ў ванітах і гноі,
А цяпер яшчэ гэтакі глякавы лыч!

Але ён не наступіць паўторна на граблі,
Не дазволіць нікому сцягнуць тастамент,
Бо ніхто не знайшоў супраць вострае шаблі
Неаспрэчны ў аснове сваёй аргумент.

За забойствам пайшлі б эшафот, катаванне,
Прадузятыя допыты, дыба, праклён:
«Прызнавайся хутчэй, у якім жа шалмане
Ты радзіму прадаў, акаянны шпіён?»

…Нечакана скразняк, падхапіўшы паперы,
Закруціў, замяцеліў іх снежнай пургой —
Нехта ўпэўненым выспяткам хвоснуў у дзверы
Велізарнай, магутнай, слановай нагой!

XII

Быццам схоплены тымі парывамі ветру,
У пакой дзьмухаўцом заляцеў сакратар:
— Там да вас прарываецца пан польны гетман! —
І схапіўся рукой за скрываўлены твар.

Польны гетман! Бадай што не польны, а поўны —
Паўнамоцны камандуючы на вайне.
Бургамістр збялеў ды змякчэў, як бавоўна:
«Гэты можа павесіць на першай сасне!»

— Ах, пся крэў! — загрымеў бегемотавы лямант.
На стальніцу абрушыўся востры пярнач[3],
Разарваўшы на друзачкі нейкі пергамент:
— Двое сутак чакаю, дзе чортаў тлумач?!

Ты забыў, што за пазухай у Шэрншэльда
Мы эпісталу шведскую раптам знайшлі?
Хто дастаць перакладчыка, чортава шэльма,
Мне яшчэ пазаўчора хацеў з-пад зямлі?

Дзе тлумач, я пытаю, сучынае вымя!
Зараз бубен знясу, канцылярскі карпач!
Бургамістр паціху губамі сваімі
Перасохлымі мовіў: — Напіўся тлумач…

Назіраючы пільна за громам набегу,
Каятан з найвялікім здзіўленнем пазнаў
У раз’юшаным гетмане пана Сапегу.
Безумоўна, чыніць ён умеў трыбунал!

---

[1] Морг — старадаўняя мера плошчы зямлі, прыкладна роўная 0,56 га.
[2] Баранта — атара.
[3] Пярнач — від халоднай зброі, разнавіднасць булавы.

Гетман злёгку скасіўся ў напрамку Чабора
(Дзякуй Богу, не ўспомніў), схапіў са стала
Тастамент і дароўную грамату, скора
Прачытаў і казаў: — Разышлася мятла!

Пра цябе мне даносілі розныя справы,
Быццам ты казнакрад, ненажэрлівы свін,
Але каб учыняць над шляхецтвам расправы!.. —
І закінуў адмову ў гарачы камін.

Хоць і мучылі сэрца даўнейшыя кпіны,
Тым не менш Каятан быў павінен прызнаць,
Што Сапегам валодае розум савіны,
Бо сава можа мудрасцю ўсёй кіраваць.

Так, Сапега — з пароды распусных шаленцаў,
Супярэчыць яму — рызыкоўны дэмарш.
Толькі, каб ён не выкінуў пару каленцаў,
Каятан пакрышыў бы шахрая на фарш!

А таму наш герой адгукнуўся сумленна,
Суцішаючы думак і слоў чахарду:
— Я па-шведску гутарыць умею нядрэнна
І дакладна эпісталу перакладу.

XIII

На вяленевым аркушы тоўстай паперы,
Увянчаным каронамі шведскай зямлі,
Па ўсіх правілах годнай дваранскай манеры
Ў рад гатычныя літары шчыльна ляглі:

«Ваша міласць! Па волі самога манарха
Я пішу, каб казаць, што становішча спраў
З кожным днём паляпшаецца. Гэтая сварка
Надакучыла нават пляткарыстым фраў.

Наша пруская армія ў будучым лютым
Здзейсніць праз Паспаліту імпэтны кідок
І прамою дарогаю выйдзе на Люцэн[4],
Дзе саксонскі курфюрст ад гультайства знямог.

Што датычыцца Вас, то загад непахісны:
Заблакіраваць Данцыг любою цаной.
Дарагоўля ды голад наблізяць да трызны
Гарнізон, каб не трызнілі болей вайной,»

— Гэты сказ закрывае залішняя коска.
«Хутка верф завяршыць будаваць галеон.
Не бывала дагэтуль такога пялёстка
Ў кветцы шведскай дзяржаўнасці, і калі ён

У вялікасным ззянні манаршага гневу
Ўсё Балтыйскае мора ахопіць сабой,
Мы пачуем гудзенне анёльскага спеву,
Быццам сёмы анёл затрубіў над вадой.

І, каб Вы навіны зразумелі значэнне,
Я ў двух словах кароткіх магу расказаць,
Што, дарэчы, ягонае водазмяшчэнне
Перабольшвае «Тыгра» парадкаў на пяць.

А што тычыцца пушачнага аснашчэння,
То ён ядрамі знішчыць любы квартэрдэк[5] —
І «Давіда», і «Ежы» шпурне на калені,
Ды яшчэ раскалоціць і «Ноеў каўчэг».

(Хай даруе мне шчыра сваё зневажанне
Наш нябесны Айцец). Пратрымайцеся год.
А цяпер трэба скончыць, на гора, пасланне.
Нотабэнэ: мой сябар, я з гэтых нагод

Абсалютна забыў імяніны Гунілы,
Слаўнай хрэсніцы Вашай — цудоўнай, як сон.
(Вось як кепска вайна маю памяць змяніла).
Ваш адданы слуга Крыстафер Петэрсон».

XIV

Пан Сапега ў праснак пляскаў грузнае крэсла
Сваім целам мясістым, пярнач церабіў:
У ягоных вачах на імгненне ўваскрэсла,
Нібы ў люстры, выява бацькоўскіх магіл.

[4] Люцэн — горад у Саксоніі.
[5] Квартэрдэк — тое ж, што і шканцы (капітанскі мосцік).

Прамільгнула секунда, калі ён рукамі
Па-дзіцячы разгублена, млява развёў,
Але ўраз натапырыўся злымі рагамі
І нагамі затупаў, што ўзрушаны вол.

— Марш на Люцэн, нягоднікі? Будзе вам Люцэн!
У крывавыя друзачкі вас раскрышу!
Вашы лбы аб харугвы мае разаб'юцца!
Дай ім, божачка, пранцы, чуму ды паршу!

Толькі што ж мне рабіць з гэтым новым фрэгатам,
Галеонам, карветам, ці як там яго?..
Калі пушак на ім і напраўду багата,
Спадзяванне адно — на ўсялякіх багоў.

Арэнд Дыкман сканаў дзеля велічы трона,
Пераемнікаў хоць абшукайся з агнём,
Бо такім саматопам[6] замест галеона
Кіраваць толькі брудным цабэркам з лайном!

Каятан не хацеў дачакацца фіналу
Буйваліных эмоцый, схапіў тастамент
І па сценцы, пакрышачку, мала-памалу
Адступіў, але гетман зрабіў камплімент:

— Бачу я, пан Чабор — чалавек даравіты.
Даспадобы прыйшоўся мне твой пераклад.
Далучайся ж адразу да гетманскай світы!..
Каятан абамлеў ад такіх эскапад.

Як давесці Сапегу, што вольнаму воля,
Што да службы казённай душа не ляжыць?
Ён адзіным кіўком у шалёнае поле
Тую волю ўзарэ так, што потым не жыць.

Польны гетман заўважыў спалох Каятана
І, як вопытны вершнік, стрымаў скакуна.
(Калі штурмам не ўзяць супраціўнага стана,
Дык руплівай аблогі не здужыць сцяна).

Пан Сапега вачамі паводзіў удала,
Каятана паціху абняў за плячо...
Інтэлектам ягоным цяпер кіравала
Не сава, а, бадай, тры мільёны сычоў.

Ды Чабор гэтаксама не пальцамі пханы,
Як кашанка з пароды вясковых кілбас.
Субяседнікі, тоячы ў думках падманы,
Павялі тэт-а-тэт куртуазны сюрпляс.

Так адзін гаварыў, а другі ў думках гушкаў,
Разумеючы сутнасць намераў двайных.
Каятанавы думкі заключаны ў дужкі,
А сапегавы фразы ў двукоссях адных.

«Пан Чабор, дарагі! Пагаджайся сумленна,
Бо няма для шляхецтва пачэсней турбот,
Чым…» (Служыць у магната рахманым паленам
І лавіць кухталі, заціскаючы рот).

«Ты ж, вядома, нашчадак славутага роду.
Аддалі твае продкі радзіме жыццё»!
(Для балванаў найлепшы, правераны сродак —
Фіміямам наогул забіць пачуццё).

«Мы з табой параднімся, як гэтая бойка
Будзе скончана ўся на карысць караля».
(Нешта ты салаўём разліваешся бойка.
Трэба бегчы хутчэй ад цябе, круцяля).

Але каб Каятан прасякнуў нейкім чынам
У таемныя думкі Сапегі, тады
Зразумеў бы сапраўдную першапрычыну,
Ад якой гетман выў, як ад лютай бяды.

Называлася тая прычына Даротай.
Быў Дароце ўжо трыццаць чацвёрты гадок.
У вачах жаніхоў нават зашмарга з дроту
Выглядала прывабней, чым гэты бульдог.

Што Дарота аблічча мурлатае мела,
То не дзіўна — бывае такое ў сям'і,
Ды аб нораве дзеўкі гавэнда грымела,
Як гарланіць дыякан падчас літыі.

Перажыўшы яе тэмперамент asліны,
Нават глуханямы скавытаў: «Каравул!» —
І размазваў па шчоках зялёныя сліны
Ад палаючай зайздрасці сам Вельзевул.

[6] Саматоп — зневажальная мянушка дрэннага марака.

Пан Сапега зазнаў, як вялікае гора,
Што настаў судны дзень, і, сарваўшы пячаць,
Скокнуў звер сяміпашчы з сярэдзіны мора,
Каб, зжаваўшы бацькоў, з асалодай бурчаць.

О, з якім пачуццём, у якую ахвоту
Ён накінуў бы моцна ад чыстай душы
На лілейную шыйку Дароты гароту[7]
І душыў бы,
        душыў бы,
                душыў бы,
                        душыў…

Каятан яму быў неабходны, паколькі
Жаніхоў ён адшукваў у кожным кутку:
Хоць ліцвінскі прыдурак, хоць ёлупень польскі,
Абы толькі надзейней прыладзіць дачку!

XV

Ледзьве-ледзьве Чабор з палымяных абдымкаў
Праслізнуў на свабоду і даў драпака.
Над Алівай туман кучаравіўся дымна,
Сонца ў хмарах шарэла накшталт маяка.

Набягалі баранчыкі, цешачы ўзмор'е.
Адзінока хадзіў Каятан па пяску,
Аглядаючы бераг з маркотай і зморай,
Ды павесіцца марыў на першым суку.

Пан Сапега раз'ятрыў ягоныя нервы,
Дакрануўшыся да развярэджаных струн:
Калі новае судна паўстане з рэзерву,
То, выходзіць, дарэмна загінуў Пярун?

Што рабіць? Як суцішыць жаданне спачынку?
Як сябе не лічыць апусцелым да дна?
Адказала душа, што з усякага ўчынку
Ядавітай слязою заплача яна.

Прыхаджан запрашалі званы да малітвы.
Неўзабаве прамень мільгануў праз пясок —
Адзінокім асколкам заўчорашняй бітвы
На зямлі зіхацеў металічны кусок.

І да гэтага дару нямога прадоння
Працягнуў Каятан аж абедзве рукі —
Перад ім у бяссіллі ўздымалі далоні
Алавяныя літары: «Бэзавы кіт»!

Быццам голас Пяруна з імглы ліхалеццяў
Раздзіраў яго смутак, нібы хвалялом,
І з душы Каятана рвануўся суквеццем
Да халоднага неба празрысты псалом:

*— Гасподзь, у літасці сваёй*
*Памілуй грэх майго праступку.*
*Не вылі над маёй раллёй*
*Пякучы яд у медным[8] кубку,*
*Гасподзь, у літасці сваёй.*

*Даруй мне шчыра за сумнеў,*
*За прагавітыя хаценні,*
*Даруй за легкадумны гнеў,*
*Змахні з ілба начныя цені.*
*Даруй мне шчыра за сумнеў.*

*Ты не пакінь мяне, Гасподзь,*
*Калі натруджаныя грудзі*
*Шалёна спакушае плоць,*
*Бо я жыву ў Табе, што ў цудзе!*
*Ты не пакінь мяне, Гасподзь!*

*Ты мне лагодна падкажы,*
*Як абмінуць марскія рыфы,*
*Дзе ў вечнай жудасці імжы*
*З'ядаюць нашы сэрцы грыфы.*
*Ты мне лагодна падкажы,*

[7] Гарота — іспанская прылада для смяротнай кары; вераўчаная зашмарга з палкай для задушэння.
[8] У медным посудзе напоі імгненна набываюць горкі смак.

*Каб не згубіў ніколі я*
*Тваёй прасветленай любові,*
*Якой цураецца змяя;*
*Далоні цёплай ва ўзгалоўі*
*Каб не згубіў ніколі я.*

*І на зыходзе дзён маіх,*
*У могілкавым пераддзвер'і,*
*Пусці да ісцін залатых,*
*Суціш халоднае нявер'е*
*Ты на зыходзе дзён маіх.*

XVI

Праз два тыдні, у золкай сярэдзіне снежня,
За паўтысячы міль ад алівавых вод,
Да гранітнага пірса наўсцяж набярэжнай
Швартаваўся абшарпаны лоцманскі бот.

У змяркане сплываў краявід навакольны,
Жаўтакрыжы штандар навісаў, як султан, —
На чужы непрыяцельскі бераг Сцякольны
Беспрытульным бадзягам сышоў Каятан.

Марыў ён аб карчме, дзе тапчан і гарэлка
Шчыра стрэнуць яго, быццам родны айцец,
Але ўпарта вяла паказальная стрэлка
З кожнай ростані на каралеўскі дварэц.

О, сталіца напышлівай супердзяржавы,
Колькі славы ў злачынствах змагла ты здабыць,
Каб да скону вякоў паказальнік іржавы
Не даваў ні на момант пра гэта забыць!

На рыбацкіх баркасах праз Готланд і Эзель[9]
Да Сцякольны дабраўся Чабор, як шпіён,
Паміж Сцылай агню і Харыбдай жалеза,
Каб убачыць, як хутка расце галеон.

У яго не было ніякага плана,
І бясконца кружыў між дамоў Каятан,
Клапатліва мілуючы твар капітана,
Па раёне вяльможных сяліб Гамластан.

За стамлёныя ногі чапляліся ўхабы,
Але раптам ён выйшаў на велічны пляц,
Дзе гурбою кішэлі карэты і драбы
Ля каваных варот у багаты палац.

— Што за свята? — спытаў ён у фурмана драбаў,
Які скрэб пяцярнёю экзэмавы плех
Так, што перхаць завеяй ляцела не слаба. —
Хіба пост на Каляды для свецкіх пацех?

— Дзе там, пан, — адгукнуўся пляшывы рамізнік, —
То не свята, то проста жалобны абед.
— А што служыць падставаю жаласнай трызне?
— Гэта дом знакамітай сям'і Шэрншэльд.

Начапіўшы на твар маску ханжаскай скрухі,
Як жабрак дзеля міласці вешае горб,
Каятан падышоў да варот. Аблавухі,
Рабаціністы брамнік глядзеў на яго.

— Далажы гаспадыні, што мне з адміралам
Праслужыць два гады даў падзяку Гасподзь.
Мы заўсёды на бітву з адкрытым забралам
Запрагаліся ўдвух, нібы коні ў аброць.

Ён сканаў пасля бою ў заліве Аліва,
Не стрываўшы дачасную смерць карабля,
І душой да апошняга ўздыху рупліва
Апяваў дасягненні свайго караля.

Па сігнале швейцара наблізіўся лёкай,
Разышоўся шырока ўваходны праём,
У якім кожны бачыўся мышшу-палёўкай…
З урачыстасцю госць быў запрошаны ў дом.

XVII

Як апісваць прыстойна кагал куртуазны,
Што навокал стала пазбіраўся ў хаўрус,
Каб не пасці да ўзроўню цынічнага блазна?
Хіба толькі ўявіць самабраны абрус?

[9] Готланд, Эзель — выспы ў Балтыйскім моры.

Бо пры позірку на апетытныя стравы,
На прасціны абляпаных тлушчам сурвэт
Кожны выпукла бачыў знясілены, млявы,
Змардаваны вышэйшы сцякольненскі свет.

На ўспамін адмірала тут сумна жавалі
Шпігаваны цыбуляй ягнячы сцягняк
І да слёз у вачах страту пераЖывалі
Пад прывезены з Францыі модны каньяк.

У раздраі размоў напіваліся людзі,
Залівалася ў страўнікі ячнае бро[10].
Гарадскі галава грыз ці сківіцу дзюдзі,
Ці галёнку лася, ці аленя рабро.

Лютаранскага пастара ў гэтай гасцінай
Каятан распазнаў не па рызе. Наўпрост
Той святар напакоўваў жывот ласасінай,
Каб не ганьбіць абжорствам малітвены пост.

Сын нябожчыка, швагры, пляменнікі, сёстры,
Ігнаруючы правілы добрых манер,
Прымячалі пранікліва позіркам вострым,
Хто што выпіў і колькі нахрапіста зжэр.

Але трэба спыніць абгаворы часова,
Бо каму да патрэб авантурны раман,
Калі ён без кахання, без страсці і змовы?
І такое каханне адчуў Каятан…

У кутку ля гарачай пячоры каміна
Неяк сціпла глядзела на люты агонь
Задуменная, нібы світанак, дзяўчына,
Паціраючы пальцам ружовую скронь.

Цёмна-карыя зрэнкі адцення карыцы
З непрагляднай загадкай трапічных начэй…
І хацелася мяккім клубочкам скруціцца
Пад даглядам арэхавых цёплых вачэй.

Каятана любоўным віном ап’яніла,
Ды настоем атруцілі сэрцаваўчкі[11].
Значыць, вось ты якая, паненка Гуніла —
Кампаньёнка худой адміральскай дачкі!

Праваднік чалядзін тры разы аб падлогу
Мерна грукнуў сваім мажардомскім жазлом.
Гарадскі галава, як мядзведзь у бярлогу,
Закаціўся за крэсла і спаў пад сталом.

— Пан Чальборг Гаэтан, бамбардзір галеона
Адміральскага. Здолеў дамоў уцячы
Пасля бою ў заліве Аліва з палону,
Карабельную шлюпку забраўшы ўначы!

Падхапілася радаснай зграяй суполка:
— Што ды хто? Як загінуў? Не мучыўся ён?..
Так буяніць у рыначны дзень барахолка,
Ці лавіна сыходзіць у горны каньён.

Дзякуй богу, Чабор увабраў паўнакроўна
Разнастайныя веды марскіх дысцыплін,
Што яму дадаваў, нібы вільгаць у воўну,
Абаронца флатоў Мікалай Талентын[12].

І таму бамбардзір, разумеючы справу,
Распавёў пра жахлівы рашаючы бой,
Як над целам героя чыніла расправу
Жыгімонтава раць звар’яцелай гурбой,

Як барвяная кроў, што пялёсткі півоні,
Засцілала пясчаны алівавы пляж,
Як на шлюпцы струхлелай ён бег ад пагоні,
Як насілу вяслом адбіваў абардаж...

Ёсць, на шчасце, у люду такая ўласцівасць:
Чым гусцей у аповедзе брыдкіх драбніц,
Чым жахлівей любая драпежная хцівасць,
Тым ахвотней і вера да ўсіх небыліц.

[10] Бро *(старажыт.)* — піва.
[11] У старажытнасці лічылася, што настой ваўчкоў з’яўляецца моцнадзейным нагаворным зеллем.
[12] Мікалай Талентынскі — заступнік маракоў у каталіцкай і пратэстанцкай цэрквах.

Стойка помнячы цвёрдае правіла гэта,
Каятан са слязамі закончыў расказ,
Абвясціўшы, што зараз ягоная мэта —
Ваяваць і далей на карысць родных ваз.

Трэба тут зразумець: Каятану занадта
Шанцавала, калі ён абдурваў банкет,
Бо навокал яго абступалі андатры
Прэснаводныя, што папіралі паркет.

Для іх мора было не жыццё, а легенда;
Баявыя ліхтугі — страшэнней за нож.
Як вялікасны жах падавала гавэнда,
Што падчас яны могуць хадзіць басанож!

Каятана аблашчылі, пер'е здзімалі,
Панавальвалі ў блюда нябачаных страў
Так, што ён ледзь не трэснуў ад ежы амаль і
Пад зямлю быў гатовы схавацца, як страус.

Госці лезлі напіцца з адважным героем —
Гэта ж выпадак, каб налізацца ў трубу!
Нават жонкі прапойцаў змянілі настроі,
Але ўсё ж на мужоў закусілі губу.

А калі Каятан нахлябтаўся, як вожык,
То яго акуратна звалок чалядзін
У гасцёўную спальню на царственны ложак,
Пад кішачы клапамі сыры балдахін.

Бо ніхто з ганарлівай узброенай дрэні
Не спяшаўся пайсці за радзіму на фронт —
Абы грошы надзейна ляжалі ў кішэні,
І пляваць са званіцы, як там Жыгімонт.

Тры разы Каятан падбіраўся да верфі,
Каб патрапіць туды, дзе будуецца звер,
Толькі ўраз вартавыя, бы дзікія вепры,
Выкарчоўвалі пільна ягоны намер.

Ад няўдач ён гатовы быў кінуць задуму,
Уцячы назаўсёды за Дзіўну і Бельт[13],
Але ўпарта варочаўся, цягнучы гуму,
У знявідны палац да паноў Шэрншэльд.

Пачуццём навальнічным трывога штарміла!
Мусіць, ён бы не вытрымаў гэтых нягод,
Ды ў вітальні яго сустракала Гуніла,
Акунаючы ў сэрца каштанавы мёд.

Шэрншэльдам прадставіць сабе ўвачавідкі,
У гарачкавым трызненні, д'ябальскім сне
Немагчыма было, што любоўным напіткам
Абап'ецца Гуніла, патоне ў віне;

Што прыблудны шляхцюк набярэцца нахрапа,
Наляціць на дзяўчо, як завейны мусон,
Замяцеліць, закружыць ды возьме ў ахапак
Тую, кім быў прываблены сам Петэрсон!

XVIII

Кожны дзень Каятан на завулках Сцякольны
Прыглядаўся да звычаяў розных слаёў,
Бачыў свету вышэйшага нораў фрывольны
Ды галоту, зняважаную да краёў.

Горад лопаўся ўшчэнт ад засілля драгунаў,
Ад жаўнераў, што лічацца соллю зямлі,
І ўсплывалі на памяці словы Пяруна
Пра «калі, нібы блохі, свярбяць каралі…»

XIX

Без аглядкі на іншых яны вечарыны
Прабаўлялі ва ўтульнай паўцемры штодзень.
Пурпуровыя іскры, як гронкі рабіны,
Пунсавелі ў каміне, ганяючы цень.

Срэбным прыскам агонь вышываў аскабалкі
Ды без стомы з'ядаў назаўсёды шытво,
І разломлівала дзве душы на кавалкі
Пачуццё, што чакала абата Прэво.

[13] Дзіўна, Бельт — пралівы ў Балтыйскім моры паміж Польшчай і Швецыяй.

Пад гарачымі хвалямі з пашчы каміна
Бліскацеў таямніча шаўковы паплін
На сукенцы Гунілы. Чабор салаўіна
Шчабятаў, распускаючы хвост, як паўлін:

Пад мячом ваўкалак па-шчанячаму енчыў,
Дзікуны Каятана ўключалі ў меню —
У вясёлых вачах жартаўлівы агеньчык
Яшчэ болей балбеса натхняў на брахню.

Іншым часам здавалася, што ідэала
Найвышэй за Гунілу Гасподзь не стварыў,
Толькі да ідэала ўсё ж не дамаўчала,
Бо раптоўна ў сяродку з'явіўся парыў:

Ёй даўно і самой не цярпелася з кімсьці
Падзяліцца сакрэтам, што рваўся знутры,
І даверліва лёталі тонкія кісці,
Прыварожваючы Каятана ў сябры

Да другога прышэсця, пагібелі, скону,
Надмагільных расстаняў, удовіных слёз…
Нарадзілася панна ў правінцыі Сконэ[14],
Дзе датчане са шведамі зведвалі лёс.

Там сярод сакавітай, смарагдавай руні
Ў ручаях серабрыцца пад сонцам фарэль,
Валуны берагуць старажытныя руны,
Прарастаючы гномамі з нетраў зямель,

Шапаціць кучарамі на ўзлессях ляшчына,
Парафіян склікае вясковы прыход.
У сям'і святара падрастала дзяўчына —
Мела пяць немаўляцкіх калыскавых год,

Як любое дзіця, не ўяляючы смерці…
Каятан задуменна лахмаціў віхры:
«…Дзе з пачварамі танчаць ікластыя чэрці,
Безупынна будуюць плаціны бабры,

Расцякаецца думкай па дрэве вавёрка,
Прабівае прасеку скрозь зараснік тур…»
Але раптам Гуніла заплакала горка
І, хаваючы твар, прыспусціла каптур.

XX

Днём, калі памінаецца дзева Райнэльда[15],
Выпускаючы вострыя смурод чарамшы,
На сялібу нахлынуў атрад Шэрншэльда,
Роўна як нападаюць на тлю мурашы,

Каб адпомсціць мячом каралю Крысціяну[16],
Які Швецыю туркаў у грыву і ў хвост.
На распяцці тужыў па ўсяму хрысціянству
Перакрэслены жэрдкамі крыжа Хрыстос.

Утыкалі ў людзей гарпуновыя дзіды,
Процьмай смерцяў мятла замятала сляды,
І на зубчастых лёзах ізноў ад агіды
Ў захаваннях зарослых каналі дзяды.

Уцякала Гуніла ад чорнай навалы.
Заплятаtotal ногі ў сукенцы льняной,
Каб дабегчы хутчэй да царквы заняпалай
Ды ахову знайсці за алтарнай сцяной.

Там, пад жудасным вокам біблейскіх прарокаў,
Што і самі калолі ў свой час да крыві,
Запускалі чырвонага пеўня далёка
На прастор Ханаана ды Аравіі,

Яна літасці і прабачэння прасіла,
Бо запэўнена ўсёю душою была,
Што вайна пачалася таму, што Гуніла
Марцыпанку сцягнула тайком са стала.

На малітвы яе не адказвалі лікі:
Ні Адам, ні Францыск[17], ні святы Эрменгельд[18]…
Увайшоў у бабінец з эстокам[19] вялікім,
Як з жазлом Сатаны, адмірал Шэрншэльд.

[14] Сконэ — паўднёвашведская правінцыя, якая была яблыкам разладу паміж дзвюма краінамі; у апісаны час належала Даніі.
[15] Святая Райнэльда (630—700) — агульнахрысціянская абаронца бязвінна забітых дзяцей; яе дзень святкуецца 16 ліпеня.
[16] Крысціян — кароль Даніі Крысціян IV.
[17] Маецца на ўвазе святы Францыск Асізскі.
[18] Святы Эрменгельд Іспанскі — агульнахрысціянскі святы; абаронца ад бед, якія прыходзяць з мора.
[19] Эсток (фр.) — двухручны рыцарскі меч.

Парасцягваў ва ўсмешцы акулавы губы,
Адлажыў на ахвярнік двухручны эсток
І дастаў з-за папругі кінжал шаблязубы,
Прыцягальны, нібыта любісты лісток.

Запляталася туга вузламі жывая
Зледзянелая кроў у хрыстовай царкве,
Але раптам Гуніла дачкой Іефая[20]
Ў душагуба павіснула на рукаве.

Нечакана пачулі маленне святыя,
Што зляцеліся ў рай, быццам мухі на мёд, —
Павыпорвала розгамі дзева Марыя
Ўвесь глухі маляўнічы евангельскі зброд.

Нешта жаласна хруснула ў цёмным бяздонні
Адміральскай душы. Мабыць, ён прыгадаў,
Як дачку павітуха з цяжарнага ўлоння
Даставала, нібы з шалупайкі міндал,

Як шчыпцы накладныя цягнулі патроху
З непадатных вантробаў на свет немаўля…
Шэрншэльд засмяяўся, Гуніле парохкаў
І панёс на руках да свайго карабля.

Сірату гадавалі нароўні з дачкою:
Вышыванне, латынь, менуэт, клавесін…
Адзінаццаць гадоў яна сніла пра тое,
Што айчым абвісае на суччах асін.

А калі балахоны з бавоўнавай бязі
Ёй па ўзросце змянілі на шоўк і вісон,
На яе наляцеў, бы турэмшчык на вязня,
Фаварыт караля Крыстафер Петэрсон.

Зашушукаліся па гасціных пляткаркі,
Быццам хутка бакі дапасуюць пасаг.
(А дакладней, тарыф палюбоўніцы царскі,
Што Арда на Русі называла «ясак[21]»).

Каятан адчуваў пах мядовай ванілі
Ад валосся, святлейшага ледзь за ваніль.
Прыадкрыўся наўстрэч рот прывабны Гунілін,
Ірдзяны, як каралавая кашаніль.

Перарывісты шэпт даляцеў закахана:
— Мне вядома, што крыўднік для вас адмірал…
Скаланула спалохам пад дых Каятана.
Ён прамямліў нясмела: — Я з ім ваяваў.

— Не… Не трэба маніць… Нелюбоў ледзяную ж
Да яго ты не ў сілах схаваць у мане…
Не цалуй жа мяне… Ты чаму не цалуеш?..
Пацалуй жа мяне… Не цалуй жа мяне…

Толькі ведаю, што, як варкот ля смятаны,
Побач з верф'ю вандруеш у смутнай тузе…
Пацалуй жа мяне… Не цалуй, мой каханы…
Я табе памагу… Пацалуй… Па чарзе…

Паслязаўтра ў Сцякольне калядныя балі
Распачнуцца… І мы задаём маскарад…
Не цалуй жа мяне… Я на тым карнавале... —
Мармытала бязглузда яна неўпапад.

Каятан цалаваў ад грабенца да ручак
І ад рук да грабенца ізноў цалаваў,
Не ўнікаючы, што ён — нікчэмны лазутчык,
Бо з сабою ў бяздонне Гунілу звяргаў.

*(працяг будзе)*

[20] Маецца на ўвазе старазапаветная легенда пра палкаводца і дзявятага суддзю ізраільскага Іефая (Суд.; 11:30 — 11:39). Іефай прысягнуў Богу, што, калі пераможа аманіцян, то ахвяруе першага, хто выйдзе яму насустрач з яго дома. Першай, хто сустрэў яго, была любая дачка.
[21] Слова «ясак» тут ужыта ў першапачатковым сэнсе — выкуп за жывую душу.

Маргарыта Латышкевіч



**нарадзілася 19 студзеня 1989 годзе ў Брэсце. Жыве і працуе ў Мінску. Сферычны філолаг у вакууме, памножаны на фалькларыста. Чытаць любіць з маленства, кніжкі праглынае і мінімум раз на месяц здзяйсняе набег на любімую букіністычную краму.**
**Піша шмат — і ў розных кірунках. Літаратар-многастаночнік. Больш, чым пісаць, любіць толькі маляваць. Апрача таго, мае неадольную слабасць да катоў і котак, добрых кніг ды гарбаты з бергамотам.**

## Вершнікі на дарозе

Словы — рэч ненадзейная. Здрадлівая. Імёны тыя ж, скажам. Вось для прыкладу, называюць мяне — Косткасей. Рассяваю, значыцца, косткі на ратным полі. Злавіць бы аднаго з тых, што ўкладаюць песні на кожны стук-грук, дакладней, таго калматага вечна п'янага гарлапана, які першым гэта прыдумаў, то яму гэтыя самыя косткі як след пералічыў бы.

Зрэшты, усё можна выкарыстаць на сваю карысць. Імя — таксама, нават калі не дужа падабаецца. Княжыя майстры калісь выкавалі мне неблагі чэрнены панцыр, на якім срэбрам выведзены малюнак — хрыбет ды рэбры. І забрала ў шалома адмысловае — быццам чэрап. У чалавечых сыноў зазвычай пачынаюць падступна дрыжаць каленкі яшчэ да таго, як нябогам даводзіцца скрыжаваць са мною меч.

Гэты не дрыжаў.

Зялёны саплівец, у якога і барада яшчэ не пачынала расці, змрочна глядзеў на мяне спадылба. Зброю — кароткі меч і драўляны шчыт — у руках трымаў няўпэўнена, быццам не звык да яе. Багаты плашч, падбіты лісіным футрам, і раззалочаная смешная кальчужка, і самавіты пояс, упрыгожаны самацветамі, ды нават самая манера капрызліва падціскаць па-дзявочы пульхныя вусны — усё выдавала ў ім разбэшчанага дзіцёнка багатага валадара людзей. Праўда, герб, груба намаляваны на шчыце, — нацягнуты лук і тры стралы — мне ні пра што не сказаў, але я ніколі не цікавіўся чалавечай геральдыкай.

Пад ветрам павольна гайдаліся духмяныя хвалі верасоў — белыя, ліловыя і амаль чорныя. Салодкі мядовы водар ленавата плыў над выгнутымі спінамі курганоў, над нагрэтымі за дзень стаячымі камянямі з выбітымі ў іх закляццямі. Белыя пышна ўзбітыя аблокі патроху наліваліся золатам і барвай: сонца паступова скочвалася за змрочныя вяршаліны спрадвечнай Пушчы, якія адсюль падаваліся цёмным грабеньчыкам на даляглядзе.



Дзень быў спякотны, таму трохі ленаваты і сонны, таму цягнуўся доўга, як кроплі смалы па лусцэ кары. Я прысеў адпачыць, прысланіўшыся спінаю да аднаго з зачараваных камянёў, і глядзеў, як над стужкаю дарогі, над ракою і бярозавым гаем, кранутым восеньскай пазалотай, кружыць самотны крумкач. Калматы Стаўры прылёг побач, вываліўшы ружовы язык і паўпрыкрыўшы залатыя вочы. Я павольна перабіраў шэрую поўсць на ягонай спіне, пакуль Стаўры не падхапіўся, з трывогаю ўтаропіўшыся ў кропку на дарозе. Кропка хутка расла і стала вершнікам на белым кані.

Я колькі хвілін спадзяваўся, што яму хопіць розуму павярнуць да бяроз або да ракі. Чалавечыя сыны ведаюць, што Курганова Поле, ды ваколіца, ды Пушча — адвечна наша зямля, і нават падчас войнаў не сунуцца сюды. Цяпер быў дрыготкі няўстойлівы мір, калі мясцовыя валадары ў большасці распаўзліся па сваіх кутах і залізвалі раны.

Але ён не павярнуў.

Хлопчык не мог не ведаць, куды прыйшоў. Мы заўжды папярэджваем. Ставім ахоўныя знакі. Паабапал гэтай сцежкі ў густую траву ўторкнутыя два пачарнелыя ад часу кап'і з конскімі чарапамі на іх — пазнакі мяжы, уваходу ў наш край.

Так, ён выдатна ведаў, куды ішоў. Гэта было відавочна нават па тым, як ён спешыўся, як пайшоў, трымаючы руку на дзяржальне мяча. Заўважыць мяне ён не мог: кожны камень тут спавіты моцнымі старажытнымі чарамі, якія, калі патрэбна, надзейна хаваюць ад смяротных вачэй.

Я нетаропка выпрастаўся. Стаўры глуха забурчаў, ашчэрыўшы вострыя белыя іклы, і хлопчык, пачуўшы звярыны рык, на імгненне прыпыніўся, пракаўтнуў камяк у горле. Але рушыў наперад, аслізваючыся і блытаючыся ў густых і высокіх травах. Тут, каля зачараваных камянёў, усё працістаяла яму: і зблытаныя травы, і зямля, што зрабілася слізкай ды гразкай, і нават паветра, што заўважна згусцілася над ім. Ён задыхаўся, выбіваўся з сіл, абліваўся потам, раз-пораз спатыкаўся, рызыкуючы паваліцца, але, сцяўшы зубы, упарта працягваў ісці. І гэтаксама ўпарта не заўважаў, што безнадзейна застаецца на месцы, не пасоўваецца наперад ані на крок. А можа, чары і тут адводзілі яму вочы.

— Стой, чалавечы сын, — сказаў я, спускаючыся трохі ніжэй па схіле кургана. Хлопчык застыў, крута павярнуўся на мой голас — і нарэшце пабачыў. Змрочна звёў светлыя бровы і сціснуў дзяржальна так моцна, што ажно пабялелі пальцы.

Пахла ад яго так, як звычайна пахне ад людзей. Хлебам, потам, дарожным пылам. Ад тых, што бачаць мяне збройным ды конным, яшчэ зазвычай паскудна нясе жахам.

Гэты таксама баяўся — і заганяў сваю боязь глыбока, намагаючыся аніяк не паказваць. Баяўся нават і не мяне, бо мой шалом-чэрап я, адпачываючы, зняў і пакінуў каля руннага каменя. Ён баяўся самога гэтага месца. Чуў, вядома, тое, што шэптам пераказваюць каля іхніх ачагоў з зыркім агнём.

Абрыўкі гэтых баек даводзілася чуць і мне, калі па княжым загадзе бываў між людзей. Маўляў, тут жывуць пачвары, што насылаюць хваробы і неўраджаі, крадуць немаўлят і падмяняюць чалавечых дзяцей сваімі агіднымі выпладкамі. А яшчэ мы нібыта хапаем падарожных на скрыжаваннях ды пераправах, калі тыя з'явяцца там у ліхую гадзіну, і забіваем, і п'ём кроў з ненастылых целаў.

Усе гэтыя показкі робяцца дужа зручнымі, калі той ці іншы князёк чарговы раз вырашыць адбіць у нас нашыя ўладанні. Чалавечыя сыны кідаюць ачагі і ідуць на нас з сваім зыркім агнём і халодным жалезам. Мы адбіваемся — і яны адходзяць, адступаюць, забываюць, каб пасля вярнуцца, нібы тыя хвалі. Нас, праўда, з часам становіцца ўсё меней, а людзей большае: чалавечыя жанчыны болей плодныя, а чалавечыя дзеці выспяваюць хутчэй за нашых. І нам міжволі даводзіцца саступаць месца, сыходзіць прэч ад іх палёў і сялiб, далей ад халоднага металу, які цягне з нас жыццё.

У гэтага ў похвах пагрозліва пяе і патыхае на мяне лёдзістым холадам адкаванае рукамі людзей жалеза. І праз гэта ныюць старыя шнары — згадкі пра чужыя косткі, пасеяныя ў ненажэрных войнах за многія-многія гады.

— Хто… хто ты? — выгукнуў хлопчык. Голас яго падвёў, збіўся ледзь не на віскат, і ён пакутліва пачырванеў.

— Я — на сваёй зямлі, чалавечы сын, — адказаў я. — Найперш назавіся сам.

Вусны ў яго здрыгануліся. Хлопчык зноў паглядзеў на ашчэранага Стаўры, пасля перавёў позірк на мае похвы. Ацэньваў небяспеку.

— Іван, — адказаў нарэшце, пасля досыць працяглага вагання. — Іван Падвей з Кудравіц.

— І нашто ты прыйшоў сюды, Іван Падвей? Ты ж ведаеш, куды прыйшоў?

Ён неяк няўцямна хітнуў галавою — ці то пагаджаўся, ці то не. Відаць, не надта быў упэўнены. Наморшчыў лоб, узлахмаціў светлыя валасы, адпушчаныя да плеч.

— Паслухай, вой, — сказаў, не гледзячы мне ў вочы. — Я… я быў на паляванні. І згубіў дарогу. І сам не ведаю, як…

— Хлусіш, — азваўся я з прахалодаю ў голасе. Стаўры непрыязна гыркнуў, так што Падвей пабялеў, але хутка ўзяў сябе ў рукі. Зразумеў, што пераканаць мяне не атрымаецца, — і раз'юшыўся.

— А ты… ты сам хто такі, каб мяне на хлусні лавіць? — зараз ён задрыжаў, але не ад жаху, а ад гневу. — Даю слова гонару…

— Кашч Меднабароды, — назваўся я без асаблівай ахвоты. — Косткасей. А зараз я спытаю апошні раз, чалавечы сын. Нашто ты прыйшоў?

Твар у яго выцягнуўся. У бледна-блакітных вачах нават — о дзіва! — мільгануў цень думкі — напружанай, непаваротлівай, цяжкай, і разгадаць гэтую думку было проста. Нават калі адкінуць убок усе бязглуздыя байкі, што абкружаюць маю мянушку, я на дзве галавы вышэйшы і шырэйшы за яго ў плячах. Сталы і больш вопытны ў бойцы. І даспех мой — не кволая праца чалавечых рук, і зброя апетая чарамі.

Ён нават з сумневам азірнуўся туды, дзе спакойна пасвіўся ягоны конь, аднак уцякаць не стаў, адно ўпарта падціснуў вусны.

Бач ты, які герой.

— Паслухай, вой… Кашч, — зноў пачаў Падвей. — Вось што. Я скажу табе ўсё, як ёсць, а ты сам вырашай, што са мной рабіць.

Ён сапраўды расказаў — хаваючы пагляд і раз-пораз наліваючыся сарамлівай чырванню. На паляванні Падвей і праўда быў, але, праблукаўшы ў зарасніку каля возера ледзь не ўвесь дзень, так нічога і не здабыў. Выйшаў да вады — умыцца. А там…

— Там — яна.

Дзяўчына, значыцца. Уся ў сярэбраным ззянні, гнуткая, ладная, белатварая, з даўжэзнымі залатымі валасамі. Сядзела сабе на беразе, часала грабеньчыкам мокрыя пасмы і спявала. Ах, як спявала.

Калі гэты смешны хлопчык пачаў расказваць пра незабыўныя ды чароўныя спевы каля возера, я толькі чмыхнуў. Чалавечыя сыны могуць колькі заўгодна ваяваць з намі, называць нас пачварамі і пужаць намі сваіх дзяцей, але яны ніколі нічога не мелі супраць нашых голых баб.

— Я хацеў, — Падвей зноў зачырванеўся. — Хацеў… падысці бліжэй. Нічога такога. Проста каб загаварыць. А яна, мусіць, пачула. І хутка так…

— Збегла? Уплыла?

Хлопчык пакруціў носам.

— Перакінулася лебедзем, — адказаў ціха. — Проста… пачала падаць, і быццам замглілася, і раптам абрасла пер'ем, і так усё імкліва…

Я прысвіснуў ад нечаканасці, бо вось гэта было ўжо кепска. Вельмі кепска. І нават небяспечна для гэтага ўпартага ёлупня. Таму што я ведаю толькі адну залатавалосую аматарку паспяваць пасля купання, якая ўмее перакідвацца ў лебедзя.

Думаю, сама яна не магла не заўважыць чалавека ў хмызняку. Верагодней за ўсё, нават першай яго заўважыла і таму пачала спяваць, прываарожваючы, купаючыся ў паўдзіцячым захапленні. Якая ж жанчына не любіць, калі ёю захапляюцца.

Хай сабе якая іншая панна з нашых. Але тая, пра якую з такім захапленнем гаварыў гэты хлопчык, то дачка нашага князя, князёўна Мара, Марэна. Залатая каса ў маю руку таўшчынёй, пяшчотны белы тварык з вострым падбароддзем і ўпартым носікам, зацененыя густымі вейкамі вочы — зялёныя, быццам Пушча. Што гэтаму маладзенькаму дурню яна спадабалася, ды яшчэ пасля ўплеценых у песню чараў, цалкам вытлумачальна і нават натуральна.

Іншая справа, што наша князёўна ў гэтым сапліўцы знайшла.

— Яна сюды паляцела, — Падвей абвёў рукою курганы. — І я… за ёю, значыцца. Вось.

Ён нецярпліва пераступіў з нагі на нагу, зусім па-дзіцячы пацягнуў носам і з чаканнем і просьбаю зірнуў на мяне.

— Тут няма месца для чалавечых дзяцей, — адказаў я. — Ідзі, адкуль прыйшоў, Іван Падвей з Кудравіц, і лепей не вяртайся.

— А калі не пайду? — нахмурыўся хлопчык. — Калі не пайду, дык што?

Я выразна папляскаў па сваіх похвах. Падвей з прысвістам уцягнуў паветра праз зубы і раптам як ашалелы схапіўся за меч. Халоднае жалеза бліснула барваю і апісала паўкруг каля маіх грудзей, але я імкліва ўхіліўся, адступіў на крок назад, вышэй па схіле кургана. Хлопчык размахваў мячом, аддалена нагадваючы вятрак, моцны не майстэрствам мечніка, а адно толькі злосцю.



На злосці без майстэрства, праўда, далёка не заедзеш.

— Біся са мною! — крыкнуў гэты блазан. — Біся, калі не баішся!

Мяне называюць Косткасеем, Крыважэрным ды Груганом Бойкі. Я сапраўды адправіў у апошняе падарожжа многіх чалавечых сыноў, але то былі воі, а не звар'яцелыя падлеткі.

— Вазьмі, — не расціскаючы вуснаў, загадаў я Стаўры, і той, рыкаючы, цяжка скочыў на Падвея, паваліў долу. Яны пакаціліся разам, сабака і чалавек. Свой меч хлопчык упусціў, і той цяжка ўпаў у траву, заціх там, быццам атрутная змяя.

— Двубой! — прыглушана галасіў чалавек. — Я патрабую дву… Ай, зараза, пусці!..

Непарушны Стаўры стаяў, прыціскаючы моцнымі лапамі вар'ята да зямлі, а Падвей шалёна круціўся пад ім, намагаючыся вырвацца, сыпаў лаянкай, божбамі ды просьбамі, бязладна мяшаючы адно з адным. Сабака, не звяртаючы ўвагі на ягоны лямант, пытальна паглядзеў на мяне: маўляў, і што нам з такім рабіць, дружа?

Я моўчкі паціснуў плячыма. На мой густ, назіраць за дурнямі значна весялей, чымся забіваць іх. Князь, верагодна, палічыў бы належным адразу пазбавіць няшчаснага хлопчыка пакутаў — і, разам з тым, засцерагчы адзіную дачку ад такога прыхільніка.

Што меркавала на гэты конт сама князёўна, я мог толькі здагадвацца. Але і здагадак маіх не спатрэбілася: я пачуў яе амаль бязважкія крокі і пазнаў гаркавы водар палыну, якім звычайна патыхала ад яе валасоў.

— Косткасей, — паклікала яна мякка.

Я павярнуўся на голас, прыкрываючы далонню вочы: сляпіла нізкае сонца. Марэна стаяла каля самага руннага каменя — у простай белай сукенцы, якая быццам абляпляла яе цела, з перакінутай цераз плячо касою. Падвей прыціх і (я ведаў гэта, нават не бачачы яго) глядзеў на Марэну.

Тая ішла, быццам плыла, і ад белай сукенкі сыходзіла зыркае серабрыстае ззянне, ярчэйшае за кволыя сонечныя промні. За ёю, апусціўшы галаву, ценем крочыла яе служка, панна Нешка — амаль незаўважная.

Поруч з Марэнай усе і ўсё становіцца незаўважным, быццам блякне.

— Косткасей, — паўтарыла князёўна, калі параўнялася са мною. Я паважліва схіліў галаву. Стаўры завіляў хвастом, калі князёўна мімаходзь пагладзіла яго па галаве. А Падвей усё глядзеў, не зводзячы вачэй, не варушачыся, зніякавелы. Быццам прыціснуты, раструшчаны чымсьці дзіўным, чымсьці вялікім, чымсьці, што не змяшчалася ў ім і прарывалася вонкі: радаснымі іскрамі ў вачах, і бязглуздай усмешкай, і нечым яшчэ — няўлоўным, але несумненным, адчувальным нават збоку, нават мне.

Марэна працягнула яму руку — белую, быццам азёрная лілея, руку з тонкімі пальцамі, на якіх пялёсткамі ружавелі пазногці. І Падвей аберуч за гэтую руку-лілею ўхапіўся, так моцна, як мог, быццам бы наважыўся ніколі больш не адпускаць, і падняўся на ногі, як і раней, не адрываючы вачэй ад князёўны. Тая відавочна атрымлівала ад ягонага замілавання асалоду і ледзь заўважна ўсміхалася.

— Косткасей, — сказала яна. — Я сыходжу з ім, разумееш?

— Сыходзіш, князёўна, — пацвердзіў я. — Але не разумею, дзеля чаго.

Яна толькі засмяялася — быццам зазвінелі сярэбраныя званочкі — і пайшла прэч, ласкава, але настойліва цягнучы за сабой аглушанага шчасцем Падвея. Ішла туды, дзе белы конь шчыпаў сакавітыя травы, і ніводнага разу не азірнулася.

Панна Нешка ахнула, бездапаможна азірнулася на мяне.

— Рыцар!..

Напэўна, я мог бы тады штосьці зрабіць. Але я падумаў: якая мне справа да гэтага няшчаснага хлопчыка? Яна пагуляецца з ім, як гулялася з іншымі да яго, а пасля ёй надакучыць. Ёй заўжды ўсё надакучвае. Пакуль яны маладзенькія і пяшчотныя, іх улюбёныя позіркі цешаць і радуюць, але

чалавечыя сыны хутка — для такіх, як мы, — старэюць, і вянуць, і, нарэшце, паміраюць. Марэна не дачакаецца нават ягонай сталасці, не тое што старасці: не яна першая з нашых паннаў вось так лавіла песняю маладзенькага смяротнага дурня. Не першая і не апошняя.

Над курганамі і над Пушчай, як звычайна, праміналі дні. Зімою княжае паляванне высочвала баязлівых аленяў, чытаючы радкі слядоў па кнізе снежных гурбаў. Спеўна гулі сярэбраныя рагі, сокалы порстка ўзляталі з пальчатак, і ясныя панны з княжага двара, усе спрэс золатавалосыя і зеленавокія, ахалі і пляскалі ў ладкі. Спаборнічалі між сабой лучнікі, хвалячыся трапнасцю ды сілаю рук. Паляванне, Дзікі Гон, ляцела наперад, узбіваючы за сабой цэлую снежную віхуру, са свістам, грукатам і воклічамі неслася па нізкіх хмарах, і тады чалавечыя сыны шчыльней прычынялі дзверы і завешвалі вокны.

Увесну, калі на рацэ нарэшце крануўся лёд, калі прыдворныя паэты зноў пачалі перапяваць старыя песні пра старыя бойкі на новы лад, я пакінуў Двор і вярнуўся да сваёй варты на мяжы. Верны Стаўры шэрым ценем бег за мною, пераскокваючы лужыны ад расталых сумётаў, а дні большалі, і на чорных галінах бяроз каля дарогі абуджаліся да жыцця пахкія пупышкі. Пушча ажывала таксама, напаўнялася галасамі, і рухам, і колерамі, і вячыстыя дрэвы суха рыпелі, нібыта распраўляючы плечы. На курганах з вільготнай чарнаты праклёўваліся тонкія зялёныя парасткі новых траваў, а на стаячых камянях, проста на рунічным пляценні, да паўдня трымаліся цёмныя плямы сырасці.

Лета, як зазвычай, прыходзіла амаль незаўважна, раскочвалася па свежай вясновай зеляніне палымянымі сонечнымі пацалункамі, прыгаршчамі сыпала ў зялёную поўсць травы пярэстыя кропкі кветак, і спевы жаб, і галасы конікаў. Па начах, калі паветра было цёплым і густым, як малако, калі лёгкай смугою курылася за асакою рака, на небе залатою надкушанай манетаю свяціўся месяц, а ў травы, зрываючыся з неба, падалі зоркі з вогненнымі хвастамі. Стаўры, ускінуўшы вострую пысу, уважліва сачыў за імі, такімі самымі хвастатымі, як і сам, і ціхенька, тоненька, па-шчанячы падбрэхваў.

Восенню Курганова Поле пахла мёдам, бо квітнелі верасы — белыя, ліловыя, амаль чорныя. Цэлае мора верасоў хвалявалася пад дотыкамі ветру ажно да далягляду, да цёмных зубцоў Пушчы. Камяні прагна лавілі сонечныя промні, назапашвалі цеплыню і святло, рыхтуючыся да зімы. Над курганамі павольна плылі серабрыстыя ніці павуціння.

Так прайшлі гады — тры ці мо чатыры, не магу сказаць дакладна. Мы не адчуваем час так, як адчуваюць яго чалавечыя сыны, і нават стагоддзі для нас прабягаюць амаль незаўважна, быццам пясок скрозь пальцы.



Сотвар з’явіўся побач са мною ў адзін з першых дзён восені — упершыню за доўгі час сам завітаў на мяжу. Выйшаў з ценю стаячага каменя, высокі, прамы. Абапіраўся на разны посах з зыркім зялёным самацветам, цягнуў за сабой ацяжэлы ад расы сіні плашч. Вецер кратаў князевы сярэбраныя валасы, і падавалася, быццам гэта — ніці павуціння.

У доўгіх ягоных пальцах адлівала срэбрам птушынае пёрка — напамін ад князёўны, доўгачаканая вестка.

— Яна жадае вярнуцца да нас, — сказаў мне князь, хоць я і так зразумеў, у чым справа. На яго тонкіх вуснах прамільгнула, як знічка, усмешка. Ён прадбачыў, што менавіта так усё і закончыцца, і вельмі цешыўся гэтым. Я згадаў упартага маладзенькага вар’ята — і яркі пагодны дзень чамусьці азмрочыўся.

Зрэшты, сам вінаваты. Ён ведаў, куды ішоў і за кім, ці не так?

— Вярні яе дамоў, Косткасей, — няголасна загадаў князь. На ягоную карону з танюткіх залатых дубовых лісткоў цяжка ўпаў, прыняўшы іх за сапраўдныя, белы матылёк.

Я моўчкі пакланіўся. Я не звык разважаць над княжымі загадамі: усё такі — вартаўнік, вой, зброя ў княжых руках. Зброі задумвацца не выпадае, яна паслухмяная руцэ, што яе трымае.

Уночы ўдарыла навальніца. Я, захутаўшыся ў плашч, нёсся на кані між неспакойных буркатлівых хмар. Імклівы вараны конь стрыг вострымі вушамі і голасна ржаў, і голас яго патанаў у грымотах. Маланка біла раз’юшана, праразаючы целы хмар, быццам кап’ё, і асвятляла ўсё вусцішным блакітным ззяннем.

Белае птушынае пёрка, рассыпаючы сярэбраныя іскры, плыло перада мною, паказваючы шлях, і то рабілася іскрыста-блакітным, то блякла і зноў цьмяна свяцілася праз завесу дажджу.

Хлопчык завёз яе далёка. Можа быць, падсвядома хацеў трымацца як мага далей ад месца, якое так яго пужала. І, вядома, трымаць яе, сваю князёўну, далей адтуль. Наіўны — як быццам адна з нас, калі пажадае, не знойдзе дарогі назад, дарогі дамоў. Можа быць, ён проста не надта верыў, што ягоная абранніца калі-небудзь пажадае гэтага.

Капыты каня ўдарылі па чарапічным даху замка, а адзін узмах доўгага хваста вымусіў флюгер шалёна заскакаць і затрэсціся. Я скіраваў каня ніжэй — і падковы выбілі іскры на брукаванцы замкавага дворыка. Пёрка ўспыхнула ярчэй, а пасля рассыпалася, ападаючы яркімі кропкамі долу. Значыць, тут.

Я прайшоў праз замкнёныя дубовыя дзверы, пакрочыў, бразгаючы шпорамі, па гулкіх пустых залах. Наткнуўся вачыма на герб над камінам — напяты лук ды тры стралы. На сцяне ў пацямнелых ад часу рамах — партрэты, адзін па адным. Чалавечыя сыны, як я чуў, пакутліва прагнуць жыць вечна і таму намагаюцца ўвекавечыць хоць бы сваё падабенства. Я запаволіў крок і звузіў вочы, спрабуючы знайсці ў выявах на сцяне штосьці агульнае з тым упартым Падвеем, якога памятаў.

— Косткасей… — пранёсся ледзь чутны, але настойлівы шэпт, так што я сумеўся і не стаў затрымлівацца.

Яна загадзя падрыхтавалася: у замку ўсе спалі. Я прамінаў вартавых, што пасопвалі стоячы, абапёршыся на алебарды. Пакаёвак і служак, што паснулі за працаю — хто на стосе бялізны, хто ў абдымку з недачышчаным кацялком. Шэпт вёў мяне далей, да вузкай каменнай лесвіцы, што, закручваючыся, ішла ўверх.

На самым версе быў пакой, асветлены зыркім агнём у каміне. Мой цень на сцяне выкруціўся і пачварна разросся, а агонь сярдзіта патрэскваў, і сіпеў, і сыпаў непрыемнымі, калючымі іскрамі. Бадай, адзіны з усіх вартавых у гэтым замку, які не спаў.

— Ну, ну, — сярдзіта шапнуў я агню. — Мяне сюды паклікалі, ясна?

Побач з камінам на мядзведжай шкуры стаяла калыска, і ў ёй спала, падклаўшы дробны кулачок пад шчаку, дзіця. Побач з дзіцем у фатэлі спаў і Падвей — гэты значна пасталеў, узмужнеў і, здаецца, пазмрачнеў. Спаў трывожна, хмурыўся ў сне і абяссілена варушыў пальцамі на ручцы фатэля, быццам марна спрабаваў злавіць чыюсьці руку.

Марэна стаяла далей ад каміна, каля акна ў алавянай аплётцы, глядзела на дождж і нават не азірнулася, калі я ўвайшоў. Сукня на ёй была цяжкая і пышная, з зялёнага аксаміту, і валасы падабраныя наверх, узбітыя ў дзіўную высокую прычоску.

— Едзем, князёўна, — сказаў я, працягваючы ёй руку. Не пытаўся, а сцвярджаў, бо яна сама менавіта дзеля гэтага паклікала мяне сюды.

— Едзем… — глуха адказала Марэна. Павярнулася на абцасах, закручваючыся вінтом, і на імгненне стала языком белага агню, і выслізнула з нязручнай сукні, так што валасы ўкрылі яе, быццам вогненна-залаты плашч. Князёўна, зноў ззяйкая і серабрыста-белая, безуважна пераступіла цераз скамечаны аксаміт на падлозе і абаперлася на мой локаць.

— Едзем! — паўтарыла весела, усміхаючыся так, што на белых шчоках паўмесяцамі прарэзаліся ямінкі.

У калысцы тоненька і жаласна заплакала дзіця. Падвей варухнуўся ў сне, прашаптаў нешта, але не прачнуўся.

— Хутчэй, — папрасіла Марэна, калоцячыся, як ад холаду. — Прэч адсюль.

Я падхапіў яе, і мы пранесліся праз увесь замак, быццам парыў ветру. Вараны конь ужо чакаў нас, біў капытом, высякаючы іскры. Над самым замкам зноўку ўспыхнула блакітнае зарава, і пакаціўся, кульгаючы, гром. Мы пакаціліся прэч разам з ім, аглушаныя грымотамі, і князеўна, якую я пасадзіў перад сабой, аніводнага разу не азірнулася. Раз-пораз яе плечы скаланаліся, але твару яе я не бачыў, таму не магу сказаць — плакала яна ці смяялася.

Князь асабіста сустракаў яе на мяжы. Стаяў разам са світаю каля белага каменя, апаясанага пляценнем чароўных знакаў, і сярэбраная выкшталцоная вышыўка на доўгіх рукавах ягонага ўбору ззяла, быццам іней на сухой траве. І вочы ў яго ззялі таксама — халодныя, быццам іней.

Я прытрымаў гарачага каня, дапамог князёўне спешыцца. Яна адразу ж амаль бегма рушыла да бацькі. Той абняў яе, укрыў уласным плашчом з галавою.

— Мы так сумавалі без цябе, любае наша дзіця, — спакойна сказаў ёй Сотвар. — Добра, што ты нарэшце з намі.

Ён павольна правёў тонкай рукой з унізанымі пярсцёнкамі пальцамі па галаве Марэны, схаванай пад сіняй тканінай, — і абрысы фігуры пад плашчом вокамгненна зніклі. Я здранцвеў, я заскрыгатаў зубамі, сціснуўшы ў кулаку аброць. Мне падавалася, што дзяўчынка і так атрымала належную навуку, пакарала сама сябе.

А князь падхапіў нешта пад плашчом і пасля рэзка сцягнуў яго долу. Трымаў на пальчатцы маленькага натапыранага белага сокала, які ўспуджана біў крыламі і крычаў.

Крычаў так пранізліва і жаласна, што разрывалася сэрца.

— Косткасей, — князь падняў яркія шэрыя вочы на мяне. — Калі той чалавек з'явіцца, ты ведаеш, што рабіць.

Я нахіліў галаву. Здагадацца, чаго ён хацеў, было нескладана. Гэта чалавечыя сыны, на сваё шчасце, схільныя забываць, а мы, як і сама зямля, памятаем доўга, бясконца. Таму не ўмеем выбачаць.

Па шчырасці, я неяк падсвядома чакаў, што гэты ўпарты хлопчык хутка з'явіцца. Чакаў не дзеля княжага загаду — проста гэта падавалася мне прадвызначаным зараней, яшчэ ў той дзень, калі Падвей упершыню прыехаў сюды, на мяжу.

І ён з'явіўся. Зноў прыскакаў на белым кані — узмыленым, загнаным.

Па першым інеі пайшоў да стаячых камянёў — змрочны і ціхі, з хваравіта завостранымі рысамі твару, з ценямі пад вачыма. Памежныя чары, мусіць, пазналі яго, таму што прапусцілі далей, і ён сам змог падняцца на курган. Стаўры пільна сачыў за ім, але не гыркнуў і не забрахаў. Таксама пазнаў.

— Я… я прыехаў па яе, чуеце? — хрыпла загаварыў Падвей, як толькі падняўся на вяршыню. — Чуеце?.. Я прыехаў па сваю жонку. Марэна!

Ён кідаўся то ў адзін бок, то ў другі, і клікаў князёўну, і прасіў, і нават пагражаў. Не варта было чакаць, пакуль камяням шумны чужынец надакучыць і яны вырашаць самі ад яго пазбавіцца, таму я зрабіў крок з ценю насустрач чалавеку.

— Я ж калісьці казаў табе вяртацца, адкуль прыйшоў, — змрочна сказаў я. І, не стрымаўшыся, працадзіў з сэрцам: — Д-дурань!..

Падвей здрыгануўся ўсім целам і ўтаропіўся ў мяне.

— Кашч Меднабароды, — успомніў, нараспеў вымавіў маё імя. І дадаў павольна і глуха, быццам размаўляў у сне: — Яна не прыйдзе, так?..

— Не прыйдзе, — кіўнуў я.

Трэба было яго застрашыць, сказаць, што, калі не пакіне тут лямантаваць, з ценю пад каменем могуць з'явіцца тыя, хто зусім не схільны спачуваць чалавечым сынам. Час для палявання яшчэ не настаў, але дзеля такой нагоды Сотвар быў бы толькі рады склікаць сваіх лепшых паляўнічых ды гончых. Князь наш суровы, быццам сівер, быццам снежная бура, і не мае літасці. Прынамсі, да чалавечых сыноў.

Але я бачыў вочы гэтага чалавека — вочы, у якіх нешта згасла, вочы, абведзеныя жалобнымі цёмнымі кругамі. І таму змоўчаў.

— Гэта ж усё праз пер'е? — спытаў Падвей пасля досыць працяглай цішыні. Я ўскінуў брыво, а ён, таропка рассыпаючы словы, працягваў:

— Яе футра, дзіўнае такое футра з белага пер'я. Калі яна глядзела на гэтае футра, то рабілася… іншай. Як тады, перад тым як яна ўзнялася і паляцела ад возера. Я ж не мог…

Ён схаваў твар у далонях.

— Я ж не мог дазволіць, каб яна зноў… У нас дзіця, Кашч. А яна з гэтым сваім футрам у любы момант магла б…

Ён не змог дагаварыць: сутаргай перахапіла горла. І тады я згадаў — і зразумеў.

Ва ўтульным пакойчыку на самым версе каменнай вежы вострa пахла спаленым пер'ем. Няшчасны ёлуп настолькі не хацеў адпускаць ад сябе сваю князёўну, што вырашыў аддаць самую трапяткую і безабаронную частку яе зыркаму агню.

Тое, што неабачліваму чалавечаму сыну падасца футрам, адзеннем, для пярэваратня — драбок сутнасці. Ён мог бы з такім самым вынікам адсячы ёй ногі, каб не ўцякла.

— Вяртайся дамоў, Іван Падвей з Кудравіц, — сказаў я ціха. — Таго, што ты страціў, тут болей не знойдзеш.

Не ведаю, ці пачуў мяне гэты ўпарты блазан — таму што ён не жадаў гэтага чуць. Але ён пайшоў прэч, згорбіўшыся, быццам пад невыносным цяжарам, і цень ад руннага каменя цягнуўся за ім драпежна і помсліва, навальваючыся зверху і паглынаючы. Праўда, нават крута замешаныя на помсце закляцці тут ужо мала што маглі змяніць: Падвей быў не толькі на мяжы Курганова Поля, але і на мяжы свету жывых. Стаўры таксама, як і я, адчуў гэта і са скрухаю завыў. Пашкадаваў. У сабакаў добрыя сэрцы, сабакі заўжды шкадуюць людзей.

А чаго шкадаваць? Неразумны хлопчык мусіў бы вярнуцца дамоў яшчэ тады, калі толькі пачуў дзіўныя дзявочыя спевы каля возера. Усё справядліва: сам аднойчы абраў гэты шлях і сам цяпер вымушаны плаціць за гэта.

Час ішоў, год за годам, вясна за зімою, восень за летам. Як звычайна, як заўсёды. Я паранейшаму адбываў сваю варту і бачыў, як паступова набліжаліся, падкочваліся ўсё бліжэй і бліжэй людскія сялібы, заставаліся ў трывожным, непрыемным суседстве. Саламяныя дахі паўзрасталі зусім блізка, там, за ракою, на невысокіх узгорках. Зыркія агні ў ачагах пільна вартавалі іх, з комінаў падымаліся, слаліся па ветры хвасты дымоў. У кузнях цяжкія молаты кавалі жалеза, цяжка ўздыхалі кавальскія мяхі. Рэха адбівалася ад нямоўчнай рачной вады, блытаючыся ў трыснягу, і заносіла гукі сюды. Голас халоднага жалеза быў выразны, разборлівы:

*— На згу-бу, на згу-бу.*

Пра Падвея з Кудравіц я кінуў думаць. Што нам да чалавечых сыноў і іхніх нягодаў? Мы з’явіліся тут, на гэтай зямлі, даўным-даўно, значна раней за іх далёкіх продкаў. Мы былі тут спрадвеку, плоць ад плоці гэтай зямлі, і будзем тут яшчэ доўга, пакуль неба зноў не паяднаецца з морам. Мы лётаем на крылах ветру, расколваючы спевам нашых паляўнічых рагоў зімовыя завеі, мы бязважка крочым праз сны, мы водзім карагоды пад зорамі. Мы слухаем, як павольна цячэ жыццё ў травах і дрэвах, мы сплятаем словы ў чары і пяём між сваіх камянёў, вітаючы месяц ці славячы сонца. Мы доўга адстойвалі сваё спрадвечнае права жыць тут, і наша зямля ўдосталь напоена і нашай, і чалавечай крывёю.

Так што — сапраўды. Я кінуў думаць пра ўпартага хлопчыка і ягоную князёўну. Я адвечны вартаўнік, вой на мяжы ценю, меч у княжай руцэ. Толькі і ўсяго, не болей і не меней.

У пагодныя дні з ценю пад каменем выходзіла ціхая Нешка — маленькая панна з княжага двара, прыслужніца князёўны. Асцярожна выцягвала за сабой вялікую клетку з залатымі прутамі, ставіла ў траву на вяршыні кургана. Белы сокал сядзеў на жэрдцы, натапырыўшы пер’е, ціхі і безуважны, амаль мёртвы. Нешка сядала побач, падкурчыўшы пад сябе босыя ногі. Глядзела на дымы з людскіх ачагоў, слухала покліч халоднага жалеза ў кузнях.

— Яны ўсё бліжэй і бліжэй, рыцар.

— Бачу.

— А што будзе, калі…

— Кепска.



Нешка маўчала. На яе белай шчацэ з дробнаю цёмнаю радзімкай пад вокам танчыў сонечны зайчык. Вецер гуляўся з яе вышываным падолам, блытаў пасмы яе залацістых валасоў, і ёй даводзілася раз-пораз падымаць руку, цярпліва закладаць іх за маленькае ружовае вуха — завостранае, быццам лісток ліпы. Белы сокал не глядзеў на сялібы — не зводзіў вачэй з далягляду, дзе чарнела Пушча.

— Як думаеш, рыцар, ён… ну, *той самы*, ён вернецца?

Яна далікатнічала, не называла імя, пыталася шэптам. Я глядзеў на сумнага белага сокала, успамінаючы колішнюю князёўну, быццам выхапленую слупам серабрыстага святла.

— Не.

Я быў упэўнены, таму што ведаў: людзі з таго апошняга падарожжа не вяртаюцца. Нешка ўздыхала, абдымаючы тонкімі рукамі калені. Стаўры сядзеў каля яе, прыязна паглядаючы залатымі вачыма, дазваляючы гладзіць кудлатую поўсць на спіне.

— А калі б ты не забраў яе тады, рыцар?

Калі б не адгукнуўся на яе просьбу аб дапамозе, калі б не паслухаўся княжага загаду, калі б пакінуў яе там, *з тым*, у жудасным пакоі на самым версе каменнай вежы, у пакоі, поўным паху спаленага пер'я?

Пажыла б яшчэ між людзей — і навучылася б забываць, як яны, шчасліва і назаўжды, і боль бы згладзіўся, і памяць пра лебядзіныя крылы болей не трывожыла б, і нават сны пра гэта не сніліся б.

— Рыцар?

— …не ведаю, панна.

Часам Нешка спявала — ціхім пяшчотным голасам, без слоў. Словы былі б лішнія, словы блыталіся і заміналі. Я, прысланіўшыся да цёплага каменя спінаю, слухаў, і Стаўры, падняўшы вушы, слухаў, і курганы слухалі таксама. Спеў плыў над дарогаю, над ракою і заміраў, заглушаны суровым голасам жалеза.

Спеў, спавіваючы, яднаў нас — і яшчэ яднала напружанае чаканне. Мы, не згаворваючыся, сачылі за дарогаю, сачылі прагна і неадрыўна.

Чакалі.

І адным цёплым восеньскім днём, калі хвалявалася пад мядовым ветрам мора верасоў, а пульхныя аблокі наліваліся барвовым золатам ад агністага захаду, я зноў пабачыў на дарозе вершніка.

— Рыцар, — шапнула Нешка. — Гэта ж…

— Вершнік, — сказаў я. — Так.

Ён не збочыў да бярозавага гаю.

Не павярнуў да пераправы, да саламяных дахаў, да ахоўнага агню.

Я ўнутрана напяўся, але стаяў, як і раней, у ценю каменя, трымаючы руку на карку Стаўры. Апошні, хоць і падхапіўся з месца і з цікаўнасцю прынюхваўся да новага госця, не бурчаў і не гыркаў.

Тым часам госць спешыўся, прывязаў каня — шэрага ў яблыкі — да старога карчака, і нетаропка крочыў па сцежцы да курганоў. Тыя людзі, што прамінаюць Курганова Поле па бальшаку, намагаюцца праехаць як хутчэй, не прыпыняючыся, нават не паварочваючы галавы. Пастухі, якія шукаюць у ваколіцы згубленых авечак, прамінаючы, абавязкова хапаюцца за свае талісманы, шэпчуць малітвы і шматкроць сплёўваюць цераз плячо.

А гэты аглядаўся цікаўна і жыва, круціў галавой ва ўсе бакі і нават нешта легкадумна насвістваў.

Зараз я мог яго добра разгледзець — і са здзіўленнем пазнаваў у новым госці старога. Тыя ж светлыя валасы, адпушчаныя да плеч, той жа светлы твар з бровамі ўразлёт і капрызлівымі вуснамі, хіба што болей усмешлівы і… так, маладзейшы. Яшчэ хада змянілася — гэты ішоў лягчэй, амаль бязважка, не зважаючы на чары ці, можа, проста не заўважаючы іх.

Мяча пры ім не было. Ні мяча, ні шчыта, ні кальчугі. Зусім ніякай зброі, ніякай брані. І адзенне дарожнае, дыхтоўнае, але без дарагой вышыўкі ці ўпрыгожанняў, запыленае, заношанае, боты грубыя, цяжкія. Затое за спінаю з'явіўся скураны горб, які весела дзынкаў на кожным кроку.

— Пяе… — задуменна сказала Нешка, накручваючы залацістую пасму на палец. Нават белы сокал зараз пільна глядзеў на чужынца.

Мы сачылі, а госць тым часам бадзёра ўскараскаўся на мой курган і з вяршыні агледзеў усё Курганова Поле, верасовыя хвалі ды белыя іклы камянёў, раскіданыя між траваў.

— Ого! — радасна сказаў госць і нават прысвіснуў. — Ну і ну!

Мімаходзь зірнуў на сам камень, зацікавіўшыся, уважліва прабег вачыма па заклятых рунах і нават, не ўтрымаўшыся, крануўся іх кончыкамі пальцаў. Быццам пагладзіў камень, як гладзяць сабакаў. Пасля зірнуў убок, туды, дзе цень ад стаячага каменя прарэзваў травы, і ўтаропіўся ў нас. Нешка ціхенька ахнула і, схаваўшыся за мяне, сціснула маю руку. Дарэмна спужалася: каменныя чары надзейна хаваюць ад чалавечага зроку.

Але я на ўсякі выпадак паклаў далонь на дзяржальна.

— Дабрыдзень, — нерашуча сказаў госць, лыпаючы вачыма, і Нешка зноў успуджана ахнула. — Які ў вас, дзядзечка, файны сабака.

Вочы ў яго былі зялёныя, быццам Пушча, і глядзелі скрозь цень ад каменя, скрозь старадаўнія чары.

— Назавіся, чалавечы сын, — сказаў я, як таго патрабаваў звычай. Госць сонечна ўсміхнуўся.

Вочы ў яго былі нашы, кірпаты нос і ўсё аблічча — самымі чалавечымі, а язык — той і ўвогуле немаведама якога паходжання, таму што мянціў не спыняючыся.

Яго завуць Ясем, і сам ён не адсюль, і падарожнічае з месяц недзе, і дамоў не збіраецца, бо дома мачаха і малодшы брат, якія не надта чакаюць ягонага вяртання.

Апошняе прагучала з прыхаванай горыччу, але ўсміхацца ён не кінуў.

— А сюды нашто прыйшоў?

Ён пацiснуў плячыма.

— Казалі, быццам мая маці аднекуль адсюль. Быццам бацька перамог у двубоі Кашча Бессмяротнага, вызваліў яе і звёз.

— Перамог у двубоі, значыцца? — змрочна ўдакладніў я. — Ды няўжо?

Ясь засмяяўся.

— За што купіў, за тое прадаю, дзядзечка.

І тут жа з ахвотаю распавёў, як адважны герой адшукаў на дне паўночнага мора каваны куфар, закаваны і ланцугамі, і чарамі.

— Разарваў ланцугі, чары зняў. А адтуль — заяц! Схапіў зайца, а з зайца — качка! Пацэліў у качку, а з той — яйка!

Я здзекліва чмыхнуў. Калі з яйка ўрэшце атрымаецца яечня, я быў бы нават і не супраць.

— А ў яйку халоднае жалеза, — няголасна працягнула Нешка з-за майго пляча. Ясь падняў бровы.

— Жалезная… іголка, — падобна было, што гэты падшыванец прыдумляў на хаду. — А ў той іголцы — Кашчава смерць!

Было заўважна, што ён сам атрымлівае асалоду ад сваіх баек. Добра, прынамсі, што хоць хтосьці ад іх асалоду атрымлівае.

— Смерць у іголцы, — прабурчаў я. — Хітра прыдумана.

— Анягож, дзядзечка.

Падшыванец змоўк і паглядзеў на мора верасоў, з якога сям-там паказваліся галовы курганоў.

— Прыгожа тут, — сказаў. — І гэтак спакойна. Даўно мне не было гэтак спакойна.

Ён замілавана глядзеў на верасовыя хвалі, што ленавата калыхаліся пад ветрам, а таму не мог заўважыць, як гусцелі цені каля белых камянёў. Чары драпежна затрымцелі, быццам павуцінне, у якое трапіў неабачлівы матыль.

— Тут няма месца для чалавечых сыноў, — прамовіў я рэзка. — Мусіш ісці. Як хутчэй.

Твар у Яся выцягнуўся, але ўсмешка, за якою ён звык хавацца, не сышла. Нешка адчувальна пхнула мяне вострым локцем.

— Рыцар!.. — з асуджэннем прашыпела яна мне ў вуха. Я толькі адмахнуўся. Праз колькі часу сам Сотвар заўважыць тут смяротнага і зацягне таго пад цень на кургане. І хіба толькі адно Неба ведае, што з гэтага будзе.

— Не затрымаюся, дзядзечка, — мякка паабяцаў хлопчык. — Проста песня зайшла ў галаву, хачу ўхапіць у цішыні, пакуль не забыў.

Я не паспеў запярэчыць: ён скінуў свой скураны горб, вызваліў з яго, быццам ад шалупіння, залацістае цела лютні і апусціўся ў траву, лёгка кратаючы струны. І твар у яго паяснеў, і знікла некуды дурная ўсмешачка, і вочы зрабіліся сталейшымі — на гады, на стагоддзі.

І з-пад ягоных пальцаў палілася музыка — спачатку асцярожна, няўпэўнена, а пасля званчэй і званчэй, моцна, неперраможна.

І ў ёй было — усё. Перазвон рачных хваляў, і шэпт трыснягу, і крыкі чаек. І галасы верасоў пад ветрам, і гуд пчол, і крокі дажджу па камяністай дарозе, і сакаліны клёкат. Неба бачыць, там былі нават, ашчадна ўплеценыя, нашы чары, старажытныя, спрадаўнія, і голас Пушчы, і нават ціхі галасок панны Нешкі.

У мяне быццам іголка заварушылася ў грудзях злева. Вочы закалола, і па шчацэ пабегла штосьць, падобнае да кроплі дажджу. Я ўскінуў голаў — але неба засталося ясным, па ім плылі адно пульхныя белыя аблокі.

Бедная Нешка скурчылася пад рунным каменем і ціха плакала, схаваўшы тварык у далонях, незаўважная, амаль нябачная. Таму што побач з ёю стаяла, быццам выхапленая праменем святла, Марэна. Паўпразрыстая, быццам маркотная здань, цень сябе самой, і ўсё-такі, усё яшчэ — ярчэйшая за ўсё вакол. За ўсё на свеце ярчэйшая.

Хлопчык кінуў граць, але музыка яшчэ гучала, падхопленая самімі камянямі, самою зямлёю. Гучала ў нас, бо мы і ёсць — зямля.

— Хто… — здзіўлена прамармытаў Ясь, углядаючыся ў светлую белую здань. А тая ласкава ўсміхалася яму і цягнула да яго рукі. І глядзела на яго, толькі на яго — доўгае, доўгае імгненне, пакуль яе, цяпер адвечна свабодную, не змыла ветрам, як змывае абрыўкі туману.

Каля ног Нешкі засталася толькі пустая клетка з залатымі прутамі.

І тады над нашымі галовамі грымнула — аглушальна, жудасна, так, што здрыганулася зямля пад нагамі. Драпежныя цені разрасліся, распухлі бязмерна і ўсталі на дыбкі. Падалося, што гэта Неба раскалолася і падае долу, падае на нас — але то даў расколіну курган, і мы з яснага цёплага дня праваліліся ў суцэльную цемрадзь.

З цемрадзі нарадзіліся агні — ласкавае зеленаватае полымя курганоў, халоднае, цякучае, зусім не падобнае да таго, што зырка буяе ў ачагах чалавечых сыноў. Агні ціхутка пазвоньвалі, як сярэбраныя званочкі, і плылі, і смяяліся, выхопліваючы кругамі святла то каменныя пліты са старадаўняю разьбою, то край каляровай фрэскі, то белы твар Нешкі з цёмнаю радзімкай пад левым вокам, то светлую чупрыну падшыванца Яся. Стаўры скавытаў зусім побач, тыцкаўся мокрым носам у маю далонь.

— Ціха, дружа, ціха, — я патрапаў сабака па галаве і раптам адчуў, што ў мяне пачынаюць дрыжаць рукі.

З цемрадзі, нябачныя, глядзелі на нас вочы — многія, многія вочы. Зялёныя, быццам Пушча. Нябачныя, яны шапталі, перагаворваліся, і ад іхніх злавесных шэптаў нават мне рабілася ніякавата. Я з лязгам выцягнуў з похваў меч.

— Толькі паспрабуйце каторы, — паабяцаў я нябачным.

Падшыванец Ясь уздумаў губляць прытомнасць іваліцца з ног, але я паспеў леваю рукою ўхапіць яго пад локаць, утрымаць. Адчуваў: варта хлопчыку толькі паказаць сваю слабасць — і ад яго і крывавага шматочка не пакінуць.

— Так цёмна, дзядзечка, — шаптаў падшыванец. Словы вырываліся з ягоных вуснаў серабрыстымі аблачынкамі марознай пары. — Так холадна…

— Проста ідзі, — адгукаўся я цвёрда. — Ідзі наперад. Наперад.

Нешка падхапіла другую яго руку, тую, што і зараз сціскала лютню.

— Зусім трошачкі, — зацурчала лагодна. — Яшчэ трошачкі пацярпець.

Мы з ёй абое з надзвычайнай яснасцю і скрухай ведалі, чым, хутчэй за ўсё, гэтая дарога для хлопчыка скончыцца. Чым звычайна ўсё заканчваецца для тых смяротных, што трапілі да Сотвара сюды, у падзем'е. І не глядзелі адзін на аднаго, і зацята маўчалі пра гэта, быццам нават адно слова магло пазбавіць надзеі, парушыць кволую раўнавагу на шалях лёсу.

Нейкая асабліва ўчэпістая дрэнь, апярэджваючы падзеі, працягнула кіпцюрастую лапу да Ясева горла. Вырашыла, мабыць, што я раней пажартаваў. Я, не прыглядаючыся, ударыў мячом наводмаш. Цемрадзь зайшлася лямантам, а лапа, усё яшчэ перабіраючы доўгімі пальцамі, засталася ляжаць на камянях.

Зялёныя агні падскоквалі, круціліся і заставаліся вісець цэлымі гронкамі, цэлымі сузор'ямі. Залівалі ўсё зыркім зеленаватым святлом. У вялікай круглай зале між каменных калонаў, што сыходзілі ў непраглядную цемру, сабраўся, мусіць, увесь Двор, усе паэты, усе рыцары, усе пекныя панны, усе зухаватыя паляўнічыя. У золаце, у бляску самацветаў, з тканымі паясамі, з вышыванымі рукавамі, ажно ззяючыя ад прыгажосці. Яны з лёгкім шоргатам расступаліся перад намі, давалі дарогу наперад, туды, дзе на ўзвышэнні стаяў просты драўляны трон.

— Мне страшна, дзядзечка, — ледзь чутна сказаў Ясь, зноў выпусціўшы з рота аблачынку серабрыстай пары.

— Гэтага яму толькі і трэба, — зашаптаў я. — Трэба, каб ты баяўся, разумееш? Калі не баішся…

— Калі не баішся, — працягнула Нешка. — То нічога табе і не зробяць.

Ясь слаба кіўнуў. Прыкрыўшы вочы, дыхаў часта, кусаў вусны, але працягваў крочыць наперад. Не азіраючыся. Упарта. Зусім як *той*, што прыходзіў перад ім. Зусім як *тая*. Ад гэтай апошняй згадкі — сам не ведаю, чаму — варухнулася там, каля сэрца.



На паверхні ішлі першыя дні восені, таму на княжым троне залацілася дубовае лісце, чырванелі гронкі рабіны. Водар яблыкаў, лёгкі, амаль незаўважны, насіўся ў паветры, кружыў галаву.

Сотвар сядзеў, апрануты ў агністы, колеру восені шоўк, падпёршы вострае падбароддзе кулаком. Глядзеў з-пад доўгіх белых веек зверху ўніз, вывучаў. У сярэбраных валасах ззяла ледзянымі дыяментамі карона — быццам вострыя іклы інею.

— Косткасей, — князь апёк мяне ледзяным позіркам. — Ты прывёў да нас чалавечае дзіця.

— Чалавечае дзіця, — глуха паўтарыў за ім Двор. Вочы іх нуярка свяціліся, зусім як курганныя агні. Яны ўсе ведалі, што бывае, калі смяротны апынаецца там, дзе не павінен, але не мелі нічога супраць.

Я сцяў зубы і змоўчаў, сціснуўшы меч у руцэ. З ляза дасюль яшчэ капала, застываючы на каменных плітах, чорная кроў.

— І няхай для палявання яшчэ не прыйшоў час, — ленавата працягваў Сотвар, усміхнуўшыся самым краёчкам вуснаў. — Мы, канечне ж, з ахвотаю дазволім табе…

— Гэта не ахвяра для Гону, — галасна сказаў я. Сотвар бліснуў вачыма і нахмурыўся: я парушаў правілы яго любімай гульні. Чуваць было, як усхвалявана перашэптваюцца прыдворныя.

— Гэта не ахвяра для Гону, — паўтарыў я, сціскаючы пальцы на хлапчуковым плячы. — Княжа, то… музыка прыйшоў усцешыць ваш слых сваімі песнямі.

Князь засмяяўся. Рогат падхапіла дворня, і хутка ўся зала затрэслася ад усюдыіснага смеху. У Нешкі задрыжалі вусны, Стаўры, падціснуўшы хвост, ціхенька заскавытаў.

— Чалавечае дзіця будзе цешыць мяне сваімі песнямі? — кпліва пацікавіўся Сотвар. — Косткасей, што за недарэчная прыдумка.

Але, нават кажучы так, ён — па вачах было відаць — зацікавіўся. Змерыў змярцвелага ад холаду і боязі хлопчыка непрыязным позіркам.

— А што скажаш ты, чалавечае дзіця?

Я лёгка падштурхнуў Яся наперад, і той зрабіў некалькі няўпэўненых, быццам праз сон, крокаў. Прыціснуў да грудзей лютню і хрыпла прагаварыў, змагаючыся з крышталікамі інею на вуснах:

— З радасцю спяю для вас, ясны княжа.

Але пасля песні, напружана думаў я, і Нешка, мяркую, таксама. Ну, скажы ж: але пасля песні майстру плаціць. Скажы гэта. Скажы.

— Але памятайце, княжа, — прахрыпеў Ясь, быццам пачуўшы нашы думкі. — Пасля песні майстру плацяць.

Сотвар ашчэрыўся. Двор зашаптаўся грамчэй, узбуджана і абурана: гэта было чыстай вады нахабства.

Часам толькі на нахабства і выпадае спадзявацца.

*— Спевы і словы сплятаць немагчыма без платы,* — перакрываючы натоўп, азваўся хтосьці з прыдворных паэтаў. — *Той, хто паслухаў, аддзячвае дарам сардэчным.*

*— Сын чалавечы кіруецца звычаем даўнім,* — спеўна і звонка падхапіў другі. Узбуджаныя шэпты амаль сціхлі, пакорлівыя ўладзе гэтых магутных галасоў.

*— Звычай такі, так заведзена, так застанецца,* — канчаткова зацвердзіў трэці голас, быццам прыпячатаў. І па агаломшанай зале расцяклася звонкая цішыня.

Князь паморшчыўся, але развёў рукамі.

— Ты атрымаеш плату, чалавечае дзіця, — без асаблівай ахвоты паабяцаў ён. — Тры песні — тры падарункі. Такі звычай.

Ясь перарывіста ўздыхнуў. На шчоках яго, на валасах, на плячах і кароткім плашчы, нават на цяжкіх ботах весела пералівалася ў зеленаватым святле ўзорыстая корка інею.

Хлопчык адкашляўся і крануўся струнаў. Тыя адазваліся на ягоны дотык і цёпла, і радасна.

Вясна, вясна, пелі струны. Радасная, шчаслівая вясна. Вясна блізка, вясна настане. Лёд растае, снягі становяцца вадою, жывою, вясёлаю, вірліваю. Вада поіць зямлю, вада жывіць расліны. Жыццё нараджаецца з лёду і снегу, жыццё перамагае, звініць у жаўруковым спеве. Жыццё, жыццё, жы…

Сотвар гнеўна ўдарыў кулаком па ручцы трона — ажно пакацілася рэха па ўсім падзем'і. Песня бездапаможна абарвалася, і Ясь, разгублены, усё яшчэ закружаны колам жыццятворнай веснавой вады, стаяў і непаразумела глядзеў на князя знізу ўверх, такі маленькі, такі слабы, такі нікчэмны ў параўнанні.

— Ты, мусіць, забыўся, чалавечы сын, што зараз восень, — загаварыў Сотвар. — Твая песня, можа быць, і забаўляльная ў нечым, ды недарэчная, бо ўсе мы чакаем зімы.

Князь зноў усміхаўся краёчкам рота. Ясь ускрыкнуў ад болю і ледзь не да крыві закусіў вусны: іней пачаў караскацца па ягоных руках, зводзячы пальцы крукамі.

— Тады… тады іншую песню, ясны княжа, — ледзьве вымавіў хлопчык, спрабуючы і сам адказаць на князеву ўсмешку. Атрымалася ў яго не надта.

Спіна ў яго напялася, дыхаў ён часта, і рука, кранууўшыся струнаў, спачатку патрывожыла іх недарэчна, так што лютня ўскрыкнула бязладна і фальшыва. Нешка схавала твар у далонях.

Ясь, аднак, перасіліў сябе, выправіўся. Лютня зноў запела, з яшчэ большаю цеплынёю і агнём, з жарсцю маладога кахання.

Уражаная Нешка падняла галаву, зірнула на мяне і ўсміхнулася. І я таксама ўсміхнуўся: пад жарам гэтай музыкі паволі адступаў іней. Гэта была — надзея. А лютня пела, і хлопчык з зялёнымі — нашымі — вачыма пеў разам з ёю, у кожнае слова ўкладаючы драбок уласнай цеплыні.

Слаўся, повязь між двума сэрцамі, слаўся, дотык дзвюх душаў, слаўся пад сонцам і пад месяцам, вечна, вечна. Колькі любяцца неба і зямля, столькі будзе жыць каханне, адбіваючыся ў вачах закаханых, пераскокваючы з вуснаў на вусны падчас пацалункаў. Будзе жыць, жыць, жы…

Сотвар рэзка падняўся з месца, ускінуўся, быццам язык белага полымя. Падняў рукі над галавою і пляснуў у далоні — і музыка скамячылася, а словы ўскіпелі і замёрлі, заінелі ў Яся на вуснах.

— Ты, мусіць, забыўся, чалавечы сын, што пяеш пра смяротных і іхнія любошчы, — грэбліва сказаў князь. — Можа, для чалавечых сыноў гэта і цікава, але не для нас, адвечных.

Ясь зноў ускрыкнуў і упаў на калені. Лютня бездапаможна выпала з ягоных рук, вохнуўшы, як жывая. Я шпарка падскочыў да хлопчыка, спрабуючы дапамагчы яму падняцца. Іней укрываў яго цалкам, сівізною ляжаў у валасах, так што падшыванец Ясь быццам састарыўся за лічаныя імгненні. Іней бязлітасна джаліў мае далоні, пакуль я трос хлопчыка, аклікаючы па імені, пакуль я лаяў і яго самога, і ягоную сям'ю да сёмага калена. Ён заплюшчыў вочы, не варушыўся, скурчыўся, скрыжаваўшы рукі на грудзях, і мармытаў пад нос, паўтараў толькі адно:

— Холадна… як жа холадна…

Князь, усміхаючыся, нетаропка спусціўся, з шоргатам цягнучы за сабой барвовы плашч, па прыступках ад трона. Спыніўся на перадапошняй.

— Нам сорамна за цябе, Косткасей, — мовіў Сотвар з дакорам. — Ты, наш рыцар, наш вартаўнік, важдаешся з гэтым шчанюком.

— Майце літасць, княжа… — шэптам узмалілася Нешка, ламаючы рукі. Князь апёк яе ледзяным позіркам, і панна анямела і застыла, толькі па бледных шчоках ліліся слёзы.

Я падняўся, абапіраючыся на меч, вытрымаў позірк Сотвара, не адвёўшы вачэй.

— Гэты хлопчык выйдзе адсюль, — працадзіў я скрозь зубы. — Выйдзе жывы і здаровы. І Гон не прыйдзе па яго. Ні сёння, ні калі-небудзь яшчэ.

— Гэты хлопчык, — злосна адказаў князь. — Прыйшоў сюды сам, не спытаўшы нашага дазволу, не маючы права на гэта. Сын свайго бацькі, як ні паглядзі.

— І сын сваёй маці, — дадаў я. — Ці ж не дае гэта яму права быць тут?

Сотвар звёў бровы, і ўладна працягнуў руку, і зрабіў бы яшчэ адзін — апошні свой — крок да паўпрытомнага Яся, каб я не апярэдзіў яго, засланіўшы хлопчыка сабой.

— Двубой, — здушана прасіпеў я, падымаючы меч і сам не верачы, што раблю гэта. — Двубой!

Ён зірнуў на мяне паўзверх мяча вачыма колеру зыркай сталі. Клянуся, я бачыў, як па лязе папаўзлі карункавыя марозныя ўзоры.

— Двубой, — тупа паўтарыў я. У галаве было на дзіва пуста, і толькі варочалася і непакоіла атрутная іголка там, злева.

Неба, што ж я такое раблю, кадук мяне вазьмі. Хіба бывае так, каб зброя абярнулася супраць таго, хто трымае дзяржальна? Хіба веру я — хаця б на хвіліну — што магу перамагчы?

— Хай будзе так, — адгукнуўся князь. Падняў руку — і паветра загусцела, набываючы форму, пакорлівае ягонай волі, і з іголак інею вокамгненна саткаўся бледны клінок, ззяйкі і востры.

А пасля клінок рушыў наперад, на мяне, так што я ледзь паспеў падставіць пад удар уласны меч. Удар быў страшны, але, на шчасце, ледзяное лязо слізнула, рассыпаючы іскры, а я вывернуўся, адскочыў убок. Двор паспешліва адступіў, стаў вакол нас шырокім колам, поўным шэптаў і позіркаў, поўным шолахаў.

У гэтым коле мы ўдваіх рухаліся — круціліся адзін за адным, упіваючыся позіркамі, быццам танчылі дурны танец. Я крочыў на паўсагнутых нагах, пасоўваў меч з боку ў бок, падманваючы, хаваючы намеры, цягнучы час.

Час — вось што трэба. Час, каб дабратворныя чары з рук панны Нешкі дапамаглі аднаму малому нахабніку ачуняць. Час.

І я выбіваў для яго імгненні, адно па адным, з паслухмянай сталі, якая ўпарта гула і хрыпела, якая стагнала пад напорам бледнага клінка.

— Дурасць, Косткасей, — казаў Сотвар. — Неба, якая дурасць. Дзеля чалавека падстаўляць уласны карак.

Тут ён зноў ударыў. Клінкі чарговы раз за скрыгатам сышліся, і па лязе майго мяча пабеглі марозныя іглы, і холад апёк, і кроў застыла ў жылах.

— Саступі мне, Косткасей, — выціснуў Сотвар з натугаю.

— П-пайшоў ты, — злосна выдыхнуў я. З сілаю пхнуў князя ў калена і, не губляючы часу, адкінуў ад сябе. Ён адляцеў прэч на тры ці чатыры крокі, з цяжкасцю ўтрымаўся на нагах. Князевы вусны скрывіліся, і свабоднаю — праваю — рукою ён павольна адчапіў фібулу, што трымала плашч. Барва аплыла да ягоных ног, расцяклася па каменнай падлозе.

— То ты вінаваты сам, — са скрухаю сказаў Сотвар. І рушыў наперад.

Ён наляцеў бязлітасна і імкліва, быццам зімовая віхура, быццам суровы сівер, што нясе вострыя ледзяшы. Але я і сам стаў віхураю, неўтаймаванай восеньскай непагаддзю з халоднымі грымотамі, з бязлітаснымі навальніцамі. Мы счапіліся, нарэшце — на поўную сілу, мы рвануліся ўверх, так што халодныя агні пужліва разбягаліся, жалобна дзынкаючы, так што раўла і гула драпежная цемрадзь, так што стагналі калоны і скаланаліся гулкія скляпенні.

— *Ты сам вінаваты, сам вінаваты, сам,* — абвінавачваў выў сівер. — *Ты адпусціў **яе** калісь, адпусціў ад нас, а сёння прывалок гэтага шчанюка, быццам бы на замену **ёй**!*

Ад адной згадкі, ад аднаго слова зноў ажыла праклятая іголка каля сэрца — на імгненне, на нейкі адзін паскудны момант. І на гэты момант стаўшы сабой, а не гнеўнай віхурай, я страціў раўнавагу, і, ужо страціўшы, адчуў боль пад рэбрамі злева, задыхнуўся, захапаў ротам паветра.

І цяжка ўпаў, абрушыўся зверху — ніцма на халодныя каменныя пліты, разбіўшы далоні і калені. Сотвар на крылах ветру павольна апусціўся долу, наблізіўся двума нячутнымі крокамі. Так ступае па зямлі снег.

Лязо ледзянога клінка было зусім блізка ад маіх вачэй, і я бачыў, як сцякаюць па празрыстай паверхні чорныя кроплі крыві. У роце зрабілася салёна і суха, піць захацелася да сутаргі ў горле.

— Ты вінаваты сам, — строга паўтарыў Сотвар і занёс меч. Я, стомлена прыкрыўшы вочы, чакаў удару, але замест гэтага прычакаў голас:

— Здаецца, я вінны вам апошнюю песню, княжа.

— Песню?.. — разгубіўся Сотвар. На сваёй руцэ я адчуў асцярожны дотык мокрага носа. Пасля нехта клапатліва задыхаў мне ў патыліцу і, нарэшце, лізнуў у вуха. Стаўры заскавытаў і адбег, а потым маленькія цёплыя рукі абхапілі мяне і дапамаглі прыўзняцца.

— Падыміся, рыцар, — прашаптала Нешка, і лекавыя чары, простыя, але дзейсныя, плылі ад яе белых рук. Не маглі перамагчы непазбежнае, але адкладалі фінал, супакойвалі і лашчылі. Мілая маленькая радзімка на яе шчацэ яшчэ дваілася ў мяне перад вачыма, але дыхаць ужо было куды лягчэй, і жыццё болей не струменіла ракою, вырываючыся з мяне. Пакідала павольна, па кроплі.

— Ты прыгожая, панна Нешка, — прагаварыў я шэптам, проста каб не забыцца сказаць ёй гэта, пакуль яшчэ магу. Яна пачула і заружавела, але нічога не адказала.

Стаўры, вінаваты круцячы хвастом, зазіраў мне ў твар, быццам пытаўся: ну як? Жывём?

— Жывём, — няўпэўнена сказаў я, патрапаўшы сабака па галаве. І дадаў пра сябе: «Пакуль». Паглядзеў, як Сотвар навісае над Ясем, паспрабаваў падняцца, але не здолеў.

— Цішэй, цішэй, рыцар, — супакойвала Нешка. — Іначай рана адкрыецца.

— …апошнюю песню, княжа, — казаў Ясь. Ён стаяў насупраць раз'юшанага Сотвара — прамы і строгі, са змрочна зведзенымі бровамі, з упартымі вуснамі. Трымаў лютню ашчадна, як трымаюць немаўля, і прыціскаў да сэрца.

Князь шпульнуў ледзяны клінок камусь са сваіх паляўнічых — і той прыняў княжую зброю з пачцівым паклонам, стаў трымаць асцярожна, на выцягнутых руках.

— Дзве твае песні нас не ўразілі, чалавечае дзіця, — сказаў Сотвар здзекліва. — Чаму ж ты думаеш, быццам з трэцяй атрымаецца лепей?

— Пра гэта меркаваць вам, княжа, — азваўся Ясь. — Але абяцанне ёсць абяцанне, і свае я выконваю.

Сотвар нахмурыўся.

— А я выконваю свае, — мовіў ён рэзка. — Добра. Праспявай мне трэці раз і паспрабуй дагадзіць. Іначай…

Ясь моўчкі пакланіўся. Князь вярнуўся на трон, коратка глянуў на мяне і нецярплівым жэстам запрасіў хлопчыка пачынаць.

Нешка напялася, сціснула маю руку ў сваіх. Як зачараваная, сачыла за Ясем. А той узлахмаціў валасы, з хрустам размяў шыю. Абвёў позіркам увесь Двор, паэтаў, паннаў, рыцараў ды паляўнічых. Усміхнуўся ярка, белазуба адразу ўсім.

— Я і праўда не меў рацыі, — загаварыў пачціва. — Калі для такіх спакушаных слухачоў пеў простыя песенькі. Але зараз я не проста спяю — я раскажу гісторыю.

— Якую яшчэ гісторыю? — сярдзіта перапытаў Сотвар. Ён заўважна пачынаў губляць цярплівасць і, падобна, ужо шкадаваў, што адразу не склікаў Дзікі Гон.

— Самую праўдзівую, княжа, — сказаў Ясь. — Бо я заўжды кажу толькі праўду.

Лютня сонечна бліснула ў ягоных руках — ці, можа, мне падалося? Ясь памаўчаў, апусціўшы галаў, а пасля лёгка крануў струны. І тыя загулі, запелі, зазвінелі.

Так, як звіняць пад ветрам хвалі мора верасоў — белых, ліловых і амаль чорных. Так, як звіняць старадаўнія чары, нацягнутыя між іклаў стаячых камянёў. Так, як звіняць па снезе ледзяныя падковы княжага палявання.

І пад гэты верасовы перазвон хлопчык з нашымі вачыма расказваў гісторыю — важкімі, спеўнымі словамі. Вядома ж, праўдзівую, бо ён, гэты хлопчык, ніколі не хлусіць.

Хлопчык казаў пра панну з белымі крыламі — самую прыгожую, самую светлую на свеце панну. Тая шторанка лётала да возера, скідвала там футра з лебядзінага пер'я, і танчыла на серабрыстай вадзе, і спявала.

Між каменных калон сапраўды стала чуваць і плёскат вады, і шолахі ў трыснягу. Белая здань, сатканая з музыкі і абрыўкаў памяці, кружылася ў танцы перад княжым тронам, рассыпаючы серабрысты смех. І Сотвар, сцішаны, глядзеў.

Хлопчык казаў пра маладога паляўнічага, які адной раніцы праміна́ў тое возера і пабачыў танец, і пачуў спевы. Яны ўпадабалі адзін аднаго, панна і паляўнічы, і зразумелі гэта, не абмяняўшыся ані слоўцам. Словы ж рэч ненадзейная, часам замінаюць, словы могуць здраджваць і падманваць, але позіркі закаханых — ніколі.

Зданяў зараз было дзве, яны танчылі разам, спавіваліся, як два агеньчыкі. Радасныя, шчаслівыя, свабодныя. І Сотвар, скамянелы, глядзеў.

А хлопчык казаў, што панне трэба было вяртацца дамоў, да любімага бацькі, і яна ўздзела крылы і паляцела. А паляўнічы не мог заставацца без яе, і таму рушыў следам. І адшукаў, і знайшоў, і панна, як ні любіла бацьку, пайшла за ім. І па дарозе яны пайшлі ўдваіх, панна і паляўнічы. Радасныя, шчаслівыя ды свабодныя. Назаўжды, назаўжды, назаўжды.

Я дазволіў сабе ўсміхнуцца. Хлопчык, які нібыта ніколі не хлусіць, свядома дазволіў сабе з паўтузіна дапушчэнняў у гэтай гісторыі. Але тым прыгажэй атрымалася. Ды і казкі павінны хораша заканчвацца, ці не так?

Музыка замірала, гасла, і гаслі пакліканыя ёй здані. А Сотвар сядзеў нерухома, прыкрыўшы вочы рукою, і маўчаў, і ўвесь Двор маўчаў таксама. Падшыванец Ясь, цяжка пераводзячы дыханне, аціраў спацелы лоб. Гэтая музыка адабрала ў яго шмат сілы, так што нават абнесла вочы цёмнымі коламі, але хлопчык усміхаўся.

На мой век прыпала дастаткова паядынкаў, каб я навучыўся адчуваць пералом у змаганні, і вось зараз адбылася несумненная перамога.

— Што ж, дзіця, — прагаварыў Сотвар павольна, гледзячы ўбок. Далонь яго мільганула каля самых вачэй і зноў апусцілася. — Мы… Я хачу аддзячыць табе за твае песні, як было абяцана.

Князь падняўся з трона і працягнуў руку.

— Падыдзі да мяне, дзіця, — запрасіў. Ясь пакасіўся на мяне і Нешку, нерашуча пераступіў з нагі на нагу, упарта звёў бровы і пакрочыў уверх, паціснуў князеву руку.

— Два дарункі абяру я сам, — працягваў Сотвар. — Бо дзве твае песні не прыйшліся нам пад густ. Першае: язык твой будзе лягчэйшым за пёрка і не здолее ўтрымаць цяжар хлусні. Другое: будзеш бачыць далей, чымся усе іншыя смяротныя, нават калі твае вочы замгляцца.

Словы падалі цяжка, абвівалі Яся, быццам змеі. Патыхалі чарамі — старажытнымі, як сам Сотвар, як мы ўсе, як гэта зямля. Дар праўды і дар прадбачання, на мой густ, не самае лепшае спалучэнне, асабліва каб выжываць між людзей. Хоць з чарамі ўсё залежыць ад таго, як іх павярнуць, як імі карыстацца. Яны не благія і не добрыя ад пачатку — благі ці добры толькі той, хто нясе іх у свет.



Ясь, мусіць, яшчэ не зразумеў, што гэта за дарункі, таму захоплена назіраў за сярэбраным ззяннем, што танчыла вакол яго, і спрабаваў злавіць асобныя іскры.

Трэба падняцца, папярэдзіць яго, але — не магу. І цемрадзь адтуль, зверху, куды сыходзяць вершаліны калон, абсыпаецца мне на вочы чорным пер'ем, замінае глядзець.

— Трэці дар абірай сам, — суха сказаў князь. Хлопчык зноў азірнуўся і паглядзеў на мяне.

— А што з дзядзеч… што з гэтым рыцарам будзе, княжа?

— Што б ні было з ім пасля, — прагаварыў Сотвар, змрачнеючы. — Гэта не твой клопат, дзіця.

— А можа, і мой, — Ясь з выклікам ускінуў падбароддзе. — Трэці дар ты мне дазволіў абіраць самому, ці не так, княжа?

І ён, гэты падшыванец, гэты блазан, гэты малалетні дурань, лёгкім крокам спусціўся да мяне ад княжага трона, увесь у серабрыстым ззянні, падаў мне руку, і пажадаў, сонечна ўсміхаючыся:

— Жыві, дзядзечка!..

Сонца неміласэрна пякло мне ў галаву, і галава гэтая наўпрост расколвалася. Я расплюшчыў вочы і пабачыў, што ляжу ніцма ў траве і што побач па тонкай травінцы, напружваючы ўсе сілы, паўзе жывая чырвоная кропля. Я прасачыў яе нялёгкі шлях, спачуваючы ёй ад усяе душы і перавярнуўся на спіну.

Нада мной блакітнае неба падпіраў ссівелы стаячы камень, а над ім плылі белыя-белыя, быццам лебядзіныя крылы, аблокі. Я глядзеў на іх, на поўныя грудзі ўдыхаючы мядовы водар верасовага мора, і, несумненна, жыў.

— Рыцар! — паклікаў мяне голас Нешкі. Я не без цяжкасці сеў, трымаючыся за бок. Той смылеў, але не балей за тое.

Побач са мной у траве ляжаў меч — чужы, бо мой, выкаваны майстрамі з-пад кургана, мірна спачываў у похвах. Мабыць, той, што Падвей калісьці пакінуў тут, забіраючы сваю князёўну.

Я ўзяў чужы меч у рукі, вывучаючы, і трохі запозненa зразумеў, што гэты — чалавечы, выкаваны ў кузні з халоднага жалеза. Але злы метал маўчаў, не пагражаў і не апякаў маю скуру — прыручаны, прызнаў за свайго. За аднаго з тых, што расказваюць казкі каля сваіх ачагоў.

— Рыцар…

Панна Нешка стаяла тут жа каля каменя, разгубленая і настолькі мілая ў сваёй збянтэжанасці, што я ўсміхнуўся і адклаў Падвееў меч. За курганам, нябачны адсюль, залівўся радасным брахаҥнем Стаўры. Тут жа заходзіўся рогатам, таксама нябачны, Ясь:

— Сабачышча ты, сабачышча, а вось і не зловіш! Не зловіш, не!

Тут падшыванец вохнуў і, верагодней за ўсё, пакаціўся па зямлі. Сабачышча такі злавіў.

— Не ліжыся, ну! — прыглушана лямантаваў Ясь. — Я табе кажу, годзе!..

— Куды ж цяпер? — занепакоена спытала Нешка. І таропка пачала расказваць, што пайшла за мною і Ясем, каб прасачыць, каб дапамагчы. А калі ўпэўнілася, што са мною ўсё добра, хацела вярнуцца назад, а цень пад стаячым каменем…

— Цень замкнёны, — дагаварыла спахмурнелая панна. На вейках яе дрыжалі слёзы. Я, трымаючыся адной рукой за шурпатае цела каменя, стаў на ногі. Зірнуў на ўласны шалом-чэрап, на які прысеў легкадумны белы матыль.

— Куды ж нам?.. — паўтарыла Нешка. Я зрабіў да яе адзін хісткі крок, адвёў ад белай шчакі залацісты завіток валасоў і, нахіліўшыся, пацалаваў там, дзе пад здзіўленым вокам чарнела дробная радзімка.

Узяў у сваю далонь маленькую цёплую руку і ўпэўнена адказаў, паказваючы туды, дзе пасвіўся шэры ў яблыкі конь, дзе вілася і знікала ў курадыме дарога:

— Туды.

*Ілюстрацыі Маргарыты Латышкевіч.*





# Рычард Олдынгтан

Richard Aldington

**Раман «Смерць героя» — аўтабіяграфічная, працятая безнадзейнасцю і трагізмам рэакцыя на вайну — адразу пасля выдання быў прызнаны ўзорам літаратуры «страчанага пакалення». У рамане герой Олдынгтана расказвае пра даваеннае жыццё свайго загінулага сябра Джорджа Уінтэрборна. Чытаць гэты твор балюча, часам непрыемна, але ж аўтарская іронія і здзекі ў поўнай меры адлюстроўваюць трагічнасць і бессэнсоўнасць вайны і сямейнага жыцця ў Англіі канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Гэтая кніга прымусіць задумацца пра сваё жыццё і пра тое, як мы паводзім сябе ў сям'і.**

## Смерць героя

### Пралог

### Morte d'un eroe[1]

allegretto[1]

Вайна ўжо скончылася, а спісы параненых, забітых і тых, хто згінуў без вестак, — апошнія спазмы рассечаных артэрый Еўропы — працягвалі з'яўляцца ў друку. Канешне, ніхто імі не цікавіўся, да і чаму б? Жывыя павінны абараняцца ад мёртвых, асабліва гэткіх надакучлівых. Але дваццатае стагоддзе страціла свой лепшы час на помсту, і забыць трэба было многіх.

У адным з такіх спісаў пад загалоўкам «Загінулі ў баі» было надрукавана: «Уінтэрборн, Эдвард Фрэдэрык Джордж, капітан 9 роты 2 батальёна Фодэршырскага палка».

Нават сам Джордж Уінтэрборн быў бы здзіўлены тым, як абыякава людзі адрэагавалі на гэтую навіну і як хутка забыліся на яго; а ўжо ён меў цынізм пехацінца, што хавае свае пачуцці пад маскай бязглуздай весялосці і гэтым ўводзіць у зман некаторых не вельмі праніклівых людзей. Уінтэрборн хутчэй *разлічваў* на тое, што яго заб'юць, і ведаў: яго дачасную смерць у дваццаць з нечым гадоў лёгка вытрымаюць тыя, хто пражыве больш за яго. Але тое, што здарылася насамрэч, усё ж такі зачапіла б самалюбства Джорджа.

Кажуць, што жыццё — гэта промень святла, які з'яўляецца раптоўна і ніадкуль, быццам гром з яснага неба. Гэты прамень апісвае святлівую геаметрычную фігуру ў прасторы-часе, а затым гэтак жа раптоўна знікае. (Было б цікава ўбачыць, як агні знікаюць з прастора-часу ў якім-небудзь буйным баі, як Смерць тушыць свечкі). Што ж, гэта здарыцца з кожным з нас; але мы цешым

[1] Алегрэта, музычны тэрмін, абазначае тэмп: памяркоўна, хутка.

самалюбства надзеяй на тое, што наш даволі блытаны і не вельмі яскравы след будзе свяціцца яшчэ некалькі гадоў для некалькіх людзей. Я думаю, імя Уінтэрборна і сапраўды ёсць на якой-небудзь мемарыяльнай дошцы, мабыць, у царкве пры школе, дзе ён вучыўся, і, безумоўна, ён атрымаў нядрэнны магільны камень дзесьці ў Францыі. Але гэта ўсё. Больш нікога не хвалявала тое, што яго забілі. У сціплых людзей, яшчэ і без грошай, не бывае шмат сяброў, і Уінтэрборн асабліва не спадзяваўся на сваіх нешматлікіх прыяцеляў, менш за ўсіх — на мяне. Але я ведаю — ён сам мне пра гэта сказаў, — што ёсць у свеце чатыры чалавекі, якім неабыякавы ён і ягоны лёс. Гэтымі людзьмі былі яго маці і бацька, жонка і палюбоўніца. Калі б Уінтэрборн ведаў, як яны ўспрымуць яго смерць, я лічу, ён адчуў бы лёгкі шок, прыемнае здзіўленне і, мабыць, трошкі заспакаення. Гэта пазбавіла б яго пачуцця нейкай адказнасці.

Бацька Уінтэрборна — я крыху яго ведаў — быў адметны сваёй празмернай сентыментальнасцю. Ён быў мяккі, быццам арыстакратычны, слабы і няўмелы, эгаістычна бескарыслівы чалавек (г. зн. ён выхваляўся тым, што «адмовіўся» ад таго, што баяўся зрабіць або ўзяць), а таксама меў талент губіць жыццё іншых. Надзвычайна тое, як шмат дрэннага можа зрабіць сапраўды добры чалавек — дзесяць хітрых нягоднікаў не зробяць больш. Ён сапсаваў жыццё жонкі, бо быў бязвольны з ёй; загубіў жыццё сваіх дзяцей, бо быў слабы і сентыментальны з імі, ён страціў усе свае грошы — недаравальны грэх бацькі. Ён таксама загубіў жыццё сваіх сяброў і кліентаў — чэсна страціў і іх грошы. А ўжо сваё жыццё ён зусім загубіў. Толькі гэта бацька Джорджа і ўмеў рабіць з поўнай дакладнасцю. Распутаць павуціну яго жыцця не змагла б і армія псіхолагаў.

Калі я падзяліўся з Уінтэрборнам сваімі думкамі пра яго бацьку, ён прызнаўся, што збольшага я правы. Але Джордж хутчэй любіў бацьку, мабыць, падкуплены яго мяккасцю і нястрогі да яго эгаістычнай сентыментальнасці. Магчыма, стары Уінтэрборн аднёсся б да смерці сына па-іншаму ў іншых абставінах. Але вайна так напалохала бацька, нядатнага прыстасавацца да жорсткай і назойлівай рэальнасці — а ён усё жыццё ухіляўся ад яе, — што ён знайшоў пазбаўленне ў бессэнсоўнай рэлігійнасці. Стары завёў знаёмства з нейкімі крывадушнымі каталікамі, чытаў крывадушныя рэлігійныя брашуры, якімі гэтыя каталікі пазавальвалі яго, і выліваў душу, і хныкаў празмерна крывадушнаму святару, якога знайшлі для яго. Так што калісьці ў сярэдзіне вайны бацька «атрымаў» — давайце спадзявацца, што і знайшоў — заспакаенне ў шматлікіх малітвах, прымаў удзел у месах і складаў правілы для тых, хто імкнецца да жыцця вечнага, ён нават бачыў у сябе падабенства са святым Францыскам Сальскім і маліўся на кананізацыю звышкрывадушнай Тэрэзы Лізьескай[3].

Звесткі аб смерці Джорджа з’явіліся, калі стары Уінтэрбон быў у Лондане, так сказаць, «працаваў на абарону». Стары б ніколі не зрабіў нешта гэткае ўпэўненае і энергічнае, калі б яго не прымушала жонка, якая ўсё буркала на яго. Натхненне жанчыны ішло не столькі ад бескарыслівага патрыятызму, але ад незадаволенасці тым, што муж увогуле існуе і перашкаджае яе любоўным справам. Стары Уінтэрборн з нейкай сумнай годнасцю заўсёды казаў, што яго «рэлігійныя перакананні забараняюць» разысціся з жонкай. Рэлігійныя перакананні — добрая апраўданне, каб быць агідным чалавекам. І вось жонка знайшла яму нейкую абарончую працу ў Лондане, што паставіла Уінтэрборна ў такое становішча, калі ўжо нельга адмовіць.

Тэлеграма ад ваеннага міністэрства: «На жаль паведамляем… загінуў у баі… спачуванне Іх Вялікасцей…» — прыйшла на дамашні адрас у вёску, і атрымала яе місіс Уінтэрборн. Гэткая навіна, амаль прыемная змена для жанчыны, бо ў вёсцы было вельмі нудна пасля перамір’я.

[3] Францыск Сальскі (1567—1622) — швейцарскі епіскап, Тэрэза Лізьеская (1873—1897) — французская манашка; кананізавана каталіцкай царквой у 1925 г.

Калі слуга прынёс тэлеграму, місіс Уінтэрборн сядзела каля каміна і нудзілася са сваім дваццаць другім па спісе палюбоўнікам — іх раман цягнуўся ўжо з год. Пісьмо было адрасавана містару Уінтэрборну, але, канешне, жанчына разгарнула яго: яна мела думку, што «адна з гэтых» «жадае займець» яе мужа. Аднак сам Уінтэрборн ніколі не здраджваў жонцы, бо быў баязліўцам.

Місіс Уінтэрборн любіла тэатральныя эфекты ў асабістым жыцці. Яна вельмі праўдападобна ўскрыкнула, прыціснула рукі да друзлых грудзей і зрабіла выгляд, што зараз страціць прытомнасць. Палюбоўнік, слаўны, малады і спартыўны англічанін, не вельмі разумны, з такіх, што з лёгкасцю даюць жанчынам, асабліва чыстакроўным англічанкам, сябе ашукваць, падхапіў яе машынальна і неахвотна, але з нейкім адценнем рамантычнасці, як быццам бы ён герой твораў Этэль Дэл[4], і ўсклікнуў:

— Каханая, што здарылася? Ці *ён* зноў цябе пакрыўдзіў?

Небарака Уінтэрборн нікога не змог бы пакрыўдзіць, але ў місіс Уінтэрборн была тайная дамова з палюбоўнікамі, быццам бы муж яе «пакрыўдзіў», пры гэтым горшая яго насмешка была толькі ў тым, што стары шчыра маліўся, каб жонка і ўсе «бедныя аблудныя англічане» здабылі сапраўдную веру.

У лепшых традыцыях рамантычнай прозы, Місіс Уінтэрборн слаба выгукнула нізкім плаксівым голасам:

— Загінуў! Ён загінуў!

— Хто? Уінтэрборн?

Напэўна, палюбоўнік місіс Уінтэрборн, Сэм Браўн, спытаў пра гэта з нейкай бояззю ў голасе: безумоўна, ён вымушаны будзе зрабіць жанчыне прапанову, а яна мусіць згадзіцца.

— Яны забілі яго, гэтыя паскудныя, *брыдкія* чужаземцы! Майго *маленькага* сыначку!

Сэм Браўн, які ўсё яшчэ нічога не разумеў, прачытаў тэлеграму. Затым ён выцягнуўся па стойцы «смірна», аддаў чэсць (хоць і быў з непакрытай галавою) і ўрачыста вымавіў:

— Слаўная, высакародная смерць, смерць *англічаніна*.

[Бо калі забівалі немцаў, смерць іх не была ні слаўнай, ні высакароднай, справядліва ім (быдла, а не людзі!)].

Слёзы місіс Уінтэрборн былі не надта шчырыя, таму хутка высыхалі. Драматычна, яна падбегла да тэлефона. Драматычна, яна патэлефанавала на станцыю:

— Станцыя? (Усхліп.) Дайце мне Кенсінгтан дзесяць трыццаць. Ну, вы ведаеце, нумар містара Уінтэрборна. (Усхліп.) Наш *дарагі* сыночак — капітан Уінтэрборн, — яго забілі гэтыя (усхліп) звяры. (Усхліп. Паўза.) О, *вялікі* дзякуй вам, містар Крамп, я *не сумнявалася*, што вы са спагадай аднесяцеся да нашага гора! (Усхліп. Усхліп.) Але ж гэта такі ўдар, так нечакана! Я *павінна* пагаварыць з містарам Уінтэрборнам. У нас тут сэрцы разрываюцца. (Усхліпісіма!) Дзякуй. Буду чакаць званка.

У тэлефоннай гутарцы з мужам місіс Уінтэрборн заставалася верная сабе:

— Джордж, ты? Так, гэта Ізабэла. *Даволі* кепскія навіны. Не, пра Джорджа. Ты павінен быць падрыхтаваны, дарагі. Баюся, ён сур’ёзна хворы. Што? Не. Джордж. ДЖОРДЖ. Ці ты не чуеш? Так, цяпер лепш. Слухай, дарагі, падрыхтуйся да *вялікай* катастрофы. Джордж сур’ёзна хворы. Так, *наш* Джордж, наш *маленькі* сынку. Што? Ранены? Не, ён не ранены, ён *небяспечна* хворы. Не, дарагі, надзеі амаль няма. (Усхліп.) Так, дарагі, ёсць тэлеграма ад *Караля і Каралевы*. Мне прачытаць? Ты ж сапраўды падрыхтаваны да катастрофы (усхліп), так, Джордж? «На жаль паведамляем… загінуў у баі… спачуванне Іх Вялікасцей…» (Усхліп. Працяглая паўза.) Ці ты тут,

[4] Этэль Дэл (1881—1939) — англійская пісьменніца, аўтар жаночых раманаў і навел.

Джордж? Алё, алё! (Усхліп.) Алё, алё! АЛЁ. (Сэму Браўну) Ён паклаў трубку! Ох, як жа ён мяне *крыўдзіць*! Як жа мне цярпець гэта, калі я ў такім горы? І гэта пасля таго, як я мякка падрыхтавала яго да катастрофы! (Усхліп. Усхліп.) Вось заўсёды мне прыходзіцца *змагацца* за сваіх дзяцей, пакуль ён сядзеў, уткнуўшыся ў свае кнігі, — і *маліўся*.

Трэба сказаць, да гонару місіс Уінтэрборн, што яна не вельмі верыла ў моц малітваў у жыцці. Але тады прычынай яе пратэсту супраць рэлігіі было нежаданне рабіць тое, што ёй не падабаецца, і нянавісць да чагосьці, што хоць аддалена напамінае мысленне.

Калі містар Уінтэрборн дазнаўся пра смерць сына, то паваліўся на калені (не забыўшыся, аднак, пакласці трубку і скончыць размову з гарпіяй жонкай) і ўскрыкнуў: «Госпадзе Ісусе, прымі яго душу!» Потым стары даволі доўга маліўся, на душу Джорджа, пра сябе, пра «грэшную, але каханую жонку», пра іншых сваіх дзяцей, «беражы іх і няхай па міласці Тваёй знойдуць яны дарогу да сапраўднай веры», пра англічан (гэтак жа сама) і пра сваіх ворагаў, «Божа, не шукаю ворагаў я, але ж грэшны я, mea culpa, mea culpa, mea maxima culpa, Ave Maria[5]…»

Містар Уінтэрборн некаторы час прастаяў на каленях. Але ў прыхожай, на плітцы, каленям было балюча, таму ён пайшоў у спальню і ўкленчыў на падушачку малітвенай лаўкі. Перад ім на лаўцы, на надта духоўнай вышыванцы — падарунку «каталіцкай сястры ў Хрысце», — ляжаў разгорнуты трэбнік у надта духоўным пераплёце і з надта духоўнай каляровай закладкай. Вышэй, на падстаўцы стаяла размаляваная Дзева Марыя з агідным немаўлём Ісусам, копія статуі з плошчы Сэнт-Сулпіс. У руках немаўляці целяпалася крывавае Святое Сэрца, атачонае промнямі. Яшчэ вышэй вісела вялізнае распяцце — даволі танная падробка пад бронзу, — справа — рэпрадукцыя «Тайнай вячэры» Леанарда да Вінчы (каляровая), злева — іншая рэпрадукцыя (не каляровая) «Светача міру» Холмана Ханта[6] (ерэтыка). Усё гэта прыносіла містару Уінтэрборну найглыбейшае духоўнае заспакаенне.

За вячэрай ён з'еў мала, сумна задаволены тым, як смутак пагаршае апетыт. Пасля стары адправіўся да свайго спавядальніка, айца Слэка, з якім правёў прыемна эмацыянальны вечар. Містар Уінтэрборн удосталь паплакаў, потым яны абодва памаліліся; айцец Слэк сказаў, што можа на Джорджа паўплывалі малітвы і дабрачыннасці бацькі, і ён пакаяўся перад смерцю, на што містар Уінтэрборн адказаў, што хоць Джордж і не быў «прыняты» ў лона царквы, ён меў «сэрца сапраўднага католіка», нават аднойчы прачытаў адну пропаведзь Басюэ[7]. Айцец Слэк паабяцаў, што будзе маліцца пра душу Джорджа, і містар Уінтэрборн даў яму пяць фунтаў — шчодра (хоць і неразумна), бо стары зарабляў мала грошай.

І потым містар Уінтэрборн пачаў маліцца на дзесяць хвілін даўжэй раніцамі і па вечарах, пра душу Джорджа. Але на жаль, ён трапіў пад калёсы каля Хайд-парка, пакуль разважаў пра святога пакутніка айца Парсанса і пра яшчэ больш святога пакутніка, айца Гарнета, героя Парахавой змовы. Так што, бо пяць фунтаў скора скончыліся, ніхто больш не маліўся пра душу Джорджа, таму, наколькі вядома святой рымскай апостальскай царкве і наколькі гэта ад яе залежыць, небарака Джордж знаходзіцца ў пекле, і хутчэй за ўсё там і застанецца. Але пасля апошніх гадоў свайго жыцця, наўрад ці ён заўважыць розніцу.

Вось так прыняў смерць Джорджа яго бацька. «Рэакцыя» (як кажуць псіхолагі) місіс Уінтэрборн была іншай. Спачатку яна знайшла смерць сына хвалюючай і стымулюючай, асабліва эратычна стымулюючай. Жанчына стварыла драму навокал сябе і свайго жыцця. Яна жадала быць у цэн-

[5] Мая віна, мая віна, мая найвялікшая віна, радуйся, Марыя… (лац. ).

[6] Холман Хант (1827—1910) — англійскі мастак, адзіны з заснавальнікаў «Брацтва прэрафаэлітаў».

[7] Жак-Бянінь Басюэ (1627—1704) — знакаміты французскі прапаведнік; епіскап, багаслоў і гісторык.

тры ўсеагульнай увагі, быццам нейкі італьянскі лейтэнант, нягледзячы на тое, што гэта была б за ўвага. Даўжэй за месячны выпрабавальны тэрмін у доме заставаліся толькі тыя служкі, якія былі гатовыя нізкапаклоннічаць і ліслівіць перад місіс Уінтэрборн, выконваць кожны яе капрыз, расхвальваць яе словы, учынкі, яе маёмасць, а таксама яе сяброукоў. Але ж місіс Уінтэрборн была празмерна зменлівай і сварлівай жанчынай, лёгка ператварала зацятых ворагаў у няшчырых сяброў, і наадварот. Таму ж ад гэтых карыслівых наймітаў, што заставаліся вернымі ёй толькі дзеля падарункаў ці прыбаўкі да зарплаты ў выпадку сапраўды задавальняючай ліслівасці, патрабавалася нешта большае, чым проста дыпламатычная гнуткасць.

Місіс Уінтэрборн была ўжо «спелая жанчына», аднак ёй больш падабалася ўяўляць сябе чароўнай сямнаццацігадовай дзяўчынай, горача каханай палкім і захапляльным, быццам шэйх[8], але прытым вядома ж «чыстым» (каб не сказаць «сумленным») маладым брытанцам. Яна так і сыпала прытворна рэвалюцыйнымі фразамі, якія быццам бы падрываюць асновы сям'і і ўласнасці (больш падобна да тырад «асвечаных» служыцеляў царквы), але ж, па сутнасці, гэта была самая пасрэдная жанчына сярэдняга класа, абмежаваная, прагная, скупая і злосная. Як і ўсе, яна ліслівіла перад тымі, хто займаў лепшае становішча ў грамадстве, і папіхала тымі, хто стаяў ніжэй за яе. Рамкі кансерватыўнай маралі, канешне, рабілі яе крывадушніцай. У гуллівыя хвіліны (а забаўляцца яна вельмі любіла, зусім не разумеючы, наколькі гэта ёй не пасуе) яна ахвотна намякала, што здольная «парушыць усе забароны». А на самай справе яе жару хапала толькі на тое, каб выпіваць, хлусіць, быць несумленнай у грашовых справах, сварыцца з усімі па дробязях, з азартам біцца аб заклад і вадзіць інтрыжкі з нахабнымі юнакамі, якіх толькі пры яе рамантычна буяным уяўленні можна было б называць «чыстымі і сумленнымі», хоць, без сумневу, яны былі сапраўднымі брытанцамі і, зразумела, слаўнымі хлопцамі — больш ці менш нахабнага тыпу.

Столькі ўжо яна змяніла гэтых чыстых і сумленных маладых шэйхаў, што нават няшчасны стары містар Уінтэрборн блытаўся, і калі ён пісаў эмацыянальныя лісты, якія пачыналіся словамі: «Сэр, Вы выкралі каханне маёй жонкі, як подлы сабака, ды не будзе гэта зразумела ў нехрысціянскім духу», — то адрасаваны яны былі ўжо да мінулага альбо пазамінулага шэйха, а не да чыстага і сумленнага цяперашняга. Аднак паведамленні, якія няспынна з'яўляліся ў дні вайны на старонках газет і часопісаў, а галоўнае — небяспека саспелай жанчыны ператварыцца ў пераспелую, — настроілі місіс Уінтэрборн на сур'ёзны лад, і з беспамылковым нюхам яна учапілася ў Сэма Браўна — і ўжо не адпускала няшчаснага да канца яго дзён (які яна ж і паскорыла). Такія, як Сэм Браўн, канешне, сустракаюцца толькі ў казках. Калі б я не бачыў яго на свае вочы, я б у яго проста не паверыў. Ён быў жывы— але не вельмі ажыўлены — стэрэатып. Уяўленне пра жыццё ў яго было самае прымітыўнае, ледзь дастатковае для чатырохногага, і розумам прырода надзяліла яго вельмі скупа. Гэта быў вялікаўзроставы байскаўт, малодшакласнік у бліскучай бранi бесталкоўшчыны. Усё ў жыцці ён успрымаў і ацэньваў па гатовай формуле, — што б ні здарылася, а адпаведная, загадзя прадугледжаная формула заўсёды знойдзецца. Такім чынам, хоць і не дасягнуўшы ні ў чым асабліва добрых вынікаў, ён, увогуле, меў поспех, шчасна слізгаў па укатаных дарожках дзесьці на другім плане. Ён ніколі сам не загаворваў аб тым, што быў паранены, узнагароджаны ордэнам ці што ўжо 4 жніўня добраахвотнікам адправіўся ваяваць. Словам, сціплы, выхаваны — і гэтак далей — англійскі джэнтльмен.

Формула на выпадак смерці сына замужняй палюбоўніцы ўключала ў сябе суровую мужнасць і мяккае суцяшэнне раненага матчынага сэрца. Спачатку місіс Уінтэрборн старанна іграла сваю ролю, бо ёй падабалася, як шэйх заўсёды суцяшаў яе гарачай, але ласкавай любоўю. Аднак

[8] «...Быццам шэйх...» —параўнанне з героем рамана Эдзіт Хал «Шэйх» (1921).

смерць Джорджа мела, як ні дзіўна, амаль поўнасцю эратычны эфект на яе тэмперамент. Вайна паўсплывала так на многіх жанчын. Смерць, раны, кроў, жорсткасць — і ўсё гэта на бяспечнай адлегласці — падсцёбвалі, распальвалі іх жаданні да межаў фантастычных. Зразумела, 1914—1918 гады здаваліся вечнасцю, і жанчыны, напэўна, уявілі, што смяротныя адны толькі мужчыны, а ім падорана неўміручасць. Таму яны і паводзілі сябе як гурыі з кожным шэйхам навокал — вось чаму іх так прыцягвала «праца на абарону» з яе шырокімі магчымасцямі. А яшчэ і першабытны фізіялагічны інстынкт: прызначэнне мужчыны — забіваць і быць забітым, прызначэнне жанчыны — нараджаць новых мужчын, каб усе працягвалася ў тым жа духу. (Аднак гэтаму нярэдка перашкаджае навука, бо яна ідзе наперад, а менавіта: стварае супрацьзачаткавыя сродкі, за што ёй вялікі дзякуй.)

Такім чынам, не здзіўляйцеся, што хваляванне місіс Уінтэрборн, выкліканае смерцю сына, амаль адразу прыняло эратычную афарбоўку. Яна ляжала на ложку ў пышных белых панталонах з доўгімі фальбонамі і ў нявіннай, але незвычайна прыбранай кашульцы. Сэм Браўн, моцны, маўклівы, стрыманы і пяшчотны, мачыў ёй лоб адэкалонам, а яна вялікімі глыткамі ўсё часцей прысёрбвала каньяк. Зразумела, правілы прыстойнасці патрабавалі, каб да яе гора ставіліся з павагай, і гэта было нават прыемна, а ўсё ж такі жанчына жадала, каб Сэма не даводзілася кожны раз самой падштурхоўваць на першы крок. Няўжо ён не бачыць, што яе пяшчотная натура мае патрэбу ў суцяшэнні —у кропельцы Сапраўднага Кахання, — прытым *неадкладна*?

— Ён так многа для мяне значыў, Сэм, — ціха мовіла місіс Уінтэрборн па-майстэрску дрыжачым голасам. — Я была зусім дзіцем, калі ён нарадзіўся — дзіця з дзіцем, так гаварылі, — мы выраслі разам. Я была такая маладая, што яшчэ два гады пасля яго нараджэння хадзіла з распушчанымі валасамі.

(Упэўніванні місіс Уінтэрборн наконт яе вечнага юнацтва былі шытыя белымі ніткамі, і не падманулі б нават чытачоў «Джона Бланта»[9], — але ж усе шэйхі трапляліся на гэтую вуду. Адзіны Бог ведае, што яны думалі, — мабыць, што Уінтэрборн «пакрыўдзіў» Ізабэлу, калі ёй было дзесяць гадоў).

— Мы заўсёды былі разам, такія сябры, ён пра ўсё мне расказваў, Сэм.

Няшчасны Джордж! Ён настолькі не любіў маці, што ў апошнія пяць гадоў свайго жыцця бачыўся з ёй менш за пяць разоў. А ўжо расказваць ёй пра ўсё — нават самы прастадушны з усіх прастадушных дзікуноў адразу ж западозрыў бы, што жанчына хлусіць. Яна так часта падводзіла яго з самага дзяцінства, што ён быў увесь замкнёны для навакольнага свету і ўжо не мог даверыцца ні жонцы, ні палюбоўніцы, ні сябру).

— А цяпер яго няма, — і тут у голасе місіс Уінтэрборн загучалі вельмі недвухсэнсоўныя прызыўныя ноткі, нават бесталковы шэйх заўважыў гэта і адчуў смутны неспакой, — ён памёр, і ва ўсім свеце ў мяне застаўся толькі *ты*, Сэм. Ты ўжо пачуў, як сёння гэты агідны мужчына пакрыўдзіў мяне па тэлефоне. Пацалуй мяне, Сэм, і паабяцай, што ты заўсёды застанешся маім сябрам, *сапраўдным сябрам.*

Формулай паводзінаў шэйха ў гэты дзень не прадугледжвалася займацца каханнем; толькі суцяшэнне, бо «святасць» яе мацярынскага гора недапушчальна апаганьваць цялеснай блізкасцю — хоць і гэтая блізкасць паміж «чыстым» маладым англічанінам і «бязгрэшнай» жанчынай, у якой толькі і было, што муж ды дваццаць два палюбоўнікі, таксама дзіўным чынам апынулася «святой». Але дзе ўжо ўсім Сэмам Браўнам у свеце выстаяць перад нязломнай воляй такіх вось місіс Уінтэрборн, асабліва перад іх воляй да савакуплення!

---

[9] «Джон Блант» — англійскі тыднёвік, названы па імені багаслова Джона Бланта (1794—1855).

І ён таксама адчуў дзіўную ненармальную асалоду ў мілаваннях і занятках каханнем над свежым трупам; а між тым, каб толькі ён быў здольны крыху паразважаць, зразумеў бы, што місіс Уінтэрборн не толькі садыстка, але і некрафілка.

У наступныя тыдні смерць Джорджа стала для яго маці крыніцай і іншых, амаль нічым не азмрочаных радасцяў. Місіс Уінтэрборн даравала — часова — самым заклятым сваім ворагам усе крыўды, каб можна было напісаць пабольш па-майстэрску ўпрыгожаных плямамі слёз лістоў пра сваю цяжкую страту. Многія без пяці хвілін арыстакраты, якія звычайна пазбягалі місіс Уінтэрборн як атрутнай разнавіднасці скарпіёна ў вобразе чалавечым, з'явіліся да яе з візітам — вельмі кароткім — і выказалі сваё спачуванне. Нават свяшчэннік наведаў яе, і быў сустрэты з ветласцю надзвычайнай; бо, хоць місіс Уінтэрборн і запэўнівала ўсіх, быццам яна нейкі грамадскі змагар і «Агностык» (гэтыя погляды з'явіліся ў яе толькі пасля таго, як перад ёю зачынілі дзверы амаль усе добрапрыстойныя і набожныя абывацелі), яна захавала прымхлівую павагу да служыцеляў афіцыйнай царквы.

Другой радасцю місіс Уінтэрборн было сварыцца з Элізабэт, жонкай Джорджа, наконт яго маленькай «спадчыны» і рэчаў, што засталіся пасля яго смерці. Сыходзячы ў войска, Джордж палічыў, што як бліжэйшага родзіча павінен назваць бацьку. Пазней ён зразумеў сваю памылку, і, адпраўляючыся ў Францыю, пазначыў бліжэйшым родзічам жонку. Ваеннае міністэрства клапатліва захавала абодва дакументы — альбо там уявілі, што існуюць два Джорджы Уінтэрборны, альбо першая паперка, не канфіскаваная афіцыйна, захавала юрыдычную сілу. Так ці інакш, частка рэчаў, якія засталіся пасля гібелі Джорджа, была дасланая на загарадны адрас на імя бацькі, а маці бессаромна іх прысвоіла. Астатнія асабістыя рэчы і яго афіцэрская зарплата былі адпраўлены жонцы. Маці гэта прывяло ў неапісальную лютасць. Ах, які дурны бюракратызм! Ды хіба ж яе сыночак не належыць ёй, маці? Ці не яна насіла яго пад сэрцам і тым самым да канца свайго зямнога існавання здабыла права валодаць непадзельна ім самім і ўсім, што яму належала? Ды хіба ж можа жанчына, хто б яна ні была, заняць у сэрцы Мужчыны такое ж месца, як яго родная Маці?! А таму зразумела, што яна — маці — і ёсць яго найбліжэйшы родзіч, і ўся яго маёмасць, уключаючы ўдовіну пенсію, павінна дастацца ёй і толькі ёй, што і трэба было даказаць. З-за гэтай спадчыны місіс Уінтэрборн не давала ні хвіліны спакою свайму змучанаму мужу, спрабавала ўцягнуць у бойку Сэма Браўна, аднак яго хапіла толькі на прытворны «прамы і сумленны» ліст да Элізабэт, але тая накаўтавала яго ў першым жа раўндзе, — і нават звярнулася да сталічнага юрыста. З Лондана місіс Уінтэрборн-старэйшая вярнулася зусім ашалелая. «Гэты чалавек» (муж) ізноў «пакрыўдзіў» яе, бо нясмела заўважыў, што ўсю маёмасць Джорджа трэба аддаць яго ўдаве, якая, вядома, дазволіць ім захаваць якія-небудзь рэчы на памяць пра сына. Юрыст жа — подлая скаціна! — без усякага спачування заявіў, што ўдава Джорджа мае поўнае права прыцягнуць свякроў да суда за ўтрыманне маёмасці, што належыць «гэтай жанчыне» (Элізабэт) па законе. Завяшчанне Джорджа было ясным і недвухсэнсоўным: ён усё пакінуў жонцы. Але ж тую долю яго рэчаў, якую забрала сабе матуля, яна з рук ужо не выпусціла, на злосць усім сілам зямным і нябесным. І яна ўзрадавалася магчымасці з асалодай выказаць «гэтай жанчыне» (іншымі словамі, Элізабэт) усе, што пра яе думала, — а менавіта, што бедная Элізабэт аб'ядноўвае ў сваёй асобе Кацярыну Другую, Лукрэцыю Борджа, мадам дэ Брынвіл'е[10], Моль Флэндэрс[11], «вязальшчыцу»[12] часоў Французскай рэвалюцыі і заўзятую нягодніцу з лонданскіх трушчоб.

---

[10] Мадам дэ Брынвіл'е— атруціла бацьку, братоў і сясцёр, каб завалодаць іх маёмасцю.
[11] Моль Флэндэрс — гераіня аднайменнага рамана Дэфо (1722), прастытутка і зладзейка.
[12] «Вязальшчыцамі» ў час Французскай рэвалюцыі 1789—1794 гг. звалі жанчын, якія прысутнічалі на публічных пакараннях і займаліся пры гэтым вязаннем.

Але пасля сваёй смерці Джордж служыў для маці крыніцай забавы ўсяго месяцы два. Як раз тады, калі ў спрэчцы з Элізабэт місіс Уінтэрборн дасягнула сапраўды галавакружных вышынь вульгарнай лаянкі (са свайго боку), старога Уінтэрборна пераехала машына. З'явіліся новыя забавы: сведчанне пра смерць, і самае сапраўднае пахаванне, і жалоба ўдавы, і новыя лісты, якія трэба было закапаць слязьмі. Яна нават паслала такі ліст Элізабэт — я сам яго бачыў; яна пісала, што пасля «дваццаці гадоў» замужжа (на самай справе яны былі жанатыя каля трыццаці гадоў) надышоў канец яе сямейнага шчасця, што цяпер бацька і сын злучыліся ў шчасці жыцця вечнага і што, якія б ні былі памылкі і грахі містара Уінтэрборна, ён заўсёды быў джэнтльменам (апошняе слова яна падкрэсліла тоўстай рысай і паставіла некалькі клічнікаў, напэўна, намякаючы, што сама ж Элізабэт зусім не лэдзі).

Праз месяц місіс Уінтэрборн узяла шлюб са сваім шэйхам — на жаль, з гэтага часу ён перастаў быць шэйхам! Шлюб быў зарэгістраваны ў лонданскай канцылярыі, пасля чаго яны адбылі ў Аўстралію, каб весці там жыццё чыстае, сумленнае і высакароднае. Ды будзе з імі Бог — ужо занадта яны былі чыстыя і сумленныя для бруднай карумпаванай Еўропы!

Бацькі Джорджа без сумненняў былі недарэчныя да гратэскавасці. Калі, знаходзячыся ў настроі цынічнай весялосці, ён расказваў сваім сябрам абсалютную праўду пра родзічаў, тыя — нават даволі інтэлігентныя людзі — заўсёды абвінавачвалі яго ў страшэннай хлусні. Калі толькі ўсе прынятыя тэорыі пра ролю спадчыннасці і асяроддзя не лжывыя — а напэўна, так і ёсць, — незразумела, чаму Джордж вырас нікольки не падобны да бацькоў і астатніх родзічаў. Знешне ён нагадваў абодвух, але ў астатнім у такой ступені адрозніваўся, быццам з месяца зваліўся. Магчыма, яны і здаваліся гратэскнымі таму, што ніводны з бацькоў не змог прыстасавацца да ўсёабдымнай рэвалюцыі, прычынай ці сімптомам якой была вайна. У іх пад самым носам разыгралася найвялікшая драма, а яны нават і не заўважылі. Іх цікавілі толькі харчы. Старога Уінтэрборна яшчэ хваляваў «лёс Радзімы», таму ён пісаў лісты з парадамі ў «Таймз» (дзе яны ніколі не друкаваліся), а затым перапісваў іх на паперы з гербам свайго клуба і адпраўляў прэм'ер-міністру. Сакратар прэм'ера нязменна ветліва пацвярджаў атрыманне. Але ж місіс Уінтэрборн «лёс краіны» хваляваў толькі час ад часу. Яна лічыла, што Брытанія павінна працягваць вайну, каб знішчыць усіх «паскудных, брыдкіх чужаземцаў» і зрабіць бяспечным жыццё чыстых і сумленных шэйхаў і мілых, бязгрэшных, гуллівых як кацяня англічанак за пяцьдзясят. Сапраўды гратэскна, вычварна, неверагодна, быццам мужчынская мода ў 1840-ым. Я бачыў бацькоў Джорджа толькі некалькі разоў, альбо ў кампаніі Джорджа, альбо як яго душапрыказчык, і яны здаліся мне непраўдападобнымі, смяхотнымі, дагістарычнымі выкапнямі. Старыя Уінтэрборны нічому не навучыліся падчас вайны і ні на што не забыліся. Трагедыя Англіі ў тым, што вайна нічому не навучыла іх уінтэрборнаў і што ёй кіравалі гратэскныя, стогнучыя і няўпэўненыя грамадзянскія служкі, а моладзь у гэты час у адчаі кінула гэтыя справы. «Gott strafe England»[13] — малітва, якая сапраўды збылася ў тым, што гэтыя старыя гратэскавыя ўінтэрборны засталіся ва ўладзе, робячы выгляд, што яны яшчэ жывыя. А мы ў маўклівай згодзе працягваем жыць, не маючы мужнасці адправіць гэтых недарэчных драўляных лялек у чысцец, дзе ім і месца. Pero, paciencia. Mañana. Mañana[14]…

Я лічу, што Джордж здзейсніў самагубства ў апошнім баі вайны. Безумоўна, ён не застрэліўся сам, але ж камандзіру батальёна было б вельмі лёгка стаць пад агонь ворагаў. Сітуацыя з жонкай Элізабэт і палюбоўніцай Фані Вэлфард была не занадта складаная, але патрабавала цярпення,

[13] Gott strafe England — Божа, пакарай Англію (ням.) — нямецкі лозунг у перыяд 1-й сусветнай вайны (за тое, што англічане — германскі народ — выступілі ў вайне супраць немцаў).

[14] «Аднак цярпенне, заўтра, заўтра» (ісп.).

энергіі, рашучасці і разважнасці для яе выпраўлення. Аднак у лістападзе васямнаццатага года няшчасны Джордж быў ужо знясілены звыш усякай меры. Ён крыху ашалеў, як і ўсе мы пасля паўгоддзя на фронце. Пасля бітвы ў Арасе (красавік 1917) Джордж быў вельмі нервовы, і калі ў кастрычніку 1918 мы сустрэліся ў тылавым дывізіённым лагеры, я адразу ўбачыў, што ён змораны і больш ужо ні на што не здатны. Яму трэба было пайсці да брыгадзіра і атрымаць хоць бы кароткі адпачынак. Але Джордж занадта баяўся баяцца. У тую апошнюю ноч, калі мы з ім бачыліся, ён сказаў мне, што яго цяпер палохаюць нават разрывы гранат, а загараджальнага агню яму, напэўна, больш не вытрымаць. Аднак Джордж настойваў на тым, каб вярнуцца ў свой батальён, хоць і ведаў, што іх зараз жа зноў адправяць у бой. Мы з паўночы не спалі, і ён усё гаварыў пра Элізабэт, пра Фані і пра сябе, і зноў пра сябе, пра Фані і Элізабэт, і, нарэшце, усё гэта пачало здавацца такім кашмарам, такой зламеснай трагедыяй, што я і сам падумаў: выйсця няма. У тую ноч некалькі разоў налятаці і бамбілі варожыя аэрапланы, а мы ляжалі ў цемры на парусінавых ложках і перашэптваліся — дакладней, Джордж усё шаптаў і шаптаў, а я спрабаваў перабіць яго і не мог. І кожны раз, як непадалёк ад лагера падала бомба, я і ў цемры адчуваў, што Джордж уздрыгвае. Сапраўды, нервы ў яго былі нікуды не годныя.

Элізабэт і Фані гратэскавымі не назавеш. Да вайны яны прыстасаваліся на дзіва хутка і спрытна, як і да пасляваенных парадкаў. Абедзве былі напорыста дзелавітыя, як і многія жанчыны ў ваенныя і пасляваенныя гады; яны ўдала маскіравалі адвечны ўласніцкі інстынкт свайго полу дымавой завесай фрэйдызму і іншых псіхолагаў. Чулі б вы, як яны пра ўсё гэта разважалі! Яны адчувалі сябе надта ўпэўнена на вышынях «палавога пытання», у нетрах усялякіх тармажэнняў, комплексаў, сімволікі сноў, садызму, падушаных жаданняў, мазахізму, садаміі, лесбіянства і гэтак далей. Паслухаеш і скажаш: да чаго разумныя маладыя жанчыны! Вось хто непрыхільны да ўсялякіх сентыментальных глупстваў. Яны дасканала вывучылі палавыя праблемы і ведалі, як іх вырашыць. Існуе, маўляў, блізкасць фізічная, блізкасць эмацыянальная і блізкасць інтэлектуальная, — і гэтыя жанчыны кіравалі ўсімі трыма відамі з такой жа лёгкасцю, з якою вопытны лоцман праводзіць паслухмянае судна ў гавань. Яны ведалі, што рашэнне для ўсяго — свабода, поўная свабода. Няхай у мужчыны ёсць палюбоўніцы, у жанчыны — палюбоўнікі. Але калі існуе «сапраўдная» блізкасць, яе нішто не разбурыць. Рэўнасць? Такое прымітыўнае пачуццё вядома ж не можа хваляваць адукаванае сэрца, што б'ецца ў даволі плоскіх грудзях. Жаночыя хітрасці і падкопы? Ім была абразлівая адна толькі думка пра гэта. Не, не! Мужчыны павінны быць «свабодныя», і жанчыны павінны быць «свабодныя».

Джордж, простая душа, усяму гэтаму верыў. У яго быў «раман» з Элізабэт, а потым «раман» з яе лепшай сяброўкай Фані. Джордж лічыў, што трэба было б сказаць пра гэта Элізабэт, але Фані спытала, навошта. Без сумневу, Элізабэт ужо сама ўсё зразумела, і значна лепш было б даверыцца больш мудрым інстынктам, а не вырашаць усё з дапамогай «ніжэйшага розуму». Такім чынам, яны ні слова не сказалі Элізабэт, якая нічога сама не зразумела і ўяўляла, быццам бы Джордж і Фані «сексуальна антыпатычныя» адзін аднаму. Усё гэта здарылася напярэдадні вайны. Але ж у чатырнаццатым годзе ў Элізабэт здарылася «затрымка», і яна вырашыла, што цяжарная. Ух, які шум падняўся! Элізабэт зусім страціла розум. Фрэйд і ўсе іншыя псіхолагі ў імгненне адправіліся к чорту. *Тады* было ўжо не да размоў пра «свабоду»! Калі ў яе будзе дзіця, бацька перастане даваць ёй грошы, знаёмыя перастануць ёй кланяцца, яе ўжо не запросяць абедаць да лэдзі Сэнт-Лоўрэнс, яна... Словам, жанчына «ўчапілася» ў Джорджа так, што ён апынуўся ў бязвыхадным становішчы. Яна прымусіла яго патраціць процьму грошай на спецыяльны дазвол, і яны ажаніліся ў прысутнасці бацькоў Элізабэт, якія былі збянтэжаны яе нечаканым замужжам. Бацька Элізабэт слаба запярэчыў, што ў Джорджа ні граша за душой, а місіс Уінтэрборн-старэйшая напісала цудоўнае драматычнае

пасланне, закапанае слязьмі: Джордж — прыдуркаваты вырадак, ён разбіў яе пяшчотнае матчына сэрца і нахабна растаптаў яго дзеля нізкага жадання да агіднай жанчыны, якой толькі і трэба, што грошы сям'і Уінтэрборнаў. Паколькі ніякіх грошай у іх ужо не засталося, а стары Уінтэрборн жыў толькі хітрасцю і крэдытамі, абвінавачванне гэта было, мякка кажучы, чыстай фантазіяй. Але Элізабэт перамагла ўсе перашкоды, і яны з Джорджам сталі мужам і жонкай.

Пасля замужжа Элізабэт крыху супакоілася і стала паводзіць сябе больш-менш па-чалавечы. Тут толькі яна здагадалася пайсці да лекара; ён знайшоў у яе нейкую нязначную жаночую хваробу, параіў некалькі тыдняў «пазбягаць зносін» і зарагатаў, пачуўшы, што яна лічыла сябе цяжарнай. Джордж і Элізабэт знялі кватэрку ў Чэлсі, і праз тры месяцы Элізабэт зноў зрабілася вельмі «асвечанай» і поўнай «свабоды», як ніколі дагэтуль. Супакоеная словамі доктара, што толькі аперацыя дазволіць ёй мець дзяцей, жанчына завяла «раман» з нейкім маладым чалавекам з Кембрыджа і сказала пра гэта Джорджу. Джордж быў даволі здзіўлены і пакрыўджаны, але сумленна іграў сваю ролю і па першым жа намёку Элізабэт высакародна знікаў на ноч з дому. Канешне, ён не шмат чаго быў пазбаўлены, як здавалася Элізабэт: гэтыя ночы ён заўсёды праводзіў у Фані.

Гэта працягвалася да канца 1915 года. Джордж, хоць і падабаўся жанчынам, валодаў першакласным талентам вечна гаварыць ці рабіць што-небудзь не да месца. Калі б ён сказаў Элізабэт пра свой раман з Фані ў той час, калі тая была па вушы закаханая ў свайго кембрыджскага юнака, яна без сумненняў моўчкі пагадзілася б з гэтым, і ўсё прайшло б гладка. Але ж на сваё няшчасце, Джордж верыў кожнаму слову і Фані, і Элізабэт. Ён ні хвіліны не сумняваўся, што Элізабэт ведае пра яго адносіны з Фані, а калі яны і не гавораць пра гэта, так толькі таму, што «падобныя рэчы само сабою зразумелыя» і «абмазгоўваць» тут зусім няма чаго. Але аднойчы, калі кембрыджскі трохі ўжо надакучыў Элізабэт, яе ўразіла, з якой ахвотай Джордж падрыхтаваўся «прыбрацца» на ноч з дому.

— Але ж любы, — спытала яна, — хіба начаваць кожны раз у гасцініцы не вельмі дарага? Ці мы можам сабе гэта дазволіць? І ты зусім не супраць?

— Не, — адказаў наіўны Джордж. Я забягу да Фані і пераначую ў яе, як і заўсёды.

Грымнула бура: спачатку на Джорджа накінулася Элізабэт, потым — Фані, а затым — бітва тытанаў — Элізабэт накінулася на Фані. Няшчасны Джордж быў ужо сыты па горла гэтым, таму ўцёк у войска: запісаўся ў першым вярбовачным пункце, які знайшоў, і яго адразу адправілі ў вучэбны лагер у цэнтры Англіі. Але, зразумела, гэта не вырашыла праблемы. І Элізабэт, і Фані былі жудасна раззлаваныя. Бітва Ахілеса і Гектара, а Джордж — забіты Патрокл. Абедзве, у сутнасці, не палалі такім ужо каханнем да Джорджа, але ім было неабходна перамагчы і «адбіць» яго, і вельмі верагодна, што, «адбіўшы» яго ў другой, пераможца вельмі хутка кінула б няшчаснага. Таму яны пісалі яму ласкавыя, эмацыянальныя лісты, поўныя спачування да яго пакутаў ад ваеннай дысцыпліны. Элізабэт прыязджала да яго на ўсе выхадныя, але неяк яна «закруціла раман» з маладым амерыканскім лётчыкам, і Джордж, атрымаўшы «звальненне», правёў гэты час з Фані. Джордж не надта ведаў жанчын. Ён быў улюбёны ў Элізабэт, але і ў Фані таксама. Калі б ён толькі не паддаўся на балбатню пра «свабоду», захавай ён у тайне ад Элізабэт свае адносіны з Фані, ён мог бы весці прыемнае двайное жыццё. На сваю бяду ён не разумеў і так і не зразумеў да канца сваіх дзён, што жанчыны толькі балбаталі пра «свабоду», хоць ён усяму верыў. І ён пісаў ім абодвум вельмі дурныя і правакацыйныя лісты: Элізабэт расхвальваў Фані, Фані — Элізабэт, гаварыў пра тое, як абедзве яму не абыякавыя. Ён уявіў сябе Шэлі, Элізабэт быццам бы Мэры Годвін, а Фані — Эмілія Вівіяні[15]. Ён пісаў ім гэтак жа і з Францыі, да самага канца. І нават не падазраваў, якім ён быў аслом.

---

[15] Мэры — жонка паэта, Эмілія — дзяўчына, у якую ён быў закаханы.

Зразумела, не паспеў Джордж ступіць на карабель, які павінен быў адвезці яго ў Булонь, на базу англійскіх войскаў, як і Элізабэт, і Фані акунуліся ў новыя «раманы». Яны ўсё ваявалі з-за Джорджа, але толькі паміж справай, чыста сімвалічна, — больш насуперак адна другой, бо ён быў бы ім толькі абузай.

Тэлеграма з ваеннага міністэрства не застала Элізабэт: яна вярнулася дадому толькі апоўначы з чароўным маладым мастаком з Швецыі; яны толькі што пазнаёміліся на вечарыне ў Чэлсі. Элізабэт была ўжо п'яная, а швед —высокі, бялявы і прыгожы — так і палаў, разгарачаны закаханасцю і віскі. Тэлеграма і некалькі лістоў валяліся на дыванку каля дзвярэй. Элізабэт падабрала іх і, павярнуўшы выключальнік, машынальна разгарнула тэлеграму. Швед стаяў побач, гледзячы на яе закаханымі і п'янымі вачыма. Элізабэт міжволі ўздрыгнула і злёгку збялела.

— Штосьці здарылася?

Элізабэт нервова засмяялася і палажыла тэлеграму і лісты на стол.

— Ваеннае міністэрства с жалем паведамляе, што мой муж загінуў у баі.

Настала чарга шведу ўздрыгнуць:

— Твой муж? Напэўна, мне лепей…

— Не будзь дурнем, — рэзка адказала Элізабэт, — ён ужо даўным-даўно зрабіўся мне чужы. Няхай яна смуткуе, а я не буду.

Яна ўсё ж такі трошкі паплакала ў ваннай; але швед быў, безумоўна, занадта клапатлівы палюбоўнік. Потым яны выпілі нямала каньяку.

На другі дзень Элізабэт упершыню за некалькі месяцаў напісала Фані:

«Пішу табе ўсяго некалькі слоў, дарагая: я атрымала тэлеграму з ваеннага міністэрства з паведамленнем, што чацвёртага чысла Джордж быў забіты ў Францыі. Я падумала, што гэтая навіна будзе для цябе не такім ударам, калі пачуеш яе ад мяне, а не як-небудзь выпадкова. Калі наплачашся, зазірні да мяне, і мы разам справім памінкі».

Фані ёй не адказала. Яна ўсё ж такі кахала Джорджа і вырашыла, што ў Элізабэт зусім няма сэрца. Але і Элізабэт кахала Джорджа, толькі лічыла, што Фані не трэба пра гэта ведаць. Я часта сустракаўся з Элізабэт, разбіраючыся з мізэрнай маёмасцю Джорджа, — па большасці, пасля яго толькі і засталося, што мэбля, кнігі, рахунак у банку, некалькі аблігацый вайсковых пазыкаў, трошкі грошай за даваенную работу, і пенсія Элізабэт. Але ж, каб разабрацца ў гэтых справах, трэба было весці перапіску, і Элізабэт з радасцю даручыла яе мне. Я таксама разы два бачыў і Фані, перадаў ёй сякія-такія дробязі, пакінутыя для яе Джорджам. Але я ні разу не бачыў жанчын разам — яны пазбягалі адна адну; а калі я выканаў абавязкі душапрыказчыка, ужо амаль не сустракаўся з імі. Фані ў 1919 годзе паехала ў Парыж і неўзабаве выйшла замуж за мастака-амерыканца. Аднойчы ўвечары, у 1924 годзе, я бачыў яе, намакіяжаную і прыгожа апранутую, у кафэ LeDôme з кампаніяй. Яна смяялася і какетнічала з нейкім сталым амерыканцам — напэўна, апекуном мастацтваў. Здавалася, што яна не занадта бедавала пра Джорджа. Ды і чаму б?

А вось Элізабэт страціла кантроль. Пасля смерці бацькі яе даходы падвоіліся, прытым яна атрымлівала пенсію за Джорджа — і цяпер у «артыстычным» асяроддзі, дзе па большасці грошай ні ў каго няма, лічылася даволі багатай. Жанчына шмат падарожнічала, заўсёды з вялікай пляшкай каньяку, і палюбоўнікаў у яе было занадта шмат, што зусім не ішло на карысць ні ёй, ні ім. Я не бачыў яе вельмі многа гадоў, а з месяц таму сутыкнуўся з ёю ў Венецыі. Элізабэт была са Стэнлі Хопкінсам — адным з тых вельмі спрытных маладых літаратараў, якія ніяк не вырашаць, што ім больш падабаецца: двухполае каханне ці аднаполае. Ён толькі выпусціў раман, ужо да таго спрытны і разумны, і ультрасучасны, і трапны, і поўны абразлівых заўваг да вядомых людзей, што аўтар зрабіўся даволі знакамітым, асабліва ў Амерыцы, дзе яго гусінае шыпенне і

крактанне прымалі за лебядзінае і (у прэсе) за «надзвычайнае выкрыццё карумпіраванай брытанскай арыстакратыі». Мы пайшлі ўтраіх есці марожанае; потым Хопкінсу спатрэбілася нешта купіць, і ён пакінуў нас на паўгадзіны адных. Элізабэт вельмі трапна балбатала — калі маеш справу з Хопкінсам, трэба быць трапнай, альбо памрэш ад сораму і прыніжэння, — але ж ні слова пра Джорджа. Ён быў шэрай птушкай яе шэрага мінулага. Яна абвясціла мне, што яны з Хопкінсам вырашылі не ўступаць у шлюб: яны не жадаюць пэцкацца, разыгрываючы камедыю «ўзаконенага спарвання», але, «верагодна», і далей будуць жыць разам. Хопкінс, не толькі паспяховы раманіст, але і вельмі багаты малады чалавек, даваў ёй тысячу фунтаў у год, каб яны абое маглі быць «свабодныя». Элізабэт выглядала не больш няшчаснай, чым усё наша пабітае цынічнае пакаленне; але яна не расставалася з пляшкай.

У той вечар я, як дурань, паддаўся на ўгаворы і выпіў занадта шмат каньяку, за што паплаціўся бяссоннай ноччу. Без сумненняў, менавіта з-за нечаканай сустрэчы з Элізабэт гэтыя пакутлівыя бяссонныя гадзіны мяне мучылі думкі пра Джорджа. Не скажу, што ўзвёў у сваім сэрцы алтар загінуламу, але я ўпэўнены, што, акрамя мяне, ні адна жывая душа ва ўсім свеце пра яго і не ўспамінае. Напэўна таму, што толькі я адзін любіў Джорджа бескарысліва, проста за тое, што ён існаваў. Зразумела, у той час, калі ён загінуў, яго смерць не вельмі ўжо мяне ўразіла: у той дзень мой батальён страціў восемдзесят чалавек, а потым было перамір'е, і я развітаўся з праклятай арміяй, і ў мяне было сваіх клопатаў па горла, бо трэба было пачынаць жыццё нанова і прымацца за работу. У сутнасці, толькі праз два-тры гады пасля вайны я пачаў многа думаць пра Джорджа. І тады, хоць я зусім не прымхлівы, мне нават стала здавацца, што гэта ён сам, Джордж (няшчасны шкілет з гнілымі касцямі), нагадвае пра сябе. Я збольшага ведаў і часткова здагадваўся, што ўсё тыя, на каго ён спадзяваўся, ужо забыліся на яго або, ва ўсякім разе, не вельмі сумуюць па ім і здзівіліся б, але зусім не ўзрадаваліся, калі б ён раптам вярнуўся жывы, як тыя героі раманаў, якія ад кантузіі губляюць памяць і прыходзяць у сябе праз сем гадоў пасля канца вайны. Бацька Джорджа знайшоў суцяшэнне ў рэлігіі, маці — у сваім шэйху, Элізабэт — у «не ўзаконеных спарваннях» і каньяку, Фані — у слязах і шлюбе з мастаком. Але ж я ні ў чым не шукаў суцяшэння, я тады не разумеў, што смерць Джорджа неяк асабіста мяне тычыцца; пачуццё гэта затаілася ў душы і цярпліва чакала, пакуль наступіць яго чарга.

Салдацкая дружба ў гады вайны —гэта асаблівыя, сапраўдныя і цудоўныя адносіны, якія цяпер нідзе не адшукаеш, па меншай меры, не ў Заходняй Еўропе. Дазвольце адразу ж расчараваць заўзятых садамітаў з ліку маіх чытачоў: рашуча заяўляю раз і назаўжды, у гэтай дружбе не было і намёку на аднаполае каханне. Доўгія месяцы, нават гады, я жыў і спаў сярод салдат, з некаторымі з іх сябраваў. Але ніколі не атрымліваў ніводнай колькі-небудзь двухсэнсоўнай прапановы; ні разу не бачыў ніякіх прыкмет садаміі і ніколі не чуў нічога такога, што дазволіла б падазраваць, быццам нешта падобнае існуе. Аднак я быў з тымі, хто ваяваў. Пра тое, што рабілася ў тыле, я нічога не ведаю.

Не, не. Ніякай садаміі. Толькі чалавечыя адносіны, таварыства, стрыманае ўзаемаразуменне паміж звычайнымі людзьмі, якія змучаны вялікімі супольнымі напружанасцю і небяспекай. Нічога драматычнага ў гэтым не было. Біл і Том служаць разам, альбо Джонс і Сміт — малодшыя афіцэры ў адным батальёне. Калі яны простыя радавыя, то разам займаюцца гаспадарчай работай, ходзяць у дазор, маршыруюць адзін за адным на перадавую, выпіваюць у адной карчме і паказваюць фотаздымкі «матулі» і сваёй «дзеўкі». Афіцэры сустракаюцца на дзяжурствах, разам ідуць добраахвотнікамі на якое-небудзь заданне, пакрываюць адзін аднаго перад брыгадзірам, абыходзяцца адным служкай, трымаюцца разам у баі, калі выдаецца адпачынак, ездзяць вярхом і сціпла гавораць пра нявест і жонак. Калі мужчын адправяць у розныя месцы, яны трохі

пасумуюць і затым, праз некалькі месяцаў, знойдуць новых сяброў. Але ж гэтае таварыства, як правіла, было вельмі сапраўдным і бескарыслівым. Канешне, у Францыі гэтыя адносіны былі больш моцныя, чым у Англіі, на фронце — больш жывыя, чым у тыле. Напэўна, мужчыну трэба любіць кагосьці, а не толькі «кахаць». (Зняволеныя, мабыць, любяць пацукоў і павукоў.) Салдаты, асабліва тыя, хто служыў далёка ад радзімы, адарваныя ад сваіх жанчын і сяброў, вымушаны былі адчуць прыхільнасць да другіх салдатаў — нават сабакі паблізу не было. Але ўжо толькі нешматлікія сябры перажылі перамір’е і працягвалі сябраваць пасля вайны.

Пасля некалькіх месяцаў у Францыі і месяцу адпачынку я быў настроены досыць змрочна, калі мяне затым адправілі ў вучэбны афіцэрскі лагер у прыгожым, але глухім кутку Дорсэт. Я панура бадзяўся па лагеры, чакаючы свой першы абед у якасці патэнцыяльнага, хоць і часовага, джэнтльмена, калі сутыкнуўся з іншым такім жа непрыкаяным. Гэта быў Джордж; яго ў той дзень праводзілі на цягнік Элізабэт і Фані (тады я гэтага не ведаў), і таму ён быў хмуры. Мы перакінуліся некалькімі словамі, прычым высветлілася, што мы абодва з экспедыцыйных войскаў (амаль усе астатнія былі з іншых частак) і жыць будзем у адной казарме. Таксама мы даведаліся, што маем такія і гэтакія агульныя інтарэсы, і зрабіліся сябрамі.

Мне Джордж падабаўся. Хоць бы таму, што ён быў адзіны ва ўсім гэтым чортавым лагеры чалавек, з якім можна было пагаварыць не толькі пра выпіўку, «дзевак», спатканні з імі, розныя паскудствы, вайну і мясцовыя плёткі. Джордж вельмі захапляўся сучасным выяўленчым мастацтвам. Калі ён сам браўся за пэндзаль, атрымлівалася, як ён казаў, «мазня», але да вайны ён нядрэнна зарабляў: друкаваў у газетах крытычныя нататкі пра жывапіс і скупліваў карціны сучасных мастакоў, пераважна немцаў і французаў, для багатых калекцыянераў, за што атрымліваў камісійныя. Мы дзяліліся кнігамі са сваіх мізэрных запасаў, і Джордж прыйшоў у захапленне, даведаўшыся, што я надрукаваў дзве кніжачкі вершаў і нават сустракаўся з паэтамі Ейтсам і Марынэці. Я расказваў яму пра сучасную паэзію, ён мне — пра новы жывапіс; і, думаю, мы дапамаглі адзін аднаму захаваць душу чалавечай. Увечары мы гулялі ў шахматы, ці, калі надвор’е стаяла добрая, адпраўляліся пабадзяцца. Джордж не хадзіў на спатканні з дзеўкамі, я таксама. Таму ў другой палове дня па суботах і ў нядзелю мы накіроўваліся ў далёкія шпацыры па голых і ўсё ж прыгожых ўзгорках Дорсэт і сціпла вячэралі з бутэлькай віна ў якой-небудзь сельскай гасцініцы. Усё гэта падтрымлівала нашу «мараль»: ні ён, ні я не жадалі паддавацца свінствам, якія панавалі ў арміі. Няшчасны Джордж перажыў больш, чым я. Яго больш чаплялі, пакуль ён быў радавым, ён трапіў у горшыя абставіны ў Францыі ды яшчэ пакутаваў ад сваёй замкнёнасці, не мог нікому даверыцца — прычынай гэтага было дзіўнаватае сямейнае жыццё і яго жудасная матуля. Я ўпэўнены, што ён расказаў мне пра сябе значна больш, чым каму-небудзь яшчэ, таму з цягам часу я шмат чаго ведаў пра яго жыццё. Ён расказаў мне пра бацьку і маці, Элізабэт і Фані, пра сваё дзяцінства і пра тое, як ён жыў у Лондане і ў Парыжы.

Так, я палюбіў Джорджа, і я яму ўдзячны, бо ён дапамог мне захаваць чалавечае аблічча ў час, калі цэлы легіён свіней стараўся мяне знішчыць. Вядома ж, і я яму дапамог. Ён быў празмерна сарамлівы — матуля найгоршым чынам падарвала яго веру ў сябе, — і таму здаваўся халодным і пагардлівым. Але ў глыбіні душы Джордж быў чалавек незвычайна велікадушны, шчыры, трошкі Дон Кіхот. Менавіта таму ён быў такі бездапаможны з жанчынамі — яны не прызнаюць і не разумеюць донкіхоцтва і сумленнасці, ім здаецца, што гэта альбо слабасць, альбо маска, пад якой хаваецца нейкі па-д’ябальску хітры разлік. Але мужчына, якому толькі і трэба, каб яму адказвалі сяброўствам на сяброўства, знаходзіў у Джорджу чароўнага і вернага таварыша. Я быў страшэнна рады, калі атрымаў нарэшце афіцэра і мог пакінуць гэтую смярдзючую дзіру — лагер, але мне сапраўды шкада было развітвацца з Джорджам. Мы дамовіліся пісаць адзін аднаму

і прасілі прызначэння ў адзін полк. Зразумела, нас адправілі зусім не туды, куды мы збіраліся. Мы абмяняліся лістамі, пакуль чакалі адпраўкі з Англіі на перасыльных пунктах, і больш адзін аднаму не пісалі. Але па дзіўным капрызе ваеннага міністэрства нас абодвух прызначылі ў адну брыгаду, хоць і ў розныя батальёны. Мы высветлілі гэта амаль праз два месяцы, выпадкова сутыкнуўшыся ў штабе.

Выгляд Джорджа мяне ўразіў, твар у яго быў устрывожаны, ледзь не спалоханы. Я бачыў яго некалькі разоў — то падчас выканання змены, то ў штабе брыгады, то ў дывізіённым лагеры адпачынку. У траўні 1918 ён выглядаў зусім змучаным. У ліпені нашу дывізію перакінулі да ракі Сомы, але у ноч перад адпраўкай вораг атакаваў размяшчэнне часткі Джорджа, і гэта вельмі моцна напалохала яго. З батальённага назіральнага пункта (я быў тады афіцэрам сувязі) я бачыў, які агонь абваліўся на той участак, але не ведаў, што Джордж там. Некалькі чалавек з яго роты трапілі ў палон, брыгадзір моцна раззлаваўся, таму Джордж быў зусім спалоханы і нервовы. Я раіў яму напісаць рапарт, каб атрымаць адпачынак, але Джордж і слухаць не хацеў, бо адчуваў сябе быццам зняслаўленым і меркаваў, што ўсе яго лічаць баязліўцам.

Як я ўжо прыгадваў, апошні раз я бачыў яго ў Эрмі, у кастрычніку 1918. Я вярнуўся з вучэбкі і даведаўся, што Джорджа «пакінулі» ў лагеры. У дзяжурцы было звалена некалькі спальнікаў, і Джордж ўзяў адзін для мяне. Ноччу, у цемры, у час налётаў авіяцыі, ён усё гаварыў і гаварыў — мне здавалася, гэта доўжыцца гадзінамі, — і я сур'ёзна падумаў, што ён страціў розум. Назаўтра мы вярнуліся да сваіх батальёнаў, і больш я яго не бачыў.

Джордж быў забіты раніцай чацвёртага лістапада 1918 года, на дарозе з Ле-Като ў Бавэ. Ён быў адзіны афіцэр, які загінуў у тым баі, бо частка немцаў збегла, а астатнія здаліся менш, чым за гадзіну. Я пачуў пра гэта ўвечары і, паколькі пятую брыгаду адправілі на адпачынак, атрымаў дазвол ад свайго начальніка вярнуцца на пахаванне сябра. Яго палкоўнік сказаў, што Джорджа расстралялі з кулямёта. Уся яго рота залягла, чакаючы, пакуль лятучы атрад мінамётчыкаў скончыць з варожым кулямётам, і раптам, без усякай прычыны, Джордж узняўся на ўвесь рост, і праз яго прайшоў добры дзясятак куль. «Які асталоп», — скончыў расказ палкоўнік і кіўком развітаўся са мной.

Труну дастаць было немагчыма, таму Джорджа загарнулі ў коўдру і ў брытанскі сцяг. У галавах магілы стаяў святар, па адзін бок — пахавальная каманда з салдатаў і сяржантаў Джорджа, насупраць — афіцэры яго батальёна. З імі, крайнім злева, стаў і я. Святар выразна і вельмі добра прачытаў памінальную малітву. Артылерыйскі абстрэл у гэты час амаль спыніўся. Толькі адна наша батарэя, прыкладна за мілю ад ворага, страляла праз інтэрвалы, быццам аддаючы апошні салют. Мы сталі па стойцы «смірна», і цела спусцілі ў магілу. Афіцэры па чарзе рабілі крок да магілы, аддаючы чэсць і адыходзілі. Потым, пранізваючы сэрца, пратрубіў горн — развітальны сігнал, у якім так бязлітасна змяняюць адзін аднаго кароткія, перарывістыя ўздыхі і працяглыя, журботныя рыданні. Шчыра кажучы, у гэтыя хвіліны ў мяне не раз падступаў ком да горла. Можна колькі заўгодна бэсціць армію, але калі памрэш, яна абыходзіцца з табой як з чалавекам... Салдатам далі каманду разлічыцца, пастроілі па чатыры, і — направа! — яны памаршыравалі прэч; а афіцэры пацягнуліся ў сталовую выпіць...

Смерць героя! Якая насмешка, якая паскудная крывадушнасць! Гідкая, брыдкая крывадушнасць! Смерць Джорджа для мяне — сімвал таго, як усё гэта гідка, подла і бессэнсоўна, гэтыя праклятыя і нікому не патрэбныя пакуты. Вы бачылі, як адрэагавалі на яго смерць самыя блізкія людзі, — бацькі, якія нарадзілі яго, і жанчыны, якія яго абдымалі. Армія выканала свой абавязак, але няўжо можа армія аплакаць кожнага з мільёнаў «герояў»? Як магла тая частка арміі, што ведала Джорджа, аплакаць яго? На світанку наступнай раніцай мы ўжо гналіся па пятах за во-

рагам, які хутка адыходзіў, і не спыняліся да самага перамір’я, — а потым кожны быў вымушаны разбірацца ў блытаніне свайго жыцця і неяк наладжваць яго.

У тую ноч у Венецыі Джордж і яго смерць зрабіліся для мяне сімвалам — ім і застаюцца. І ўсё ж мы павінны прымірыцца з мільёнамі смерцяў, адкупіць іх, неяк супакоіць забітых. Як гэта зрабіць, я і сам не ведаю. Так, вядома, ёсць Дзве хвіліны маўчання. Але ж толькі дзве хвіліны маўчання раз у год — гэта не вельмі шмат, у сутнасці — нішто. Выкупленне... а як гэта? Як выкупіць гэтую страту — мільёны і мільёны гадоў жыцця, азёры і моры крыві? Нешта засталося нясконачаным, і таму атручвае нас. Я, ва ўсякім разе, атручаны, хоць мяне і мучыла ўсё гэта, як мучыць цяпер гібель няшчаснага Джорджа, з-за якога не пакутаваў, акрамя мяне, ні адзіны чалавек. Што ж нам рабіць? Надмагільныя помнікі, і вянкі, і мемарыялы, і прамовы, і нават Кенатаф[16]... не, не, павінна быць нешта іншае, нешта *ўнутры* нас. Мы павінны неяк загладзіць нашу віну перад мёртвымі, забітымі, гвалтоўна памерлымі салдатамі. Не яны папракаюць нас, але штосьці ў нас саміх. Большасць гэтага не разумее, але сумленне мучыць, атручвае нас. Гэтая атрута раз’ядае душу — не засталося ні сэрца, ні надзеі, ні жыцця, — нам, ваеннаму пакаленню, і тым, хто расце нам на змену. Увесь свет вінаваты ў крывапраліцці, пракляты, як гэты Арэст[17], ашалеўшы, ён сам імкнецца да гібелі, быццам бы за ім гоніцца легіён багіняў помсты. Трэба неяк адкупіцца, пазбавіцца ад праклёну — віны ў крывапраліцці. Мы павінны знайсці — дзе? як? — больш магутную Афіну, якая вызваліла б, ачысціла б нас ад віны ў нейкім сваім акропалі Справядлівасці. Але пакуль што мёртвыя ўсё яшчэ атручваюць нас і нашых дзяцей.

Таму я і пішу пра жыццё Джорджа Уінтэрборна, аднаго забітага чалавека, але ж для мяне ён — сімвал. Гэта выкупленне, адчайная спроба сцерці крывавую віну. Можа, я нічога не змяню гэтым. Магчыма, атрута ўсё роўна застанецца ўнутры. Калі так, я буду шукаць іншы шлях. Але я буду шукаць. Я ведаю, *што* мяне атручвае. Не ведаю, што атручвае вас, але ж і вы атручаныя. Можа, вам таксама трэба знайсці выкупленне.

Пераклад с англійскай і каментарыі Ліліяны Яфрэмавай

[16] Абеліск загінулым воінам у Лондане.
[17] Старажытнагрэчаскі герой, забіў сваю маці і яе палюбоўніка, каб адпомсціць за забойства свайго бацькі.

# Крысцінэ Нёстлінгер

Christine Nöstlinger



**Крысцінэ Нёстлінгер нарадзілася 13 кастрычніка 1936 года ў Вене. Аўстрыйская дзіцячая пісьменніца вывучала прыкладную графіку ва Універсітэце прыкладнога мастацтва і сваю першую кнігу «Агніста-рудая Фрэдэрыка» ілюстравала сама.**
**Мае прэмію імя Андэрсана (1984), Аўстрыйскую дзяржаўную прэмію па еўрапейскай літаратуры (1974), Нямецкую прэмію ў галіне дзіцячай літаратуры (1973) за кнігу «Бывай, агурочны кароль!», памяці Астрыд Ліндгрэн (2003), Аўстрыйскі ганаровы знак «За навуку і мастацтва» 1-й ступені.**

## Карл з тэлевізара

*З дзённікавых запісаў Антона М.,*
*знойдзеных падчас вобыску ў кватэры*
*Ганны М. у Кляйнфрасдорфе*

7.1.

Абсалютна збіты з панталыку. Гляджу ў сваім пакоі тэлевізар, пераключаю з першага канала, па якім ішоў тэніс, на другі, на фільм пра каханне і раптам над маёй галавой пралятае пчала. Пасярод зімы і пчала! Ды да таго ж аграмадная такая! Гэтае стварэнне прызямляецца на пульт, акурат каля маіх пальцаў. З-за алергіі на пчаліны яд я вельмі спужаўся і пульт гэты кінуў. Той ударыўся аб сцяну, упаў на падлогу і зламаўся. Але гэта дробязі. Накрыўка толькі адламалася, распалася на маленькія кавалачкі. Куды падзелася пчала, не ведаю. Ні чуць, ні бачыць яе не хачу.

Я збіраўся паглядзець, ці працуе пульт без накрыўкі, як у самым нізе знайшоў блакітную кнопку, якую раней не бачыў. Для яе нават адтуліны ў накрыўцы не было.

Не доўга думаючы, я на гэтую блакітную кнопку і націснуў. Тэнісісты зніклі з экрана, з’явілася чорна-белая мітусня, за ёй — рознакаляровая і я ўбачыў пакой. Пасярод стаяла канапа. На ёй ляжаў чалавек і чытаў кнігу.

— Такога не можа быць, — прамармытаў я, бо тэхнічна гэтага быць на магло, наш тэлевізар не паказваў трэці канал. У нас не было ні кабельнага тэлебачання, ні спадарожнікавай антэны.

Чалавек на экране адклаў кнігу ўбок і прамовіў: «Мяне завуць Карлам, — і адразу: — добра, што тэлевізар — не проста аднабаковы транслятар, — а потым: — калі я табе надакучыў, проста націсні кнопку яшчэ раз».

Я так расхваляваўся, што на блакітную кнопку націснуў, не раздумваючы. На экране з’явілася рознакаляровая мітусня, чорна-белая, а за ёй — тэнісісты. Некалькі гадзін я хадзіў вакол тэлевізара і мне карцела націснуць на блакітную кнопку яшчэ раз. Але нешта стрымлівала. Сто разоў мне хацелася націснуць, але кожны раз нешта перашкаджала майму пальцу.

8.1.

Мінулай ноччу я прачнуўся ад мітуслівых сноў. Мае бацькі сядзелі ў пакоі ўнізе і сварыліся. У галаве мільганула думка: ад іх спакою не дачакаешся, які тут сон!

Я ўключыў тэлевізар.

Па першай праграме нічога не было, па другой перадавалі скрыпічны канцэрт.

«Зараз альбо ніколі», — падумаў я і націснуў блакітную кнопку. На экране замігцела чорна-белая мітусня, за ёй — рознакаляровая, а потым з'явіўся пакой. У ім было даволі змрочна. Толькі маленькі свяцільнік гарэў каля канапы, дзе захінуўшыся ў клятчастую коўдру ляжаў чалавек і спаў. Я доўга на яго глядзеў. Злым ён не выглядаў. Я б з задавальненнем пагаварыў з ім зараз, але не адважыўся. Да таго ж у вітальні пачуліся крокі. Гэта быў мой бацька. Падалося, што можа так здарыцца, ён зазірне ў мой пакой, праверыць, ці не прачнуўся я ад гучнай сваркі.

Я хуценька выключыў тэлевізар і вырашыў проста пачакаць, пакуль мае бацькі не лягуць у ложак, а потым зноў паглядзець на незнаёмца.

Але тут у вітальню выйшла мая мама і сварка працягнулася ў вітальні. Цэлая вечнасць! Лепш паспрабаваць заснуць.

Сёння вечарам бацька ідзе ў клуб, а мама — да сяброўкі. Калі іх не будзе дома, я націсну блакітную кнопку. Лепш, каб ніхто не перашкаджаў, калі я буду наладжваць першы кантакт з незнаёмцам.

9.1.

Кантакт удаўся!

Размаўляў з Карлам некалькі гадзін, пакуль мама не вярнулася дадому. Было адчуванне, што я ведаю яго цэлую вечнасць. Паабяцаў яму, што буду трымаць наша знаёмства ў сакрэце. Ні з кім не хачу яго дзяліць!

12.1.

Ні з кім не хачу дзяліць Карла, але трымаць наша знаёмства ў сакрэце — цяжка.

Калі з кімсьці здараецца такое знаёмства ды яшчэ на раз-два, безумоўна хочацца пра гэта пагаварыць, хаця б намёкам.

Ну я сёння і спытаў маму: «Ты верыш у рэчы, якіх увогуле быць не можа?»

Калі я задаў ёй гэтае пытанне, яна была на кухні, прыбірала і мыла шафу.

Яна адказала, што гэта дурное пытанне, што калі чалавек у нешта верыць, то абсалютна перакананы, што гэта існуе, значыць існуе ўсё тое, у што верыць чалавек. «Але, — раптам дадала яна, — я веру ў пару такіх рэчаў, пра якія людзі думаюць, што іх не існуе!»

Я падумаў, што зараз у нас з мамай адбудзецца добрая размова, але тут яна ўбачыла ў пачку аўсяных шматкоў двух тлустых чарвякоў і з крыкамі «вай-вай-вай» кінула ўсё ў сметніцу. Затым пачала лаяцца, што ўся біялогія — гэта сатанінскі лес з пачварнымі кузуркамі, і што ёй лепш зноў заняцца хіміяй. Я паспрабаваў запытаць, у якія рэчы яна верыць, пра якія іншыя людзі думаюць, што іх не існуе.

«Што? Хто?» — перапытала яна.

Мама ўвогуле не помніла, пра што мы з ёй размаўлялі перад тым як яна знайшла чарвякоў у аўсяных шматках.

Я кінуў сваю задуму. Жанчына, якая забывае вельмі істотнае з-за нейкіх двух дробных чарвячкоў, да размовы, якую я планаваў, не падыдзе.

28.1.

На вялікі жаль, калі мае бацькі дома, размаўляць з Карлам я вымушаны ў асноўным шэптам. Толькі калі яны сядзяць у сваім пакоі, мы можам паразмаўляць па-нармальнаму. Прычына гэтаму тое, што дзверы ў маім пакоі зачыняюцца не настолькі добра, каб знаёмства з Карлам заставалася ў сакрэце, асабліва, калі мама выходзіць у вітальню альбо бацька п'е піва на кухні. Ён заўсёды п'е на кухні. Каля халадзільніка. На кухні мама яго не папракае, што ён адрошчвае піўны жывот.

Сёння я паспрабаваў прыбраць на тэлевізары гук і чытаць па вуснах Карла. Ён таксама чытаў па маіх.

На жаль, мы не зразумелі адзін аднаго. Каб чытаць па вуснах, трэба доўга вучыцца. Да таго ж нашы размовы згубілі б палову. Мне вельмі падабаецца яго голас. Ён — нізкі, аксамітна-лагодны. Некаторыя словы Карл прамаўляе трошкі дзіўнавата. Нібы замежнік, які выдатна валодае нямецкай мовай, але мае іншую матчыну мову. Напрыклад, літару «р» ён прамаўляе жахліва.

Я спытаў яго, ці не замежнік ён.

Ён памаўчаў, а потым перапытаў: «Тут? Альбо дзе-небудзь у іншым месцы?»

Я кінуў дапытвацца, бо такім чынам ён дазволіў мне зразумець, што не хоча даваць аніякіх звестак.

Калі б я спытаў яго, ці не тутэйшы ён, ён бы адказаў тое ж самае: «Тут? Альбо дзе-небудзь у іншым месцы?»

Але розніца ў пытаннях ёсць! Бо ёсць людзі, якія ніколі і нідзе не бываюць тутэйшымі. Яны ўсюды замежнікі. У іх няма грамадзянства.

Але такіх, якія ўсюды бываюць тутэйшымі і нідзе не бываюць замежнікамі, проста не існуе.

Хаця? Магчыма, Карл такі?

9.2.

Не, Карл дакладна не замежнік!

Сёння ён палепшыў маё сачыненне па нямецкай мове, выправіў усе памылкі, быццам гэта быў сам пан Дудэн[1] уласнай персонай! І да кожнай памылкі, якую я зрабіў, ён даў разгорнутае тлумачэнне. Але не такое нуднае, як ад нашага настаўніка нямецкай мовы, у якога адна і тая ж пласцінка.

Гэта было захапляльна!

P.S.

Поўная лухта, што Карл тутэйшы толькі з-за яго выдатных ведаў нямецкай граматыкі!

Сёння ён дыктаваў мне па-англійску цэлыя сказы. У англійскай ён таксама выдатна разбіраецца. А потым ён сказаў, вельмі шкада, што я не вучу ў школе французскую мову. Менавіта французская — яго любімая мова. І іспанская, казаў ён, таксама падабаецца.

Я прыйшоў у неверагоднае захапленне ад яго. А ён толькі сказаў, што для яго гэта нармалёва і што амаль усе фільмы па тэлевізары патрабуюць дубляжу. Больш ён зноў нічога не выдаў. Як я заўважыў, яму непрыемна было гаварыць нават гэта.

16.2.

Карл проста класны! Сапраўдная ўдача для мяне!

Амаль пяць тыдняў ён жыве са мной, ніколі не бывае раздражнёным, заўсёды выслухае. Усе школьныя практыкаванні дыктуе мне без аніводнай памылкі! Прынёс мне цэлую процьму «выдатна». Настаўнікі цяпер ад мяне проста ў захапленні. Наш класны кіраўнік спытаў, ці не займаюся я з рэпетытарам. Я адказаў «так».

[1] Дудэн — вядомы нямецкі моваЗнавец.

Эдзі захацелася, каб я даў яму нумар тэлефона майго рэпетытара. Яму падумалася, што таксама было б добра пахадзіць на дадатковыя заняткі. Я схлусіў, што ў майго рэпетытара ўсе заняткі даўно распісаны. Відавочна Эдзі мне не паверыў. Я чуў, як ён сказаў Ксандзію: «Ганарысты парсючыла не хоча, каб іншыя таксама палепшылі свае веды!» Ну і дурань, гэты Эдзі!

Самае лепшае ў Карле — гэта тое, што з ім абсалютна свабодна можна размаўляць пра ўсё на свеце. Але ён анічога не скажа пра сябе, нават, што ён увогуле існуе. Але факт застаецца фактам: ён існуе!

«Дакладна!» — раптам сказаў ён. Ён глядзеў праз маё плячо, калі я пісаў.



NB

Вымушаны быў паабяцаць Карлу, што больш не націсну блакітную кнопку ноччу. Ён сказаў, што хоча, каб нічога не перашкаджала яго сну.

Не ведаю, ці атрымаецца. Я паспрабую. Але акурат па начах я вельмі часта сумую па ім.

22.2

Учора ноччу я парушыў дамоўленасць, не стрымаў свайго абяцання.

Дзесьці апоўначы я прачнуўся, бо мне неадкладна трэба было ў прыбіральню. Напэўна, з-за таго, што пасля вячэры я выпіў чатыры бляшанкі колы. Бацькоў не было дома, таму мне ніхто не мог забараніць узяць з халадзільніка другую, трэцюю, чацвёртую бляшанку. «Чаму не скарыстацца такой магчымасцю!» — падумаў я.

Калі я ішоў у прыбіральню, у вітальні я ўбачыў, што паліто маіх бацькоў яшчэ не вісела ў гардэробе. Я асцярожна зазірнуў у спальню, але ў ложку нікога не было. У гасцёўні на лавачцы таксама. На ёй часам спіць мой тата, калі моцна пасварыцца з мамай.

Карацей, я быў дома абсалютна адзін. Ну такое часта здараецца. Ноччу таксама. Але ўчора ноччу пачулася нейкае шорганне, рыпенне і скрыгат. Безумоўна, гэта была старая драўляная падлога ў спальні, але я спужаўся.

Страх усё мацнеў і мацнеў. Сэрца затрымцела, жывот завурчаў, ногі падкошваліся.

Я вярнуўся ў свой пакой і ўключыў на тэлевізары Карла, цалкам прыбраў у наладках колер і яркасць.

Карл не прачнуўся. Я слухаў яго ціхае, аксамітна-лагоднае сапенне.

З пультам у руцэ я заснуў. У сне, мабыць, я націснуў блакітную кнопку, бо раніцай, калі прачнуўся, тэлевізар быў выключаны.

27.2

Заўсёды, калі я пытаюся Карла, чаму ён сапраўды існуе, на экране тэлевізара з'яўляецца рознакаляровая мешаніна. А калі я пытаюся недалікатна, экран увогуле пусцее.

Не ведаю, можа ён не хоча гаварыць пра гэта, а можа яму пра гэта нельга гаварыць.

Лепш зусім не буду яго пытаць, а то экран апусцее назаўсёды.

2.3.

Карл так і не сказаў мне, які яго сапраўдны ўзрост. Ён заўсёды жартуе з гэтага, то кажа, што яму дваццаць гадоў, то — сто дзесяць, а нядаўна, што ўвогуле не ведае, колькі яму гадоў. Яму цалкам можна верыць. Сёння, перад абедам, калі я вярнуўся са школы і ўключыў па тэлевізары Карла, у галаве мільганула думка: ён жа выглядае, як мой дзед!

Але пасля абеду ён выглядаў, як сын дзеда. Ці нават яшчэ маладзейшым.

Вызначэнне ўзросту мне ўвогуле цяжка даецца. Мне калісьці здавалася, што мама Сесіліі ў два разы маладзейшая за маю маму. Чорт, напэўна, маю маму гэта вельмі пакрыўдзіла! Яна сказала, што, калі б у яе было такое бестурботнае жыццё, як у мамы Сесіліі, і такі ж муж-валёнак, яна б таксама выглядала маладзіцай.

Якое жыццё ў Карла — бестурботнае або беспрасветнае — я не ведаю. Я ніколі не бачыў, каб ён еў. На работу ён таксама не ходзіць. Калі я націскаю блакітную кнопку, ён заўсёды сядзіць дома,.

Спадзяюся, ён не хварэе. Людзі, якія ўвесь час ляжаць на канапе, часта хварэюць.

Без розніцы, выглядае Карл маладым альбо старым, галоўнае, ён не выглядае хворым. А калі я пытаюся ў яго пра здароўе, ён заўсёды адказвае: «Дзякуй! Добра сябе адчуваю». Абсалютна без усякіх там уздыхаў ці чаго-небудзь такога! Гэта гучыць цалкам праўдзіва.

15.3.

Сёння Карл злаваўся на мяне, бо я пачаў гуляць з наладкамі колеру на тэлевізары, твар на экране змяняўся ад бледна-бледнага да барвовага, як у індзейца. Нават пасля таго, як Карл мне сказаў: «Хопіць ужо», я не кінуў свае забавы.

Тады ён выйшаў са свайго пакою і гучна ляпнуў дзвярыма.



І тут у мяне сэрца ледзь не спынілася! Я адчуў, што не магу быць без яго. Са мной сапраўдная істэрыка здарылася. Я падбег да тэлевізара, стукаў па ім зверху і крычаў: «Вярніся! Вярніся! Ты мне патрэбны!»

Карл адчуў, што мной апанавала поўная разгубленасць. Ён вярнуўся. Я пакляўся яму, што больш ніколі не буду злаваць яго наладкамі колеру на тэлевізары.

Ніколі ў жыцці я б гэтага не зрабіў, калі б ведаў, што Карлу робіцца холадна альбо горача, калі я эксперыментую з колерам яго твару.

20.3.

Сёння, перад вячэрай, адбылася смешная гісторыя: ляжу я на сваім ложку, Карл — на канапе і размаўляем пра тое, што, ці не лепш сямейным парам, якія заўсёды сварацца, проста развесціся

і тут уваходзіць мая мама. Яна глядзіць на мяне злымі вачамі і пачынае лаяць, што я паўсюль насвінячыў. А я яшчэ і пульт паклаў так, што дацягнуцца не магу, каб Карла з экрана прыбраць! Карл, канешне, перастаў гаварыць, калі мая мама ўвайшла, і лёг на канапе, быццам драўляны стод. Але мая маці не глядзіць нават ў яго бок. Яна хапае мой канцылярскі кошык і запіхвае туды ўсё, што валяецца на падлозе. Лабараторныя заданні па фізіцы і пісьмо ад бабулі таксама! Пры гэтым яна лаецца: «Такі ж, як і бацька! Гультаяваты грак!»

Я ўскакваю, мне крыўдна, што я павінен расхлёбваць тое, што мой тата нарабіў ёй. Усю злосць на яго яна вылівае на мяне!

Выхопліваю з яе рук канцылярскі кошык, а яна адпускае мне аплявуху. Адну з самым моцных.

І тут Карл гучна прамаўляе: «Вялікія, пышнацелыя маці, што б'юць маленькіх, безабаронных дзяцей сваіх — самыя горшыя, тройчы плюю я на іх!»

Мая маці была гатовая даць мне другую аплявуху, але пры такіх словах яе рука апусцілася, маміны вочы ўтаропіліся на Карла. Карл сядае на канапу, пасоўваецца крыху наперад і працягвае: «Паважаныя рабяты, вось і завяршаецца наша чарговая тэлеперадача, напрыканцы давайце разам праспяваем нашу любімую песеньку, — і тут ён пачынае спяваць, але наўмысна скажае словы вядомай «Ой, зіма, зіма!»: «Ой, мамы, мамы! Што вам каляды, гоман і смех… Лепей падманы ад тэлерэкламы… Біць вам дзяцей я бачу не грэх!»

Мая мама выбягае ў вітальню, набірае тэлефон тэлекампаніі і пачынае скардзіцца на «гнюсную тэлеперадачку», якую толькі што трансліравалі па тэлевізары. Дзякуй богу ў іх усе званкі запісваюць на магнітафон. Інакш ніводны чалавек не змог бы ёй растлумачыць, што сёння ў праграме няма ніякіх дзіцячых перадач.

Мушу дадаць: гэта была самая вясёлая аплявуха, якую я атрымліваў за ўсё сваё жыццё!

24.3.

Міфічная дзіцячая тэлеперадача атрымала працяг. Лора і Катрын — маміны сяброўкі — прыйшлі ўчора вечарам да нас пагуляць у «тарок[2]». Мама ім расказала пра «гнюсную тэлеперадачку».

Цёця Лора кажа: «Што за глупства, я такое не гляджу. Учора на другім канале я глядзела серыял «Нявольніца»!»

На што цёця Катрын дадае: «А я ўчора першы канал глядзела! Заўсёды гляджу тэлевізар, калі прасую бялізну. Ніякай дзіцячай перадачы не бачыла. Было кулінарнае шоу з вядомым французскім кухарам!»

Можа, памылілася ў часе — разважалі яны.

Мая мама пачала пераконваць іх, што гэта безумоўна не так! «Я ж не звар'яцела!» — сказала яна. Яна ж ведала дакладна, што гэтая дзіцячая перадача скончылася а 19 гадзіне! Яна паглядзела на гадзіннік, калі скардзілася па тэлефоне ў тэлекампанію.

Цёця Лора і Катрын паціснулі плячыма, узялі праграму тэлеперадач і паказалі маме, што ўчора ўвогуле не было ніякіх дзіцячых перадач. Але мая мама працягвала пераконваць, што такая перадача была. «Я ж не звар'яцела!» — паўтарала яна. Яна ж ведала, што ўласнымі вачыма і вушамі бачыла і чула такую перадачу. Мяне яна паклікала ў сведкі.

Пакуль я падрабязна прадумваў, што ім сказаць, слова ўзяла цёця Лора: «Берта, гэта проста смешна! Ты так упарта і непахісна пераконваеш пра нейкую бязглуздзіцу, быццам баішся карову прайграць!»

[2] Тарок — картачная гульня.

А цёця Катрын дадала: «Гэта ўсё несур’ёзна!»

І тут мая мама сказала, што яны могуць ісці дадому і што такія сяброўкі ёй не патрэбныя. Дзве жанчыны прамаршыравалі праз вітальню і сказалі, што мая мама робіцца дзіўнай. З кожным разам больш дзіўнай!

7.4.

Менавіта ў гэты дзень Карл захацеў даведацца, чаму ў мяне няма сяброў. Я не змог яму растлумачыць. Проста я нелюбімы сын у сям’і. Карл думае, што гэта я сам сабе ўнушыў. З прычыны, што я сам сябе пераканаў у гэтым, іншыя людзі таксама вераць у гэта. Безумоўна, ён проста хацеў мяне суцешыць.

Але з таго часу, як ён у мяне ёсць, мне не патрэбныя ніякія суцяшэнні. Такіх верных сяброў, як Карл, сярод дзяцей, якіх я ведаю, увогуле не бывае.

20.4.

Карл сёння выказаў меркаванне, што я занадта часта ўключаю яго. Яму гэта не перашкаджае, — сказаў ён, — але непакоіцца, што я «зафіксуюся» на ім.

Мне трэба лепш пакатацца на веласіпедзе па парку ці пагрэцца на вясеннім сонцы. Альбо пахадзіць у басейн. Патрэніравацца ў кролі на спіне. (Аднойчы я расказаў Карлу, што ў мяне добра атрымліваецца кроль на спіне, да таго ж я самы хуткі з класа).

Але кроль на спіне — гэта сумна! Нават, калі ты самы хуткі ў ім. І веласіпеда ў мяне больш няма. Мой веласіпед укралі мінулым летам. Нахабна ўкралі каля нашых дзвярэй. Мама сказала, што гэта мая віна, бо я не павесіў на яго замок. Я заўсёды яго вешаў. Акрамя таго разу.

Бо мне толькі па цёплую куртку трэба было забегчы.

Цяпер мама кажа, што больш ніколі не купіць мне веласіпед і што я павінен цяпер сам назбіраць грошы на яго. З кішэнных грошай. Кішэнныя грошы я атрымліваю ад таты. Але ён ужо на працягу двух месяцаў забывае мне іх даваць. Зразумела, што я мог бы яму напомніць. Але мой даволі высокі гонар не дазваляе гэта рабіць!

З заўтрашняга дня я паспрабую менш турбаваць Карла. Напэўна, гэтая «фіксацыя» была толькі яго адгаворкай, напэўна, я пачаў дзейнічаць яму на нервы. Урэшце рэшт ён жа дарослы, дарослыя часта так робяць. Мая мама таксама кажа: «Я гэта раблю, каб табе было лепей!» Насамрэч яна робіць, каб лепей было ёй.

30.4.

Тэлевізар маіх бацькоў зламаўся! Мама ўзяла тэлевізар з майго пакоя і перанесла ў залу на першым паверсе. Яна незадаволена бубніла, куды падзелася накрыўка з пульта.

Я спужаўся, што яна знойдзе блакітную кнопку. Але, дзякаваць богу, яна яе не знайшла! Цэлы вечар бацька глядзеў спартыўныя навіны. Пагаварыць з Карлам мне ўдалося толькі, калі бацькі паклаліся спаць. Ціха-ціха я прашаптаў яму: «Заўтра раніцай з рамонту прывязуць іх тэлескрыню, бывай, дарагі Карл!»

Цяпер ляжу ў сваім ложку, ужо поўнач, унутры адчуваю невыносную пустэчу. Без усведамлення, што Карл дзесьці побач, я больш не магу заснуць. Але калі зараз пайду і вярну свой тэлевізар, прачнуцца бацькі і падумаюць, што я канчаткова звар’яцеў.

7.5.

Сёння Карл страсаў крошкі са сваёй курткі. З учарашняга дня на яго калашыне красуецца вішнёва-ружовая пляма, выглядае, як таматны соус.

Значыцца ўсё такі калі-нікалі ён есць, але толькі, калі не ў кадры! Яшчэ я заўважыў, што вялізная дзірка ў шкарпэтцы (акурат на пятцы) была зашытая.

10.5.

Я крыху нават магу адчуваць Карла! Калі я датыкаюся далонню да экрана, там, дзе Карл адпачывае на канапе, экран нашмат цяплейшы, чым у іншых месцах. Але Карл кажа, што не адчувае маёй рукі. Шкада. Я б яго паказытаў. А, можа, пагладзіў. Але яму гэта, напэўна, не вельмі б спадабалася, — падумаў я. І неяк па-дурному выглядала б гэта! Мая рука на экране закрывае Карла ад падбародка да жывата. Такой веліканскай лапай мне не хочацца гладзіць яго.

Вельмі рэдка я бачу Карла ў маштабе 1:1, так сказаць. Гэта, калі ў экране я бачу толькі яго галаву. Аднойчы я бачыў толькі яго рукі. Калі гэта адбылося, чаму гэта адбылося, — не ведаю.

30.5.

Карл працуе над тым, каб у маім атэстаце не было аніводнага траяка! Калі я буду і далей так вучыцца, — сказаў мой класны кіраўнік, — я стану выдатнікам. Чуць такое вучню, які трымціць ад думкі, ці перавядуць яго ў наступны клас, вельмі-вельмі прыемна.

Але ўсё, як заўжды! Прыходжу да таты і расказваю, што мне сказаў класны кіраўнік, а ён толькі мармыча: «Гэта абсалютна нармальна, чаго яшчэ чакаць ад такога разумнага хлопца!?»

Мама толькі кіўнула ў знак згоды.

Калі гаворка ідзе пра мяне, яны яшчэ могуць заставацца згоднымі адзін з адным!

Карл гаворыць, што мне не трэба на іх крыўдаваць. У іх зараз крызіс і калі ён пройдзе, яны зноў будуць са мной уважлівымі і ласкавымі.

Карл бачыць ва ўсіх людзях толькі добрае. Але ён не ведае маіх бацькоў столькі часу, колькі іх ведаю я. Калі прычына іх паводзін — крызіс, тады ў мяне выснова, што іх крызіс доўжыцца цэлую вечнасць! Колькі сябе помню, яны заўсёды са мной так размаўляюць.

«Не перабольшвай», — сказаў мне Карл.

Окей! Прызнаю, часам яны бываюць уважлівымі да мяне. Але мне невядома, у які момант гэта адбудзецца. І з якой прычыны яны раптам робяцца ўважлівымі? Безумоўна, гэта залежыць ад іх настрою. Але іх настрой не залежыць ад мяне! Калі вяртаюся са школы мне хочацца плюнуць ад штодзённай думкі, адчыніць мне мама дзверы ў добрым настроі альбо ў раззлаваным!

— Разумею, — кажа мне Карл.

— Няма чаго тут разумець, — адказваю я.

Ён глядзіць на мяне са шкадаваннем.

Мне хочацца, каб мяне шкадавалі. Карл нічога не можа зрабіць з гэтым.

Я кладу свой дзённік так, каб ён мог чытаць тое, што я пішу:

«Мне засталося пачакаць сем-восем год, я вырасту, і гэтая праблема застанецца ў мінулым!»

2.6.

У Карла побач з канапай, на маленькім століку, стаіць герань у вазоне. Учора яе не было!

— Адкуль у цябе кветкі? — пытаюся я.

— Садоўнік прынёс, — адказвае Карл.

— І дзе твой садоўнік? — зноў пытаюся я.

— Побач тут, — адказвае ён і паказвае на дзверы.

У мяне мільганула думка: цудоўная магчымасць спытаць яго, што такое гэтае «побач» і што знаходзіцца за ім.

Я і спытаў! Але Карл адказаў, што ў яго няма права расказваць пра гэта. Яму трэба папрасіць дазволу. І ён яго дакладна не атрымае, толькі ў экстранным выпадку, а мая цікаўнасць не з'яўляецца такім выпадкам.

21.6.

Сёння мая мама зайшла ў мой пакой, калі я зноў размаўляў па тэлевізары з Карлам. Ёй спатрэбіўся стрыжань для ручкі.

Я не на жарты спужаўся і падумаў, што яна зноў пачне крычаць, што я гляджу гнюсную дзіцячую перадачу з яе гнюсным вядучым!

Але ў мамы былі заплаканыя вочы і яна нават не зірнула на тэлевізар.

Мама закранула мяне.

Карла яна закранула таксама. Як толькі яна выйшла з пакою са стрыжнем, ён сказаў мне: «Ідзі да яе! Супакой яе!»

Я вырашыў паспрабаваць. Мама сядзела ў зале і пісала пісьмо. Пісьмо пачыналася словамі: «Дарагая спадарыня Дора». Спадарыня Дора — гэта жанчына з ілюстраванага часопіса, якая раздае парады, як лепш зладзіць з рознымі жыццёвымі сітуацыямі, мама з ахвотай чытае гэтыя парады.

Мама сказала, каб я ёй не перашкаджаў і вяртаўся ў свой пакой.

3.7.

Я атрымаў суперскі атэстат. Але гэта цікавіла толькі Карла. Мама з татам так сварыліся, калі я вярнуўся дадому, што ў іх нават свабоднай хвілінкі не знайшлося на нейкі там атэстат. Самы-самы лепшы атэстат, які я атрымаў за ўсе гады вучобы.

Я ведаў, што мая бабуля будзе вельмі радая пабачыць такі атэстат, таму я пайшоў у магазін канцтавараў. У іх там стаяў капіравальны апарат. За два шылінгі[3] яны зрабілі мне копію. Гэтую копію я і адправіў бабулі. Я ёй напісаў, каб яна не высылала мне грошы за адзнакі. Многія бабулі так робяць. Але ў маёй бабулі вельмі маленькая пенсія, а ёй яшчэ і плату за арэнду дома павысілі. Ёй часам нават грошай не застаецца, каб купіць новае адзенне. Мой тата хацеў ёй пералічваць у пачатку кожнага месяца па тысячы шылінгаў. Мама не хацела, каб ён гэта рабіў. З-за гэтага яны сварыліся цэлых два тыдні. Але тата ўсё роўна адправіў бабулі тысячу шылінгаў. Праз тры дні ад яе прыйшло пісьмо. У ім ляжала гэтая тысяча. Бабуля пісала, што не хоча ад свайго сына ніякіх падарункаў. Яна мела, напэўна, рацыю. Ёй не патрэбна было новае адзенне.

Мне здалося, што тата прамармытаў нават з нейкай палёгкай у голасе: «Калі нехта чагосьці не хоча, значыць гэта ў яго ўжо ёсць» і паклаў тысячу шылінгаў у партманет. Мама захацела, каб ён на сэканомленыя грошы наняў прыбіральшчыцу. «Полька, — сказала мама, — працуе дваццаць гадзін, каб зарабіць такую суму». Тата з'едліва ўсміхнуўся. «Хатняй гаспадыні не патрэбна прыбіральшчыца, — адказаў ён. — Можа, табе яшчэ кухарка з прачкай патрэбна?»

[3] Шылінг — грашовая адзінка Аўстрыі.

Калі мае бацькі сварацца, Карл усё гэта натуральна чуе. Ён заўсёды спрабуе мне растлумачыць, чаму мама злуецца на тату і чаму тата злуецца на маму. Але каб гэтая пара кінула дурныя сваркі раз і назаўсёды, пра гэта ён не думае. Калі я пытаюся пра гэта ў Карла, ён толькі пацiскае плячыма і мармыча кшталту такога: «Гэта ўсяго толькі енкі!»

4.7.

Карл заўсёды просіць мяне, каб я расказваў яму пра дзяцей, якіх ведаю. Мне мала ёсць што яму расказаць. Па меркаванні некаторых, я — індывідуаліст. Мой класны кіраўнік сказаў так пра мяне маёй маме.

У нашым доме, не ўлічваючы трох немаўлят, з дзяцей жыве толькі Сесілія. Я любіў гуляць з ёй у нашым двары. Але аднойчы мая мама забараніла мне нават набліжацца да Сесіліі, таму што ўшчэнт пасварылася з яе мамай.

Мне не хацелася расказваць пра гэта Карлу. Ён пачне пытацца, чаму я паслухаўся сваю маму. Ён пачне гаварыць, што ў мяне ёсць права выбіраць сабе сяброў самастойна!

Я, канешне, спрабаваў заставацца сябрам Сесіліі, трымаючы гэта ў сакрэце. І вось аднойчы Сесілія захацела прыйсці да мяне ў госці, я ёй тлумачыў, што ёй нельга прыходзіць з-за маёй мамы, але Сесілія вельмі раззлавалася. Яна з пагардай зірнула на мяне і сказала: «Тады бай-бай, забудзь мяне, Антон!»

Верагодна, я ёй не вельмі падабаўся.

10.7.

Заўтра мы едзем у адпачынак. На чатыры тыдні. У Грэцыю. Я абсалютна разгублены, не ведаю, як я вытрываю гэты час без Карла. Калі б мае бацькі ехалі не ў разбіты бунгала, а ў шыкоўны, дарагі гатэль, то я б не ўстрымаўся і наладзіў сувязь з Карлам. Дарэчы Карл паведаміў, што я змагу бачыць яго на якім заўгодна тэлевізары. Не мае значэння, дзе будзе стаяць гэты тэлевізар, якой ён будзе маркі альбо года выпуску. Мне трэба толькі узяць з сабой пульт ад майго тэлевізара. Толькі на ім ёсць блакітная кнопка! Але ў гэтым чортавым бунгала, які мы арандавалі, дакладна няма тэлевізара!

У Карла таксама будзе адпачынак, бо ў мяне з ім не будзе сувязі. Як ён праводзіць свае адпачынкі, Карл не захацеў расказваць. Сказаў толькі: «Вельмі складана». А потым паведаміў, што ён можа патрапіць у кожны серыял на любым канале і зладзіць там сабе канікулы!

— Што? І на «Ліпавую вуліцу» таксама можаш трапіць? — спытаў я.

— Магу, безумоўна, але ў такі кепскі серыял я не хачу, — адказаў ён. — Я пашукаю што-небудзь па-вясковаму ціхае. Можа, па «Спадарожніку» паўтораць «Сельскага ўрача», тады я там пажыву. Альбо паблукаю па садах палаца Гульдэнбургаў.





Як ён збіраецца туды трапіць, я не ўяўляю.

Калі Карл пра штосьці не хоча гаварыць, з яго абцугамі не выцягнеш.

24.7.

Кожную ноч мне сніцца Карл! Калі я прачынаюся ад марскога шуму альбо крыкаў бадзяжных катоў, мной апаноўвае туга па ім з неверагоднай сілай.

Хоць бы я, дурная галава, узяў з сабой пульт! Безумоўна ў нашым бунгала, як я і меркаваў, няма тэлевізара. Але ён ёсць на «Верандзе». Там мы харчуемся, а па вечарах на ёй збіраюцца дарослыя, п'юць віно і піва. Для танцаў побач ёсць тэраса. Зала з тэлевізарам таксама тут ёсць. У ёй ніколі не бывае шмат народу, бо антэна прымае толькі тры грэчаскія каналы, ніхто не разумее грэчаскай мовы, бо ўсе прыехалі з розных куткоў свету на адпачынак.

Пасля абеду, калі спякота ў самым разгары, у гэтай зале абсалютна нікога няма. Турысты альбо спяць, альбо загараюць на пляжы. Вось бы мне пабачыць Карла!

Але застаецца незразумелым, ці змог бы я ўбачыць яго тут! Ён жа таксама ў адпачынку. Мы з ім не пагаварылі пра тое, ці адчуе ён сігнал блакітнай кнопкі ў сваім серыяле.

30.7.

У бунгала злева ад нашага жыла дзяўчынка. Вельмі прыгожая дзяўчынка. Па-нямецку яна не размаўляла. Толькі па-нідэрландску.

Яна некалькі разоў спрабавала пагаварыць са мной. А калі высветлілася, што я не разумею ні слова, яна смяялася, калі мы бачыліся. Аднойчы яна сказала «Марайка» і прыклала далонь да сэрца. Я сказаў: «Антон» і пакланіўся. Пасля гэтага паміж намі ўзнікла нямое сяброўства.

Карл, безумоўна, напісаў бы мне некалькі сказаў па-нідэрландску: «Як маешся?», «У цябе прыгожыя блакітныя вочы», альбо «Хадзем купацца».

Усё было б па-іншаму.

Магчыма, яна б пакінула мне свой адрас і мы сталі б сябрамі па перапісцы. Карл дакладна змог бы мне дапамагчы перакладаць яе пісьмы з нідэрландскай і мае — з нямецкай!

13.8.

Нарэшце мы дома і я размаўляю з Карлам!

Мае бацькі спяць! Яны стаміліся. Мы ехалі з Грэцыі без прыпынкаў. Васямнаццаць гадзін запар! Мама з татам кіравалі машынай па чарзе. У мяне было цвёрдае перакананне, што мы вось-вось трапім у неверагодную аварыю, бо мае бацькі ўсю дарогу сварыліся, а калі яна сварацца, то абавязкова размахваюць рукамі. Яны жэстыкулявалі, як ашалелыя! Я радаваўся, калі хоць бы адна рука трымала стырно.

Яны не вытрымалі сумеснага адпачынку. Думаю, развод будзе вельмі хутка. Карл думае, што я застануся з маці і бацька не будзе супраць, бо для яго будзе лепш прыходзіць да мяне раз на два тыдні, чым займацца маім штодзённым выхаваннем.

Але мне больш за ўсё хочацца застацца з бабуляй. Карл думае, што гэтага не дазволіць мама. Напэўна, ён мае рацыю. Мама ніколі не турбавала бабулю.

Карл маўчыць пра свой адпачынак. Ён сказаў толькі, што гэта быў поўны правал. Карл абсалютна не загарэў. Напэўна, ён трапіў у серыял пра Антарктыду!

22.8.

Размаўляў з Карлам пра жарты. Сказаў, што ўсе вучні майго класа даўно расказваюць адзін аднаму розныя жарты, а я ніводнага не магу расказаць, бо не ведаю. І тут Карл паведаміў, што ў яго дзесьці завалялася кніга з жартамі і што ён прачытае мне з яе некалькі жартаў.

— Куды я дзеў гэтую кнігу? — прамовіў Карл і ўзняўся з канапы. — Ах, зусім забыўся, яна ляжыць сярод старых рэчаў на паддашку, — прамармытаў ён і выйшаў з пакою.

Калі ён адкрыў дзверы, я глядзеў яму ўслед, нібы цікаўнае рысяня! Але я нічога не разгледзеў акрамя блакітна-срэбнага зіхацення ў дзвярным праёме. Было адчуванне, што Карл знікае ў нейкім лёгкім тумане. А калі ён зноў адчыніў дзверы, было тое ж самае. Толькі блакітна-срэбны туман!

Ніякіх жартаў ён мне не прачытаў. У кнізе былі толькі непрыстойныя жарты. Я сказаў Карлу, што вучням з майго класа вельмі спадабаюцца такія жарты, але ён не захацеў мне іх чытаць.

15.9.

Школьны год пачаўся лепш за мінулы. Са мной за партай сядзіць Ксандзій. Ён са мной размаўляе на перапынках. Берт, дружбак Ксандзія, са мной таксама размаўляе. Але на свой дзень нараджэння, які будзе ў наступную нядзелю, Ксандзій мяне не запрасіў.

Карл думае, што трэба ставіцца да ўсяго прасцей і не быць такім нецярплівым. Сяброўства будуецца павольна!

Хацелася б пагадзіцца, але якраз сёння ў наш клас прыйшоў навічок. Яго завуць Рэнэ. І яго Ксандзій запрасіў на дзень нараджэння. Ён жа ведае яго нашмат менш, чым мяне!

Карл тлумачыць, што ёсць «хуткае» сяброўства, яно зазвычай згарае, як сена. А ёсць яшчэ «павольнае» сяброўства і яно трывалае, нібы выкавана з жалеза!

Сяброўства з Рэнэ — саламянае. Сяброўства са мной — сапраўднае, жалезнае!

Карл сапраўды так думае. Ён кажа гэта не для майго суцяшэння.

Але ён памыляецца!

25.9.

У школе адбылося няшчасце. Я ўскараскаўся абодвума нагамі на ўнітаз, бо хацеў плюнуць на Эдзі, які сядзеў у суседняй кабінцы. Ксандзію абавязкова хацелася паглядзець на гэта і ён ускараскаўся побач. Берт ускараскаўся за намі, бо ўжо месца не заставалася. У гэты момант унітаз разваліўся на дзве часткі і Берт аб востры аскепак параніў нагу.

Крыві было, жах!

Чаму вінаватым ва ўсім стаў я — для мяне загадка. Наш класны кіраўнік сказаў, што я ва ўсім вінаваты і, што ён жадае бачыць заўтра ў школе майго бацьку.

Мой тата школу на дух не пераносіць.

Заўсёды на ўсе школьныя сходы ён дэлегаваў маму.

Адно ведаю: калі мой тата пойдзе заўтра ў школу і выслухае ўсе скаргі ад класнага кіраўніка, вечарам я атрымаю ад яго моцную аплявуху. А, магчыма, яшчэ і два тыдні хатняга арышту. І пазбаўленне кішэнных грошай у дадатак!

Карл кажа, што ён гэтага не дапусціць. Каб гэта прадухіліць, ён мусіць знайсці рашэнне, якое нялёгка прыдумаць. Толькі пасля вячэры мне можна будзе націснуць на блакітную кнопку, — паведаміў ён. Але сёння не будзе ніякай вячэры. Мама ляжыць з хворай галавой у ложку. Яна сказала, што мне трэба зрабіць самому сабе бутэрброды.

Але я абсалютна не галодны. А сёмай гадзіне я націснуў блакітную кнопку. У гэты час вячэра заканчвалася.

26.9.

Тое, што я лічыў немагчымым, адбылося. Учора вечарам Карл абвясціў, што я пайду ў школу, а ён будзе выдаваць сябе за майго тату.

Калі прыйдзе час, ён зможа выйсці з тэлевізара. Але толькі на пару гадзін, бо паветра ўздзейнічае на яго дрэнна. Ён пачне памяншацца ў даўжыню і шырыню.

— Акурат а дзясятай гадзіне я буду ў школе, — сказаў Карл раніцай.

Толькі пачаўся другі перапынак і я пайшоў да настаўніцкай. Мушу зацвердзіць: да канца не верыў, што Карл прыйдзе. Я хацеў ўжо сказаць класнаму кіраўніку, што мой бацька захварэў і прыйдзе на наступным тыдні. Шчыра кажучы, я мог бы сказаць яму і праўду, што не змог учора паведаміць бацьку пра сённяшні паход у школу, бо ён учора не прыйшоў начаваць дадому. Ды думаю, гэтыя справы класнага кіраўніка не датычацца.

Але, калі я спускаўся па лесвіцы, Карл ужо стаяў каля дзвярэй у настаўніцкую, апрануты ў самы лепшы касцюм майго бацькі. Ён падміргнуў мне і зайшоў у кабінет. Увесь перапынак ён прабыў там. Мне трэба было ісці на заняткі, я не мог чакаць, пакуль ён вернецца.

Сваю справу ён зрабіў выдатна, гэта я зразумеў на чацвёртым уроку. У нас была англійская, вёў наш класны кіраўнік, ён быў неверагодна дружалюбным са мной. Адразу, вярнуўшыся са школы, я ўключыў на тэлевізары Карла. Ён спаў, ён увесь час спаў. Верагодна, яму трэба было адпачыць ад паветра.

27.9.

Карл даў нашаму класнаму кіраўніку 500 шылінгаў на новы ўнітаз. Ён узяў гэтыя 500 шылінгаў з бацькавай шуфлядкі. Цяпер тата абвінавачвае маму, што яна іх украла.

Я сказаў Карлу, што яму не трэба было гэтага рабіць. Ён адказаў, што, калі б ён гэтага не зрабіў, школа б прыслала рахунак за ўнітаз па пошце, і тады б уся гісторыя раскрылася.

І ён мае рацыю! Да таго ж я дакладна ведаю, што мама часцяком брала грошы з бацькавай шуфлядкі альбо партманета. І ён не заўважаў! Калі разок яна пабудзе без віны ў падазраваных, не так ужо і кепска.

2.10.

Я захацеў адправіць бабулі на імяніны паштоўку. Я ўжо купіў паштоўку з сотняй залатых руж і надпісам «Шчыра віншую». Я разгарнуў яе і напісаў: «Шчыра віншую цябе з імянінамі! Ад твайго ўнука Антона, які цябе вельмі-вельмі любіць!»

Карл паглядзеў, што я напісаў, і спытаў, чаму б мне не напісаць бабулі пісьмо, у ім магчыма расказаць больш. Упершыню я адчуў, што мне няма чаго ёй напісаць, нічога такога не адбылося, пра што магчыма было распавесці. У пісьме на імяніны не напішаш жа пра тое, што мама з татам так злуюцца адзін на аднаго, што нават не спрачаюцца, а маўчаць. Гэта расхвалюе бабулю.

Але я трошкі паразважаў і напісаў ліст. Я напісаў, што вельмі сумую без бабулі, што хачу ўбачыць яе, і як цудоўна было раней, калі яна расказвала мне казкі, як частавала мяне смачным яблычным пірагом.

Окей: пісьмо напісаў.

10.10.

Бабуля прыехала ў госці. Яна сумавала без мяне. Яны прыехала на цягніку. Яна хоча застацца ў нас на тры дні. Маму гэта засмучае.

Бабуля будзе спаць у маім пакоі. У маім ложку. Я ж буду спаць на надзіманым матрацы побач.

Вельмі рады, што бабуля прыехала. Але як быць з Карлам усе гэтыя тры дні? Не хачу так доўга быць без яго!

Карл хоча бліжэй пазнаёміцца з бабуляй. Ён думае, што калі яна такая, як я яму апісваў, то яна нічога не будзе мець супраць. Што ж, можна паспрабаваць. Да таго ж бабуля нікому нічога не скажа. Усе сакрэты, якімі я дзяліўся з ёй, яна трымала пры сабе.

Але ці не спыніцца ў яе сэрца, калі яна пабачыць Карла?

11.10.

Бабуля ўспрыняла Карла, быццам штосьці абсалютна звычайнае.

— Ну і што? — сказала яна. — Я абсалютна не разбіраюся ў тэхніцы! Для мяне ўвогуле дзіва-дзіўнае, калі націскаеш кнопку і на экране з'яўляюцца карцінкі. Мяне здзіўляе, што можна гаварыць па тэлефоне, мяне здзіўляе, што можна слухаць радыё, мяне здзіўляе, што ў небе лётаюць самалёты, мяне здзіўляе, што аграмадныя караблі не тонуць. Усё для мяне — дзіва-дзіўнае! Чаму мяне павінны здзівіць Карл больш за іншыя дзівы?

Карл вельмі рады знаёмству з маёй бабуляй. Яны ўсю ноч размаўлялі. Вельмі ціхенька, натуральна, каб я мог спаць і, каб мае бацькі нічога не пачулі.

Мама, здаецца, ўсё ж такі нешта чула. За сняданкам яна сказала тату: «Твая старая ўсю ноч размаўляла ў сне. Беднае дзіця!»

Вось як, цяпер я — беднае дзіця!

Бабуля паабяцала, што я магу жыць у яе, калі бацькі развядуцца. «Як сапраўдная львіца я буду цябе абараняць!» — сказала яна мне.

16.10.

Бабуля паехала дадому. Мне яе не хапае. Але я рады, што яна з'ехала ад нас. Мае бацькі былі няветлівымі з ёй. Нават тата. Яны далі ёй зразумець, што яе прыезд быў нежаданым.

Бабуля запэўніла мяне, што ёй гэта абыякава, бо яна прыехала ў госці з-за мяне. Яна вельмі ўзрадавалася майму пісьму.

Зноў Карл меў рацыю. Я ўжо пачаў хвалявацца, што пісьмо атрымалася бязглуздым і бабуля будзе смяяцца з яго.

Карл кажа, што я блытаю паняцці пачуццёвасці і бязглуздасці. Калі пачуцці шчырыя, яны не могуць быць бязглуздымі. А пачуцці, кажа ён, не ўмеюць хлусіць!

Ну і што! Калі я летась сказаў Сесіліі, што яна мне вельмі падабаецца і што яе вочы іскрацца, як зоркі, яна назвала мяне «бязглуздым». Але ў той момант пачуцці таксама былі шчырымі!

Карл паглядзеў праз маё плячо, прачытаў напісанае і сказаў, што вочы не могуць іскрыцца, як зоркі, і што, я не адчуваў гэтага. Ён думае, што я гэта дзесьці чуў альбо чытаў. Таму гэта было няшчыра!

19.11.

Раніца, у мяне дзень нараджэння. Добрую сотню разоў за апошнія дні я гаварыў, што хацеў бы атрымаць у падарунак гітару. Чакаю з нецярпеннем, магчыма, мае словы трапілі на ўрадлівую



глебу! Не трэба дарагую. Карл яшчэ раніцай мяне павіншаваў. Ён расказаў мне гісторыю пра краіну, у якой усё цудоўна. Ён прыдумаў яе спецыяльна для мяне і з сённяшняга дня будзе расказваць пра яе як серыял. Дванаццаць серый, па пяцьдзясят хвілін.

20.11.

Мне не падарылі гітару, мне ўвогуле нічога не падарылі. Бацькі забыліся пра мой дзень нараджэння. Гэтага яшчэ ніколі не здаралася. Карл думае, што мне трэба напомніць пра гэта маме. Я так не думаю! Мне так кепска, як ніколі. Заўсёды буду помніць пра гэта!

26.11.

Серыял з гісторый, які мне падарыў Карл на дзень нараджэння, ужо скончыўся. Гісторыі былі настолькі цікавымі, што я не задавольваўся толькі адной серыяй у дзень. Я ўпрошваў Карла і яму прыходзілася расказваць наступную серыю. Аднойчы мне атрымалася ўгаварыць Карла на цэлых пяць серый!

Цяпер мне шкада. Калі б я быў больш сціплы, у мяне былі б штодня пяцьдзясят цудоўных хвілін.

Я пагаварыў з Карлам і пацікавіўся, ці будзе паўтор, ці паўтораць усе серыі.

Ён адказаў: «Добра, але раніцай. На жаль, ты будзеш у школе!» Мне яшчэ не зразумела, як атрымліваць асалоду ад цудоўных рэчаў. Ці трэба браць маленькімі кавалачкамі, ці лепш ухапіць вялікі кавалак? У мяне было дванаццаць разоў па пяцьдзясят хвілін асалоды. Ні хвілінкі больш, нават, калі б я расцягнуў гісторыі на дванаццаць дзён.

Пра гэта я пагавару з Карлам, калі буду ў ложку. Перад сном. Гэта яго ўзрадуе. Карл любіць разважаць пра супярэчлівыя рэчы.

З бібліятэкі прыйшло «апошняе папярэджанне». З-за дзвюх кніг, якія ўзяў тры месяцы таму.

У мяне няма гэтых кніг. Я даў іх пачытаць Эдзі. А яго сястра дала пачытаць іх сваёй сяброўцы. Гэтая сяброўка з’ехала з нашага горад праз тры тыдні і забрала кнігі з сабой.

Сястра Эдзі не ведае ні адраса, ні тэлефоннага нумара сваёй сяброўкі.

Карл хоча ўладкаваць гэтае пытанне. Заўтра раніцай. Ён кажа, што не без задавальнення сходзіць у бібліятэку. І яму абыякава, што з-за гэтага паходу ён зменшыцца на пару сантыметраў і згубіць пару дэкаў[4] вагі. Гэтыя страты ён адновіць, кажа Карл.

Верагодна, ён зноў уладкуе ўсё грошамі з татавай шуфлядкі. Мяне гэта абсалютна не хвалюе! Але ці справядліва, што я нічога не атрымаў на дзень нараджэння ў падарунак!?

27.11.

Я так адчаяўся, што не ведаю, што рабіць!

Прыходжу са школы дадому, у вітальні стаіць мама, абдымае мяне, прыціскае да сваіх пругкіх грудзей і кажа: «Ах, Антон, як мне шкада! Як я магла забыць пра твой дзень нараджэння! Але я выправілася. Хадзем, падарунак чакае цябе ў тваім пакоі!»

Бягу ў пакой з думкай: нарэшце мне падарылі гітару!

[4] Дэка = дэкаграм (10 грам).

Але замест новай гітары там стаіць новы тэлевізар. Мой стары тэлевізар выкінулі!

«Твой стары тэлевізар толькі адну мешаніну паказваў», — гаворыць з гонарам мама.

Не ведаю, што рабіць далей. Я абсалютна збіты з панталыку, у галаве поўная разгубленасць. Я паразважаў і спытаў, куды дзеўся мой стары пульт ад тэлевізара, мама адказала, што людзі з «Электрамаланкі» прыхапілі з сабой гэтую старую ламачыну.

Мной апанавала шаленства. Я кінуўся на ложак, зароў, заплакаў і пачаў біць кулакамі. Калі ў пакой увайшла мама, каб супакоіць мяне, я ўскочыў і паляцеў з дому як страла. Без паліто і шапкі. Хаця на вуліцы ішоў снег.

Раптоўна я прыйшоў у сябе і пабег у «Электрамаланку», якая знаходзілася за тры кварталы ад нас. Прадавец спачатку не зразумеў, што мне трэба, бо, калі я гаварыў, то ўвесь час усхліпваў, але потым ён мне паведаміў, што гэтае «старое электрабарахло» ў магазін не прывозілі, а адвезлі на вялікі сметнік недалёка ад горада.

Я выбег з магазіна і паімчаў праз увесь горад на сметнік. Я бег з такой сілай, што мне было абсалютна не холадна. Я апынуўся на сметніку. Ён быў памерам з чатыры футбольныя полі. Смецце на ім накідалі вышынёй з дом. Да таго ж яго занесла тоўстым слоем снегу. Я зразумеў, што адшукаць такую маленькую рэч, як пульт ад тэлевізара, немагчыма. Сотня людзей за сто гадзін не змагла б гэтага зрабіць.

Нейкая жанчына, якая прывезла выкінуць стары матрац, убачыла мяне і сказала, што я замерзну без паліто. Яна спытала мяне, дзе я жыву, і адвезла на сваёй машыне дадому.

Мама не размаўляе са мной. Гэта мне не перашкаджае. Я ненавіджу яе! Яна зрабіла самае страшэннае, што…

28.11.

Учора я кінуў пісаць пасярод сказа, бо пачуў голас Карла. «Антон, Антон», — клікаў ён. Вельмі ціха. З-пад майго ложку.

Мне неабходна пазваніць бабулі. Мне патрэбна яе парада. Але я пазваню ёй, калі мама пойдзе за пакупкамі. Карл ўжо зменшыўся на добрых дзесяць сантыметраў. Ён збялеў. Яму кепска, — падумаў я. Але ён не з тых, хто жаліцца! Пра яго самаадчуванне ўсё зразумела: яго голас быў настолькі слабым, што я пачуў яго толькі праз некалькі гадзін.

Карл трапіў пад мой ложак наступным чынам:

Ён быў у бібліятэцы, калі людзі з «Электрамаланкі» забіралі мой стары тэлевізар і пульт. Калі Карл вярнуўся, ён не мог трапіць дадому. Ён лёг пад маім ложкам і чакаў.

Калі я вярнуўся дадому, ён не змог мне нічога сказаць, бо ў пакоі была і мая мама. А потым я збег! Калі я знаходзіўся на сметніку, ён заснуў ад стомы.

Зараз ён амаль увесь час спіць. Калі прачынаецца, ён амаль не размаўляе. Думаю, што ён не хоча, каб я адчуваў, што яго голас зрабіўся вельмі слабым.

Я адчуваю сябе вінаватым! Калі б ён не пайшоў у бібліятэку з-за мяне, нічога не адбылося. Тады, магчыма, я б страціў яго назаўсёды, але Карл адчуваў бы сябе добра. Калі Карл памяншаецца на дзесяць сантыметраў у дзень, праз два тыдні і два дні ад яго нічога не застанецца. Калі б мне далі параду!

29.11.

З учарашняга вечара я пяць разоў размаўляў з бабуляй па тэлефоне. У яе з’явілася ідэя. Карл расказваў бабулі, калі яна была ў нас у гасцях, што мой пульт з’яўляецца не адзіным, што існуе цэлая серыя.

Не ведаю, ці дасць надзею бабуліна ідэя. З Карлам паводжу сябе так, быццам веру ў гэта. Яго трэба падбадзёрыць.

Перад тым, як пайсці сёння ў школу, я паклаў Карла ў шафу, каб яго не знайшла мама, калі будзе падмятаць падлогу.

2.12.

Пазваніў бабулі. Пакуль усё беспаспяхова. Яна ўвесь час занятая пошукамі.

Карл прашаптаў, што пошукі і неверагодная адвага бабулі для яго з'яўляюцца лепшым суцяшэннем.

4.12.

Я сказаў маме, што захварэў. Яна мне паверыла, бо ў мяне пасля марафону да сметніка з'явіўся сапраўды забойны кашаль. Кашаль тут ні пры чым.

Я не хачу больш пакідаць Карла ў адзіноце. Ён ужо зменшыўся да такога ж росту, як і мой, і ўвесь час спіць. Яго рукі трымцяць, часам ён пачынае хрыпець. Мяне гэта прыводзіць у шаленства, бо я не магу яму ніяк дапамагчы, толькі кожныя пяць хвілін я выціраю з яго ілба пот.

Хоць бы ў бабулі ўсё атрымалася!

10.12.

Я больш не кашляю, але нікому няма да гэтага справы, поўнае свінства. Мой бацька ўжо цэлы дзень не прыходзіць дадому, а маці толькі і займаецца, што бегае да адваката з-за разводу і сустракаецца з сяброўкамі, якім жаліцца на сваё жыццё. Яна таксама наведваецца да прыватнага дэтэктыва. Ён павінны сабраць доказы, што ў майго таты ёсць сяброўка. Суд пры разводзе ў такім разе прызнае яго вінаватым і гэтая акалічнасць паўплывае на памер аліментаў, якія ён павінен будзе выплачваць кожны месяц. Яшчэ мая мама шукае працу. На аліменты не пражывеш.



Карл сёння ні разу не прачнуўся. Я пераапрануў яго ў сваю дзіцячую піжаму, але яна таксама ўжо была занадта вялікай для яго.

Ён не прачнуўся нават, калі я пераапранаў яго, толькі прамармытаў скрозь сон: «Ты вельмі добры».

Кожныя паўгадзіны я званіў бабулі. Яе ўвесь час няма дома. Спадзяюся, нічога не здарылася!

11.12.

Божа ўсявышні, дапамажы мне, каб усё атрымалася! Зрабі так, каб мама нарэшце пакінула дом! У тры гадзіны яна хацела паехаць да адваката, зараз — сем хвілін на чацвёртую, а яна яшчэ корпаецца ў вітальні.

Мой цягнік адыходзіць а чацвёртай гадзіне! Мне трэба яшчэ купіць квіток. Грошы я ўзяў са сваёй скарбонкі. Спадзяюся, іх хопіць. Нават не ўяўляю, колькі каштуе квіток да бабулі. Карл ляжыць у вялікай падарожнай сумцы на ручніку.

Карл зрабіўся такім лёгкім, што мне абсалютна няцяжка несці сумку. Не ведаю, ці зразумеў ён, што ў бабулі ўсё атрымалася. Ён толькі ўсміхнуўся, калі я сказаў яму пра гэта. Ну, нарэшце! Мама паехала да адваката!



«Да вечара», — сказала яна на развітанне. Уяўляю, як яна здзівіцца вечарам!

А зараз — дзверы на замок! Нічога мяне не стрымае!

14.12.

У мяне атрымалася! Як шалёны сабака імчаў я на вакзал, грошай хапіла. У апошні момант я ўскочыў у цягнік. Бабуля чакала мяне ў Кляйнфрасдорфе на вакзале. Пульт ад тэлевізара яна прынесла з сабой. «Падыдзе такі?» — спытала яна. Блакітная кнопка знаходзілася ў самым нізе, дзе не бывае ніякіх кнопак, як на маім пульце.

Мы паехалі да бабулі дадому, уключылі тэлевізар і выцягнулі з сумкі Карла. Бабуля вельмі спужалася, калі ўбачыла, як ён зменшыўся.

Па тэлевізары паказвалі нейкае шоу. Я націснуў блакітную кнопку, з'явілася чорна-белая мітусня, за ёй — align рознакаляровая, а потым — пакой Карла. Я прытуліў Карла да экрана, ён павольна пералез у свой пакой і лёг на канапу. Памерам ён яшчэ нагадваў ляльку, але праз некалькі ўздыхаў ён ужо не выглядаў такім млявым і бляклым, голас яго загучаў па-ранейшаму. Праз тыдзень-два, запэўніў Карл, ён прыме былое аблічча.

І тут бабуля заявіла, што мне трэба неадкладна вяртацца дадому, што я паспею яшчэ на апошні цягнік да Гроскрумса.

Я адказаў, што абсалютна не збіраюся гэтага рабіць, што развод у самым разгары і, што я застаюся ў яе.

«Але гэта немагчыма зараз», — сказала бабуля, але я закрычаў: «Ты абяцала, што будзеш абараняць мяне, як сапраўдная львіца!»

— Але тады яны мяне забяруць, — адказала бабуля.

— Хто цябе забярэ, куды? — не сунімаўся я.

Бабуля ўсміхнулася: «Магчыма, паліцыя забярэ ў турму, але хутчэй за ўсё мяне адвязуць да доктара, які адправіць мяне ў вар'ятню».

— Але ж ты не ку-ку, каб цябе забіраць! — сказаў я.

Бабуля цяжка ўздыхнула і прамовіла: «Старую жанчыну, якая на працягу двух тыдняў дзень і ноч крала пульты ад тэлевізараў дакладна прымуць за вар'ятку! А калі даведаюцца, чаму я іх крала, дык увогуле палічаць за вар'ятку ў квадраце!»

Мушу спыніць свае апісанні, бо бабуля выключае святло. Яна хоча спаць.

15.12.

Зараз чатыры гадзіны раніцы, Карл спакойна спіць на канапе, бабуля таксама спіць. Я хачу зрабіць гэты запіс — ён будзе апошнім!

Учора вечарам, калі я ўявіў, што будзе з бабуляй, поўны адчай ахапіў маю душу. Бабуля мае рацыю! У яе кватэры ўсюды ляжаць зламаныя пульты ад тэлевізараў. Цэлыя горы пультаў! Уся вёска пазбавілася пультаў, сказала яна. Людзі натуральна цішком пачалі казаць, хто гэта мог зрабіць. Яны ж ведаюць, колькі будзе двойчы два. Паліцыя пачала пошукі. Процьма людзей можа прыгадаць, што пульт ад тэлевізара знікаў пасля прыходу маёй бабулі. Яна прыходзіла да абсалютна незнаёмых людзей. Ім яна гаварыла, што праводзіць сацыяльнае апытанне.

Я сказаў бабулі, што ёй трэба бегчы!

А Карл сказаў, што яна можа схавацца ў яго. Для гэтага ёй трэба будзе папрасіць тэлевізійнага прытулку, але яна дакладна яго атрымае, бо шмат зрабіла для Карла.

Бабуля падумала і пагадзілася. Акрамя мяне, сказала яна, яе нічога тут не трымае. А калі яе адправяць у вар'ятню, яна нічога не зможа для мяне зрабіць. Ёй неадкладна захацелася да Карла, але ён сказаў, што яму трэба ўсё ўладкаваць з эміграцыйнымі органамі.

Сёння, дакладна а сёмай гадзіне, мы павінны будзем націснуць блакітную кнопку. Да гэтага часу ўсе пытанні будуць вырашаныя, запэўніў Карл.

Але я — не дурань, каб заставацца тут! Я пайду разам з бабуляй! Я паведаміў пра гэта не толькі бабулі, але і Карлу. Канешне, яны — супраць! Але Карл потым зможа атрымаць прытулак і для мяне.

Роўна а сёмай, калі бабуля будзе заходзіць у тэлевізар і адной нагой стаяць у пакоі Карла, я ўскочу ёй на спіну і буду трымацца за яе з усёй сілай. І пакуль яна зразумее, што адбываецца, усё будзе зроблена беспаваротна.

NB

Цікава, ці заўважыць хто-небудзь сярод людзей, якія ў хуткім часе будуць забіраць свае зламаныя пульты ад тэлевізара, пульт з блакітнай кнопкай?

*З «Гроскрумскіх навін» ад 20.12.*

ЗАГАДКАВАЕ ЗНІКНЕННЕ БАБУЛІ І ЎНУКА

15 студзеня ў Гроскрумсе знік 12-гадовы Антон М. Паводле папярэдняй інфармацыі, хлопец худога целаскладу, з светлымі валасамі, збіраўся ехаць да сваёй бабулі ў Кляйнфрасдорф. Загадкава, але ў гэты ж дзень знікла і яна. Апошнім часам старая жанчына знаходзілася ў неадэкватным стане, здзейсніла серыю бессэнсоўных крадзяжоў. У паліцыі няма ніякіх зачэпак. Распрацоўваецца версія, што трагедыя адбылася на глебе сямейнага канфлікту.

*Пераклад з нямецкай Арцёма Арашонка.*
*Ілюстрацыі Даны Цюперак.*



**Андрэй Захарэўскі**

# Хвалі вады і языкі полымя

## слова пасля і *рух ад*




Сёння, як ніколі, нас акалілі словы. *Усе* мы іх вымаўляем, чытаем і пішам, «вымоўчваем»[1] мы да іх, слоў, можам датыкнуцца (напрыклад, у кнігах для сляпых і г. д); слова мы можам панюхаць і паспытаць на смак: скажам, у кветніку («Квітней, Беларусь!») і з печывам («Слодыч»); на інтуітыўнай, веравызнаўчай глебе спасцігнуць яго, слова, існаванне. Чаго казаць, слова сёння ўсюды, яго настолькі многа, што яно пераходзіць у лічбу, лічбавую бясконцасць: «ад слоў да лічбы» — слоган тэлефоннага аператара; пішуцца вершы з лічбаў. Думаю, варта казаць пра ўзнікненне новай сферы, нашмат шырачэйшай за наасферу, — *лагасферу* (< *грэч.* logos 'слова, паняцце, вучэнне' + < *грэч.* sphaira 'шар') — прастору, куды толькі дасягае *чалавечае* паняцце. І ў межах такой *лагасферы* дзейнічае свая сіла — сіла слова, праз розныя сімвалы і знакі якой мы *адкрываем* яго, слова, *Закон*.

Жыццё чалавека пазнаецца ў яго дзеянні, культуры, а «любая культура словоцентрична» [1; С. 4]. Непасрэдна мастацтва слова сучаснасці прынята называць постмадэрнізмам. І вось чым яно выбітнае: постмадэрноваму твору перш за ўсё характэрны *гістарызм*: (амаль) абавязковае выкарыстанне у сюжэце гістарычных паралеляў. Гэта шматлікія кнігі з серыі «ЖЗЛ» (так званы «нон-фікшн» — літаральна 'не-прыдуманае'), або, напрыклад, «Дамавікамерон» Адама Глобуса і «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча. Непасрэдна дзея твора адбываецца ў далёкім мінулым альбо ў рэчаіснасці, на якую паўплывалі (як правіла, у глабальна-касмічным маштабе) *гістарычныя* падзеі. Амаль заўсёды з прычыны гістарычнай накіраванасці ў тэкст уплятаюцца словы-ключы, выбітныя фразы, ідэі рэальных гістарычных дзеячаў, папярэднікаў, летапісцаў, цытаты са Святога Пісання, у рэшце рэшт.

Асаблівасць палягае ў несур'ёзным стаўленні да гісторыі, да вопыту, адбываецца пісанне дзеля забавы, пісанне дзеля пісьма: цытаты вырываюцца з кантэксту, ідэі дэфармуюцца так, як іх разумее ці хоча разумець постмадэрніст, словы рэальных асоб проста выдумляюцца, каб атрымаўся *чытабельны* тэкст. Нягледзячы на гэтую асаблівасць, вышэйшыя ўзоры постмадэрновых твораў, патрабуюць ад аўтара не меншых высілкаў, не меншага таленту, чым творы «больш сур'ёзных» з плыняў. Але ні ў адным з кірункаў, прынамсі, літаратурных, не адбываецца такога іх узаемадзеяння розных плыняў, як *пачынаючы* з постмадэрну.

«С редким единодушием его [произведение «Я приду плюнуть на ваши могилы»] и по сей день признают наиболее удачным произведением Салливана, умелой пародией на разновидности бульварного чтива — полицейский роман, научную фантастику, порно и псевдофилософскую беллетристику»[2] [2; С. 484], — чытаем у пасляслоўі С. Савіцкага да кнігі Барыса Віяна (Вернона Салівана). Ці: «...«Ада» действительно напоминает многослойный постмодернистский пирог, если хотите — волшебный сундучок фокусника с двойным дном, где под упаковкой скандально-эротического сюжета можно обнаружить не только виртуозное владение литературной техникой, но и философские медитации о природе времени (в духе Анри Бергсона), и энциклопедизм, который по плечу лишь идеальному в жизни едва ли существующему знатоку литературы, живописи, философии, истории, ботаники, энтомологии и проч. <...> Семейная хроника, научно-фантастический роман, любовно-эротический роман с примесью мелодрамы (romance), философский трактат, романтическая баллада, критическая рецензия и даже рекламная аннотация (blurb) — все эти

[1] І.Шаўлякова «Карма №2, або Выніковасць маўчання»: рэцэнзія на кнігу Леаніда Галубовіча «З гэтага свету» («Дзеяслоў». 2012. №6 (61). С. 311—316).

[2] Пунктуацыя захаваная паводле крыніц.

жанровые разновидности (принадлежащие как «высокой», так и «массовой» литературе), причудливо смешиваясь, образуют диковинный литературный гибрид под названием «Ада»» [3; С. 5—6, Николай Мельников «Роман-протей Владимира Набокова»]. Пэўна, я назваў відавочныя прыкметы літаратурнага постмадэрну. Праўда ж, пра постмадэрн даўно — ці не паўстагоддзя таму — усё напісана, усё вымерана. Таму і рушым да другой часткі нашай працы.

Паўстагоддзя — не так і многа для літаратурнага працэсу. Разглядаючы літаратуру «звышсучаснасці» ў паняцці хранатопу, трэба адзначыць на сённяшнім этапе імклівае глабальнае развіццё, развіццё, багатае на адкрыцці ва ўсіх галінах дзейнасці чалавецтва[3], што не можа паўплываць і на славеснае мастацтва. Канечне, постмадэрновыя творы ўзнікалі і раней за Другую сусветную вайну[4], «и скоро категория постмодернизма захватит и Гомера» [4; С. 635]. Але гэтыя «несвоечасовыя» творы ўзнікалі без далучанасці да агульнага кантэксту. Ды і тэрмін «постмадэрнізм» выклікае асабіста ў мяне бюракратычныя асацыяцыі, як і тэрміны «мадэрнізм» або «нью-эйдж». Нас зараз цікавіць менавіта апошні з названых кірункаў, і ўся гэтая праца стала такою, як ёсць, толькі дзеля гэтага назоўніка — *«нью-эйдж»*.

Яго мы ўпершыню пабачылі у крытычным артыкуле Марыі Мартысевіч «Голем на пераходзе»[5] пра аповесць «Шал» Юрыя Станкевіча: «Гліна, з якой працуе Станкевіч, лепячы ўжо свайго Голема[6], — сумесь самых розных ідэалогій і эстэтык, блізкіх аўтару. Вы скажаце, гэта постмадэрнізм, але я скажу — нью-эйдж». Разуменне адбылося тады, калі адкрытыка даўно пакрысе захоплівала наш час, нашу прастору. Пашукаўшы артыкулы непасрэдна пра нью-эйдж, мы сутыкнуліся з прабеламі ў тэрміналогіі. А дакладней, існуе толькі паняцце «нью-эйдж», за якім нічога няма. Тады мы і зразумелі, у якім рэчышчы павінен палягаць наш шлях, што трэба рабіць.

Наогул тэрмін *нью-эйдж* болей тычыцца рэлігіі і менш музыкі і яднае мінулыя здабыткі праз сучасныя прылады, сродкі. Галоўны з гэтых сродкаў — інтэрнэт, міжнароднае сеціва, — вядзе да глабалізацыі, масмедыйнасці. Нью-эйдж — гэта спалучэнне неспалучальнага: хрысціянскае светаўспрыняцце ў звязцы з усходняй практыкай, камерны фольк, электронны джаз, этнашансон і г.д. Безумоўна, нью-эйдж як літаратурны кірунак узнік не сёння, ён развіваўся *паралельна* з постмадэрнам. Паміж постмадэрнам і нью-эйджам таксама нешта было і ёсць. Так, Віка Трэнас у сваім аглядава-аналітычным артыкуле задаецца пытаннем пра «Беларускі постмадэрнізм?»[7], прыводзячы ў тэксце літаратурную суполку «Schmerwerk», у прыватнасці 3м. Пляна:

*забарона — абарона забабона*
*згвалтаванне закону*
*хачапуры чабурэк пінгвін*
*змова — мовы адмова*
*рыбіна — рабін*
*марынаваная марына*

Гэты твор нельга ахарактарызаваць ніяк, акрамя як назваць мадэрновым, і *дадаізм* (хоць і не «чысты», не гукавы, а слоўна-гукавы) стаў тут прыёмам светаўспрымання. Тым больш, што і боль («Schmerwerk» перакладаецца літаральна з нямецкай мовы, як «Завод па вытворчасці болю») — катэгорыя ніяк не постмадэрну, а дэкадансу, якая вядзе «да нематы, да белай старонкі» [4; С. 626].

Лічыцца, што ў постмадэрновым грамадстве месца мадэрну няма, але нават слова «постмадэрн» утрымлівае ў сабе слова «мадэрн», таму, думаецца, хаця б з гэтай прычыны мадэрн нікуды не знік, ён працягвае «жыць». «Жыць» у гэтым выпадку пішам у двукоссі, таму што сцвярджэнне жыцця ў мадэрне — паняцце даволі пакутлівае, «вывернутае», амаль ці цалкам

---

[3] Узнікаюць розныя пісьмовыя працы, часам, як з жарту, «Аб уплыве месяцовага святла на рост тэлеграфных слупоў».
[4] Менавіта наступствы Другой сусветнай вайны прынята лічыць за галоўны чыннік усталявання такога кірунку ў мастацтве, як постмадэрнізм.
[5]«Дзеяслоў». 2013. №64.
[6] У габрэйскіх фальклорных паданнях: гліняны волат, які паслухмяна выконвае даручаную яму працу, але можа выйсці з-пад кантролю свайго стваральніка і загубіць яго.
[7] Так называецца сам артыкул («Маладосць». 2005. №6).

страчанае, часта нават і спустошанае. Мадэрн як з'ява, раз узнікнуўшы, ужо не можа сысці ў нішто. У сцвярджэнні мадэрну і на сёння варта прывесці нізку вершаў Ганны Новік («Маладосць». 2013. №3. С. 26—27). Нават па назвах вершаў Г. Новік можна зразумець пра пакінутасць лірычнага героя: «Лірыка знікнення», «Расчараваныя», «NI4ЫE». І верш «Сёння», якім адкрываецца яе нізка, пачынаецца так: «Сёння — нейкага сакавіка...»

А вось першыя радкі безназоўных вершаў Ганны: «Няма крыніц спатоліць смагу...» ці «Прысубстантыўная іста...». Канечне, можна ўспомніць пра ўзрост аўтаркі (на час публікацыі 23 гады), пра псіхалагічныя асаблівасці гэтага перыяду, але ж думаецца, гэтыя ўзроставагендарныя асаблівасці канкрэтнай асобы і ёсць прыкметы часу, кантэксту.

У чым жа праяўляецца мадэрн у постмадэрне? Герой можа быць пакінутым, адчуваць адзіноту, пакуты, аднак гэтага героя абавязкова захапляе ці захопіць у рэчаіснасці нейкая загадка, ідэя, і яна перасільвае (хаця б на пэўны час) будзённую індывідуальнасць, адасобленасць, авангарднасць ці аўтсайдарства; праўда, такая загадка можа быць усяго авантурай, «донкіхоцтвам». Постмадэрнізм — не вычварэнства, «вычварэнства» акурат у мадэрне. І хоць постмадэрнізм, як правіла, праяўляецца ў тым ліку і ў мешаніне твораў, цытат, лірычных герояў («кліпавае мысленне» — вынік гэтай мяшанкі), аднак, нягледзячы на гэта, ён не проста захаваў, а развіў індывідуальнасць — сваё *светабачанне*. Ды гэтая індывідуальнасць не вядзе да парывання са светам, да самаабмежаванасці, да сваёй і больш нічыёй свабоды; гэтая постмадэрновая індывідуальнасць развіваецца ў імя чалавецтва, чалавечнасці. Трэба заўважыць, гэта не заўсёды адраджэнскае чалавекалюбства — гэта натуральны, чалавечы, свядомы выбар. Прыгадаем Вежу з эпапеі Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», прычыну — ідэйную прычыну! — смерці маці Алеся Загорскага.

Дык якім жа з'яўляецца постмадэрновы верш? Пэўна, пытанне трэба ставіць так: ці так ужо *патрэбны* постмадэрновы верш? І гэта рытарычнае пытанне. Постмадэрноваму хранатопу ўвогуле ўласціва рытарычнасць. Што называецца, думайце самі. А пакуль думаеце: постмадэрновы верш любіць быць па-бульварнаму лёгкім, разумова незапатрабаваным, нешта кшталту рыфмаскладанкі «маленький мальчик ... («сел на диванчик», «нашёл автомат», «ножку поднял» і г.д.). Так, эпіграфам аповесці «Шал» Юрыя Станкевіча стаў штучнатвор кшталту такой рыфмы. Калі хочаш — успрымай верш такім, які ён ёсць, чытай што бачыш, і рытміка верша толькі спрыяе бегу па струнах піяніна.

Але — вось ужо гэтае «але» — калі раптам ты не хочаш мяккацеласці верша, можаш паглыбіцца ў яго і, магчыма, знайсці аксаміт, якім гэты пуставаты, штучнатворны верш абабіты. Безумоўна, гэта тычыцца не толькі «постверша», часам і «постпрозе» гэта ўласціва. Аднак, у прыклад «постверша» можна назваць цыкл вершаў «Аўтамабілі СССР» Віктара Ыванова (Лупасіна) ды іншыя яго вершы: скажам, у аўтабамільным санеце (ужо ніштавата, ці не так?) «Дуэт» мы можам знайсці усе атрыбуты постмадэрну: гістарычнасць («Дуэт» як гістарычны артэфакт, бо у прагрэсіўным свеце машыны дужа хутка старэюць, таму згаданая машына — што мастадонт), перапісванне гісторыі на свой капыл. Не забываецца аўтар і пра «класіку» мыслення, адказвае на вечнае пытанне і свярджае, такім чынам, пра незаўсёднасць ісціны:

*<...> чым ёсць прыгажосьць?*

*Яна не гаспадар, а рэдкі госьць,*
*Яна хаваецца па цэлым сьвеце*
*І вось цяпер знаходзіцца ў «Дуэце»*[8].

Параўнайце з радком Віктара Казько: «Тайна нагадалася яму на гэты раз у выглядзе звычайнага ляснога арэха» (аповесць «Суд у Слабадзе»).

А калі толькі ўявіць, што «Дуэт» — не аўто, а шлюб, нават шырэй — Каханне, а двукоссе дуэта — пазнака адноснасці яго, што дуэт ужо як адзінка, і адзінка непадзельная. Вось што такое постмадэрновы верш.

[8] Ываноў, В.М. Асарці: паэзія, проза, п'еса / Віктар Ываноў. — Мінск: Галіяфы, 2009. — 156 с. — (Другі фронт мастацтваў).

Праўда, найбольш яскрава, на нашу думку, узор постмадэрновага верша прадстаўлены ў творах Мікалая Найдзёнава, надрукаваных у «Нёмане» №2' 2013 года. Напрыклад:

***Италия***
*Терзалась Наталия*
*гадала: «И та ли я?*
*Есть ум, есть и талия,*
*ну и так далее...*
*Что ж надо Виталию?»*

*В Италию.*

Тут і гульня са значэннямі імёнаў: Наталія (*з лац.* 'родная') і Віталій (*з лац.* 'жыццёвы'). Сапраўды ж, быццам бы Наталія і родная, што ж яшчэ трэба Жыццёвасці (у Бібліі, памятаеце, Жыццё(-васць) несла жанчына-Ева). Тутсама і стэрэатып, масмедыйны (поп-культурны) штамп: калі жанчына прыгожая, то дурная, і наадварот — і аўтар *абыгрывае* гэтыя паняцці, паказваючы, што ў ёй, у Наталіі, сышліся гэтыя вялікія боскія дары: розум і прыгажосць. Ды бач ты, Жыццё мкне ад яе... І да каго? Да чаго? У Італію! Калыску дзяржаўнасці, калыску культуры, усеагульнага хрысціянства, у рэшце рэшт...

Так, у гэтым вершаваным творы навідавоку няма пераемнасці, ва ўсялякім разе *тэкстуальнай*, але сама назва, сам пафас яго не могуць не прымусіць мець на ўвазе нешта большае, чым проста «кусок мацярыка» пад назвай Італія... Аднак, разам з тым, гэты верш можна разглядаць, як і жарт, амаль бессэнсоўны, пабудаваны на адной гульні слоў. Постмадэрновы твор — гэта заўсёды **загадка**, прычым загадка без адзінага адказу ці са шматлікімі адказамі, і гэтыя адказы ведае перш-наперш чытач (!), а не пісьменнік. Скажам, талія — муза камедыі; ум («аум») — у філасофскіх тэкстах старажытнай Індыі — слова, якое нічога не значыць і самастойна нічога не выяўляе, і ў гэты ж час яно значыць усё: «Ум — гэта Брахман, Ум — гэта ўсё».

Вернемся да «нью-эйджа». Гэтае слова бяром у двукоссе, таму што да літаратуры гэтая назва не так добра прыстасавалася, не прарасла ў літаратуразнаўстве. Наогул, здаецца, упершыню, пачынаючы з уласна мадэрну, узніклі такія безгустоўныя назвы кірункаў у мастацтве, якія ў сабе не ўтрымліваюць ключавога слова ці прыкметы. Мадэрн — з французскай 'сучаснасць', постмадэрн — 'паслясучаснасць', нью-эйдж з англійскай літаральна 'новая эпоха, новы час' — такія назвы можна ўжыць да любых разгалінаванняў у любой сферы дзейнасці ў любы час. Такія тэрміны нешта кшталту лозунга «Пяцігодку — за чатыры гады» (5=4) ці надпіса на пачку ад цыгарэтаў «Курэнне забівае». Скажам, мадэрну падышло б этымалагічна што-небудзь са словаў «нішто», «пустата», «свядомасць», той ж «боль». Постмадэрну — «гульня», «забава», «мешаніна», напэўна «загадка». Але назвы «мадэрн» і «постмадэрн» замацаваліся не толькі ў культурнай прасторы, але і ў храналогіі, у жыццядзейнасці, таму ў іх этымалагічнай апраўданасці не мае значэння сумнявацца.

А вось з «нью-эйджам» у літаратуры не так зразумела, як падаецца. Да ўсяго ж норавы постмадэрновага часу зрабілі межы чаго б там ні было задужа ўмоўнымі, нават межы дзяржаў (Еўрасаюз, напрыклад). Таму адна з мэт гэтай працы ў тым ліку давесці і асэнсаваны тэрмін замест «няпэўнага» «нью-эйджа» — *адкрытыка (*англ. *addcriticism)*.

Безумоўна, у новае слова *«адкрытыка»* ўваходзіць такое паняцце, як *адкрыццё*: адкрыццё межаў, адкрыцці ў навуцы, мастацтве, веравызнанні, у тым ліку адкрыццё межаў паміж навукай і псеўданавукай, мастацтвам і псеўдамастацтвам, рэлігіяй і акультызмам, паміж навукай і мастацтвам, мастацтвам і рэлігіяй, навукай і рэлігіяй і г. д. Адкрытасць, перш-наперш, палавая, гендарная, сексуальная — шляхам так званай сексуальнай рэвалюцыі. Таксама адкрытасць усіх увасабленняў мастацтва: «Я хачу, каб сучасны беларускі празаік, паэт ці драматург быў адкрытым»: <...> «...літаратура плюс тэатр, фатаграфія, дызайн...» (Алёна Іванюшэнка, галоўны рэдактар тэатральнага альманаха «Двери»)[9]. Але што трэба найперш разглядаць у паняцці «адкрытыка», дык гэта рух ад уласна крытыкі (*англ.* add 'дадаваць,

---

[9] «Маладосць». 2013. №3. С. 3.

складваць' + criticism 'крытыка', што вынікае з *грэч.* 'суджэнне'). Пры жаданні ў паняцці адкрытыкі можна знайсці яшчэ колькі слоў і каранёў, якія так ці іначай стануць звязанымі з адным з цэнтраў развіцця культуры (у першую чаргу — еўрапейскай: Крыт), формай перадачы інфармацыі (адкрытка) і яшчэ нечым іншым. І небеспадстаўна гэтае паняцце «адкрытыка» будзе судакранацца з кожнай з варыяцый прачытання гэтага паняцця.




Тое, што мы хочам выказаць, прыходзіць, мусіць, з цягам набыцця дасведчанасці: няма нічога сусветнага, чаго не ўтрымлівала б нацыянальнае[10]. Беларускае слова «адкрытыка» і сапраўды падыходзіць для пазнакі ўсёй літаратурнай плыні свету — вось што хочацца сказаць перадусім.

Але чаму ж менавіта рух **ад** крытыкі? Будзем шчырымі, крытыка «высокая», «ідэальная» — акадэмічная (?) — знікае з літаратурнага працэсу: «Рэпутацыя пасля (аўта) дыскваліфікацыі: беларуская літаратурная крытыка 2000-х» Ірыны Шаўляковай («Дзеяслоў». 2012. №5 (60)). Я маю на ўвазе тую літаратурную крытыку, што «опирается на теорию и историю литературы» [5; С. 168—169], а «критиковать — значит искать и открывать в частном явлении общие законы разума, по которым и через которые оно могло быть, и определять степень живого, органического соотношения частного с идеалом» [6; С. 235 («Речь о критике»)]. Відавочны разрыў, дэфармацыя крытыкі — не толькі ўнутранае памкненне літаратуры беларускай, але і сусветнай. Мы не намагаемся сказаць, што крытыка знікае і знікне. Як і любая жывая з'ява, крытыка насуперак усяму будзе жыць, але зусім у іншых умовах.

Справа ў тым, што ў літаратуры вызначаецца новы вектар крытыкі: «Эсэ замест рэцэнзіі на «Стрэмку» Сержука Сыса» (Сяргей Вераціла, «Дзеяслоў». 2012. №6 (61)), «крытычны верлібр» — азначэнне Ірыны Шаўляковай прадмовы Ціхана Чарнякевіча да зборніка вершаў Леаніда Галубовіча «З гэтага свету», водгук-бурлеск Уладзіміра Сіўчыкава на раман-бурлеск «Дванаццаць подзвігаў Геракла» Пятро Васючэнка («Дзеяслоў». 2014. №2 (69)), «дабрадзейна-таварыская крытыка» [7; С. 71] і ўсё большае рэцэнзій «памеру анатацыі, рэкламнага флаера»[11]. У такіх водгуках часцей праяўляецца больш творчых дэталяў светабачання аўтара водгуку, чым таго «анатамуемага» твора, які ён прадстаўляе. Вось што можам прачытаць пра кнігу згаданага тут раней Барыса Віяна: «Исчезнувший в 39 лет, Борис Виан успел побывать инженером, изобретателем, музыкантом, критиком,

[10] «У нацыянальным спеюць зярняты космасу, і дзякуючы гэтым зярнятам яно адкрываецца і прамаўляе свету — становіцца інтэрнацыянальным» (Алесь Разанаў. Зб. «Паляванне ў райскай даліне». Зномы). Альбо: «Необходимо, чтоб национальный поэт имел великое историческое значение не для своего только отечества <...>, то есть своею национальною жизнью влиять на ход и развитие всего человечества» [6; С. 14 («Мысли и заметки о русской литературе»)].
[11] Літаратура і мастацтва. 2015. 12 чэрв., «Чакаю раптоўнага буму супольных праектаў»: інтэрв'ю Алесі Лапіцкай з Ірынай Шаўляковай.




поэтом, романистом, драматургом, сценаристом, переводчиком, журналистом, чтецом и исполнителем собственных песен... Время отводило на всё считанные секунды. Виан родился рано и прожил быстро. Виан был слишком молод. Мир был слишком стар. Сегодня его творчество органично входит в общий контекст XX века. Влияние оспаривается, наследие изучается, книги печатаются и переводятся. Пустое место между Жаком Превером и Аленом Роб-Грийе заполняется. Виан признан классиком интеллектуального китча, ярким представителем послевоенного французского авангарда. В книге представлены произведения, высвечивающие разные грани творчесва Бориса Виана» [9; задняя вокладка кнігі].

Часопіс «Дзеяслоў» змяніў назву сваёй рубрыкі: «Крытыку» на «Кнігапіс», таму што, напэўна, слова «Крытыка» не зусім адпавядала тым з'явам, якія дзеіліся ў гэтай рубрыцы. Цяпер крытык набліжаецца, як гэта ні парадаксальна, да Уайльдаўскага: «таго, хто ў новай форме ці новымі сродкамі здольны перадаць *свае* (вылучана намі. — **А.З**.) ураджанні з прыгажосці». Калі ранейшыя творы былі плёнам ідэалізацыі, таленту, Боскага дару, стану душы паэта, які пісаў, каб чыталі, каб выхоўваць, навучаць, каб распавесці; то цяпер твор можа выступаюць пасрэднікам — ён нясе думкі, ідэі, настроі, погляд, якія прымушаюць пісаць і Чытача: на цыдулках, у нататнічку, у дзённіках і ў шуфлядку, на сайтах і ў друку, у сваім мастацкім ці, лепш, агульным — адкрытычным — творы так ці іначай выкарыстоўваць ужо напісанае. У такім сціслым пераказе паводле Чытача з'яўляюцца ідэі, думкі, на *асабісты чытацкі погляд* гучныя сказы — тое, што адпавядае ўнутранай плыні героя кнігі, Чытача. Зрэшты, такія кнігі не рэдкасць сёння. З'яўляюцца кнігі афарызмаў пэўных пісьменнікаў. У беларускай літаратуры з выдавецтва «Вышэйшая школа» нядаўна выйшла кніга «Афарыстычныя выслоўі беларускіх пісьменнікаў» пад укладаннем Н.М. Нямковіч і Н.В. Гаўрош (2012).

Што да крытыкі, у «Дзеяслове» №68 Ціхан Чарнякевіч рэцэнзуе кнігу Аляксандара Л. «Зкімбызымбы», распавядаючы сваю «Гісторыю аднаго шпацыру». Паэт Леанід Галубовіч (ЛеГал), часта выступаючы ў якасці рэцэнзета, бачыць патрэбу ў адступленнях, што непасрэдна не датычацца тых твораў, той творчасці, якую ён разглядае. Як правіла, гэта свабодная рэфлексія перад рэцэнзаваннем, у якой ён дзеліцца сваім душэўным станам, расказвае пра метафізіку часу, разважае аб лёсе Паэзіі. І па заканчэнні такой рэфлексіі — «надрэцэнзіі» — ён нібы абрывае *сябе*: «Зрэшты ўсе гэтыя *надуманыя* (вылучана Леанідам Галубовічам. — **А.З.**) мною замахі на паэзію да ніжэй напісанага не маюць аніякай датычнасці» («Дзеяслоў». 2014. №73) ці «Такі вось высакамоўны ўступ атрымаўся. Перавяду дух... <...>Адсюль і гэты, з чытацкага боку погляду, дыдактычны пасаж...» («Дзеяслоў». 2015. №74). Мы бачым яўны кірунак не толькі літаратуры, але і сусвету, *да сябе*. Сучасны — *адкрыты* — крытык, такім чынам, становіцца другім аўтарам, сааўтарам, які ўжо не раскладвае на асаблівыя, адасобленыя дэталі цэласны твор, а «нібы» працягвае твор пісьменніка; не транскрыпцыруе ўжо напісанае,

а ўтварае асабісты акцэнт, творчы дыялог, грае ў сваю дудку, ствараючы тым самым паліфанію ці какафонію — як атрымаецца; часам нават не дэкадзіруе твор пісьменніка, а наадварот (!) — кадзіруе, заплятаючы, завязваючы ў свой твор сімвалы і вобразы твора папярэдняга.

Мы ў гэтай працы намагаемся абазначыць, а *не адкрыць*, як можна падумаць, літаратурны кірунак у сучаснасці, яго памкненні; хіба што толькі адкрыць паняцце, пазнаку гэтаму кірунку: кожнай сароцы свой сук. Таму што паняцце крытыкі, чытайце — адкрытыкі, даў пісьменнік Андрэй Платонаў: «Критика, в сущности, есть дальнейшая разработка богатства темы, найденной первым, «основным» автором. Она есть «довыработка» недр, дальнейшее совершенствование мыслей автора. Критика может быть многократной. Первый автор обычно лишь намечает, оконтуривает недра и лишь частично их выбирает, а критик (идеальный) доделывает начисто несовершённое автором»[12].

Некалі, чытаючы Ф.М.Дастаеўскага «Подросток», да нас падчас захаплення *паэзіяй* пісьменніка прыйшла вось якая думка: «***Чытач павінен быць тым жа пісьменнікам***». І за гэтую думку мы зараз зачэпімся, бо яна стане і апагеем усіх назіранняў твора гэтага. Пісьменнік Андрэй Міхайлавіч Федарэнка ў адным з інтэрв'ю выказаўся пра тэндэнцыі развіцця аповеда ад імя першай асобы — развіцця, перш-наперш, эсэ. Таму што эсэістычны Я-герой судакранаецца, суадносіцца як з пісьменнікам, так і з чытачом: калі напісана, скажам, «я іду» — гэта значыць хаду не толькі ўяўнага героя, але і пісьменніка, але і чытача. Зрэшты, не так сабе было выкарыстана гэтае імя — Андрэй Федарэнка. Твор з назвай «Повесць»[13] пісьменніка мы хочам прапанаваць, як адзін з выдатных прыкладаў — проста-такі хрэстаматыйны — адкрытыкі.

Не столькі у прамым сэнсе, вядома. Кожны чытач ёсць пісьменнік, і паміж гэтымі іпастасямі праводзіць *мяжу* Андрэй Міхайлавіч у творы «Повесць», пакідаючы тэкст «графаманскі» і тэкст «аднаго пісьменніка». Сярод тых слоў, якія, як ніколі, нас, людзей, акалілі сёння, мы *мусім* разабрацца, хто мы. Другімі словамі, сярод слоў мы выбіраем свае слова. Як гэта? Чытач не проста спажывае тое, што яму пішуць у кнігах — ён выбірае, што яму чытаць, ён становіцца актыўным удзельнікам твора, ён запісвае за аўтарам, ён *выпраўляе* аўтара. Мы мусім гэта рабіць: прыйшоў час разабрацца ў сабе і заставацца самім сабой ува ўсіх сваіх праявах і зменах, як гэта не супярэчліва гучыць.

Асноўныя кругі другой часткі аповесці «Пра аднаго пісьменніка» Андрэя Федарэнкі «Повесць» будуць і кругамі адкрытыкі. Круг першы — *гісторыя* (кахання) (ці, як выказаўся сам аўтар яшчэ за квадру стагоддзя таму, — гісторыя хваробы), *спасылка* гэтай гісторыі на Люду (Людмілу Аляксееўну), і яе, гісторыі, «перапісванне». Круг другі — *пераасэнсаванне*, агучванне іншай версіі, надаванне іншага гучання. Мы бачым два варыянты, два пісьма аднаго і таго ж здзяйснення. Такім чынам, Пісьменнік стаецца Чытачом, «не только становится до определенной степени редактором прежних текстов, но и осознает это» [7; С. 57—58]. Таму разам з размежаваннем Графамана і Пісьменніка (якое ў любыя часы мела дужа ўмоўныя — унутраныя — прычыны[14]), Андрэй Міхайлавіч Федарэнка нібы і аб'ядноўвае Пісьменніка і Чытача: усе мы — адно цэлае, сябры. Нібыта толькі праз «графаманскі» твор Люды (Людмілы Аляксееўны) пісьменнік з набітай рукою (і лобам) знаходзіць сябе. Сярод такіх *знакавых* прыкладаў трэба паставіць і Леаніда Галубовіча, які «перакваліфікаваўся ў чытача-прафесіянала» (Пятро Васючэнка «Крытык у адсутнасці чытача і чытач у адсутнасці крытыкі»; «Маладосць». 2015. №4. С. 7):

*Так мала чытачоў,*
*І тыя ўсе — паэты*[15].

[12] Андрей Платонов. Из записных книжек разных лет: 1936—1938.
[13] Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» №5 (919)' 2006 г. як асобная аповесць, якая ў кнізе «Ланцуг» стала другім раздзелам аповесці «Пра аднаго пісьменніка», праўда, страціўшы некаторыя раздзелы.
[14] Паглядзіце хаця б у раздзеле «Чытачы» згаданага твора «Пра аднаго пісьменніка» запіс пад пунктам 9: «Абсалютна нічога такога смешнага не знайшла ў той частцы, што курсівам (часткі Людмілы Аляксееўны. — А.З.). Цалкам кранальная гісторыя зараджаючагася кахання на фоне непаўторнай беларускай прыроды. Хацелася б даведацца пра далейшы лёс гераіні... Анюта С.»
[15] Леанід Галубовіч. ***Шукаю чытача (Зб. «Таемнасць споведзі»).

Аднак жа не гэта тое галоўнае, што адбылося ў літаратуры (ў тым ліку і праз твор «Пра аднаго пісьменніка» А. Федарэнкі). Гэтую змену адразу і заўважыць нельга, настолькі яна маленькая (па памеры), нібы другасная. У трэцім, па сутнасці, найвялікшым раздзеле «Чытачы»[16], пісьменнік надаў увагу стылю мовы камунікацыйна-тэхнічных сродкаў. «Фельетоннай эпохай» назваў бы такое Герман Гесэ[17], але да яго мы звернемся пазней. Андрэй Міхайлавіч змясціў у раздзеле «Чытачы» каментары невядомых людзей з цыдулкі, якую знайшоў паміж старонак сваёй аповесці ў бібліятэцы. Што захацеў гэтым сказаць аўтар, па сутнасці, надрукаваўшы пост выбраных (па волі лёсу) чытачоў сваёй аповесці? Ды ён і не ўтойвае, так і піша вуснамі «аднаго пісьменніка», не без іроніі (самаіроніі?): «Цяпер усе выдатна ведаюць, як жыць, навошта жыць, як пісаць і што чытаць, і самі любога навучаць». Але чытач займеў сваё імя.

*Чытач займеў сваё імя.*

Можа, мы называем адкрытыкай вопыт у пераемнасці, які з'яўляецца ўласна рухавіком цывілізацыі, і таму важкі ва ўсе часы? Вядома, адкрытыка і ёсць пераемнасць, але не пераемнасць сама па сабе. У гэтай пераемнасці важна адно паняцце — паняцце суаднесенасці, судакранання. Сюррэаліст можа свабодна выразаць словы з газетнага артыкула, укінуць у мех і даставаць *сваёй рукой* па адным гэтыя словы, нібы бочачкі лато, складваючы, такім чынам, новы тэкст, не зважаючы на сінтаксіс, ні на што не зважаючы. Дадаіст думае толькі пра сугучнасць, адчуваючы гукі і літары. Экзыстэнцыяліст хоць і сцвярджае, што «...человек осужден быть свободным. Осужден, потому что не сам себя создал, и все-таки свободен, потому что, однажды брошенный в мир, отвечает за все, что делает»[18], <…> «если даже бога нет»[19]. Аднак ён жа не забывае і дадаваць пра абсурднасць свету і каштоўнасць толькі ўласнай свабоды.

...аднак адбываецца вялікая камунікацыя свету (яна толькі-толькі распачалася), і мы даведаемся, што ўсё існуе: шматвектарныя рэлігіі, кожная з якіх верная, традыцыі, што цесна — да немагчымасці адасобіць — звязаныя з рэлігіяй, менталітэтам, нават характарам асобнага чалавека; пісьменнікі са сваімі творамі, што напоўненыя духам сваёй зямлі, свайго краю дзяцінства, краю бессвядомага, — вартым *можа быць* цяпер і зараз: ты сам; «усе дарогі вядуць...» усё ж такі не «...ў Рым» — да сябе.

Таму, кажучы пра пераемнасць адкрытыкі, мы разумеем: у *празаічным творы* — суаднесенасць (часта: рознастылёвых, рознажанравых) тэкстаў, якія, відаць, блізкія духу аўтара-адкрытыка — нешта кшталту зборніка, у якім пад адной назвай змешчаныя творы розных аўтараў; *у паэтычным творы* — пераемнасць самога духу, творчай плыні, якая яднаецца з аўтарскай. Гэта відавочна на фоне мадэрну, дзе развівалася «прежде всего индивидуальное начало», які (мадэрн) стаў «временем необходимого разграничения и обособления — текстов, авторов, читателей. Тексты приобрели завершённость, авторы — индивидуальный стиль, а читатели — соответствующие их склонностям сегменты книжной продукции [7; С. 64]. Аўтар у постмадэрне сам і Чытач у шырокім сэнсе. Варта казаць пра «калектыўную індывідуальнасць». Чытач выходзіць на першае месца, вядзецца барацьба за яго. «Самы бяздарны пісьменнік можа быць зразуметы і рэабілітаваны таленавітым чытачом» [10; С. 110].

Няхай твор праз тоўшчу словаў, можа, застаўся і не пачутым, няхай «аповесць ... канула ў Лету», бо, магчыма, толькі Пісьменнік і можа стаць Чытачом, можа, Пісьменнік толькі і піша да сябе. Мэта мастацтва нам невядомая — так можам інтэрпрэтаваць мы словы героя апавядання Андрэя Федарэнкі «Мыла». Дык навошта ж тады «развітвацца з ***Л***ітаратурай». Няхай яна ідзе сваім вядомым ёй шляхам. У гэтым бурным і лютым свеце сярод шматлікіх захапленняў у літаратуры застаюцца і напраўду свае — вернікі Слову, нават вернікі Гуку (гэтую бязмежнасць азарылі акурат дадаісты).

[16] Відавочна перагукда з «ранняй» навелай Адама Глобуса «Капялюш пажарнага колеру» (зборнік «Адзінота на стадыёне»), дзе ў чалавеку з капелюшом пасля падслуханых рэплік назіральнікаў памёр мастак.
[17] Найбольш вядомыя віды крытыкі: водгук, рэцэнзія, літаратурны партрэт, памфлет, фельетон.
[19] Жан-Поль Сартр. «Экзистенциализм — это гуманизм», 1946 (надрукавана ў кн.: Сумерки богов. — М.: «Политиздат», 1989. С. 319—344).
[20] Там же.

Думаем, тут і можна пазначыць галоўныя асаблівасці адкрытыкі (у параўнанні з блізкім да яе постмадэрнам): *ісціна ва ўсім*, тут і там, справа і злева, зверху і знізу, уся справа — у цэнтрабежнай сіле, у кропцы скрыжавання, якая знаходзіцца ў сабе (возьмем вязанку твораў Германа Гесэ «Шлях унутр» — якая назва!). Такія вышукі, вядома, найбольш карысныя праз выкарыстанне як мага большай колькасці складнікаў побыту, з якога і ўзнікае жыццё як яно ёсць. А такое выкарыстанне магчыма праз гульню, уваходжанне ў ролі. Гульня стала справай, і справай сур'ёзнай. І тут нагадаем у Германа Гесэ з рамана «Гульня ў бісер»[21] наступны радок: «Ludi magister (*лац.* Майстра гульні) — князь, первосвященник, почти божество» (пераклад на рускую С.К. Апта). А ў Леаніда Галубовіча:

*І свет бачыць,*
*як Крыштыяну Раналда*
*забівае мячы з усёй сур'ёзнасцю,*
*а Марыё Балатэлі —*
*блазнуе,*
*ён яшчэ не забыў,*
*што футбол —*
*гэта гульня...*[22]

Так, сапраўды, футбол — гульня, уся справа ў стаўленні да яе. На сёння гэта стаўленне сур'ёзнае, можа, нават больш, чым сур'ёзнае, бо гульню ўжо нельга адасобіць ад жыцця, тым больш тады, калі яна пачала прыносіць грошы — тую форму мыслення сучаснага чалавека, якая дае магчымасць жыць, існаваць, даваць стымул. Між радкоў заўважу, што трактат найноўшага часу «Небыццё і забыццё» чакае свайго аўтара, дзе гульня — адзін са складнікаў забыцця: чалавеку трэба вучыцца апынацца *за быццём* ужо цяпер, змяняць прыярытэты, бо ў хуткім часе дом — падмурак усяго жыцця — будзе будавацца без фізічнага ўдзелу чалавека, фактычна, патрэбная будзе толькі фантазія, уяўленне (!). Чалавек ужо можа нараджацца без — паводле хрысціянства — цялеснага граха! Зямля стаіць на парозе спынення павелічэння насельніцтва без якой-небудзь навалы — мірным шляхам. Наша планета становіцца горадам з садамі, жылымі і гаспадарчымі забудовамі. Ужо цяпер ёсць краіны-гарады, мульціполісы. Нашая ж беларуская геапалітычнасць таксама рухаецца ў тым жа напрамку: аграгарадкі, якія раздзяляюцца садова-ляснымі, палявымі і іншымі ўрочышчамі, а не наадварот, як раней, што шматдзённыя пушчы, балоты, пустэльні раздзялялі людзей на сваіх і чужых і г. д.

Але вернемся да гульні: колькі разоў мы чулі, што дзіцячая гульня — надзвычай важны вектар у сацыялізацыі. Дзіця, якое цураецца гульняў, становіцца выгнаннікам, хворым, патэнцыяльным псіхам. А ў дарослым жыцці кожнага чалавека пераследуе небяспека іграманіі. Во ўжо гэтыя спаборніцтвы па кампутарных гульнях, рулеткі, «аднарукія злодзеі». А як Вам сексуальныя гульні (яшчэ той BDSM) і як апагей жыцця чалавечага — гульні палітычныя, гульні ўлады? Колькі яшчэ трэба доказаў сур'ёзнасці гульні?

Азначаны літаратурны кірунак — адкрытыка, — нягледзячы на сваё ўсталяванне, яшчэ толькі прабіваецца ў жыццё, а ўсвядоміцца і наогул не так хутка; гэтая праца — усяго толькі прадбачанне, прадчуванне, прыадкрытасць; мастацтва апераджае жыццё на *n-калькі* стагоддзяў. Але тое відавочны працяг, новая гісторыя чалавецтва — постчалавецтва, — праца над сабою — вечная «перабудова», якія б пачуцці ні выклікала гэтае слова ў нашчадкаў «савецкага народа». Напэўна, нялёгка выжываць, асэнсаваўшы Сусветныя войны, усемагчымыя рэпрэсіі і генацыд, калектыўны кантроль над асобай (які толькі павялічваецца «ў мэтах гарантавання бяспекі»), асэнсаваўшы «страчанасць пакалення», псіхааналіз, эканоміку штодзённага жыцця, у нетрах якіх так ці іначай прыхаваны ўплыў такой субстанцыі, як палітыка, і яшчэ ты сам ува ўсёй гэтай калатнечы. «*І кожнаму наступнаму цяжэй, бо ён нясе большы цяжар. Будуць і тыя, каму зробіцца нясцерпна цяжка...*»[23] Ажно праз гэта кладзецца новая гісторыя

[21] «Гульня ў пацеркі» — так бы гучаў пераклад на беларускую. Зноўку ўзнікла постмадэрновая шматзначнасць дзякуючы яшчэ аднаму значэнню, якое адкрываецца праз пацеркі як 'невялікія малітвы (пацеры)'.
[22] Леанід Галубовіч. Да адкрыцця першынства Еўропы па футболе 2012 года («Дзеяслоў». 2012. №60).
[23] Уладзімір Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім.

чалавецтва, вылучанасць я-героя прывядзе да той вяхі чалавецтва, якую хацелі і хочуць навязаць рэвалюцыямі, войнамі, гвалтам. Ды, зрэшты, гэта таксама частка шляху.

«Теперь, когда я нахожусь в созерцании бесконечного, теперь я глубоко понимаю, что всякий прав, и никто не виноват, что нет ложных мнений, а есть моменты духа. Кто развивается, тот интересен каждую минуту, даже во всех своих уклонениях от истины» [5; С. 8].

Як і ўсе *сучасныя* літаратурныя кірункі, адкрытыка не ставіць сабе за мэту стварэнне пэўнага прыёму, пэўнай паэтыкі. Аднак аналізуючы літаратурны працэс, можна казаць пра ўнутраную патрэбу адкрытыкі ў «пляценні славес». Творы, складзеныя ў гэтым рэчышчы, звяртаюцца першнаперш не да логікі, і не проста да эмоцый — да эмоцый логікі, так бы я гэта назваў: усё-такі пазнанне, навука не могуць не пакінуць свайго адбітка. У такой «эмоцыі логікі» мова надзвычай ускладняецца, словы нібы ўюцца, утвараючы мудрагелісты навука-мастацкі арнамент, што патрабуе канцэтрацыі ўвагі. Слова ўшываецца ў слова, сказ нанізваецца на сказ, хаця кожны з іх ужо з'яўляецца творам мастацтва і можа існаваць асобна; і тысячагоддзі сыходзяцца ў гэтую хвілю прад Чытачом. Гукапіс адбываецца, Златавуст мовіць.

Вешчуном адкрытыкі і можна лічыць Германа Гесэ. Пэўна, ён паказаў высокі стыль пісьменства напрыканцы другога тысячагоддзя. І цяпер, гледзячы на творчасць гэтага пісьменніка, зусім невыпадковай падаецца назва адной з аповесцяў, — «Нарцыс і Гольдмунд». Гольдмунд літаральна з нямецкай мовы можна перакласці як *Златавуст*. Кульмінацыяй «пляцення славес», на думку аўтара, стаў твор Г. Гесэ «Паломніцтва на край Усхода»[24], у тэкст якога завязаліся гістарычныя асобы і лірычныя героі. Гэта, пэўна, прарочы аповед пра выхад у адкрыты космас да сябе, якога не адбылося б без іншых людзей — сяброў героя аповесці. Чытач, быццам дух, лунае ў лагасферы, ён і ёсць герой, дакладней, *адзін з*. І цячэ, пераліваецца рака сусвету, а карані трымаюць круглую, месяцовую зямлю, на якой свеціць Вялікчалавек. У імя чалавека і адбываецца ўся дзея, чалавек адгадвае чалавека, чалавек чалавечыць.

Безумоўна, усё, пра што тут кажу, — глабальныя, можа, нават ірэальныя рэчы, але макракосмас — дакладная праекцыя мікракосмаса, то бок чалавека, і наадварот. Магчыма, наш Сусвет — усяго толькі адна-аднюсенькая біялагічная клетка нейкай іншай — вышэйшай — істоты, нашага і напраўду Бога. Праз адкрытыку, роўна як праз «нью-эйдж», чалавек імкне ўладкавацца ў Сусвеце. І гэта другая асаблівасць адкрытыкі: касмапалітычнасць, нават касмалагічнасць, сусветнасць (у тым ліку і паралельных светаў) мастацтва. Таму трэба адзначыць адно а priori адкрытыкі: непрыняцце, немагчымасць вайны, цвёрдага (жалезнага, каменнага) сутыкнення поглядаў. Напрыклад, згаданы тут твор «Суд у Слабадзе» В. Казько не можа быць цвяроза разгледжаны адкрытыкам — тут я імпатэнт.

Непрыняцце вайны не значыць спрыяння ў пасіўнасці, квіетызме, у якіх абвінавачвалі і экзістэнцыяналізм у свой час. Наадварот, гэта прадчуванне флагманства над сваім бессвядомым, над грамадскім бессвядомым. А тут, канечне, нам могуць успомніць пра «карабель з аднымі капітанамі, які натуральна не зварухнецца з месца», але такое «плаванне» не мае ніякага дачынення да адкрытыкі як такой. Дастаткова ўспомніць радкі Германа Гесэ «...Христофор был человек большой силы и храбрости, но он не хотел владычествовать и править, а хотел служить, служение было его силой и его искусством, в этом он знал толк» («Гульня ў бісер»; пераклад С. Апта). Гаворка тут ідзе пра адчуванне сябе; калі экзістэнцыяліст у прыватнасці прасіў «зрабіць сябе», то адкрытыка — адкрыць сябе ў свеце. Воля да ўлады — не канструкцыя адкрытыкі дакладна. *Улада над воляй* — вось задача адкрытыка, таму што «быць асуджаным на волю» не значыць быць вольным. Да таго ж усе мы, хутчэй, нараджаемся рабамі.

У якасці ж прыклада пошукаў свайго месца, ядра можна прывесці «не научное исследование, не публицистику, не литературную критику, не мемуары», а <...> сукупнасць «черт всех названных жанров»[25] — творы Таццяны Шамякінай, ці, як Таццяна Іванаўна яшчэ назвала іх, «культуралагічныя *эсэ*» (*курсіў мой.* — **А.З.**).

---

[24] Мой пераклад назвы; руская назва «Паломничество в страну Востока».

[25] Таццяна Шамякіна. Романтика советской науки (Начало). («Нёман». 2013. №12).

Да месца варта ўзгадаць і Маргарыту Латышкевіч, напраўду *адкрытага* творцу: паэтэса, празаік-фантаст, прыхільніца рун і амулетаў, лепіць з гліны, малюе, працуе над мастацкім афармленнем кніг, гуляе ў камп'ютарныя гульні і аспірантка БДУ. Аповесць Маргарыты Латышкевіч «Тры поўні, горад і агні» («Маладосць». 2015. № 3) як цыкл фантастычных аповедаў разам з «Радыёмаўчаннем» («Маладосць». 2014. №4). Пафасам «Радыёмаўчання» аўтаркі, на мой погляд, стала новая (?) тэорыя матэрыяльнасці Бога (Вышэйшай Субстанцыі, Прыроды, Логаса — патрэбнае падкрэсліць). І Яго існаванне замацавана ў так званых касмічных чорных дзірках: «Яна [чорная дзірка] убярэ ў сябе ўсё, да чаго зможа дацягнуцца, ды і цяпер яна цягнецца... цягнецца сюды, да мяне. // Яна — вока бездані, што пільна сочыць за кожным рухам, за кожнай думкай нават...» Бадай, радыё*маўчанне* — *голас* Божы: жывём у суцэльным аксюмаране.

Аднак цяпер звернемся да *касмалагічных сімвалаў* аповесці «Тры поўні, горад і агні». Канечне, першае, што мае сэнс — гэта акурат тры поўні. Аўтар гэтых радкоў сустрэў вобраз «трох месяцаў» у Джона Фаўлза («Чарвяк»): «И ещё я увидела, что побоище это [лязг железа, проклятия, вопли, пальба пистолей, мушкетов, страшный гром пушек, стоны умирающих] освещают как бы три луны. <..> И от их света всё вокруг казалось ещё ужаснее» (тут і далей: пераклад В. Ланчыкава»). У гэтых трох поўнях бачыцца мне прысутнасць зноў-такі Бога (Містыкі), бо лічба «3» глыбока звязана з менталітэтам, бессвядомым розумам народаў. Здаецца, у прыродзе не сустракаецца траістасці: ні ў чалавеку (скажам, адзін нос, два вокі, а чаго тры?), ні ў іншай прыродзе. Трэцяе, такім чынам, — нешта *штучнае*, схаванае, але якое заўсёды прысутнічае, маецца на ўвазе, і мы гэтае «трэцяе» не можам не адчуваць. Такім чынам, тры поўні могуць быць сімваламі трыадзінства: Душа-Маці, Бацька-Дыханне, Сын-Дух. З рамана Джона Фаўлза «Чарвяк» першасным становіцца выява Маці («Женщина средних лет стояла посредине, а молодая и старая — по сторонам. И вот эти две поворотились и шагнули к третьей, и уж не знаю каким чудом, но в тот же миг они с ней слились, точно как всочились в неё и пропали. <..> И где стояли три женщины, осталась одна — та седоватая, мать») — сапраўды з'ява невытлумачальная, загадка загадак, таямніца таемнасці. Успамінаючы прафесію аўтаркі, вобраз трох месяцаў прысутнічае і ў фальклоры як сімвал трох братоў, трох хлопцаў, трох жаніхоў. Дарэчы ўспамінаецца прымаўка: адзін сын — усё адно, што і няма нікога, два сыны як палова чалавека, і толькі тры сыны — чалавек. Але цікава тут, у гэтых сынах, вось што: з гэтых трох сыноў абавязкова расце дурань, юродзівы, як правіла, *той самы патрэбны* дурань, *ірацыянальны корань*. Менавіта гэты корань і ёсць герой падання-казання, ён размаўляе з дрэвамі, жывёламі, разумее мову Сонца, і Месяца, і Ветра. І, што самае цікавае, становіцца дабрабытным, як бы цяпер сказалі, паспяховым. Трэцяе, трэці сын становіцца зборным вобразам, адкрытым, не без заганаў, але нават і заганы ў ім уздзейнічаюць, хутчэй, не да зла. Такім чынам, Маргарыта Латышкевіч наблізілася і нават «прыпоўнілася» (ад слова «поўня» па прынцыпе «прызямлілася») на трэці — як аказалася, штучны — месяц. Гэта робяць у яе асобе касмічныя героі: Клёнік і Гіз.

Дык слухайце, Гіза — горад у Егіпце, блізу Каіра, вядомы ансамблем пірамід фараонаў Хеопса, Хефрэна і Мікерына (3-е тыс. да н. э.). Калі ўжо мы пачалі расшыфроўваць гэтую аповесць праз Дж. Фаўлза «Чарвяк», дык і надалей чытаем у яго: «...будто размещение камней сопряжено с положением солнца...» Праўда, так пісьменнік словамі героя казаў пра знакаміты Стоўнхэндж і пра дзень летняга сонцастаяння, аднак мы не можам не заўважыць, што пірамід — гэтых «камянёў» — таксама тры паводле колькасці поўняў. Касмакарабель у нашых герояў (Гіза і Клёнік) меў назву «Асоль» — карабель пунсовай мроі... Можна назваць яшчэ колькі імёнаў: Чэска, Амальтэ[26] — якія захоўваюць у сабе памяць сваёй Радзімы, свайго дома, жытла і жыцця. Усе дзеі твора «Тры поўні, горад і агні» адбываюцца праз загадкавае слова «вера». У гэтае слова ўкладваецца не толькі рэлігія (жыхароў Кагаяйрэн перш-наперш), але і «дурны зямлянін» (Гіз, якому верыць Клёнік), і «радыёмаўчанне» (касмічная чорная дзірка і тое, што *за* ёй).

[26] Адзін з унутраных спадарожнікаў Юпітэра, названы ў гонар казы (у пазнейшых міфах — німфы), што ўзгадавала немаўлятка-Зеўса.

Што ж з усяго гэтага можа вынікаць? А што тут можа вынікаць? Усе істоты — электроны, што круцяцца вакол сваіх ядрышак-радзімак і перадаюць зарады, радыёмаўчанне, чым і жывяць, напаўняюць Сусвет? Можа, і так. А можа, хворая фантазія аўтаркі, якая ў свой час перачытала і перагуляла (у кампутарныя гульні). Магчыма, што і гэта магчыма. Воля ваша.

Вось чаму, распрацоўваючы, варушачы, перакопваючы хранатоп постмадэрну і не адчуваючы адкрытыкі («нью-эйджа»), можна лёгка паблытаць пафас аповесці «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» Віктара Казько. Аўтар бярэ не столькі гуллівы, колькі жыццярадасны тон: «І пайшлі па турмах мацаць жыццё, шукаць баландавае шчасце», «але ... жывыя ж, жывыя». Гэтая трагікамедыйнасць, дзе можна і не ўбачыць напачатку трагедыі, акурат і блытае Чытача, які вельмі проста пал***і***чыць твор каламбурам, да таго ж са смачнымі гістарычнымі імёнамі: «Іосіф Сталін, альбо Гога, Лаўрэнцій Берыя; Леанід Ільіч з вуліцы Леніна. Ды Лазар Кагановіч» («не той ... Лазар Майсеевіч Кагановіч[27], а зусім-зусім іншы». І «якая вам розніца, той ці не той, Лазар ці не Лазар») з Дзевай Марыяй — «палескія атамныя Адам і Ева». І вось у гэтых «не тых» герояў ёсць свой ЦК — таксама не той, а цыганскі кааператыў, дзе «ўсё прадавалася, усё куплялася, усё было» з цыганскім баронам Карлам (зразумела, што Марксам). Канечне, у паслясавецкім грамадстве гэты твор мог пераблытаць усе карты з такім «высмейваннем». Толькі ж дзея адбываецца паводле новага — гістарычнага! — годаўпарадкавання ад Чарнобыля: у «трэцюю паслячарнобыльскую зіму» і «ў чацвёрты год ад Чарнобыля». Не праз распад Саюза прыйшоў час мовіць слова, а пасля паўраспада атамаў: за аснову бярэцца не відавочнае, а, фактычна, нябачнае, амаль фантастычнае. Калі у прыслоўі «Было і быльнягом парасло» замяніць «быльнёг» іншым сінонімам, атрымаем «Было і чарнобылем[28] парасло» альбо «Было і Чарнобылем парасло»[29], — на ўласныя вочы пабачым не толькі кару Боскую: ЧАРНОбыль і БЕЛАрусь. І праз гэты Чарнобыль паэт расказвае нам гісторыю ад стварэння зямлі да ўласна Чарнобыля. Заканчваецца дзея тым, што спілаванае дрэва — клён, — якое *ўвабрала* ў сябе жыццё чалавека (клён як праклён!) паказвае, хутчэй, не ганебнасць чалавека, а высокасць, Высокасць дрэў — Саду, для якога растуць людзі. Такім чынам, духоўны ланцуг вянчае не чалавек, а дрэва, у нетрах якога жывуць зусім недасягальныя птушкі, самая таямнічая з якіх — чорны бусел. Аўтар абвяргае чорую быль і той сімвал гора, злыбяды, якую нясе гэты колер. Чорны колер — народны сімвал дабрабыту, чарназёму, які хоць на хлеб маж — з чарназёмам галодным не будзеш.

Праўда-такі, трэба ўспомніць, над усім аповедам паўстае адна істота: гэта не толькі чорны бусел, які і сапраўды мусіць нас ратаваць, як аказалася «на практыцы», даволі прызямлёна — праз «Чырвоную кнігу» (у якую, між іншым, павінен быць занесены і чалавек); і нават не белы бусел («ачалавечаная» птушка); а *іншапланецянін* — павук-крыжавік (павук-крыжаносец), за смерць якога «даруецца сорак грахоў». Каго мы можам убачыць у гэтым павуку акром павука? Ён жа памірае ў адзін дзень з Лазарам, тым біблейскім Лазарам, якому было дадзена жыць пасля сваёй жа смерці!.. Разам з гэтым павуком адбылося другое прышэсце?! Ды, пэўна, трыццаць другое. *Рай даўно перанаселены*[30], але на зямлі ад гэтага пакуль не пануе дабро.

Вельмі важным падаецца і яшчэ адна з'ява ў заканчэнні аповесці: «Што ён [Лазар Кагановіч] ніякі не Лазар Кагановіч. Янка Каганец. Клён здрыгануўся. <..>. Лазар падняўся яму насустрач і ўвайшоў у дрэва». У гэтым — у Янку Каганцу — сышліся напэўна дзве асобы: Янка Лучына ды Карусь Каганец, якія абодва абазваліся ў сваім дарослым жыцці — «варта чалавека назваць тры разы свіннёй, і ён зарохкае» — прасцейшымі спосабамі асвятлення (у хатах — ізноў гульня святлаценю, чорнага і белага; а ў тым хранатопе, якім мы жывем, — постмадэрне — ужо не ў хатах, але розумаў, сэрцаў): лучына ды каганец. Янка Лучына прадбачыў катастрофу і ў сва-

[27] Лазар Майсеевіч Кагановіч (10 [22] лістапада 1893 года, Кіеўская губерня, Расійская імперыя — 25 ліпеня 1991 года, Масква, СССР) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, нарадзіўся і дзяцінства правёў ва Украінскім Палессі.

[28] Шматгадовая травяністая расліна, разнавіднасць палыну; тое самае, што і быльнёг.

[29] А ва Уладзіміра Дубоўкі:«О Беларусь, мая шыпшына,// Зялёны ліст, чырвоны цвет!// У ветры дзікім не загінеш,// Чарнобылем не зарасцеш».

[30] Назва кнігі і аднайменнага рамана Алены Брава.

ёй творчасці: «Год ад году — і канец, // Не толькі знікне звер у нас, але й глушэц. // А прыйдзе час, што й качкі не пабачаць людзі...» — у паэме «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся». Карусь Каганец нам пакінуў не такую вялікую (па аб'ёме) спадчыну, аднак і ў яго застаўся верш «Палессе», дзе красамоўны такі радок: «Бо у л**е**сах слядок волі...». У мініяцюры «На сплаў» тутэйшыя «прадаюць» сваё Палессе, якое «не тое ўжо стала, як колісь было»; «няма ўжо тае свабоды <…>», «у каторай кішмя кішыць усякае птаства». Пэўна, так можна разгадаць аўтарскую задуму-рэбус «Янка Каганец» з таго імені, якое, у сваю чаргу, «гучыць з вуснаў іншых» як «Лазар Кагановіч» (атрымалася загадка загадкі, памятаеце: «можна перапісаць і перапісаную гісторыю»). Такім вось чынам аўтар «гуляецца» з імёнамі, асобамі, гістарычнымі з'явамі, але гэтая гульня — задужа сур'ёзная, стаўка якой — не больш, не менш — жыццё, жыццё чалавецтва. Што, нашае жыццё — не гульня? Сёння *гульня — нашае ўсё*. І таму Віктар Казько не быў бы тым пісьменнікам, якім ёсць, калі б нельга было ўгледзець у творы пра чорнага бусла гульню іншую.

Віктар Апанасавіч Чарнобылю надае статус Зоны (паводле назвы зборніка мастацкай літаратуры на чарнобыльскую тэму «Прайсці праз зону»), Раю, *Чыстай*, у рэшце рэшт, зямлі, куды не можа ступіць нага чалавека, каб *стаптаць* яе. Ужо цяпер расце там *Чарнобыльская пушча*. Але гэтую «Чарназону» Віктар Казько, безумоўна, выкарыстоўвае як іронію, сарказм: самі забрудзілі зямлю, каб агарадзіць яе ад сябе ж. Чарнобыль — Лад, а не Садом і Гамора, Чарнобыль — жытло чорнага бусла. У гэтым, у гэтым пафас аповесці. Іншымі словамі, мы, людзі, — жывём у зоне (тут «зона» ўжо з вядомага жаргону).

Варта адзначыць, што фраза з кнігі «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» — «мы рахманыя, ціхія людзі» — стала назвай і пафасам апавядання Уладзіславы Гурыновіч («Маладосць». 2014. №4). Але нават калі такія сувязі, пераняцці выпадковыя, выдуманыя намі, у гэтым бачыцца наканаванасць, бессвядомая пераемнасць (трэба, думаю, казаць цяпер і пра такую пераемнасць). Ці мы памыляемся?

Постмадэрновы, адкрытычны твор становіцца, такім чынам, яшчэ і экскурсам, аглядам літаратурнага працэсу. Чытач з плыні такога твора знаёміцца з творамі і героямі іншымі, іншых часоў, і можна па гэтым ланцужку пісьменнікаадкрытыка выбіраць тое, што, на чытацкую думку прынясе карысць, што яму, чытачу, цікава, што забавіць яго і г. д. А з другога боку такі твор з'яўляецца пераемнасцю, творам-асэнсаваннем, творам-нашчадкам. Можа, у гэтым і ёсць «...вытворчы творца ці творчы вытворца»[31].

Мы заўважылі толькі цяпер, што паняцце постмадэрну ўжываем шырэй за паняцце адкрытыкі: нібы адкрытыка ўсяго толькі частка цэлага постмадэрну. Але ці так гэта, ці толькі так? Пэўна, мы дзейнічаем па звычцы, што постмадэрн — эпоха, ці, маўляў, «звышэпоха». Давайце-такі разбяромся: «пасля-, звышсучаснасць» — па сутнасці, тое што і сучаснасць, але нехта, нешта, сам чалавек як бы намагаецца пераскочыць яе, кажуць у народзе, «вынайсці веласіпед».

І што ж такое адкрытасць, адкрытыка? У глыбокім, калі так можна, разуменні — магчымасць, гатоўнасць гэты «веласіпед» зразумець, утаймаваць, «засядлаць», ці не так? Ды напэўна ж часцей вынаходніцтвы ствараліся без уліку іх прыкладання, і ўжо потым... Таму адкрытыка — лагічны, магчыма, яшчэ «несвоечасовы» ход успрыняцця постмадэрну, яго развіцця і ўдасканалення. Аднак, напэўна, у гэтай працы мы, бадай, паўсюль выкарыстоўваем слова «постмадэрнізм» у шырокім — храналагічным — значэнні, дзе адкрытыка і сапраўды толькі яго адгалінаванне, прынамсі, пакуль. Бо ўсё ж такі і адкрытыкі не грэбуюць, скажам, выдумаць ці надзьмуць факты (калі ўсё — ісціна), значыць, стаўленне аўтара тэксту да ўласна тэксту можа вырашыць толькі чытач — і ніхто іншы.

Астатняе — высокае — пытанне, якое даводзіцца разгледзець у гэтым тэксце, — гэта лагічнае пытанне Паэзіі адкрытыкі. Але трэба паўтарыць, (а мо і патлумачыць), што да кірунка «нью-эйдж» ці адкрытыкі (як хочаце) ніхто не імкнецца, ён выпісваецца **сам** (як і ўсе іншыя стылі), і гэта, на нашу думку, нельга не абазначыць. Працы кшталту гэтай нам не сустракалася, таму Чытач і мае перад сабою гэты артыкул, дарэчы, таксама і безумоўна *адкрытычны*.

[31] Леанід Галубовіч. Зацемкі з левай кішэні. («Полымя». 2006. №1).

## Усе істоты — электроны, што круцяцца вакол сваіх ядрышак-радзімак і перадаюць зарады, радыёмаўчанне, чым і жывяць, напаўняюць Сусвет

Дык вось, вернемся да Паэзіі, Паэзіі адкрытыкі. Паэзія — само па сабе адасобленае не проста мастацтва (дзейнасць), а *жыццё*. Паэзія як узвышэнне духу, так і ўзвышэнне падзення, як магія побыту і быцця, так і таямніца небыцця і забыцця. Прысутнасць аўтара ў Паэзіі заўсёды не толькі адчувальная[32], але і сакральная. І безумоўна, Паэзія матывуецца Паэзіяй у сабе — «суб'ектыўным метафізічным мастацкім узроўнем»[33] праз калектыўнае бессвядомае ці імкнучыся да яго.

Можна прывесці такі прыклад з маладых аўтараў, а менавіта дастаткова вопытную і прываблівую ў такім сваім творчым вопыце Маргарыту Латышкевіч з творам «***Чалавечае мора...» («Маладосць». 2012. №11):

*Чалавечае мора —*
*Горад.*
*Дробных вуліц малыя плыні,*
*Старых паркаў і сквераў пустыні,*
*А праспекты і магістралі —*
*Быццам волгі і дунаі.*
*І я — кропля,*
*І ты — таксама.*
*Успамінаю радкі Хаяма:*
«Дробным кроплям вядзе акіян улік,
З парушынак складаецца мацярык.
Твой прыход і сыход не маюць значэння —
Быццам муха ў акно заляцела на міг».
*Кроплі мы —*
*Ў чалавечым моры.*
*Але разам чамусьці —*
*Горад.*

У гэтай творчай кампазіцыі-акіяне паэткі мы сусрэліся з безданню. Мы не пустаслоўныя — патлумачым. Цэнтрам гэтага верша з'яўляюцца радкі Хаяма, вакол якіх выбудоўваецца аўтарскае *пера*асэнсаванне, *да*асэнсаванне. Праўда, няясна, што з'яўляецца ў аўтара пасылам: чытанне Хаяма ці, наадварот, непасрэдна творчы настрой, у карункі якога ўпляліся радкі Хаяма, бо ўсё ж такі верш распачынаецца і заканчваецца плынню свядомасці Маргарыты Латышкевіч. Аўтара гэтай працы чамусь захапіла слова «муха» — «...муха ў акно заляцела...» — у свой палон. З усёй плыні верша менавіта яно выбіваецца, не стасуецца з морам, плынямі рэк, (сухімі) пустынямі, кроплямі і акіянам. Мне адразу ўспомніліся «ізумрудна-зялёныя мухі», якія з'яўляюцца сімвалам канца жыцця зямнога з усімі выцякаючымі. Аднак можна і хочацца ўспрыняць (нягледзячы на геаграфічную радзіму Хаяма) гэтую муху як муху белую — сняжынку, — якая на шкле таксама ператвараецца ў кропельку, і тое не надоўга. Але ж сняжынка сама па сабе з'яўляецца ўзорам прыгажосці, хоць і «ўсё цячэ, усё мяняецца». Думаецца, да гэтага выслоўя і можна б звесці ўвесь верш, калі б не гэтая «муха». У мусе, у драбязе ўся справа!

Але трэба перавесці словы да імя, якое адкрыла новае ў Паэзіі — востраў, мацярык, назва якога кажа сама за сябе: рэжа, рассякае, вызваляе — Разанаўе. Магчыма, з гэтым іменем і надышла пара адкрытыкі ў Паэзіі. Цалкам магчыма. Безумоўна, мы кажам пра Алеся Разанава. Пэўна, усе творы проста і векавечна (не баюся гэтага слова!) не толькі пераасэнсоўваюць, а ўдыхаюць сэнс «быццю і нічаму», дасягаючы такім чынам касмапалітычнасці, касмаганічнасці, ці нейкага другога паняцця з прэфіксоідам «космас». Складаючыся ці не з самых частотных слоў мовы, вершы А.Разанава — не касматыя думкі пасродкавасці, а наадварот, празрыста-ледзяныя, крыштальныя да вусцішнасці з'явы, ззянні. Халодныя, як бы абыякавыя да чалавека, а адрасаваныя *чалавекабогу*[34]; амаль дэманічныя, што патрабуюць увагі

[32] А.Разанаў. Зномы (Зб. «Паляванне ў райскай даліне»): «...модусы [я, ён, ты] з'яўляюцца ... геніямі літаратурных жанраў: я — паэзія, ён — проза, ты — драматургія».
[33] Віка Трэнас. Беларускі постмадэрнізм?. («Маладосць». 2005. №6).
[34] Выраз з «Бесаў» Ф.М. Дастаеўскага. Існуе некалькі хрысціянскіх цэркваў, якія адрозніваюцца ў галоўным поглядам на паходжанне Ісуса Хрыста: ці то Ён — Бог на зямлі (Бог як ёсць), ці то Ён ёсць Бог у чалавечым целе (Богачалавек). А ёсць іншае вучэнне: Ісус Хрыстос — чалавек, але чалавек геніяльны, то бок адораны Самім Богам, прарок, — імя гэтай рэлігіі іслам. Ці не да яе прымянальны гэты выраз — Чалавекабог (я маю тут на ўвазе размову толькі пра Ісуса Хрыста).




ўсіх і ўсяго; так яны, думкі-словы, набліжаюцца да Богачалавека. І гэта адметная, аўтарская рыса ўспрыняцця прыгажосці, праз сябе аўтар ідзе ў нібыта даўно адкрыты сусвет, выкарыстоўваючы «збітыя» міфалагемы, гістарычныя вобразы, развіваючы інтэрлінгвістычнасць (не толькі моў індаеўрапейскіх), Алесь Разанаў *разгадвае калектыўнае бессвядомае*.

*Разгадвае калектыўнае бессвядомае.*

***Агонь.***

*Агонь штоімгнення гіне і ўнікае нанова, і ў імгненне ахоплівае неспасцігальныя гоні сусвету.*

*Агонь робіць цвёрдае мяккім і мяккае цвёрдым, з ім радзяцца і каваль, і ганчар.*

*Агонь — ганец новага часу, новага сягоння, ён гоніць жыццё ад багны і ганьбы. І богаадданец, і ёгаадданец, і паганец натхняюцца ім на геніяльныя дасягненні. (С. 117)*

Канечне, Алесем Разанавым не абмяжоўваецца Паэзія адкрытыкі. Пісьменнікаў, якія так ці іначай рухаюцца ў бок адкрытыкі, толькі большае. Пэўна, у гэтым накірунку творыць Аксана Спрынчан. Вельмі заўважныя — ды *адкрытыя* — вершы-малюнкі [напрыклад, «***У кошык, сплецены маім дзедам...» — верш-кошык (Дзеяслоў». 2015. №75)]; вершы-ноты (ад літарнага абазначэння нотаў у зорніку «ЖываЯ» да непасрэдна нотаў у словах у тым жа «Дзеяслове» №75); паэма-лесвіца. Дэбютны зборнік «Вершы ад А.» сам за сябе служыць адказам зборніку Л. Дранько-Майсюка «Маёй цудоўнай А.». Калі творы А. Разанава выкрышталізаваныя, вывераныя да тысячных мікрометраў, як касмічная тэхніка, то Аксаны Спрынчан — жывыя, рухомыя, як лісткі асіны.

Асобную частку Паэзіі адкрытыкі складаюць аўтарскія малітвы, у якіх захоўваюцца вышукі і *цвярдыня* Закона — Таго, на Чым трымаецца Вера. Усё ў такім творы падпарадкавана Высокаму; у ім нават можа не быць героя ў прынятым разуменні

гэтага слова, таму што герой тут — сам свет, сам космас, *сам па сабе*. Постмадэрновае грамадства робіць усё для перахода ў новае светаўспрыняцце — (назавём умоўна) постхрысціянсва; ды ў гэтым слове нічога крамольнага не бачыцца. Цяпер кожны чалавек моліцца свайму Богу, але мэты ў гэтага — не трыадзінага, а шматадзінага (*шматкроць*адзінага!) — Бога адныя. У пацверджанне аўтарскай малітвы прывяду прыклад паэтычнай прозы Віктара Апанасавіча Казько «Вечны покліч вады» («Дзеяслоў». 2013. №67), дзе галоўным героем, калі можна так выказацца, паўстае вада, кругаверць, аднак гэты герой не дзейнічае актыўна, увачавідкі, наадварот, гэта вакол яго адбываюцца жарсці, робіцца выбар, існуюць (нараджаюцца, жывуць і паміраюць, зноўку жывуць). Вада ж першапачаткова вышэйшая істота, сутнасць, хоць яна цячэ, пераліваецца, але ж таму яна і паўсюль і заўсёды: такая вось *цвярдыня вады* атрымалася [«У вадзе няма ні пачатку ні канца. Яна ад зямлі і ад неба, з бясконцасці сусвету. І ты ад іх...» — знаходзім словы ў апавяданні «Жар-птушка мора Герадота» Віктара Казько («Дзеяслоў». 2015. №76)]. Безумоўна, аўтарскай малітвай трэба лічыць і аповесць «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел», якая заканчваецца сакральным словам хрысціянаў «Амін».

*Паэтыка паэзіі* імкнецца да «свабоднага (можа нават лепш сказаць, адвольнага) верша»[35], якім, аднак, уласціва адна рыса — філасафічнасць, можа хутчэй, метафіласафічнасць. Праўда, не абыходзіцца і без псеўдафіласафічнасці, сафістычнасці, што таксама з'яўляецца часткай, неад'емнай часткай філасофіі. Аднак у першым — у *свабодзе*, у *адвольнасці* — ёсць асноўнае патрабаванне Творцы, якое адкрытыкі амаль матэрыялізуюць.

Бо Творца — той, хто збірае карэньчыкі, высякае агмень з вады, б'е крыніцай з пекла. І няважна, у якой форме гэта будзе: постмадэрновай ці адкрытычнай, альбо «нью-эйджавай».

Любое ўсталяванне літаратурнага кірунку, па вялікім рахунку, залежыць болей ад хранатопу, чым ад творцы, чым ад чытачоў наогул, і ніхто нічога не выдумляе. Ва ўсялякім разе канкрэтна гэтая праца узнікла не таму, што гэтага патрабаваў чытач, і не была напісаная праз аўтарскі сум.

Наадварот — гэта адбылося ад аўтарскага ўваскрашэння, і прыйшлі словы быццам «па-за», праз «збег абставінаў», з тых слоў, якія луналі над нашымі галовамі.

А мы… мы павінны былі толькі запісваць.

**Літаратура:**


1. «Постмодернизм кончился»: беседа с Евгением Водолазкиным Владимира Шемшученко.// «Литературная газета». 2014. №29 (6472).
2. Виан, Борис. Собрание сочинений. Vernon Sullivan. Романы. Новелла. Пер. с фр. / Сост. В. Лапицкого. Послесл. С. Савицкого. — СПб.: Издательство «Симпозиум», 1998. — 496 с.
3. Набоков, В.В. Ада, или Эротиада: Семейная хроника / В.В.Набоков; Пер. с англ. О.Кириченко. — М: ООО «Издательство «АСТ»: ЗАО НПП «Ермак», 2004. — 700 [4] с.
4. Эко, Умберто. Имя розы. Роман. Заметки на полях «Имени розы». Эссе. Пер. с итал. Е. Костюкович. Предисл. автора. Послесловия Е. Костюкович, Ю. Лотмана. — СПб: Издательство «Симпозиум», 1998. — 685 с.
5. Словарь литературоведческих терминов. Ред.-сост.: Л.И. Тимофеев и С.В. Тураева. М., «Просвещение», 1974. — 509 с.
6. Белинский, В.Г. Избранные сочинения. Вступительная статья и примечания Ф.М. Головенченко. — М: ОГИЗ: Государственное издательство художественной литературы, 1947. — 671 с.
7. Галубовіч, Л.М. Сыс і кулуары: літаратурна-крытычныя эсэ / Л.М. Галубовіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 176 с: іл.
8. Текст и традиция : альманах, 1 / Ин-т рус. лит. (Пушкинский Дом) Рос. акад. наук, Музей-усадьба Л. Н. Толстого «Ясная Поляна». — Санкт-Петербург: Росток, 2013. — 432 с.: Водолазкин Е.Г. «О средневековой письменности и современной литературе» С. 37—65.
9. Виан, Борис. У всех мёртвых одинаковая кожа. Сердцедёр. Осень в Пекине: Романы / Пер. с фр. В. Кислова, М. Аннинской. — СПб: Азбука-классика, 2004. — 528 с.
10. Федарэнка, А.М. Ланцуг: аповесці / Андрэй Федарэнка. — Мінск: Маст. літ., 2012. — 240 с. — (Беларуская проза XXI стагоддзя).


[35] Леанід Галубовіч. Сцерагчы цемру: Рэцэнзія на кнігу Касі Сянкевіч «Гарбата з незабудак» («Дзеяслоў». 2015. №74).

**Паліна Лісоўская**

# XXI стагоддзе. Паразмаўляем?

**Беларускі тэатр як ніколі прагне новага. Робіць недзе першыя, а недзе ўжо і больш упэўненыя другія, трэція і г.д. крокі ў пошуках новых форм, зместаў, магчымасцяў. Пры гэтым шмат якія творцы і тэатры працягваюць ісці больш простай, зразумелай для іх саміх хадой традыцыйнага ілюстратыўнага тэатра, які не толькі не адкрывае нічога новага ў творчасці, але і значна тармозіць далейшае развіццё.**

Як падаецца, адзін з асноўных вінаватых у такім неадназначным становішчы сучаснага беларускага тэатра, такім спалучэнні прагі да новага і моцнай прывязкі да кансерватыўнага, — сродкі масавай інфармацыі. Дакладней, рэпрэзентацыя тэатральнай тэматыкі ў СМІ. Бо ад таго, якому тэатру — ці то новаму, эксперыментальнаму тэатру будучыні, ці то старому тэатру з усім вядомымі ісцінамі — аддаюць перавагу СМІ, якраз і залежыць будучыня тэатральнага працэсу. Бо хто як не крытыкі і журналісты ў сваіх артыкулах здольныя фарміраваць густы гледачоў, а ў ідэале — і ўплываць на светапогляды стваральнікаў спектакляў?

І тут мы заўважаем даволі песімістычную з’яву — да аналізу новай тэатральнай мовы беларускія СМІ не спяшаюцца звяртацца. Але па парадку.

## Да гісторыі пытання

Тэатр сёння значна адрозніваецца ад тэатра мінуўшчыны — Антычнасці, Сярэднявечча, Новага часу. Адрозненні відаць на ўсіх узроўнях, але самае галоўнае — змяняецца функцыя тэатральнага мастацтва. Да XX стагоддзя (жудасна ўявіць, які доўгі час!) тэатр выконваў выключна ілюстратыўную функцыю. Галоўным быў драматург, які ў межах пэўных канонаў ствараў п’есу. Каноны тыя былі пакладзены яшчэ Арыстоцелем. Так, паводле старажытнагрэчаскага філосафа, класічны драматургічны твор павінен уключаць у сябе такія элементы як экспазіцыя, завязка, развіццё дзеяння, кульмінацыя і развязка. Зразумела, сёння для многіх творцаў такі абавязковы касцяк сюжэта — сапраўдны олдскул. Сучасныя п’есы лёгка могуць абыходзіцца без таго ці іншага складніка сюжэта ці жангляваць імі па сваім жаданні. Аднак вернемся да «арыстоцелеўскай традыцыі» ў тэатры. Акрамя дадзеных частак, у драматургічным творы, як і ў спектаклі класічнага драматычнага тэатра, абавязкова прысутнічае дзеянне. Прычым, Арыстоцель робіць акцэнт на тым, што п’еса павінна мець адзін галоўны сюжэт, другарадныя ж сюжэты зводзяцца да мінімуму. Дзеянне, а таксама прамовы дзеючых асоб дапамагаюць раскрыццю характараў персанажаў. Адзначым і духоўны складнік класічнага драматычнага твора. Бо менавіта Арыстоцелем быў уведзены тэрмін «катарсіс», які ў перакладзе са старажытнагрэцкай азначае «ачышчэнне». Роля рэжысёра, актораў, мастака, кампазітара ў такім тэатры татальнага панавання тэксту, напісанага да таго ж паводле ўсіх канонаў, сыходзіла да мінімальнага — данесці ў першапачатковым выглядзе думку драматурга да аўдыторыі.

Аднак, як адзначае тэарэтык постдраматычнага тэатра нямецкі тэатразнаўца Ханс-Тыс Леман, ужо з 1880 года драматычны тэатр, заснаваны на «артыстоцелеўскай традыцыі», пачынае адчуваць відавочны крызіс. Які прыводзіць да таго, што, пачынаючы з сярэдзіны XX стагоддзя, тэатр адмаўляецца ад традыцыйных форм і пачынае пошук новых, зараджаецца «рэжысёрскі тэатр». А разам з гэтым мяняецца і погляд на драматургічны твор, які цяпер ужо можа паддавацца зусім розным трактоўкам. З’яўляецца мноства рэжысёрскіх тэорый. Бертольд Брэхт распрацоўвае і прымяняе на практыцы сваю вядомую тэорыю «эпічнага тэатра». У Брэхта пачынаецца распад традыцыйнага драматургічнага дыялогу, аднак захоўваецца традыцыяналісцкі тэзіс — у аснове спектакля ляжыць фабула, сюжэт, аўтарытарны сэнс. Развіваюцца «тэатр абсурду», «тэатр сцэнаграфіі», «тэатр як кавалак жывой гаворкі», «візуальная драматургія» Роберта Уілсана, «тэатр сітуацый», «канкрэтны тэатр» і г.д. Тэатральны ўсплёск неаавангарда выглядае

Мы заўважаем даволі песімістычную з’яву — да аналізу новай тэатральнай мовы беларускія СМІ не спяшаюцца звяртацца

Традиционная театральная критика начинает утрачивать свои позиции, так как ей негде оттачивать свои перья

сапраўды ўнушальным, а ў 1950-я гады становіцца ўсеагульным. У 1960-х дух эксперыментавання ўспыхвае з новай сілай. Узнікае палітычны і фармальна пратэстны маладзёжны тэатр, развіваецца дакументальны тэатр. Аднак усюды захоўваецца сувязь паміж тэкстам дзеяння і тэатральным прадстаўленнем.

Становішча змяняецца з прыходам постдраматычнага тэатра. Як адзначае Леман, ён з'яўляецца ў 1970-х гадах. Тэкст у новым постдраматычным тэатры ўспрымаецца толькі як адзін з мноства ў роўнай ступені важных элементаў. Не дзіўна, што гэтыя самыя элементы пачынаюць іграць новымі, яркімі фарбамі. Што, вядома ж, значна ўплывае на развіццё новай тэатральнай мовы: актуалізуецца сцэнаграфія, роля светлавога, гукавога, пластычнага, прасторавага вырашэння спектакля.

## Да тэатразнаўцаў і крытыкаў

Падкрэслім, што пераход ад класічнага тэатра ілюстрацыі да эксперыментальнага тэатра множнасці форм, прыёмаў і тэндэнцый распачаўся ў Еўропе ў XX стагоддзі. У 1999 годзе манаграфія Лемана «Постдраматычны тэатр» выйшла за мяжой. Толькі ў 2013 годзе гэтая праца, якая ўпершыню аб'яднала ўсе найбольш значныя тэндэнцыі развіцця новай тэатральнай мовы ў адной кнізе, была перакладзена на рускую мову. І калі рускія тэатразнаўцы, крытыкі і журналісты адразу ж распачалі канструктыўны дыялог на тэму новых тэатральных сродкаў і ў навуковых працах, і ў публічных выступах, і ў публіцыстычных артыкулах, то ў беларускай тэатральнай прасторы мы назіраем маўчанне.

Маўчаць тэатразнаўцы. У сваім артыкуле «Спіс страчанага як перспектыва будучыні», апублікаваным на сайце «Людміла Грамыка. Тэатр», Галіна Алісейчык слушна адзначае: «Последнее фундаментальное исследование белорусского театра было проведено в семидесятых годах прошлого века — это «Гісторыя беларускага тэатра» в трех томах под редакцией В.И. Нефеда. С тех пор в нашей жизни изменилось все: социальный строй, идеология, экономика, быт, литература, система воспитания, и, конечно, театр, но эти перемены белорусским театроведением не замечены, не осмыслены». Канешне, асобныя навуковыя работы, прысвечаныя таму ці іншаму боку СУЧАСНАГА тэатра, не могуць не з'яўляцца, бо ніхто ж не адмяняў дыпломы, дысертацыі, публікацыі да навуковых канферэнцый і г. д. Аднак зразумела і тое, што такія работы не накіраваны на шырокае кола чытачоў. Іх тэзісы не друкуюцца ў СМІ, шырока не абмяркоўваюцца тэатральным асяродкам. А таму, на жаль, практычная значнасць такіх работ імкнецца да нуля.

Маўчаць крытыкі. Мэтр беларускай тэатральнай крытыкі Таццяна Арлова ў сваёй публікацыі «Змесціва цюбіка» заўважае: «Так сложилось, что традиционная театральная критика начинает утрачивать свои позиции, так как ей негде оттачивать свои перья» (сайт «Людміла Грамыка. Тэатр»). Няма дзе, бо не існуе ў нас спецыялізаванага выдання, якое б займалася аналізам выключна тэатральнага жыцця. А ў існуючых выданнях (як у звернутых да культурнай тэматыкі, так і ў грамадска-палітычных) тэатральная крытыка сёння падмяняецца тэатральнай журналістыкай. Апошняя, па сутнасці, з'яўляецца адзіным рэпрэзентатарам новай тэатральнай мовы ў нашай краіне, замяняючы сабой і тэатразнаўства, і тэатральную крытыку. Але ж ці гэтага дастаткова, каб паўнютка аналізаваць новыя тэатральныя формы, тэндэнцыі і прыёмы, якія толькі пачынаюць пратоптваць сцежку ў беларускім тэатры?

## Да сродкаў масавай інфармацыі

Занатуем колькі гаваркіх і даволі песімістычных лічбаў. Аўтаркай былі прааналізаваны нумары чатырох перыядычных выданняў за 2015 год: грамадска-палітычныя газеты «Рэспубліка» і «СБ. Беларусь сегодня», а таксама спецыялізаваныя выданні — газета «Культура» і часопіс «Мастацтва». Як паказвае аналіз, сёння ў прыярытэтах артыкулаў тэатральнай тэматыкі тэма новага тэатральнага маўлення не стаіць. У «Рэспубліцы» за мінулы год выйшла толькі 10 публікацый, якія так ці інакш закранаюць тэму новых тэатральных форм, і 48 публікацый іншай тэатральнай тэматыкі. У «СБ» суаднесенасць

публікацый наступная: 12 — 38. У «Культуры»: 36 — 116. Набліжана да пажаданага сітуацыя ў «Мастацтве» (48 — 61). Такія лічбы паказваюць, што сёння друкаваныя СМІ Беларусі не зацікаўлены ў шырокім перыядычным, а не разавым аналізе новай тэатральнай мовы. Пра з'яўленне пэўнай зацікаўленасці зможам гаварыць толькі тады, калі суаднесенасць матэрыялаў, якія закранаюць тэму новага тэатральнага маўлення, і матэрыялаў іншых тэатральных тэматык будзе 50 на 50.

Карціна, якую мы назіраем у СМІ, небяспечная для далейшага развіцця беларускага тэатра. Па-першае, СМІ ў такім выпадку ніяк не дапамогуць гледачам прызвычаіцца да эксперыментальнага тэатра сучаснасці. Што і вядзе да паўпустых залаў падчас насамрэч прагрэсіўных спектакляў, і да перапоўненых — падчас спектакляў прахадных. Канешне, некаторыя прагрэсіўныя гледачы (асабліва моладзь) і без дапамогі прэссы з лёгкасцю асвояць і палюбяць усе новыя тэатральныя навароты. Але іншая сітуацыя з аудыторыяй сталага ўзросту, якая прызвычаілася да традыцыйнага тэатра мінулых стагоддзяў, прыкладаў якога ў сённяшніх рэпертуарах беларускіх тэатраў мы сустракаем, на жаль, шмат. Пастаноўкі менавіта такога кшталту часцяком і з'яўляюцца прадметам журналісцкіх публікацый. Любяць нашыя СМІ пісаць пра спектаклі Рускага, Музычнага, Вялікага, Новага драматычнага тэатраў, аднак пошукі новага ў тэатральным мастацтве сёння (за рэдкім выключэннем) якраз і абмінаюцца дадзенымі тэатрамі. Пры гэтым, амаль без увагі прэссы застаюцца незалежныя тэатральныя калектывы, якія эксперыментуюць як з формай, так і са зместам, актыўна ўжываюць пластыку, перфарматыўныя элементы, медыйныя сродкі. Падаецца, што без прагрэсіўнага гледача плённае існаванне прагрэсіўнага тэатра проста немагчыма. І лёгкія камедыі, высакамоўныя трагедыі і драмы з перабольшанай акторскай гульнёй ды ўсялякімі штампамі будуць і надалей колькасна пераважаць на беларускай сцэне.

Па-другое, адзначаная сітуацыя небяспечная і для стваральнікаў спектакляў. Празмерная ўвага з боку СМІ да прахадных работ нашых рэжысёраў лёгка можа запэўніць апошніх у правільнасці абранага шляху: маўляў, пра мяне пішуць журналісты, на мае спектаклі прыходзяць гледачы, дык навошта мне штосьці змяняць? І так добра! Іншы момант — зварот беларускіх тэатраў да новай тэатральнай мовы не заўсёды можа быць удалым (зразумела, што, калі робіш толькі першыя крокі, абысціся без сінякаў часцяком немагчыма). У такім выпадку аналітычныя крытычныя тэксты СМІ будуць як ніколі патрэбныя. А іх — амаль што няма.

## Да новай тэатральнай мовы

Пры ўсіх закранутых мінусах (адсутнасць тэатразнаўчых работ, крытыкі, дастатковай колькасці журналісцкіх тэкстаў на тэму новай тэатральнай мовы) некаторыя новыя тэатральныя формы, тэндэнцыі і прыёмы даволі няблага асвятляюцца нашай прэссай. Гэта тэндэнцыі дэіерархізацыі тэатральных выразных сродкаў, працы рэжысёра над тэкстамі, цялеснасці, а таксама прыём «медыйныя магчымасці». Такі спіс лідараў па колькасці згадак у прэссе невыпадковы. Бо менавіта згаданыя праявы тэатральнай мовы сёння ўласцівыя большасці прагрэсіўных беларускіх спектакляў.

Падчас звяртання да тэндэнцыі дэіерархізацыі тэатральных выразных сродкаў на першы план у спектаклі можа выходзіць адзін ці адразу некалькі элементаў яго формы: святло, пластыка, музыка і г. д. Гэтыя элементы могуць быць прадстаўлены ў спектаклі і аднолькава моцна. У такім выпадку мы таксама можам гаварыць аб новай тэатральнай форме, паколькі тады формастваральныя элементы паглынаюць сваёй маштабнасцю раней асноўны элемент любога спектакля — тэкст. Падставаў да, мабыць, яшчэ большай колькасці згадак дадзенай тэндэнцыі 2015 год даваў дастаткова. Любы фестываль можа быць нагодай, бо якая фестывальная праграма абыдзецца без спектакляў, дзе адно або адразу некалькі выразных сродкаў выходзяць на першы план? Дзе яскрава паказвае сябе або пластыка, або гук, або святло, або незвычайная работа з дэкарацыямі, або нязвыклая акцёрская гульня? Толькі спектаклі, выкананыя ў цалкам традыцыйным кірунку, не падпадаюць пад дадзеную тэндэнцыю. Падставай для яе аналізу могуць выступаць і яркія беларускія спектаклі, такія як «Казіны востраў»,

«Доступ да цела», «Другая сусветная», «Птушкі», «Інтэрв’ю з ведзьмамі», «Чайка», «Матухна Кураж», «Жаніцьба» і г. д.

Цялеснасць у сучасным тэатры прыводзіць да выкарыстання танцавальных, пластычных элементаў нават у драматычных спектаклях, спектаклях тэатра лялек і г. д. Цела абсалютызуецца, часам ператвараецца ў невырашальную загадку. Сёння цялеснасць актыўна развіваецца ў нашым тэатральным кантэксце дзякуючы, у першую чаргу, фестывалю «ПлаSтформа». Сам фестываль сёлета перайшоў на новую прыступку развіцця: ён нарэшце атрымаў дзяржаўную падтрымку ў асобе Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі і Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў, што дапамагло яму і ў фінансавым пытанні, і ў пытанні пошуку сцэнічных пляцовак. Таксама вельмі актыўныя ў апошні час незалежныя танцавальна-тэатральныя калектывы Skvo’s Dance Company і тэатр танца Karakuli. Школа танцаў Skyline разам з танцавальным крытыкам Святланай Уланоўскай перыядычна арганізоўваюць майстар-класы з запрошанымі замежнымі экспертамі танца. У Віцебску штогод праходзіць Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі IFMC. Таму не дзіўна, што пластыка пачынае пашыраць межы свайго выкарыстання і актыўна пранікае ў зусім розныя спектаклі, ствараючы нагоду для шматлікіх згадак у СМІ.

Новая тэатральная мова не можа існаваць і без тэндэнцыі працы рэжысёра над тэкстамі, якія ляжаць у аснове спектакля. Бо постдраматычны тэатр можа існаваць як без тэкставай асновы, так і з ёй. У апошнім выпадку тэкст істотна пераасэнсоўваецца рэжысёрам і ўвасабляецца ў новай тэатральнай форме такім чынам, што сувязь з літаратурнай першакрыніцай зводзіцца часам да мінімуму. Рэжысёры выкарыстоўваюць калаж, мантаж тэкстаў. Сучасны беларускі тэатр часта звяртаецца да розных рэжысёрскіх трактовак класічных тэкстаў. Адэкватнасць і рацыянальнасць такіх зваротаў могуць стаць сур’ёзнай дыскусійнай тэмай для асобнай публікацыі. У сённяшнім рэпертуары мінскіх тэатраў суседнічаюць адразу тры рэжысёрскія інтэрпрэтацыі чэхаўскай «Чайкі», розныя і па эстэтыцы, і па атмасферы, і па пасылу. Тры варыяцыі прачытання «Сна ў летнюю ноч» Уільяма Шэкспіра таксама прапаноўваюць гледачам зусім розныя погляды на тэкст англійскага аўтара. Да п’есы Максіма Горкага «На дне» спачатку звярнуўся брэсцкі рэжысёр Цімафей Іл’еўскі, праз некаторы час свой погляд на існаванне Горкаўскай начлежкі прадставіў і Магілёўскі абласны тэатр лялек. Прычым, рэжысёрскія трактоўкі класічных тэкстаў істотна адрозніваюцца ў залежнасці ад задач, якія ставяць перад сабой стваральнікі спектакля.

Таксама даволі актыўна ў СМІ асвятляўся прыём «медыйныя магчымасці». Крытык Вера Гудзей-Каштальян у артыкуле «Вяртанне» Маленькага прынца» («Мастацтва». 2015. №11 ) сцвярджае: «Выкарыстанне відэапраекцыі зрабілася сцэнаграфічнай «фішкай». Яна досыць паспяхова замяняе традыцыйную сцэнаграфію». Сёння гэтая медыйная фішка пранікае як у спектаклі рэпертуарных тэатраў, так і ў незалежныя праекты. Медыйныя магчымасці выкарыстоўваюцца для ілюстрацыі дакументальных матэрыялаў (дакументальнасць таксама становіцца тэатральнай фішкай). Яскравы прыклад таму — выкарыстанне кінаэкрана ў спектаклі Мікалая Пінігіна «Другая сусветная». Медыйныя магчымасці могуць выкарыстоўвацца не толькі для ілюстрацыі дакументальных матэрыялаў, але і для стварэння атмасферы спектакля, як у «Птушках» Аляксея Ляляўскага ці ў «Чайцы» Мікалая Пінігіна.

Па тэме кожнай са згаданых новых тэатральных тэндэнцый і прыёмаў у 2015 годзе выйшла ад 40 да 60 публікацый. Што сведчыць як аб развіцці прагрэсіўнага тэатральнага мыслення ў нашых практыкаў, так і аб спробах з боку СМІ асвятляць і аналізаваць новую тэатральную мову, прычым аналізаваць аб’ектыўна, звяртаючыся і да справядлівай крытыкі, калі ёсць такая неабходнасць. Канешне, адных публікацый, якія носяць інфармацыйны характар, для прадуктыўнага аналізу сучаснага беларускага тэатра недастаткова. З’яўленне такіх публікацый не адмяняе неабходнасці існавання глыбокіх і маштабных тэатразнаўчых прац, а таксама прыкладаў яскравай тэатральнай крытыкі. Да таго ж многія новыя тэатральныя павевы ўвогуле амаль што не асвятляюцца нашымі СМІ. Але гэтая лыжка дзёгцю — нагода для наступнага артыкула ў «Маладосці». І мо гаворка пра тэатральную мову XXI стагоддзя ў беларускім асяродку працягнецца? Паразмаўляем?



# Ляляўскі

**Думкі Аляксея Ляляўскага, мастацкага кіраўніка і галоўнага рэжысёра Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек, запісала і прадставіла «Маладосці» Аляксандра Фанарыкава.**

## Пра адукацыю

— Калі нашым заводам не хапае токараў ці слесараў, паўстае пытанне аб падрыхтоўцы патрэбных кадраў. Дзяржава разумее, што калі не будзе рабочых, завод можна зачыняць. Чаму не думае пра тое, што ў краіне існуюць тэатры? Акадэмія мастацтваў быццам працуе, ёй вылучаюць нейкія субсідыі, кудысьці ўсё гэта выдаткоўваецца! Гэта значыць, намінальна Акадэмія ёсць, але там не думаюць! Яе кіраўніцтва звяртаецца ў вышэйстаячыя органы з заяўкай аб тым, што ў тэатральнай вытворчасці не хапае спецыялістаў, што патрэбны сродкі на іх адукацыю, але само не ведае, якія менавіта спецыялісты патрэбны. Міністэрству ўсё роўна, чым яны там, у Акадэміі, займаюцца. Крайнімі застаюцца тэатры, якія ўжо доўгія гады арганізуюць прафесійныя курсы ў сярэдніх навучальных установах абласных цэнтраў.

## Пра метад

— Напрыклад, у нас ёсць электрычная станцыя, якая працуе на пілавінні. Яна паспяхова функцыянуе. Ва ўстановах адукацыі выкладаюць педагогі, якія выдатна ведаюць, як з пілавіння зрабіць электрычнасць. Але час не стаіць на месцы — і ўжо трэба будаваць ядзерную станцыю, а выкладчыкі ўсё яшчэ вучаць паліць пілавінне. Я кажу не пра ўзрост, а пра тое, чаму чалавек вучыць. Яму трэба растлумачыць, што вучні яго будуць працаваць з ядзерным палівам, а не з пілавіннем. Хтосьці скажа: «Я не ўмею! Я ўмею толькі з пілавіннем!». А нехта скажа: «Гэта ж яшчэ цікавей! Будзем працаваць!» Даволі простая, на мой погляд, схема, але чамусьці яе заўсёды спрабуюць ператварыць у нейкія разборкі і канфлікты. А іх няма, і быць не можа!

## Пра маладых рэжысёраў

— Малады рэжысёр адрозніваецца ад старога прафесійным вопытам. У кожнага вопыт назапашваецца з рознай хуткасцю. Не менш важны жыццёвы вопыт, паколькі тэатр, так ці інакш, звязаны з пазнаннем чалавека. У асноўным, гэты вопыт з'яўляецца ў рэжысёраў сярэдняга пакалення. У такім узросце ўжо ёсць абгрунтаваная магчымасць парушаць тэатральныя законы.

## Пра брэнды і гледача

— Спажывецкі попыт у краме рэгулюецца гандлёвай маркай. Гэтым пакупніка прыцягваюць і палягчаюць яму выбар: кожны шукае нешта на асабісты густ. Гэтак жа і ў культуры — патрэбны брэнды тыпу расійскага Театра.doc, «Гогаль-цэнтра», каб глядач мог пазнаваць, адрозніваць і выбіраць. У нас механізм працуе па прынцыпе «усё ў адной кучы» Гледачы самі вымушаны разбірацца. Мне аднойчы сказалі, што Купалаўскі — гэта там, дзе прыгожа, Горкаўскі — дзе пасмяяцца і добра правесці час, РТБД — для аматара. А як па-іншаму гледачу іх адрозніваць? Пакуль у нас няма ідэі папулярызацыі брэндаў, глядач збольшага будзе мучыцца ад сумненняў. Спрабуюць ствараць брэнды фестывалі, там ёсць людзі, якія адказваюць за праграму. Калі ты ідзеш на «TEART», то разумеш, якую творчасць ты там пабачыш. Аналагічна з «М.@rt.кантактам» ці Міжнародным

фестывалем лялек. Тыя функцыі, якія выконвае арганізацыйны камітэт на ўзроўні аднаго фэсту, павінен нехта рэалізоўваць і на ўзроўні краіны.

## Пра вопыт і культуру

— Якасць спектакляў да іх папулярнасці ніякага дачынення не мае. Ёсць спектакль і ёсць тое, як ён успрымаецца ў глядацкім асяроддзі. Напрыклад, прывозіць Някрошус «Ідыёта» ў Мінск, спектакль ідзе каля пяці гадзін. Сталіца не прызвычаілася да пастановак такога часовага маштабу, і глядач сыходзіць. Гэта ж не значыць, што работа рэжысёра дрэнная, проста ў публікі няма вопыту прагляду падобных спектакляў. І наогул, мала тэатральнага вопыту. Чаму? Таму што ў Мінску і ў нашай краіне ў цэлым ніхто не займаецца прапагандай гэтага вопыту. Ні ў школах, ні ў ВНУ, ні дзесьці яшчэ. Які можа быць вынік і хто дасць гарантыю, што спектакль высокага прафесійнага ўзроўню стане папулярным? Велізарнае значэнне, безумоўна, іграюць фэстывалі, але досыць паглядзець, колькі на іх гледачоў, — гэта кропля ў моры! Наогул цяпер тэатр — гэта «не прэстыжна», адбылася падмена паняццяў, цікавая не творчая асоба, а нейкі статус (накшталт «зоркі эстрады», «зоркі оперы» і г. д.), адзначаны галачкай звыш. Калі на першым месцы знаходзіцца галачка і сыходзіць прозвішча, культура губляе твар. А калі ў культуры няма твару, то якая гэта культура?

## Пра палітыку і мастацтва

— Наша дзяржава ў асноўным займаецца тым, што кіруе эканомікай. Таму натуральна, што на культуру і мастацтва ўвагі не звяртаецца. Не належнай, а проста ўвагі, таму што размеркаваць выдзеленыя Саветам Міністраў грошы — гэта не ўвага. Напрыклад, у тэатры нам трэба размеркаваць пастановачныя сродкі на тры — чатыры пастаноўкі. Гэта можна зрабіць за 15 хвілін, а калі дасканала ўсе пралічыць і прадумаць усе наступствы — гэта суткі, максімум. З аб'ёмам фінансавання нашай культуры гэта зойме ў міністэрства тыдзень, а ўвесь астатні час?

Гэта, безумоўна, не толькі наша нацыянальная праблема. Аднак у некаторых іншых краінах таксама існуюць сацыякультурныя праграмы, звязаныя непасрэдна з тэатрам, і атрыманне сродкаў на іх рэалізацыю якасна матывуецца, у першую чаргу, уладай. Гэта значыць, у працэсе адбываецца дыялог, у якім актыўна ўдзельнічаюць абодва бакі. У нас такога дыялогу, на жаль, няма.

## Пра крытыку

— Для мяне крытыка падзяляецца на дзве часткі. Першая – гэта выказванне з нагоды пэўнай з'явы. Гэта аргументаванае ўспрыманне, незалежнае ад іншых ацэнак, заўваг і прапаноў. Другая — выказванні, у якіх утрымліваюцца высновы на ўзроўні не толькі адной з'явы. Такая крытыка трапляецца радзей, але яна для мяне значна цікавейшая. На жаль, крытыка, што займаецца аналізам сукупнасці з'яў, у нас — рэдкасць.

Часта кажуць, што крытыку, каб быць аб'ектыўным, лепш не сябраваць з рэжысёрамі або драматургамі. Гэта лухта. У аснове гэтай думкі ляжыць выключнасць пазіцыі крытыка, але ён такі ж чалавек, як астатнія. Сябруюць людзі ці не, гэта не мае ніякага дачынення да прафесіі. Галоўнае, гаварыць або пісаць аргументавана як пра станоўчыя, так і пра адмоўныя рэчы якой-небудзь з'явы, а калі не ведаеш, што сказаць, лепш прамаўчаць. А вось пераход да «богаабранасці» крытыкі — гэта жудасная зараза. Мне гэта нагадвае тройкі НКУС: мы вось ўтрох сабраліся і будзем зараз усіх па паліцах «рассоўваць» — «нас падтрымаюць». Я гэта называю фашызмам. Гэта і ёсць сутнасць фашызму, не нямецкага нацыянал-сацыялізму, а фашызму як спосабу пабудовы грамадскіх адносін — збіцца ў агрэсіўную зграю і ўсім навязаць сваю волю.

## Пра ляльку

— На розум прыходзіць вядомая песенька Бураціна: «Скачуць цені па сцяне, нічога не страшна мне!» І я задаюся пытаннем: цень — гэта лялька? Нешта матэрыяльнае за ім павінна стаяць, але мы не ведаем што. Не прамая дэманстрацыя чаго-небудзь, а яго адлюстраванне ўздзейнічае на нас. Існуе нейкая рэч, якая звязвае быццё і нябыт, для мяне гэта і ёсць лялька. У лялькі цікавіць яе меркаванае жыццё. Калі гляджу на яе, маю на ўвазе нешта жывое. І дзе адбываецца тэатр лялек? Ва ўяўленні!



**Маргарыта Дзяхцяр**

## Каханне выратуе свет

Прыгожыя назвы кінастужак робяць некалькі рэчаў адначасова — з аднаго боку, зацягваюць у сеціва таямнічых слоў, з другога, абсалютна не адпавядаюць арыгіналу. «Апошняе каханне на Зямлі» Дэвіда Маккензі — таму прыклад. Фільм з такой назвай абяцае паўтары гадзіны пяшчоты і шчырых пачуццяў. Забягаючы наперад, скажу, што так яно і адбудзецца, нягледзячы на тое, што водгукі крытыкаў на гэтую стужку былі не вельмі хвалебнымі, а ў брытанскім пракаце фільм увогуле «праваліўся».

Аматарам рамантыкі і драматызму стужка абавязкова спадабаецца — гэтага там хапае. Але хапае там і сэнсу. Магчыма, праблема непрыняцця фільма палягала ў тым, што ў гэты ж час на экранах з'явіліся падобныя стужкі кшталту «Заражэння» Содэберга і «Слепаты» Мэйрэліша. Безумоўна, фільмы параўноўвалі. І параўнанне гэтае было не ў бок «Апошняга кахання». Крытыкі пісалі, што праца Маккензі была не вельмі глыбокай, не такой звязанай з навукай, тут вельмі шмат пачуццёвага і метафізічнага. І гэта абсалютная праўда, але ці можна сказаць, што гэта дрэнна? Так, калі глядач чакае навуковую стужку, то ён яе не атрымае.

«Апошняе каханне на Зямлі» у першую чаргу — гісторыя пра пачуцці. Пра пачуцці ва ўсіх магчымых сэнсах. Калі б назву стужкі не пераклалі, то мы б атрымалі фільм «Perfect Sense». А гэтую назву можна перакласці як заўгодна, бо «Perfect Sense» — гэта і «ідэальны сэнс», і «мае сэнс», і, канешне, «прыгожае пачуццё». Варыяцый можа быць шмат, але, як і заўжды, на арыгінальную назву ўвагі амаль не звярнулі. На жаль, бо менавіта яна як мага лепш адпавядае сэнсу стужкі.

Мы прывыклі да таго, што кіно пра каханне звычайна яркае, такое сакавітае, такое пафарбаванае, што ў яго не верыш. Гэта не пра «Апошняе каханне». Брытанскае кіно засталося тут брытанскім — пахмурным, як неба Лондана, магчыма, крышку строгім і стрыманым. Пра гэта кажуць не толькі колеры, а, калі дакладней, іх адсутнасць (яркіх кадраў тут амаль не заўважаеш), але і настрой герояў.

Адны крытыкі казалі, што «Апошняе каханне» не здольнае абудзіць пачуцці гледачоў — пафас занадта штучны, карцінка не пераконвае. Іншыя казалі, што сумяшчаць каханне і апакаліпсіс было не надта добрай ідэяй, што «ўдыхнуць» у персанажаў жыццё не атрымалася. Насамрэч, мне падаецца, што стужка ўзрушыць гледача можа. Асабліва, калі ён думае.

Вы думалі пра тое, што адбываецца, калі чалавек страчвае пачуцці? Наўрад ці. А навошта, калі такога ўсё роўна ніколі не будзе? Так думалі Майкл і С'юзан. Дыхаць паветрам і адчуваць водар, які сыходзіць ад кветак і дрэў, адчуваць пах марской вады, пах чалавека. Хутка гэтага не стане. А пасля не стане і слыху. Музыка, знаёмыя галасы, гукі машын, якія праязджаюць побач — усё гэта адыходзіць. Можа быць і горш. Чалавек губляе смак, слых, а пасля і зрок.

Мы зусім па-іншаму ўяўляем сабе апакаліпсіс, калі звярнуцца да адмысловых стужак. Там можна ўбачыць, як руйнуюцца гарады, як не стае будынкаў, як не стае людзей. Але ніколі не заўважыш у такіх фільмах, як знікаюць чалавечыя пачуцці. Маккензі тут можна назваць першапраходцам — ён паказаў не проста руйнаванне лёсаў, а разбуральную сілу кахання.

Майкл працуе поварам у адным з брытанскіх рэстаранаў, а С'юзан — эпідэміёлаг, яна адной з першых даведаецца пра эпідэмію. Ёй не патрэбна каханне, яна не ўспрымае заляцанні Майкла. Моцная і незалежная, як бы назвалі яе цяпер. Але Майкл — настойлівы. І вось мы атрымліваем каханне. Апошняе каханне на Зямлі.

Стужкі пра каханне — гэта цукар. Сустрэчы, спатканні, кветкі, пацалункі. У жыцці не так часта ўсё гэта бывае. Тут каханне зусім іншае. Яно нараджаецца не з прагляду зорак пад начным небам, не з кветак, не з дыфірамбаў. Майкл і С'юзан проста ў адзін момант пачынаюць разумець, што адзін без аднаго не могуць. І гэта сапраўды так. Кажуць, каханыя павінны дзяліць усё паміж сабой. Радасць, гора, пакуты, боль, поспехі. У «Апошнім каханні на Зямлі» дзяліць Майкл і С'юзан могуць толькі саміх сябе.

Што ў галаве чалавека, які не чуе, не адчувае водараў, смакаў? Як ён жыве? Стадый некалькі. Спачатку адмаўленне. Яму цяжка прыняць усё тое, што здарылася. Ён не можа прымірыцца з такім лёсам. Пасля ён становіцца спакойным, а потым проста звыкаецца і працягвае жыць. Для шчасця яму патрэбна толькі адно — каханне.

«Апошняе каханне на Зямлі» — не ідэал, гэта ўжо зразумела. Але ў стужцы ёсць усё, што хочацца ўбачыць, скажам, у дождж. Так, наўрад ці каму-небудзь захочацца глядзець гэты фільм у добрым настроі — кіно яго сапсуе. Усё ж такі шэрыя колеры і драматызм здольныя давесці да слёз каго заўгодна. Галоўныя ролі дасканала выконваюць вядомыя па сваіх былых работах Ева Грын і Юэн Макгрэгар, ім верыш, бо паказаць людзей без пачуццяў цяжка, асабліва калі ўсе гэтыя пачуцці ў цябе ёсць. Аператарская і рэжысёрская работа таксама заслугоўвае ўвагі — якой бы ні была рэакцыя крытыкаў, Маккензі не прэтэндаваў на фільм з глыбокай навуковасцю, а вось на глыбіню пачуццяў — наадварот.

«Апошняе каханне на Зямлі» не выратуе свет. Не выратуе ўвесь свет і каханне ўвогуле. А выратуе яно толькі свет тых дваіх, чым яно з'яўляецца. Гэта дакладна, і гэта даказана, і гэта бачна хаця б у стужцы — часам прыгожай, дасканалай, часам не вельмі, але шчырай, пяшчотнай і не пазбаўленай чалавечых пачуццяў.

## Каханне, якому верыш

Кажуць, што таленавітыя людзі таленавітыя ва ўсім. З гэтым лёгка пагадзіцца, бо ёсць шмат доказаў. Адзін з такіх прыкладаў — Вінсэнт Гало. Не ведаю, як правільна сказаць, хто ён — рэжысёр, музыка, акцёр, мастак? Вінсэнт Гало — гэта вельмі добры і цікавы мікс усіх творчых прафесій, да таго ж, ён — надзвычай выдатны рэжысёр. Пра гэта можна сказаць упэўнена пасля прагляду стужкі «Бафала 66».

Пачаць трэба з таго, што Вінсэнт нарадзіўся ў 1960-х у Бафала. Многія крыніцы называюць дзяцінства Гало досыць сумным, яго бацькі ставіліся да сына халодна, абыякава. Гэта ён перанясе і ў свой фільм. Вінсэнт працаваў і мастаком, і музыкам (шмат хто менавіта па музыцы Гало і ведае). Але з карцінамі ён хутка скончыў — казаў, што зрабіў гэта ўсім назло, бо не хацеў, каб хтосьці меў яго прыгожыя карціны. З кіно склалася больш весела — Гало зняўся ў 17 стужках, працаваў з вядомымі рэжысёрамі, а хутка і сам стаў адным з іх.

Стужка «Баффала 66» — культавая. Па-першае, Гало працаваў над ёй ад пачатку і да канца сам — напісаў сцэнарый, саўндтрэк, выканаў галоўную ролю, зрэжысіраваў і заплаціў за здымкі. На прэм'еру стужкі не змаглі трапіць усе ахвотныя — іх было больш за 14 тысяч. Але лёс у фільма не вельмі «лёгкі» — ні адной узнагароды ці прэміі. На Канскім кінафестывалі стужку таксама праігнаравалі (у тым жа годзе выйшаў «Гадзіла»). Канешне, Гало, які столькі працаваў над «Бафала 66», не змог прыняць такога — у лютасці ён зладзіў у Канах дэбош і парваў на шматкі свой пашпарт, пасля чаго даў інтэрв'ю і супрацьпаставіў сабе ўсе галівудскія кінастудыі.



Маргарыта Дзяхцяр



Стужка Гало «Бафала 66» — такая ж, як і ён сам. Яна не зразумелая да канца, яна цяжкая для ўспрымання, яна змрочная. Але калі вы шукаеце для прагляду кіно пра сапраўднае каханне, не галівудскую гісторыю Папялушкі, а нешта больш падобнае да жыцця — вось яно!

Герой Гало, Білі Браўн, вяртаецца з турмы. Яго бацькі яго абсалютна не любяць — ён ім непатрэбны. Маці Білі з раніцы да ночы глядзіць матчы амерыканскага футбола, бацька, здаецца, не робіць нічога ўвогуле. Але Білі сваіх бацькоў любіць. Ці, можа, проста хоча даказаць ім, што ён чагосьці варты? Для гэтага яму патрэбна дзяўчына. Прыгожая, безумоўна. І ён яе знаходзіць — бярэ ў палон.

Звычайна гісторыі пра вялікае каханне так не пачынаюцца. Ніхто і падумаць не мог бы, што гэта будзе гісторыя пра каханне. Ніякіх намёкаў на пяшчоту, ніякіх цукерак і кветак, ніякіх спатканняў. Але стакгольмскі сіндром вырашае гэтыя недахопы — дзяўчынкі ж любяць благіх хлопцаў.

Лэйла — вельмі прыгожая дзяўчына. У ёй ёсць штосьці магічнае — магчыма, вочы. Са стужкі мы пра яе даведаемся не шмат — яна любіць танцаваць, гэта дакладна. Невядома, Білі выбраў Лэйлу выпадкова для сваёй «аперацыі» ці яна спадабалася яму з першага погляду — мужчын так проста не зразумець. Чамусьці самотная, ціхая Лэйла нават не спрабуе адчапіцца ад Білі — напэўна, дзяўчыне хочацца прыгод.

Так Лэйла становіцца жонкай Білі — Вэндзі Больсам. І ў яе добра атрымліваецца — яна, не ведаючы Білі, становіцца адзіным чалавекам у яго бацькоўскім доме, які, здаецца, сапраўды яго любіць. Лэйла распавядае толькі добрае, дэманструе лепшыя бакі Білі — быццам знаёміць бойфрэнда з бацькамі.

Усё ідзе па сцэнары, Лэйла выдатна спраўляецца з роляй. А можа, яна і не іграе. Дзяўчына закахалася — і гэта не спойлер, гэта было бачна яшчэ ў пачатку стужкі. Але гісторыя кахання не склалася б, калі б была узаемнай.

Няма сэнсу распавядаць сюжэт — ён настолькі цікавы, момантамі заблытаны, момантамі абсурдны. «Бафала 66» — кіно, якое трэба раіць. Усім. Яно чымсьці падобнае да стужак Кустурыцы, ёсць у ім і нешта ад Алена. Але разам з тым яно абсалютна непадобнае ні на што. Гэта стужка, у якой кожны момант, кожны кадр падаюцца новымі.

Учынкі герояў часам не назавеш адэкватнымі, блізкімі да рэальнасці, добрымі. Але іх можна назваць шчырымі. «Бафала 66» — кіно ў першую чаргу не пра каханне, не пра тое, як чалавек спрабуе змяніць свой лёс. Гэтая стужка -- пра самаахвярнасць і тое, да чаго яна прыводзіць. У фільме кожны герой ахвяраваў сабой дзеля чагосьці або кагосьці, а хтосьці не пагаджаўся на ахвяру. Гэта так падобна да жыцця.

Мой сябра шукаў стужку пра каханне — настрой быў такі, што хацелася чагосьці мяккага. У той дзень ён паглядзеў «Каханне і іншыя лекі» Эдварда Цвіка. Пасля таго, як ён убачыў «Бафала 66», зразумеў, што халодная, змрочная, шэрая стужка Гало — лепшая гісторыя кахання: там табе і самаахвярнасць, і незразумелыя ўчынкі, і далікатная пяшчота. Каханне, якому верыш.

Кірыл Мяцеліца

# Італьянская змяя

Адной з галоўных славутасцей Рагачова з'яўляецца Замкавая гара, на якой калісьцi загадала ўзвесці сабе палац знакамітая Бона Сфорца. Мы да гэтага часу дакладна не ведаем, калі і пры якіх абставінах быў разбураны гэты архітэктурны цуд. Зрэшты, гісторыя аказалася бязлітаснай не толькі да палаца, але і да самой італьянкі, біяграфія якой і сёння служыць падставай для разнастайных спекуляцый.

Бона Сфорца д'Арагона была малодшай дачкой міланскага герцага Джан Галеаца Сфорца і неапалітанскай прынцэсы Ізабелы Арагонскай. Дзяўчынка атрымала ў спадчыну ад абодвух бацькоў дзівосную прыгажосць. Зрэшты, прывабная знешнасць была ці не адзіным плюсам як Джан Галеаца, так і Ізабелы. Па водгуках сучаснікаў герцаг быў безнадзейна дурным і нічым, акрамя палявання і забаў, не цікавіўся. Ён памёр ва ўзросце 25 гадоў ці то ад п'янства, ці то ад атручвання, калі да нараджэння Боны заставалася яшчэ тры месяцы. Што датычыцца Ізабелы, то пра яе можна сказаць толькі тое, што згодна з адной з версій менавіта яна з'яўлялася мадэллю, з якой Леанарда да Вінчы пісаў сваю «Джаконду». Некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, што вялікі майстра доўгія гады быў палюбоўнікам міланскай удавы, аднак ніякіх сур'ёзных пацвярджэнняў гэтаму няма.

У юнацтве Бона атрымала бліскучую па тых часах адукацыю. Яна была знаёмая з антычнай літаратурай, валодала латынню і мела досыць шырокія веды ў галіне філасофіі, матэматыкі, права і тэалогіі. Разумная, прыгожая і радавітая дзяўчына была адной з самых зайздросных еўрапейскіх нявест. Многія прэтэндавалі на руку італьянскай прынцэсы, але дасталася яна вялікаму князю літоўскаму і каралю польскаму Жыгімонту, за якім пазней замацавалася мянушка «Стары». Вяселле адбылося ў 1518 годзе. Жаніх, якога паэт Ян Вісліцкі называў «непераможным каралём Сармацкай Еўропы», быў амаль удвая старэйшы за сваю італьянскую нявесту. Гэта быў яго другі шлюб. Папярэдняя жонка Жыгімонта, Барбара Запольская, памерла амаль адразу ж пасля таго, як нарадзіла мужу другую дачку. Барбару любілі амаль гэтак жа, як і яе мужа. Яна была добрая, рахманая і праводзіла дні ў нястомных малітвах і клопатах аб сваіх падданых.

Нядзіўна, што чужаземку Бону адразу ж сталі параўноўваць з памерлай каралевай. Як ні старалася італьянка заслужыць павагу прыдворных, у яе нічога не атрымлівалася. Для кансерватыўных літвінаў і палякаў Барбара, якая не выходзіла са сваёй келлі, была мілейшая за актыўную і жыццярадасную Бону, якую за вочы называлі «італьянскай змяёй» (намёк на герб роду Сфорца, на якім намаляваныя змеі). Другой прычынай для нянавісці мясцовай шляхты да новай каралевы было тое, што ў доўгай дарозе з Італіі яе суправаджалі больш за 300 італьянцаў. На адкрытую нянавісць з боку нобіляў Бона адказвала тым жа. Калі ў 1520 годзе ў каралеўскай пары нарадзіўся сын, якога пад уплывам матчыных захапленняў антычнасцю назвалі падвойным імем Жыгімонт Аўгуст, Бона прыклала максімум намаганняў для таго, каб засцерагчы дзіця ад любога ўплыву шляхты. Пакуль будучы «апошні Ягелон» рос у асяроддзі служанак, яго маці нястомна пляла інтрыгі для таго, каб забяспечыць сыну трон Вялікага Княства Літоўскага. Зрэшты, да гэтага ж імкнуўся і бацька хлопчыка, які марыў захаваць за сваім спадчыннікам ВКЛ у якасці наследнага валодання. У выніку ў 1529 годзе, калі Жыгімонт Аўгуст ледзь падрос, ён каранаваўся ў Віленскім кафедральным саборы на вялікае княжанне. Палякі былі абураныя, але, каб не страціць Літву, пагадзіліся на тое, што пасля смерці бацькі хлопчык атрымае ў спадчыну і польскую карону. Відавочна, што ва ўсёй гэтай гісторыі Бона адыграла далёка не апошнюю ролю. Варта адзначыць, што яна здолела забяспечыць годную будучыню і чатыром сваім дочкам: Ізабела стала каралевай Венгрыі, Кацярына прымерала на сябе карону Швецыі, Сафія стала вялікай герцагіняй Браўншвейг-Вольфенбютэльскай, а Ганна — жонкай караля Рэчы Паспалітай Стафана Баторыя.

Акрамя забеспячэння будучыні сваіх дзяцей, каралева ўсяляк спрабавала ўтаймаваць мясцовую шляхту і ўвесці ў землях Вялікага Княства Літоўскага італьянскую мадэль кіравання. Нездарма яе прадзед Фанчэска Сфорца быў некалькі разоў згаданы Макіявелі ва «Уладары» ў якасці прыкладу ідэальнага кіраўніка. Многія сучаснікі лічылі, што фактычна менавіта Бона кіравала дзяржавай з-за спін свайго згрыбелага мужа і бязвольнага сына. Так яно і было. Прозвішча

Сфорца паходзіць ад італьянскага sforzare — ціснуць. Пастаянны ціск з боку каралевы адчувала ўсё яе атачэнне — муж, сын, дочкі, прыдворныя і непакорлівая шляхта. У спробах умацаваць цэнтральную ўладу яна нажыла сабе мноства ворагаў, якія распускалі пра каралеву жахлівыя чуткі. Пагаворвалі, што там, дзе ўгаворы не мелі выніку, Бона пускала ў справу яд. Яе абвінавачвалі ў тым, што для захавання маладосці яна прымае ванны з крыві нявінніц і ладзіць дзікія оргіі ў сваіх палацах.

У шматлікіх ананімных пасквілях каралеву параўноўвалі з вавельскім цмокам, які ўвесь час патрабаваў сабе новых ахвяр. Падобныя ананімкі хадзілі тады па ўсёй Еўропе. Вядома, што некаторыя з іх траплялiся нават Марціну Лютэру, які прыводзіў іх у якасці прыкладу таго, якія шкілеты ўтойваюцца ў шафах фанатычных каталікоў. Так паступова нараджалася «чорная легенда» Боны Сфорца. Пройдзе час, і яе абвінавацяць у атручванні двух сваіх нявестак — Лізаветы Габсбуржанкі і Барбары Радзівіл. Гэтыя чуткі часам прыводзілі да камічных сітуацый. Так, Стафан Баторый, які ажаніўся з састарэлай Ганнай Ягелонкай, сур'ёзна баяўся таго, што яна атрымала ў спадчыну звычкі сваёй маці і можа атруціць яго.

Шмат у чым падобнае стаўленне да каралевы склалася з-за таго, што ніколі да яе жанчыны ў Вялікім Княстве Літоўскім не выказвалі падобных палітычных амбіцый. Тая стараннасць, з якой Бона прынялася за рэформы ў ВКЛ, выклікала абурэнне ў кансерватыўна настроеных магнатаў, якія лічылі, што італьянка «бурыць даўніну». У нейкай ступені гэта так. Бона разбурыла струхлелы будынак «летапіснай Літвы» і пабудавала на яго месцы раскошны palazzo. Італьянскія майстры, мастакі і кухары, якія прыбылі з ёй, пазнаёмілі Вялікае Княства Літоўскае з навуковымі, тэхнічнымі і культурнымі дасягненнямі Рэнесансу. Хай і з вялікай цяжкасцю, але Бона здолела надаць каралеўскаму і велікакняжацкаму двару сапраўдны еўрапейскі глянец. Пад уплывам Боны шляхта з Польшчы і ВКЛ стала апранацца па еўрапейскай модзе, разводзіць сады і далучацца да этыкету. Менавіта пры падтрымцы італьянкі Мікола Гусоўскі змог у 1523 годзе выдаць сваю «Песню пра зубра», і ўдзячны паэт прысвяціў ёй некалькі радкоў у прадмове да сваёй паэмы.

Разам з культурай і прагрэсам Бона прывезла з Еўропы і правільную геаметрыю. На землях, падораных ёй мужам і выкупленых у магнатаў, яна нанова перабудоўвала падуладныя ёй населеныя пункты, якія з хаатычнага нагрувашчвання дамоў ператвараліся ў сапраўдныя еўрапейскія гарады з лінейнай планіроўкай вуліц. Яна будавала касцёлы, шпіталі, палацы і замкі. Як гасцінная гаспадыня Бона змагла ператварыць глухую мясцовасць у квітнеючыя землі, якія штогод прыносілі казне і асабіста каралеве велізарныя даходы.

Тым не менш бывалі ў Боны Сфорцы і няўдачы, галоўнай з якіх стаў яе сын, які адкрыта абвінавачваў маці ў смерці дзвюх сваіх жонак. Пытанне аб тым, ці меліся ў яго для гэтага падставы, да гэтага часу застаецца адкрытым. Гісторыі з трагічнымі смерцямі Лізаветы Габсбург і Барбары Радзівіл за некалькі стагоддзяў абраслі такой колькасцю небыліц, што ў нас наўрад ці калі-небудзь атрымаецца аддзяліць праўду ад хлусні. Як бы там ні было, але сур'ёзны канфлікт паміж Жыгімонтам Аўгустам і Бонай Сфорца сапраўды існаваў. Шмат у чым з-за гэтага каралева хацела вярнуцца дадому, аднак яе сын баяўся, што разам з маці ён страціць і падуладныя ёй землі. Толькі заступніцтва швагеркі англійскай каралевы Марыі Цюдор і дачкі Ізабелы, якая была каралевай Венгрыі, дазволілі Боне выехаць у Італію ў самым пачатку 1556 года. Разам з ёй каронныя і велікакняжацкія землі пакінулі 24 падводы з золатам, срэбрам, каштоўнасцямі, мэбляй, дыванамі, фарфорам…

За гады свайго кіравання каралева Бона назапасіла столькі дабра, што, вярнуўшыся на радзіму, змагла пазычыць іспанскаму каралю Філіпу II 420 тысяч дукатаў. Паводле адной з версій, менавіта гэта і стала прычынай яе гібелі. Не жадаючы аддаваць доўг, Філіп падкупіў асабістага лекара Боны, які і атруціў тую, каго злыя языкі называлі галоўнай атрутніцай Еўропы. Зрэшты, пагаворвалі, што гэта справа рук яе сына, які не даравaў маці нават пасля яе смерці.

Бона Сфорца памерла ў лістападзе 1557 года ў італьянскім горадзе Бары. Пахаванне каралевы было на дзіва сціплым. Толькі праз некаторы час дачка Боны Ганна Ягелонка замовіла для сваёй маці раскошны мармуровы надгробак, які і сёння ўражвае сваёй прыгажосцю наведвальнікаў базілікі Святога Мікалая ў Бары.

**Анастасія Госцік**

# Арганізацыя археалагічнага так званага падземнага музея на Замкавай гары ў Гродне (1932 —1951)



*Анастасія Госцік нарадзілася ў Навагрудку, жыве ў Гродне, вучыцца на філфаку ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы, асвойвае польскую, англійскую і нямецкую мовы. Не ўяўляе жыцця без чытання і вельмі любіць сваю сям'ю.*

Напэўна не ўсе ведаюць, што на тэрыторыі Старога замка ў Гродне знаходзіцца незвычайны павільён, у якім захоўваецца самая старажытная царква горада, адкрытая падчас археалагічных раскопак 82 гады таму. Помнік гэты ўвайшоў у навуковую літаратуру пад назвай княжацкая або Ніжняя царква XII стагоддзя. Над гэтай царквой прыкладна праз 150 гадоў пасля яе разбурэння (загінула ў моцным пажары 1183 года) быў збудаваны яшчэ адзін невялікі праваслаўны храм, які атрымаў у даследчыкаў назву Верхняя царква канца XIII — 1-й паловы XIV стагоддзя. Адзначым, гэта быў першы праект музеефікацыі археалагічнага помніка ў Беларусі.

Пасля заканчэння польска-савецкай вайны 1919—1920 гадоў і падпісання Рыжскага мірнага дагавора Заходняя Беларусь была ўключана ў склад Польскай Рэспублікі, Гродна ўвайшоў у Беластоцкае ваяводства. Каралеўскі замак пастушіў у распараджэнне вайсковых улад. У ім размясціліся гатэль, клуб для афіцэраў і бібліятэка. Дзякуючы энергічным намаганням захавальніка дзяржаўнага музея Юзафа Ядкоўскага, а таксама павятовага старасты К. Рагалевіча і прадстаўнікоў гродзенскай інтэлігенцыі ўдалося перадаць частку палаца пад музей і бібліятэку ў 1924 годзе. Далей паўстала пытанне адбудовы і рамонту замка.

На канферэнцыі ў 1928 годзе быў створаны **Замкавы кураторыум**, які заняўся справамі рамонту. Былі адкрыты невядомыя раней помнікі — рэшткі колішняга княжацкага церама XII стагоддзя і цэркваў XIV і XII стагоддзяў.

У 1933 годзе быў утвораны **Ваяводскі камітэт ушанавання памяці караля Стафана Баторыя.** Пасля арганізацыі святкавання 400-годдзя народзін караля камітэт заняўся справамі адбудовы і кансервацыі Старога замка.

У 1934 годзе Ваяводскі камітэт і Замкавы кураторыум аб'ядналіся ў адзіны **Камітэт адбудовы Замка** пад кіраўніцтвам генерала Ф. Клеберга. У сакавіку 1934 года ў Гродне прайшла канферэнцыя, прысвечаная сенсацыйным археалагічным адкрыццям у Старым замку ў 1932—1933 гадах: пацвердзілі вялікае навуковае значэнне адкрытых Ю. Ядкоўскім княжацкага церама (XII стагоддзе), Ніжняй царквы (XII стагоддзе) і Верхняй царквы (канец XIII — пачатак XIV стагоддзя), рэшткаў мураваных пабудоў (XVII стагоддзе), але выказаліся супраць далейшых раскопак, пакуль тэрыторыя не будзе абаронена ад ападкаў і перападаў тэмператур. Праз год у Гродне адбыўся VI з'езд польскіх гісторыкаў, які скіраваў увагу на неабходнасць кансервацыі і далейшых даследаванняў помнікаў на тэрыторыі гродзенскага замка.

Было вырашана аб'явіць конкурс на новы праект замкавага комплексу. У ліпені 1936 года Камітэт запрасіў для правядзення комплексных даследаванняў каралеўскага замка архітэктара Я. Вайцяхоўскага з Варшавы. Упершыню свой праект рэканструкцыі Старога замка, а таксама сваё бачанне стварэння **«падземнага музея»** на яго тэрыторыі Я. Вайцяхоўскі прадставіў на з'ездзе кансерватараў Польшы, які праходзіў 7—8 красавіка 1937 года ў Гродне. Пасля з'езда інжынерам Р. Доўгірдам быў створаны праект адпаведнага музейнага павільёна на аснове жалезных канструкцый. Заказаць выраб канструкцый планавалася «ў найбліжэйшы час».

У 1937 годзе Камітэт адбудовы замка арганізаваў работы па ўмацаванні (на даўжыню 255 м) замкавых муроў і схілаў Замкавай гары, якія былі пашкоджаны паводкамі на Нёмане. Яшчэ адной прычынай апаўзання схілаў гары былі раскопачныя работы, якія вяліся ў тым ліку і на схілах у 1932—1933 гадах і пазней. На працягу раскопак у паўднёвай частцы падворка Старога замка на схілы Замкавай гары ссыпалі грунт, які пад сваім цяжарам абсоўваўся ўніз. Гэтаму садзейнічалі патокі вады, што сцякалі з гары па трэшчынах і прамыінах.

Ужо ў 1937 годзе спецыялісты адзначалі, што фрагменты сцен Верхняй царквы, адкрытай на пяць гадоў раней, знаходзяцца пад пагрозай знішчэння, што яны моцна абсыпаюцца, а цэгла патрэскалася і рассыпаецца нават пры дотыку. Стан пагаршаўся з кожным годам з-за рэзкіх змен тэмператур. Таму архітэктар С. Грахоўскі паспрабаваў закансерваваць рэшткі аднаго слупа з інтэр'ера Верхняй царквы. Вынік атрымаўся добры, і С. Грахоўскаму даручылі працягваць справу.

Вага рэканструкцыі фрагмента слупа склала 1800 кг. З-пад навеса над царквой, дзе праводзіліся гэтыя работы, яна была перанесена ў залу палаца для захоўвання, каб у будучым заняць месца ў «падземным музеі».

Археалагічнымі даследаваннямі на замку з 29 красавіка па 20 кастрычніка 1937 года кіраваў З. Дурчэўскі, спецыяліст па даследаванні старажытнай драўлянай забудовы помнікаў археалогіі. Тэхнічным мастаком, які выканаў планы «слаёў дрэва» (выдзелены З. Дурчэўскім на аснове стратыграфіі) быў студэнт факультэта архітэктуры Варшаўскага політэхнічнага інстытута Тадэвуш Анджэячэк[1].

Для зручнасці кансервацыі і правядзення раскопак быў пабудаваны спецыяльны часовы драўляны павільён над адкрытымі помнікамі. На шматлікіх адбітках са шкляных негатываў можна ўбачыць, як выглядаў «падземны музей» у 1937—1938 гадах.

Археалагічныя даследаванні З. Дурчэўскага і архітэктурныя работы Я. Вайцяхоўскага далі магчымасць на шырокім матэрыяле адлюстраваць у экспазіцыі гродзенскага дзяржаўнага музея гісторыю горада: летапіснае старажытнарускае паселішча, далей — «літоўскі перыяд», калі быў узведзены гатычны замак канца XIV—XVI стагоддзя, і «польскі перыяд», калі з'явіўся каралеўскі замак у канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя.

З пачаткам Другой сусветнай вайны рэстаўрацыйна-археалагічныя работы на тэрыторыі музея былі спынены. У перыяд нямецкай акупацыі музей працаваў, але ніякія навуковыя даследаванні не праводзіліся.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны, у 1945 годзе Гродзенскі абласны музей быў перайменаваны ў Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. Пры новым кіраўніцтве музея выношваліся планы стварэння **«падземнага музея»**, які ўключыў бы Ніжнюю царкву XII стагоддзя і заходнюю замкавую вежу, планавалася завяршэнне археалагічных даследаванняў на Замкавай гары.

Правядзенне раскопак на тэрыторыі Старога замка было абгрунтавана ў 1947 годзе. Для азнаямлення з помнікамі і накопленымі калекцыямі ў Гродна былі запрошаны вядомыя навукоўцы Ф.Д. Гурэвіч, П.А. Рапапорт, якія выказалі згоду правесці ў 1948 годзе даследаванні. Археалагічныя даследаванні Ніжняй царквы ўзначаліў загадчык сектара старажытнай Русі Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры Акадэміі навук СССР прафесар М.М. Варонін. У экспедыцыі працавалі будучыя вядомыя расійскія

[1] Польскі архітэктар Тадэвуш Анджэячэк (1915—1987), родам з Чэнстахова. У юнацтве захапляўся археалогіяй, вопыт работы атрымаў на раскопках знакамітага гарадзішча жалезнага веку Біскупін. У далейшым праславіўся як архітэктар. Пасля II сусветнай вайны працаваў архітэктарам у Вялікабрытаніі, Аўстраліі. За творчую састаўляючую натуры, сябры называлі яго «летуценнікам і ідэалістам».

Пасля Вялікай Айчыннай вайны, у 1945 годзе Гродзенскі абласны музей быў перайменаваны ў Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. Пры новым кіраўніцтве музея выношваліся планы стварэння «падземнага музея»

археолагі В.Л. Янін і В.В. Сядоў. Намеснікам начальніка экспедыцыі быў А.В. Нікіцін. Увайшлі ў склад экспедыцыі таксама архітэктар В.К. Буч, рэстаўратар Л.Б. Арцішэўская, чарцёжнік Ю.В. Панкоў, фатограф В.П. Косцін, тэхнік-будаўнік Ф.С. Новікаў. Адначасова з раскопкамі, неадкладную кансервацыю архітэктурных помнікаў Старога замка праводзіла брыгада Рэспубліканскіх навукова-вытворчых майстэрняў РСФСР па кансервацыі і рэстаўрацыі архітэктурных помнікаў пад кіраўніцтвам вядомага расійскага архітэктара-мастака І. В. Трафімава[2].

У лістападзе 1949 года над Ніжняй царквой быў узведзены драўляны павільён і пачалося экскурсійнае наведванне аб'екта. У 1951 годзе адбылася навуковая кансервацыя гэтай царквы.

Што датычыцца Верхняй царквы, ад якой захаваліся частка апсіды і фрагменты сцен, то з «польскага часу» яе аб'ёмы так і заставаліся ў дашчаным сховішчы каля заходняга фасада палаца. Гэта не задавальняла ні музей, ні даследчыкаў. Камісія выказалася за неабходнасць паставіць у план работы музея на 1950 год работы па зборцы і будаўніцтве над помнікам Верхняя царква адкрытага, архітэктурна прадуманага навеса. Прафесар Н.Н. Варонін пісаў: «Организация такого музея будет иметь огромное научно-познавательное значение и политическую актуальность — документируя глубокую древность русской культуры на берегах Немана и древние связи русского и литовского народов. … В связи с этой работой нужно осуществить и сборку Верхней церкви и органически связать этот редчайший памятник с экспозицией **Музея памятников русского Гродно**».

На сёння вымушаны канстатаваць, што нягледзячы на велізарную працу музейшчыкаў, археолагаў і архітэктараў, вынікі музеефікацыі найстаражытнейшых помнікаў на Старым замку ў Гродне аказаліся даволі сціплымі і спрэчнымі. Адкрыты доступ для наведвання быў прадугледжаны толькі ў адносінах да аднаго, хоць і безумоўна ўнікальнага, помніка — да Ніжняй царквы XII стагоддзя. Па-за межамі музеефікацыі пакінуты Верхняя царква канца XIII — пачатку XIV стагоддзя, рэшткі так званага княжацкага церама XII стагоддзя і замкавых казематаў XVII стагоддзя. Застаецца спадзявацца, што ў новым праекце рэстаўрацыі Старога замка будуць прадугледжаны ўсе ўмовы для раскрыцця культурна-гістарычнай каштоўнасці кожнага з гэтых помнікаў.

## Літаратура:

1. Воронин, Н. Н. Древнее Гродно / Н. Н. Воронин // Сов. археология / Акад. наук СССР, Ин-т истории матер. культуры ; редкол.: Б. А. Рыбаков (отв. ред.) [и др.]. — М., 1954. — Т. 19. — С. 41—76.

2. Пачобут, Н. А. Музеефікацыя археалагічных помнікаў на Замкавай гары ў Гродне (1932—1951 гг.) / Н. А. Пачобут // Краязнаўчыя запіскі : зб. арт. / Гродз. дзярж. гіст.-археал. музей. ; рэдкал.: К. В. Галота [і інш.]. — Гродна, 2012. — Вып. 8 : Каралеўскія і вялікакняжацкія замкі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай : Міжнар. навук. канф., Гродна, 22—23 верас. 2011 г. / [рэдкал.: Р. В. Янчалоўская (гал. рэд.) і інш.]. — С. 36—46.

3. Пачобут, Н. А. Іван Ігнатавіч Васілевіч (старонкі архіва) / Н. А. Пачобут, М. К. Сяліцкая // Віцебскія старажытнасці : матэрыялы навук. канф., Віцебск, 14—15 ліст. 2012 г. / Упр. ідэал. работы, культуры і па справах моладзі Віцеб. аблвыканкама, Віцеб. абл. краязн. музей ; [рэдкал.: Г. У. Савіцкі, В. А. Шышанаў, Н. Ю. Шаркоўская]. — Мінск, 2013. — С. 228—232.

4. Sprawozdanie z prac na Starym Zamku w Grodnie (1933—1937) / Wojwódzki Komitet uczczenia Królia Stefana Batorego w Grodnie. — Grodno: Wydawnictwo Wojwódzkiego Komitetu uczczenia Królia Stefana Batorego w Grodnie, 1938. — 46 s.

[2] Ігнацій Вікенцьевіч Трафімаў (1902—2002), вядомы расійскі архітэктар, сын рускага мастака В.П. Трафімава. В 1937—1948 гадах аднаўляў ансамбль Троіца-Сергіевай лаўры XV—XVIII стст., у 1947 годзе прымаў удзел у экспедыцыі ў Ноўгарадзе Вялікім, калі там праводзіліся аварыйна-аднаўленчыя работы на старажытных помніках.

Акадэмія кіравання пры
Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь

# ЧАЛАВЕК І ЧАС: УСЁ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД НАС

Выкладчык Аляксандр Брас.



Ілюстрацыя Алесі Галота.

У мінулай лекцыі (гл. «Маладосць», №8) было адзначана, што тэорыя і практыка кіравання часам мела чатыры этапы развіцця. Там жа была дадзена кароткая характарыстыка трох першых этапаў. Чацвёрты этап заснаваны на перакананні, што любая чалавечая дзейнасць можа быць ацэненая па двух базавых параметрах: важнасць і тэрміновасць.

**Важнасць** работы вызначаецца яе ўнёскам у дасягненне той ці іншай мэты. Чым большы гэты ўнёсак, тым больш важнай з'яўляецца работа. Хоць сякія-такія пытанні ўзнікаюць.

1. Ці ведае чалавек мэту, дзеля дасягнення якой ён гэтую работу выконвае?

2. Наколькі гэтая мэта для яго значная? Што стане з ім, яго сям'ёй, арганізацыяй, краінай, светам, калі мэта будзе дасягнута? Што здарыцца, калі яна дасягнута не будзе?

3. Ці можна лічыць работай дзейнасць, не накіраваную на дасягненне мэты? Наколькі маральная такая дзейнасць?

4. Якая крыніца мэты? Чалавек сам яе перад сабой паставіў ці яна навязана яму (напрыклад, кіраўніком)? Ці заўсёды мэта, важная для некага (напрыклад, для шэфа), аўтаматычна павінна рабіцца важнай і для таго, хто прыкладае намаганні і пускае час на яе дасягненне?

**Тэрміновасць** дзейнасці характарызуецца тым, наколькі хутка чалавек павінен прыступіць да выканання дадзенай работы. У адрозненне ад важнасці тэрміновасць лёгка зразумець і ўзважыць. Выкананне работы да адзначаных даты і часу дазваляе атрымаць пазітыўныя эмоцыі і, магчыма, нейкія знешнія ўзнагароды. Таму пры размеркаванні прыярытэтаў многія арыентуюцца на тэрміновасць спраў, а не на іх важнасць. Тэрміновасць прымушае спяшацца, а той, хто бяжыць (у прамым і пераносным сэнсе), не мае магчымасці думаць пра сэнс і мэтазгоднасць дзеянняў і якасць вынікаў. Хоць «міргаючы

*Тут друкуюцца самыя цікавыя лекцыі на самыя розныя тэмы па самых розных дысцыплінах. Галоўныя ўмовы: зразумела ўсім, карысна кожнаму, цікава шырокаму колу маладых чытачоў-інтэлектуалаў. Прымаем ад выкладчыкаў тэксты ў форме лекцый з фатаграфічнымі доказамі студэнцкага захаплення.*

зялёны» далёка не заўсёды сігнал да паскарэння. Вельмі часта гэта прыкмета таго, што трэба спыніцца і падумаць: «Ці трэба мне туды ехаць?»

Сыходзячы з магчымасці ацаніць любую справу па шкалах «важна — не важна», «тэрмінова — не тэрмінова», можна выбудаваць матрыцу спраў (рыс. 1 [1]), якая мае шмат розных назваў (матрыца Эйзенхаўэра, матрыца Кові, матрыца тэрміновых і важных спраў і да т. п.).

Калі кіраўнікоў самых розных узроўняў пытацца: «У якім квадраце гэтай матрыцы праходзіць асноўная частка вашага працоўнага жыцця?», практычна заўсёды можна пачуць з гонарам прамоўленае: «У першым!» (такая апытанка праводзілася ў самых розных аўдыторыях кіраўнікоў). Цяжкасці пачынаюцца тады, калі просіш назваць крытэрыі, паводле якіх вызначаецца важнасць дзеянняў. Найбольш распаўсюджанымі з гэтых крытэрыяў з'яўляюцца (па ўбыванні значнасці):

- крыніца, з якой «спусцілася» справа. Чым яна вышэй ва ўпраўленчай іерархіі, тым больш важным бачыцца людзям тое, што яны выконваюць;
- магчымыя негатыўныя наступствы (пакаранні), якія могуць наступіць для канкрэтнага чалавека ў выпадку невыканання (нясвоечасовага выканання) даручанай яму справы. Пра ўзнагароду за своечасова і якасна выкананую работу гаворкі, як правіла, не вядзецца;
- уплыў вынікаў уласнай работы на дзейнасць іншых людзей, падраздзяленняў, арганізацый.

| ***СПРАВЫ*** | **Тэрміновыя** | **Не тэрміновыя** |
|---|---|---|
| **Важныя** | ***1*** | ***2*** |
| **Не важныя** | ***3*** | ***4*** |

Рыс. 1. Матрыца спраў.



Аляксандр Брас, кандыдат эканамічных навук, дацэнт.

Пры гэтым пра асноўны крытэрый важнасці работы, якая выконваецца, — яе ўплыў на асабістыя мэты чалавека — шмат хто забывае. Важнасць справы вызначаецца, выходзіць, знешнім асяроддзем. Толькі адзінкі вызначаюць важнасць з пункту гледжання адпаведнасці справы асабістым мэтам і каштоўнасцям.

Кіраўнік, асноўная частка працоўнага жыцця якога працякае ў першым квадраце, з'яўляецца, па сутнасці, заложнікам акалічнасцяў і крызісным кіраўніком. Гэтая крызіснасць вызначаецца тым, што вялікая колькасць тэрміновых спраў часта нараджае сітуацыі, калі чалавеку даводзіцца дзве — тры справы рабіць практычна адначасова. Натуральна, у яго з'яўляецца страх нешта не паспець або зрабіць не вельмі якасна. Не таму, што ён так хоча, а проста няма ў яго часу на выкананне якаснае. Менавіта гэтымі страхамі і вызначаецца крызіснасць.

Каб паспяваць рабіць шмат тэрміновых спраў, такія кіраўнікі перыядычна застаюцца на рабоце пасля працоўнага часу, выходзяць на работу ў выхадныя дні. Як вынік — у чалавека ўсё менш часу застаецца на падтрыманне ўласнага здароўя і на стасункі з блізкімі. Словазлучэнні «сіндром менеджара», «сіндром назапашанай стомленасці» ўстойліва ўвайшлі ў жыццё шмат каго з кіраўнікоў.

Застаючыся пасля работы або выходзячы на работу ў выхадныя дні, чалавек забірае час у сваіх родных. Калі застаецца пасля работы, канешне ж, павінен падумаць так: «Пакуль я старанна працую на дабрабыт арганізацыі, з кім у гэты час маё дзіця? Дзе яно, што з ім адбываецца?» Калі дзіця, пазбаўленае бацькоўскай увагі, трапляе ў «дрэнную кампанію», кіраўнік не павінен вініць у гэтым нікога, акрамя самога сябе. Гэтую сітуацыю ён сам заклаў, пазбавіўшы дзіця магчымасці быць з ім. Яшчэ адно пытанне кіраўніка, які застаўся працаваць пасля работы: «З кім мая жонка (мой муж), пакуль я выконваю даручэнне шэфа, якое ён лічыць звыштэрміновым?» Калі з-за частай адсутнасці дома у чалавека ўзнікаюць сямейныя праблемы, у гэтым не вінаваты ніхто, акрамя яго.

Нягледзячы на высокія зарплаты і розныя прывілеі, якасць жыцця многіх кіраўнікоў нельга назваць высокай. Базавымі паказчыкамі якасці жыцця з'яўляюцца:

- псіхалагічны камфорт і свабода ад стрэсаў;
- адчуванне сямейнага дабрабыту;
- адносна кароткі працоўны дзень, які дае вольны час для прыемных заняткаў.

Адначасова трэба сказаць пра тое, што самае сумнае для кіраўніка, чыё жыццё працякае пераважна ў першым квадраце матрыцы спраў, — гэта пастаянны рост (у лепшым выпадку — не памяншэнне) колькасці працы, якую яму трэба выконваць. Чалавек сумленна працаваў увесь тыдзень, вырашыў масу праблем. Два — тры разы ён застаўся пасля работы, выйшаў у суботу. У нядзелю яму пашанцавала: ён нікуды не хадзіў, працаваў з дакументамі дома. Надыходзіць панядзелак — і чалавек разумее, што ўсё пачынаецца зноў: найбольш верагодна, што два — тры разы давядзецца застацца пасля работы, а запланаваць асабістыя або дамашнія сур'ёзныя справы на выхадныя не атрымаецца — хто ведае, што можа здарыцца?

Такая сітуацыя са справамі першага квадрата непазбежна ўздымае пытанне: «Адкуль у вашым жыцці з'яўляюцца гэтыя цудоўныя справы?» Як ні дзіўна, існуе толькі дзве крыніцы (рыс.2):

- справы, якія «звальваюцца» аднекуль «зверху»;
- справы другога квадрата, якія пступова робяцца справамі першага. Іх важнасць не мяняецца, да пэўнага моманту іх можна было б не рабіць, і гэта ніяк не ўплывала б на дзейнасць арганізацыі. Аднак надыходзіць момант, калі яны нечакана ператвараюцца ў тэрміновыя, і адкласці іх ужо немагчыма.




Рыс. 2. Крыніцы спраў першага квадрата.

Найперш пра справы, якія «звальваюцца зверху». Згодна з адной з мноства існуючых класіфікацый (гл., напрыклад, [2]), людзі дзеляцца на логікаў, якія ў большай ступені разумеюць, і інтуітаў, якія пераважна адчуваюць. Верагодна, не будзе вялікай памылкай наступнае меркаванне: шмат хто разумее (калі ён логік) або адчувае (калі інтуіт), што справы, якія «звальваюцца зверху, — гэта вынікі нечай некампетэнтнасці.

Часам ствараецца ўражанне, што мы ўвесь час некаму нешта павінны. Хоць нічога ні ў каго не бралі

Бо ў жыцці аб'ектыўна тэрміновых спраў няшмат. Яны могуць узнікнуць у рэанімацыі, у аварыйных службаў, у дзяжурных падраздзяленняў МНС, МУС, пагранічнікаў. З'яўленне мноства тэрміновых спраў у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, адукацыі, фінансах, сацыяльнай сферы часцей з'яўляецца вынікам таго, што нехта пра нешта своечасова не паклапаціўся, забыў перадаць нейкую інфармацыю, не браўся за справу да той пары, пакуль яна не стала «гарачай». У выніку чалавек коштам свайго здароўя, стасункаў з роднымі бярэ і кампенсуе нечую некампетэнтнасць. Калі такая сітуацыя яго задавальняе, шмат хто гэтаму радуецца: іх некампетэнтнасць пакрываецца рэсурсамі іншых.

Другой крыніцай спраў першага квадрата, як было сказана раней, з'яўляюцца справы другога квадрата, якія паступова перацякаюць у першы. Асноўнымі сярод такіх з'яўляюцца:

- распрацоўка стратэгіі развіцця арганізацыі;
- выстройванне стасункаў з living людзьмі (падначаленымі, калегамі ўнутры і па-за межамі арганізацыі, вышэйшым кіраўніцтвам);
- інавацыйная дзейнасць.

Стратэгію развіцця арганізацыі ў нармальных рынкавых паказчыках (доля на розных рэгіянальных рынках, дынаміка расходаў, прыбыткаў і ўласнага кошту, магчымасці дыверсіфікацыі і інш.) тэрмінова стварыць немагчыма. Прыгожае словазлучэнне «пастаянна нарошчваць…» стратэгіяй не з'яўляецца. Для распрацоўкі стратэгіі трэба валодаць вельмі вялікімі аб'ёмамі інфармацыі: пра тэндэнцыі перамен попыту карыстальнікаў, пра дынаміку рынкаў, пра змены ў паводзінах канкурэнтаў і партнёраў, пра развіццё тэхналогій у той галіне, у якой працуе арганізацыя, пра ўласную сілу і слабасці ў параўнанні з канкурэнтамі. Калі ніхто ў арганізацыі такія звесткі не збіраў, не думаў пра стратэгію развіцця, то пры сутыкненні з неабходнасцю распрацоўкі планаў на нейкі перыяд (год, паўгоддзе, квартал, месяц) у арганізацыі робяць вельмі проста: бяруць планы мінулага аналагічнага перыяду, пры дапамозе арыфметычных дзеянняў карэктуюць іх і атрымліваюць планы на будучыню. Як адзначыў адзін з кіраўнікоў, прысутных у аўдыторыі ў якасці слухача, для стварэння планаў патрэбны тры клавішы: «Ctrl», «C» і «V». Калі арганізацыя так робіць, яна быццам кажа: «Мы ўзялі наша мінулае і перанеслі яго ў нашу будучыню. Гэта азначае, што заўтра мы будзем жыць так, як учора. Бо пры распрацоўцы планаў мы сыходзім не з таго, куды мы хочам трапіць (стратэгіі няма, і куды мы хочам — мы не ведаем), а з таго, дзе мы былі ўчора». Арганізацыя, якая жыве сваім мінулым ва ўмовах свету, які развіваецца інтэнсіўна, апрыёры выраЧана на дэградацыю. Для самазахавання яна ўвесь час вымушана вырашаць процьму тэрміновых праблем, губляючы на гэта рэсурсы, якія і без таго памяншаюцца.

Немагчыма пазнаёміцца з чалавекам і адразу мець з ім пазітыўныя дзелавыя стасункі. Іх трэба выбудоўваць і падтрымліваць, выдаткоўваючы на гэта час, энергію, эмоцыі і іншыя рэсурсы

Другі від спраў другога квадрата — выстройванне стасункаў з самымі рознымі людзьмі, якія ў той ці іншай ступені маюць дачыненне да арганізацыі. Немагчыма пазнаёміцца з чалавекам і адразу мець з ім пазітыўныя дзелавыя стасункі. Іх трэба выбудоўваць і падтрымліваць, выдаткоўваючы на гэта час, энергію, эмоцыі і іншыя рэсурсы. Калі кіраўнік з-за сваёй занятасці справамі першага квадрата не робіць гэтага, рана ці позна ён сутыкнецца з пэўнымі праблемамі.

Любы кіраўнік можа правесці сам-насам з сабой тэст, заснаваны на двух сцвярджэннях:

1) у кожнага чалавека у асабістым і працоўным жыцці ёсць пэўныя малыя і вялікія праблемы;

2) колькасць непасрэдных падначаленых у кіраўніка рэдка перавышае 10 чалавек.

Цяпер уласна тэст. Ці можа кіраўнік назваць тры асабістыя і тры вытворчыя праблемы, якія ёсць у кожнага з яго непасрэдных падначале-

ных? Калі «не», то ёсць сэнс задаць сабе пытанне: «Ці будуць людзі, асобы і праблемы якіх мяне не цікавяць, дапамагаць мне ў рашэнні праблем падраздзялення, арганізацыі, за якую я нясу адказнасць?» Калі супрацоўнікі не адчуваюць зацікаўленасці ў адносінах да сябе з боку шэфа, то ў падсвядомасці іх выбудоўваецца сцяна між сабой і арганізацыяй: «справы арганізацыі — не мае справы». Тэмпы пабудовы гэтай сцяны нарошчваюцца, калі кіраўніцтва

- ігнаруе звароты падначаленых, нічога ім не тлумачыць;
- перакладвае на падначаленых адказнасць за ўласныя хібы ў рабоце.

Пры такіх узаемаадносінах нават цалкам здаровыя ідэі кіраўніцтва застаюцца нерэалізаванымі. Падначаленыя, пагаджаючыся з імі публічна, ціха іх сабатуюць, спасылаючыся на процьму знешніх акалічнасцей.

Яшчэ адно пытанне, якое, мабыць, павінна непакоіць кожнага: «Калі ў мяне ў жыцці ўзнікнуць сур'ёзныя цяжкасці, да каго я змагу звярнуцца, хто мне дапаможа?» Дапамагаць жа нам будуць толькі тыя, каму мы самі некалі дапамагалі. Калі чалавек нікому не дапамагаў, нікога не падтрымліваў, трацячы свае час і энергію, то чаму ён думае, што нехта яму дапаможа? Яшчэ горш, калі чалавек «устаўляў калы ў колы» іншым з надзеяй, што ніхто пра гэта не даведаецца або не зможа адказаць тым жа.

Трэці від спраў другога квадрата — інавацыі. Па сутнасці гэта азначае ўкараненне дасягненняў навукі, перадавога вопыту ў практыку дзейнасці сваёй арганізацыі. Першым крокам на гэтым складаным шляху з'яўляецца пастаяннае назапашванне інфармацыі пра тое, што патэнцыйна можна ўкараніць. Адпаведна, кіраўнік павінен быць актыўным удзельнікам розных выстаў, канферэнцый і семінараў, чытаць кнігі (размова не ідзе пра дэтэктывы, прыгоды і эротыку), навукова-практычныя часопісы. Ці шмат кіраўнікоў сёння лічыць такія заняткі важнымі для сябе? Калі не, то не трэба здзіўляцца, што новыя тэхналогіі з'яўляюцца ў канкурэнтаў раней. Менавіта канкурэнты прапануюць карыстальнікам тавары, якія маюць больш каштоўнасці для апошніх. А кіраўнікам, якія не лічаць магчымым укладаць свой час у знаёмства

У панядзелак «цягнічок» ідзе на работу, вырашыўшы пра сябе, што ён больш не «цягнічок». Асноўная яго праблема ў тым, што пра гэта ведае толькі ён

з новымі тэхналогіямі вытворчасці і кіравання, у выніку даводзіцца пускаць яго на выкананне незайздроснай ролі таго, хто даганяе. Таму людзі, якія знайшлі ў мітусні штодзённых спраў час на чытанне гэтага нумара цудоўнага часопіса «Маладосць», могуць адчуваць заслужанае пачуццё гонару за сябе.

З вышэйсказанага нескладана зрабіць выснову, што асноўная частка працоўнага жыцця кіраўніка, зацікаўленага ва ўласнай будучыні і будучыні сваёй арганізацыі, павінна працякаць у другім квадраце матрыцы спраў. То бок, прыярытэтнымі для яго павінны быць толькі тры віды работ:

- свядомы погляд у будучыню, а значыць, распрацоўка стратэгіі развіцця арганізацыі і самога сябе;
- выстройванне стасункаў са светам;
- інавацыйная дзейнасць у арганізацыі і ўласным жыцці.

Менавіта гэтыя справы, у адрозненне ад мноства іншых, кіраўнік не можа дэлегіраваць падначаленым. Гэта толькі яго сфера адказнасці. Канешне, час ад часу ён вымушаны будзе апынацца ў першым квадраце: ад форс-мажору ў нашым жыцці ніхто не застрахаваны. Але гэта час ад часу.

Існуючая сёння сітуацыя, калі шмат якія кіраўнікі аддаюць асноўную частку часу справам першага квадрата ў той час як павінны займацца справамі другога, спараджае два відавочныя пытанні:

1. Як перайсці ад спраў першага квадрата да спраў другога квадрата?
2. Як будаваць сваё жыццё ў другім квадраце?

Прыгожае словазлучэнне «пастаянна нарошчваць...» стратэгіяй не з'яўляецца

Пачуццё доўгу, якое намаганнямі педагогаў і іншых людзей фарміруецца ў нас з дзяцінства, стваральным не з'яўляецца. Часам варта задаць сабе пытанне: «Чаму, каму і колькі (часу, намаганняў, грошай) я вінен?»

Тэарэтычна **пераход ад спраў квадрата «1» да спраў квадрата «2»** дастаткова просты. Чалавек павінен паступова (адразу не атрымаецца) адмаўляцца ад спраў першага квадрата, пераходзячы да спраў другога квадрата. Узнікае пытанне: «Ад якіх спраў першага квадрата можна адмовіцца?»

Адмовіцца ад спраў, што прыходзяць з другога квадрата, немагчыма — менавіта яны з'яўляюцца для кіраўніка прыярытэтнымі. Адзіныя справы, ад выканання якіх можна адмовіцца, — гэта тыя, што «звальваюцца зверху». Такі крок патрабуе вельмі вялікай мужнасці. Яна неабходная для таго, каб

усвядоміць вельмі просты факт: за сваё жыццё і дабрабыт чалавек адказвае сам;

сумленна расставіць прыярытэты ў сваім жыцці, вызначыць, што больш, а што менш важна;

навучыцца гаварыць вельмі важнае слова, якое ніхто не любіць чуць: «не».

Часта ў розных аўдыторыях можна пачуць, што гэта немагчыма. Але чалавек, які збіраецца навучыцца адмаўляць, павінен улічваць шэраг акалічнасцяў.

1. У жыцці хоць бы з-за абмежаванасці сутак (толькі 24 гадзіны) любому чалавеку даводзіцца гаварыць «не». Большасці людзей прасцей за ўсё сказаць «не» самому сабе. Такое адмаўленне праходзіць лёгка, без эмацыянальнага напружання.

Дарэчы, звяртае на сябе ўвагу другая палова сказа, з дапамогай якога чалавек сабе адмаўляе. Звычайна яна звязана з нейкім доўгам або абавязкам. Часам ствараецца ўражанне, што мы ўвесь час некаму нешта павінны. Хоць нічога ні ў каго не бралі. Невыкананне доўгу спараджае ў чалавека разбуральнае пачуццё віны. Таму любы чалавек інтуітыўна імкнецца яго пазбегнуць, адмаўляючы ў нечым сабе, але выконваючы доўг. Іначай доўг расце. З цягам часу вінаватыя людзі, тыя, што «не выканалі свой доўг», увогуле перастаюць адчуваць хоць якія эмоцыі. Гэта разбурае іх псіхіку і вядзе да псіхасаматычных захворванняў — ад праблем з пазваночнікам, на які ціснe груз нявыкананых абавязкаў, да захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы (Даведка: з 120 026 чалавек, якія памерлі ў Беларусі ў 2015 годзе, 66 456 памерлі з-за хвароб сістэмы кровазвароту, гэта 55,4% [3]). Таму пачуццё доўгу, якое намаганнямі педагогаў і іншых людзей фарміруецца ў нас з дзяцінства, стваральным не з'яўляецца. Часам варта задаць сабе пытанне: «Чаму, каму і колькі (часу, намаганняў, грошай) я вінен?»

Існуюць людзі, прычым не адзінкавыя экзэмпляры, якія, нягледзячы на ўсю складанасць гэтага дзеяння, «не» гаварыць умеюць

Трошкі больш складана гаварыць «не» сваім родным. Мы разумеем, што гэта нядобра і няправільна. Але калі ўзнікае неабходнасць, то родным мы «не» гаворым. Дастаткова часта можна пачуць: «Ён блізкі мне чалавек, ён мяне зразумее». Як часта ў жыцці мы спадзяёмся і разлічваем на разуменне і прабачэнне нашых родных?

Эмацыянальна нашмат больш складана сказаць «не» калегам, яшчэ складаней — кіраўніцтву. Многія людзі сцвярджаюць, што сказаць начальніку «не» можна толькі адзін раз. Пасля з ім ужо не сустрэнешся. Але калі з чалавекам адбываецца нешта негатыўнае, напрыклад, ён апынаецца ў бальніцы, то дапамагаюць яму, яго даглядаюць менавіта яго родныя. Ці шмат знойдзецца кіраўнікоў, якія бавяць час у бальніцы, даглядаючы сваіх падначаленых? Калі нам сапраўды дрэнна, у нас узнікаюць сур'ёзныя праблемы, мы можам разлічваць толькі на родных, гэта значыць, на тых, каму адмаўлялі. Існуе даволі жорсткае пытанне, якое мае права задаць сабе любы чалавек: «Што, акрамя прыгожага некралога, зробіць для мяне мой начальнік?»

Выснова вельмі простая: «не» мы гаворым заўсёды. І толькі ад нас залежыць, каму мы яго гаворым: сабе, сваім родным, некаму іншаму. Гэта толькі наш выбар, расстаноўка прыярытэтаў.

2. Пры ўсёй няёмкасці нават начальству даводзіцца гаварыць «не». Пытанне толькі ў тым, пры якіх акалічнасцях і калі гэта давядзецца зрабіць. Адразу, калі атрымаем даручэнне, якое немагчыма выканаць якасна за адведзены тэрмін у межах вылучаных рэсурсаў, ці пасля, самім фактам «заваленай» работы.

3. Існуюць людзі, прычым не адзінкавыя экзэмпляры, якія, нягледзячы на ўсю складанасць гэтага дзеяння, «не» гаварыць умеюць. У любой арганізацыі, у тым ліку і ў вашай, можна бачыць супрацоўнікаў дзвюх катэгорый:

- «цягнічкі» — людзі, якім увесь час даюць самыя разнастайныя даручэнні. У выніку яны цэлы дзень «круцяцца», выконваючы атрыманыя просьбы і заданні. У канцы працоўнага дня «цягнічок» нечакана ўспамінае, што ў яго засталося мноства сваіх неадкладных спраў. Для іх выканання яму даводзіцца затрымлівацца на працы. Ён кажа пры гэтым: «Як цудоўна! Цяпер мне ніхто не перашкаджае і можна спакойна рабіць сваю работу». Праўда, узнікае непрыемнае пытанне: «А чыю работу ты рабіў цэлы дзень, калі сваю вымушаны рабіць пасля работы?».
- «самазвалы», якім, як гэта ні дзіўна, амаль ніхто не дае ніякіх даручэнняў. «Самазвал», прыходзячы на работу, спакойна робіць тое, што павінен рабіць. Частку сваіх спраў ён, канешне, імкнецца перадаць «паравозніку», што часцей за ўсё ў яго лёгка атрымліваецца. Надыходзіць канец працоўнага дня. У «самазвала» зроблена ўсё, што трэба. Таму ён з усведамленнем выкананага доўгу ідзе дамоў.

Разбор складаных пытанняў пра заработную плату «цягнічкоў» і «самазвалаў», пра магчымасці іх кар'ернага росту застаецца за вамі.

Узнікае пытанне: «Хто такія самазвалы?» Адказ на яго дастаткова просты: «Гэта людзі, якія навучыліся гаварыць «не». З гэтага не вынікае, што яны грубіяняць і хамяць начальству. Звычайна яны лёгка прымаюць усталяваныя ў арганізацыі «правілы гульні». Калі «мы працуем разам», то яны заўсёды дапамогуць іншым, але да першай адмовы некага з іншых дапамагчы ім. Правіла: «Раней я ставіўся да людзей добра, а цяпер узаемна» — выконваецца «самазваламі» заўсёды. Калі ў арганізацыі пануе прынцып «кожны сам за сябе», яны яго таксама прымаюць. Як ні дзіўна, такія людзі — высокакваліфікаваныя прафесіяналы, якія ведаюць цану сабе, свайму часу і сваім намаганням. (Варыянт, калі «самазвал» нічога з сябе не ўяўляе, а толькі ёсць родзічам ці знаёмцам кіраўніка і дзякуючы гэтаму дазваляе сабе «плюваць» на калег, тут не разглядаецца, хоць і ўяўляе пэўную цікавасць).

Выснова зноў простая: «Калі існуюць людзі, якія ўмеюць гаварыць «не», дык могуць гэтаму навучыцца і ўсе астатнія. І гэта не нешта забароненае». І ў «цягнічкоў» часам узнікае жаданне сказаць «не». Існуе сцвярджэнне «Новае жыццё трэба пачынаць з панядзелка», хоць псіхолагі пераконваюць, што лепш усё пачынаць сёння. Тым не менш у панядзелак «цягнічок» ідзе на работу, вырашыўшы пра сябе, што ён больш не «цягнічок». Асноўная яго праблема ў тым, што пра гэта ведае толькі ён. Паколькі калегі нават не падазраюць, што «цягнічок» ператварыўся ў «самазвал», яны, як і раней, сыплюць на яго просьбы і даручэнні. «Цягнічок» трапляе ў вельмі кепскае для яго становішча. Яму ўпершыню даводзіцца гаварыць «не» не сабе і не родным, а калегам і нават — які жах! — начальству. Ён імкнецца рабіць гэта мякка, нават сарамеючыся, кажучы: «Рабяты, давайце я спачатку сваё зраблю, а пасля дапамагу астатнім». Далей на яго сыплецца «сяброўскі» прэсінг. Яму кажуць: «Што з табой здарылася? Ты быў раней такім надзейным чалавекам». Заўважце, якая непрыкрытая маніпуляцыя: чалавеку гавораць, што раней ён быў надзейным, а цяпер ужо не. Хто з нас хоча стаць ненадзейным чалавекам? Беднаму «цягнічку» ўжо не вельмі добра. А прэсінг працягваецца. Калегі кажуць: «А мо ты захварэў? Давай мы табе таблетку ці шклянку вады прынясём». Шклянку вады звычайна прыносяць, яе нікому не шкода. Зноў «цягнічок» трапляе ў маральна дрэнную для яго сітуацыю: шклянку вады далі, тут адмовіць няёмка. Калі чалавек на ўсім гэтым ламаецца, ён застаецца «паравознікам». Калі ж знойдзе ў сабе сілы цярпець на працягу трох тыдняў (гэта шмат), то ўбачыць, што дробных даручэнняў чамусьці становіцца менш. Ён можа своечасова пайсці дадому, праводзіць час з сям'ёй, а не толькі ў любімай арганізацыі.

Навучыцца гаварыць «не» можна. Ніхто не сцвярджае, што гэта проста. Але складана — не значыць немагчыма.

**Выбудоўванне жыцця ў другім квадраце** матрыцы спраў мае некалькі этапаў, якія адлюстраваны на рыс. 3. Далей разбяром іх падрабязна.

1. Фармуляванне ўласнай місіі, пад якой трэба разумець важную, істотную мэту, якую чалавек ставіць перад сабой. Гэтая мэта вызначаецца на падставе таго, што ён хоча, лічыць патрэбным прынесці ў грамадства. Асабістая місія — гэта мэта не так для сябе, як для іншых. Тут вельмі да месца ўспомніць вядомую прытчу пра трох муляраў. Адзін на пытанне: «Што робіце?» — адказаў: «Апрацоўваю каменне». Другі сказаў: «Маёй сям'і трэба неяк жыць, таму я зарабляю грошы». Трэці сказаў: «Я будую храм». Гэты трэці ўсведамляе ўласную місію, ён канцэнтруецца на мэце, а не на працэсе апрацоўкі камянёў, як першы, або зарабляння грошай, як другі. Першы лёгка памяняе сваю дзейнасць, калі яму загадаюць. Другі лёгка звольніцца, калі яму прапануюць большыя грошы. Толькі трэці будзе будаваць храм. Усведамленне ўласнай місіі дапамагае чалавеку перайсці ад пошуку адказу на пытанне «Як я хачу жыць?» (хоць шмат хто, на жаль, не думае нават пра гэта) да пошуку адказу на пытанні: «У якім свеце я хачу каб жылі мае родныя і я сам? Што я магу, павінен зрабіць, каб свет стаў такім, як мне хочацца?»

Місія для чалавека — гэта крытэрый вызначэння важнасці выканання розных спраў. Калі канкрэтная работа адпавядае місіі чалавека, яна аўтаматычна трапляе ў катэгорыю «важных». Яе выкананне ўносіць уклад у дасягненне мэты, якую чалавек перад сабой паставіў. Інакш прызнаць работу важнай вельмі цяжка.




Рыс. 3. Этапы выстройвання жыцця ў другім квадраце.

2. Вызначэнне ўласных значных роляў. Пачынаючы з гэтага этапу, можна приступаць да запаўнення табліцы 1. Псіхолагі сцвярджаюць, што ў сваім жыцці ўсе людзі выконваюць мноства розных роляў. Чалавек, ідучы па вуліцы, выконвае ролю пешахода, едучы ў тралейбусе — ролю пасажыра, прыходзіць дамоў і дапамагае дзіцяці выконваць хатняе заданне — выконвае ролю бацькі ці маці. На рабоце мы ператвараемся ў адпаведных спецыялістаў і кіраўнікоў. Рэпертуар жыццёвых роляў чалавека вельмі разнастайны. Пры гэтым з усяго мноства сваіх роляў чалавек можа вылучыць некалькі, выкананне якіх ён лічыць для сябе значнай справай. Менавіта іх і трэба занесці ў першую калонку табліцы 1. Якія гэта ролі і колькі іх — вызначаецца выключна самім чалавекам. Менавіта таму табліца знізу «не закрыта».

3. Вызначэнне бліжэйшых важных спраў. Выкананне той ці іншай ролі выяўляецца ў выкананні нейкіх канкрэтных спраў (работ). Бліжэйшыя справы — гэта справы, якія чалавек плануе зрабіць цягам тыдня, бо тыдзень у культуралагічным плане

Табліца 1 — Ад місіі да штодзённага планавання

| Мая місія | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Значныя ролі | Важныя справы | Час выканання | | | | Паспяховасць выканання |
| | | Дата | Пачатак работы | Заканчэнне работы | Час | |
| | | | | | | |
| | | | | | | |
| | | | | | | |
| | | | | | | |
| | | | | | | |
| | | | | | | |
| | | | | | | |

з'яўляецца цэльнай і зразумелай адзінкай вымярэння часу для большасці людзей. Шмат хто з нас жыве «ад панядзелка да панядзелка». У табл. 1 насупраць кожнай ролі можна напісаць тыя справы, якія чалавек лічыць патрэбным зрабіць для яе выканання. Колькасць спраў па кожнай ролі чалавек таксама вызначае сам.

4. Прывязка спраў да часу выканання неабходна для расстаноўкі запланаваных спраў па днях тыдня, каб не атрымалася «недзе густа, недзе пуста». Працэдура пачынаецца з вызначэння часу, які чалавек лічыць патрэбным і магчымым затраціць на выкананне пэўнай работы. Цалкам натуральна, што некаторыя справы чалавек будзе перыядычна рабіць на працягу некалькіх дзён і нават тыдняў (напрыклад, кашу, пажадана розную, трэба варыць штодзень). У табл. 1 запаўняюцца трэцяя — шостая калонкі. Ведаючы час, які займае кожная з запланаваных спраў, можна палічыць, колькі часу, вольнага ад важных спраў, застаецца ў чалавека штодзённа (кожны тыдзень), падумаць пра тое, на што гэты час пусціць.

Такі падыход да патыднёвага планавання

- дазваляе вызначыць справы, важныя з пункту гледжання рэалізацыі ўласнай місіі;
- пакідае час на адпачынак і для рэагавання на непрадбачаныя акалічнасці, якія адносяцца да першага і трэцяга квадратаў;
- выпрацоўвае стаўленне да непрадбачаных тэрміновых спраў як да перашкод на шляху дасягнення мэты, а не як да нечага вельмі важнага.

5. Штодзённая адаптацыя. Якім бы цудоўным ні быў план на тыдзень, жыццё непазбежна яго карэктуе, адбіваючыся як на важнасці спраў, так і на ўласных мэтах. Таму мае сэнс штодзённа аналізаваць свой план на тыдзень, адаптуючы яго.

У нядзелю можна вызначыць паспяховасць зробленага, запоўніўшы апошнюю калонку табл. 1, і, адпаведна, паспяховасць пражытага тыдня.

**Літаратура**

1. Кови, С. Р. Семь навыков высокоэффективных людей. Возврат к Этике Характера / С. Р. Кови. — М.: Вече, Персей, 1998. — 480 с.

2. Тигер, П. Делай то, для чего ты рожден. Путь к успешной карьере через самопознание / П. Тигер, Б. Бэррон-Тигер. — М.: АРМАДА, 1996. — 491 с.

3. Статический бюллетень «О естественном движении населения по Республике Беларусь за 2015 год» [Электронный ресурс] — Режим доступа: http://www.belstat.gov.by/ofitsialnaya-statistika/solialnaya-sfera/demografiya_2/metodologiya-otvetstvennye-za-informatsionnoe-s_2/index_4948/. — Дата доступа: 15.07.2016.

**Айцец Аляксандр Богдан**

# Рэлігійная залежнасць. Што гэта?



**Калі сын робіцца наркаманам, галоўнае жаданне бацькоў — каб сын перастаў ужываць наркотыкі. Бывае, што сын перастае ўжываць наркатычныя рэчывы пасля таго як трапляе ў якую-небудзь секту. Бацькі трыумфуюць ад шчасця, што іх сын, як яны лічаць, больш не залежны. На самай справе адбываецца замена наркатычнай залежнасці на рэлігійную. На жаль, пра гэтую з'яву ведае толькі вузкае кола спецыялістаў — нарколагі, псіхіятры, псіхатэрапеўты, псіхолагі.**

Што такое рэлігійная залежнасць? Няўжо ўсе веруючыя — рэлігійназалежныя? Чым такая залежнасць адрозніваецца ад хрысціянскай веры?

Увогуле, у веры, як і паўсюдна, здараюцца анамаліі. Два амерыканскія псіхолагі — С. Артэрберн і Дж. Фельтан — даюць наступнае азначэнне рэлігійнай залежнасці: «Як і пры любой залежнасці, рэлігійная практыка становіцца дамінуючай у адносінах да другіх аспектаў жыцця. Любыя адносіны ўсталёўваюцца праз рэлігію, а залежнасць ад рэлігійнай практыкі і яе адэптаў адсоўвае асабістую патрэбу ў Богу *(вылучана аўт.)*. Рэлігія і тыя, хто яе ўвасабляюць, атрымаюць усю паўнату ўлады над залежным, які сам больш не злучаны з Богам».

Каб лепш разабрацца ў азначэнні рэлігійнай залежнасці, разгледзім работу сектанцкіх рэабілітацыйных цэнтраў. Даволі часта іх кіраўніцтва заяўляе, што там праводзіцца рэабілітацыя па праграме «12 крокаў», якую выкарыстоўваюць у суполках Ананімных Алкаголікаў і Ананімных Наркаманаў. На самай жа справе, у большасці выпадкаў праграму вельмі моцна відазмяняюць, апускаючы тыя крокі, што ўжо ёсць, альбо дадаючы новыя. Усё гэта робіцца з той мэтай, каб рэабілітанта праснцей было ўцягнуць у секту. Для больш паспяховай «рэабілітацыі» могуць выкарыстоўвацца разнастайныя псіхатэхнікі, з дапамогай якіх лёгка маніпуляваць нават моцнай асобай.

У выніку пасля такой «рэабілітацыі» наркаман не перастае быць наркаманам, але робіцца «рэлігіяманам». Калі раней для атрымання нейкіх асаблівых перажыванняў ён прымаў хімічныя рэчывы, то цяпер для яго наркотыкам з'яўляюцца рэлігійныя сходы, рытуалы, разнастайныя практыкі і г. д. Хтосьці, магчыма, падумаў: «Ну і што! Галоўнае, што не колецца!» На самай справе праблемы не сыходзяць, а змяняюць толькі знешнюю форму. Напрыклад, калі раней, ужываючы, наркаман мог вынесці ўсё з хаты дзеля дозы, то цяпер, як рэлігіяман, ён можа вынесці ўсё з хаты ў секту.

На вялікі жаль, рэлігійная залежнасць можа назірацца не толькі ў сектах. Сярод праваслаўных людзей таксама можна сустрэць рэлігіяманаў. Як у Старым Запавеце: Бог даў запаведзі і закон, каб захаваць Ізраільскі народ ад ідалапаклонства і паганства, а фарысеі абагавілі сам закон, і, калі прыйшоў да іх Бог, учалавечаны, то гэтыя рэлігійнікі ўкрыжавалі Яго з дапамогай свайго бога. Так і ў сучаснасці некаторыя праваслаўныя часам абагаўляюць само праваслаўе. Такія людзі не маюць цікавасці да духоўнага жыцця, галоўным для іх з'яўляюцца рытуалы. Пры гэтым не ўзнікае жадання ўнікаць у сутнасць. Задавальненне атрымліваецца ад знешняга. Асабістая патрэба ў Богу можа адсутнічаць наогул.

Кожнаму, хто збіраецца адправіцца ў той ці іншы рэабілітацыйны цэнтр ці накіраваць туды свайго родзіча альбо сябра, проста неабходна даведацца аб метадах, якія там выкарыстоўваюцца. Нават калі гэта праваслаўны цэнтр, то важна, каб там не прывязвалі наркамана ці алкаголіка да сцен манастыра ці храма. Інакш па-за сценамі манастырскімі ці храмавымі будуць адбывацца «зрывы». У праваслаўных цэнтрах алкаголікам і наркаманам павінны дапамагаць аднаўляць духоўнае і душэўнае здароўе, каб яны маглі вярнуцца дахаты іншымі людзьмі, змененымі Божай міласцю.

Увогуле, кожны, хто лічыць сябе веруючым, можа зрабіць праверку на наяўнасць у сябе рэлігійнай залежнасці. Адкажыце сумленна на пытанне: «Для вас рэлігія з'яўляецца сродкам ці мэтай?» Для рэлігійназалежнага чалавека рэлігія — гэта мэта, а для веруючага хрысціяніна рэлігія — гэта сродак, таму што мэта — гэта Бог.

Для веруючага праваслаўнага хрысціяніна разнастайныя практыкі, рытуалы, традыцыі, прадпісанні і шмат іншага не з'яўляюцца галоўнай мэтай. У хрысціянстве ўсё, што звязана з рэлігійнасцю, з'яўляецца другасным (але гэта не азначае, што можна гэтым грэбаваць), а першасным з'яўляецца яднанне з Богам. Менавіта да гэтага павінен імкнуцца кожны вернік, і рэлігія ў гэтай справе з'яўляецца надзейным сродкам. Можна нават сказаць, што хрысціянства — гэта не столькі рэлігія, колькі менавіта ЖЫЦЦЁ з Богам. Праваслаўных хрысціян аб'ядноўвае не проста філасофскае вучэнне аб Хрысце, а Сам Хрыстос, Які бясспрэчна з'яўляецца Богам.

Пасля такіх разваг аб рэлігійнай залежнасці хто-небудзь можа падумаць, што лепш наогул не мець нічога агульнага ні з якой рэлігіяй, у тым ліку і з праваслаўем. Многія любяць казаць: «Бог у мяне ў душы», апраўдваючы гэтым, чаму яны не ходзяць у Царкву. Носьбітам Бога ў душы можна запярэчыць: «Вось я люблю сваю жонку. Прычым люблю ўтрапёна. Люблю так, што нават слоў падабраць не магу. Так, забыўся ўдакладніць, што люблю жонку я ў душы. Навошта мне жыць разам з ёй пад адным дахам, навошта тэлефанаваць, пісаць, размаўляць, дзяліцца з ёй смуткам і радасцю, калі яна ў мяне ў душы?»

Правільна сцвярджаюць, што маліцца можна і дома. Але не толькі дома, а дзе б мы ні знаходзіліся, заўсёды можам звярнуцца да Бога ў малітве. Толькі вось у храме мы можам не проста памаліцца Богу, а яшчэ і адчуць асаблівую прысутнасць Бога, і не толькі ў душы. У час Боскай літургіі ў Таінстве Святога Прычашчэння мы злучаемся з Богам на самым бачным, матэрыяльным узроўні. Мы прымаем унутр сябе Цела і Кроў нашага Бога. Цела Хрыста становіцца нашым целам, а Кроў Хрыста пачынае цячы па нашых жылах. Святы Іаан Златавуст, які жыў у IV стагоддзі, так казаў пра галоўнае богаслужэнне ў нашай царкве: «Боская літургія ёсць вялікі і цудоўны дар: анёлы Божыя, калі толькі магчыма гэта выразіць нашай чалавечай мовай, зайздросцяць нам, людзям, якім падорана шчасце смакаваць Боскае Цела і Кроў; яны мірыядамі злятаюцца там, дзе прыносіцца Боская Ахвяра, з трапятаннем стаяць перад святым прастолам, закрываючы твары і ва ўсхваленні праслаўляючы вялікую таямніцу, якая здзяйсняецца тут».

P.S. Нагадаю, што ёсць запаведзь «Не ствары сабе куміра». Дык вось гэтым кумірам, як мы высветлілі, можа быць нават рэлігія. Ну, а тым, хто здаравее ад алкагалізму ці наркаманіі ў суполках Ананімных Алкаголікаў і Ананімных Наркаманаў, хочацца пажадаць, каб іх кумірам не стала «Праграма 12 крокаў».

Дзённік — Надзея Вясёлкіна

21 ліпеня

Сёння падумала, каб добра навучыцца сваёй роднай мове, мала толькі чытаць па-беларуску, трэба таксама як-небудзь практыкаваць свае веды. Таму вырашыла, кожны дзень штосьці напісаць, напрыклад, што здарылася добрага ў сённяшні дзень. Такім чынам, сёння.

Адна добрая душа прыветна прыняла мяне ў свой дом і накарміла.

Потым сустрэлася са мной другая добрая душа. Ярчэйшая. Яна зрабіла мне вялікі падарунак: за малую цану аддала брыльянты беларускай літаратуры. Таксама мы ажыўлённа размаўлялі з ёй аб нашай роднай мове. Мне вельмі спадабаліся яе словы: «А па-беларуску нават лягчэй чытаць!»

Яшчэ на сённяшні дзень: апавяданні А. Федарэнка зноў і зноў глыбока кранулі маё сэрца. Не магу зразумець, чаму людзі такія абыякавыя да сапраўдных каштоўнасцей, чаму шукаюць толькі марнае. Духоўнае і культурнае жыццё такое багатае! Яно так акрыляе чалавека! І так прыемна спаткацца з аднадумцамі! Ёсць! Ёсць прага да духоўнага, да ўзвышанага! І толькі таму яшчэ трымаецца гэты свет. І толькі таму яшчэ жыве Беларусь і жыве мой Мазыр.

Сапраўдныя брыльянты не валяюцца пры дарозе. Трэба добра папрацаваць, каб іх знайсці. Вось і шукаю днём за днём. Не для сябе толькі шукаю, але і для другіх.

22 ліпеня

Цудоўны дзень! Дзень пакуты. Дзень светлых крыжаў...

Не ведаю, як дачакалася вечара...

Людзі прагнуць, каб іх любілі...

Яны патрабуюць любові, якая пераходзіць межы часу. Крычаць раны іх душ. Яны патрабуюць любові і прабачэння. Хапаюцца за кожную саломінку.

„Саберыся думкамі" — кажа адзін прыватны надпіс на доме. Гэты выраз трапіў у самае яблычка.

Людзі прагнуць, каб іх прынялі такімі, якімі яны ёсць.

Не ведаю, як дажыла да сённяшняга вечара.

Перапаўняюць сэрца пачуцці аб сённяшніх людзях. Што было

сёння добрае? Хтосьці сказаў: дзякуй!
Аповесць А. Федарэнкі таксама займае мае думкі. Яго кнігі ўвогуле навучаюць з павагай адносіцца да тутэйшых людзей. Брыльянты ж ва ўсе часы хаваюцца за грудай смецця.

24 ліпеня

Вельмі ўдзячна я Богу за гэтыя дні адпачынку.
Сёння быў прыгожы дзень і спакойны. Не трэба было нікуды спяшацца. Спатканне з сяброўкай, чытанне кніг і часопісаў па-беларуску, сустрэчы з неспадзяванымі гасцямі, поўныя веткі вішні і дабрыні. Дзмітрый, які прыехаў на матацыкле, сказаў, што на свеце ёсць больш добрых людзей, чым злых, і што жанчыны ў кожным узросце — прыгожыя. Напэўна ён ведае, што кажа, бо аб'ехаў ужо палову свету. Ён адносіцца да тых людзей, якія ўмеюць часам прыпыніцца, каб лепш узяць на ўвагу штосьці, каб проста палюбавацца дзівосамі Божай і чалавечай прыгажосці, што атачае нас. Для такіх людзей усе дарогі — да Бога.

**Алена Каладзінская**

# Дзявяты паверх

Я жыву на апошнім паверсе дзевяціпавярховага дома. Ліфт даўно не працуе, я хаджу пешшу. Ужо звыкла, як, між іншым, і да цяжкасцяў іншага роду. Але, калі прыступка за прыступкай падымаюся на дзявяты паверх, то ўсякі раз мяне атачаюць думкі і ўспаміны.

Я думаю аб тым, што апошні паверх — гэта маё наканаванне. Я выцягнула яго сваёй рукой. Адразу расхвалявалася, бо раней жыла ў маленькім аднапавярховым дамку. А потым падумала раптам: бліжэй да неба, сонца, зорак, Бога… Я люблю воблакі. Бог мяне да іх прыблізіў. Анёлам лягчэй і хутчэй стала далятаць ад мяне і да мяне… Але нешта раптам разбурылася ў гэтай стройнай сістэме. Аб гэтым я паспяваю падумаць, лічачы апошнія прыступкі перад пляцоўкай свайго паверха, дзе сумуюць ад недахопу святла кветкі і глядзяць мне ў вочы з дакорам карціны: калі ж ты нас прывядзеш у парадак?!

Так, калісьці ў мяне хапіла часу і жадання напісаць іх проста на сценах… А цяпер, калі хуліганы ці проста злыя людзі (не ведаю хто) іх паразмазвалі, здзекуючыся ці радуючыся магчымасці рэалізаваць таемна жаданне сапсаваць штосьці прыгожае, я гляджу на карціны, якія пакутуюць, і ўспамінаю, што ў іх твар майго адзіноцтва, яго душа і яго час… Трэба рэстаўрыраваць, але спачатку трэба ўспомніць…

А дома… дома няма адзіноты, а можа, і ёсць, але іншая, не такая, як многа гадоў таму.

Сённяшняя адзінота без твару, душы, часу. Я — моцная, расслабіцца нельга, я — жалезная! Расслаблюся — і штосьці рухне: мой дзявяты паверх ці аблокі? Ды не ж! Яны застануцца на сваіх месцах. Рухне штосьці другое. А што? Не ведаю, але адчуваю.

Я нарадзілася моцнай, потым доўга выхоўвала ў сабе гэту сілу, каб яна зрабілася паслухмянай, потым закаляла яе ў нягодах, каб яна стала жалезнай… Бог вырашыў, што я цяпер не прападу, і меней за усё звяртае на мяне ўвагу.

А яшчэ хтосьці родны і адзіны абвінаваціў мяне ў тым, што ў гэтай кучы жалеза ўжо не разгледзець пяшчоты і любові. А з чаго яны павінны складацца?

Усё маё жалеза з іх! І, можа, таму, менавіта таму ты мяне і кахаеш, бо я не здольная на падман ці здраду, і ты пра гэта ведаеш. А яшчэ ты ведаеш, што я магу расслабіцца і ўтаймаваць сваё жалеза, зрабіўшы яго падатлівым, як волава. Ці магу зрабіць яго ртуццю, стаўшы няўлоўнай, чароўнай. Але мне трэба, вельмі трэба адчуць, што ты побач, ты моцны, што магу абаперціся, што ты гэтага жадаеш, можаш, што ты гэтаму рад. А абвінавачваючы мяне ў жалезнасці, назіраючы як бы збоку, ты атрымаеш толькі адзін адказ: ты вінаваты сам у тым, што жалеза становіцца ўсё болей маналітным.

Я жыву на апошнім паверсе дзевяціпавярховага дома… А аб чым я думаю, калі спускаюся па лесвіцы ўніз? Дзіўна, але не помню. Ці то спускацца лягчэй, чым падымацца, ці то Бог усе ж мяне не пакідаў. Падымаючыся наверх, я кожны раз іду быццам на споведзь, а спускаючыся ўніз жалезна выканаць чорную работу і зарабіць на чорны хлеб…

## Цішыня

Цішыня… Выратавальная і злавесная адначасова. Выратоўвае ад паўсядзённага і звыклага: шуму машын за вокнамі шматпавярховых дамоў, усіх астатніх гукаў, якія належаць сучаснасці. У гэтай цішыні няма галасоў тэлефонаў, няма званкоў у дзверы, няма нават матора халадзільніка, які то ўключаецца, то выключаецца, і ледзь прыкметнага цікання насценнага гадзінніка з маятнікам, які вечна мітусіцца туды-сюды…

Цішыня старога дома на ўскрайку — незвычайная цішыня. Нядаўна яе парушалі толькі дровы, якія патрэсквалі радасна ў грубцы, даўно не прапаленай, гул полымя, якое рвалася ў трубу. Дровы дагарэлі. Грубка дыхае нямым цяплом. За вокнамі — вечар.

Цішыня мае вялікія вочы і шырока раскрытую пашчу. Яна насоўваецца страшэннай пачварай, якая гатова праглынуць думкі, пачуцці, штосьці яшчэ вельмі-вельмі важнае.

Што?! Што ёсць у мяне, ува мне, за *што* мне раптам так страшна? Жыццё? Маё заўтра? Навошта гэта цішыні? У гэтым столькі гукаў, што цішыня перастане быць сабой. Гэта не я яе спалохалася, а яна — мяне. Спецыяльна напусціла страху, каб я хутчэй пайшла і панесла адсюль свае думкі і пачуцці, поўныя гукаў сучаснасці — крыкаў, стогнаў, ляманту…

Ах, цішыня майго старога дома, даруй! Я прыйшла да цябе несумленнай. Я не прыйшла да цябе ўчора запоўніць цябе радасцю, а прыйшла сёння з бядой. Гані мяне, гані! Адыходжу ў шум машын, званкі, галасы, ціканне гадзінніка — у маё заўтра, дзе, можа быць, знайду страчаную радасць…

## Метамарфоза

Ты ішоў да мяне доўгімі адзінокімі вечарамі. Ты з’яўляўся непрыкметна разам з ціхай музыкай, уключанай мною, ахінаў мяне цяплом, быццам мяккай коўдрай, і ператвараўся ў мае думкі пра прыгожае, у мае вершы-*чаканні*, вершы-*прароцтвы*, вершы-*каханне.*

Ты ішоў да мяне начамі, прабіраючыся ў сны, у якіх я лётала, а ты быў воблакам. Я далятала да цябе, мы гулялі, смяяліся. У нашы сэрцы кідалі стрэлы амуры і траплялі прама ў цэль. Ты быў маім сном-*чаканнем*, сном-*прароцтвам*, сном-*каханнем.*

Ты ішоў да мяне досвіткам. Я прачыналася першай на Зямлі, каб сустрэцца хутчэй с табою-сонцам, табою-дажджом, табою-снегам… Прахалодаю ты цалаваў мой твар, гарачай ранішняй кавай цалаваў губы, гладзіў валасы мяккай расчоскай… Ты быў маім люстэркам, якое гаварыла мне перад выхадам з дому: «Ты цудоўная!» Ты быў маім днём-*чаканнем*, днём-*прароцтвам*, днём-*каханнем.*

Я любіла ўвесь свет, таму што дзесьці ў ім быў ты.

Я любіла жыццё, бо недзе ў ім мы павінны былі абавязкова сустрэцца.

Ты прыйшоў, прыйшоў і сказаў: «Вось маё цела і душа, яны цябе кахаюць… Я — рэальнасць, то кахай мяне, любі мяне, толькі мяне! Забудзься на любоў да вечароў, сноў, дзён, свету, жыцця…»

А я, як і раней, усё гэта люблю!

Навошта мне ты?